ПРОЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

## № 13




МЕНСК
Выдавецтва ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА"
1935

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ IX

№ 13
Кастрычнік 1935 г.

ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.
ЦК КП(б)Б, пакой № 21.
Тэлефон адказнага рэдактара па камутатару 20 000 даб. 68.





# XVIII год пролетарскай дыктатуры

Пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна пролетарыят у саюзе з бяднейшым сялянствам 7 лістапада (25 кастрычніка) 1917 года на 1/6 земнага шара скінуў уладу памешчыкаў і капіталістаў і ўстанавіў дыктатуру пролетарыята ў форме совецкай улады.

Гісторыя чалавецтва ведае не мала рэволюцый. Але ні адна з іх не можа параўнацца з вялікай пролетарскай рэволюцыяй у СССР.

> «Змянялася адна форма эксплаатацыі працоўных другой формай эксплаатацыі, але сама эксплаатацыя заставалася. Змяняліся адны эксплаататары і прыгнятальнікі другімі прыгнятальнікамі і эксплаататарамі, але самі эксплаататары і прыгнятальнікі заставаліся. Толькі Окцябрская рэволюцыя паставіла сабе мэтай—знішчыць **усякую** эксплаатацыю і ліквідаваць **усіх** і **ўсякіх** эксплаататараў і прыгнятальнікаў» **(Сталін).**

Вялікая Окцябрская рэволюцыя адкрыла сабой новую эру ў развіцці чалавецтва, новую эпоху сусветнай гісторыі. Яна прарвала фронт імперыялізма ў яго найбольш слабым звяне—у Расійскай імперыі і раскалола свет на дзве прынцыпова процілеглыя сістэмы—свет капіталізма і свет соцыялізма. Яна адабрала ў памешчыкаў і капіталістаў сродкі і прылады вытворчасці і перадварыла іх з прыватнай буржуазнай уласнасці ва ўласнасць грамадскую, соцыялістычную. Яна пазбавіла буржуазію ўлады, разбурыла буржуазную дзяржаўную машыну ў Расіі і стварыла сваю ўладу—дыктатуру пролетарыята. Окцябрская рэволюцыя—гэта першы этап сусветнай рэволюцыі і магутная база яе далейшага разгортвання.

Кіраўніком і арганізатарам гэтага вызвалення была партыя большэвікоў, створаная і выхаваная Леніным і Сталіным. Ужо ў даокцябрскі перыяд у бязлітаснай і непрымірымай барацьбе з апартуністамі, згоднікамі, трацкістамі, буржуазнымі лізаблюдамі—меншавікамі і нацыяналістамі ўсіх колераў—вырасла і загартавалася большэвіцкая партыя—арганізатар і кіраўнік Окцябрскіх перамог.

Большэвіцкая партыя арганізуе ўзброенае паўстанне. Большэвікі на чале з Леніным і Сталіным узнімаюць на паўстанне масы рабочых і бяднейшага сялянства. Партыя з усёй большэвіцкай рашучасцю адкідае ад сябе штрэйкбрэхераў Окцябрскай рэволюцыі—Каменева і Зіноўева, якія скаціліся потым у балота белагвардзейшчыны, стаўшы на шлях контррэволюцыйнай барацьбы з партыяй і совецкаю ўладай.

Імперыялісты і эксплаататары ўсяго свету злучаюцца ў адзіны паход Антанты, каб сцерці з твару зямлі і затапіць у крыві рабочых і сялян маладую пролетарскую дзяржаву.

Успомнім перыяд Брэсцкага міру. Нямецкія акупанты займаюць Украіну і Совецкую Беларусь. Антанта праз сваіх шпікоў і прыхвас-

няў фармуе белагвардзейскія банды для падрыву знутры маладой сацыялістычнай рэспублікі. Пролетарская дыктатура ў небяспецы. «Левыя» комуністы ў паніцы і страху крычаць, што «збавенне ў рэволюцыйнай вайне». Контррэволюцыянер Троцкі гатоў паступіцца заваёвамі Окцябрскай рэволюцыі, выходзячы са сваёй контррэволюцыйнай тэорыі немагчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне. І толькі ленінска-сталінская непрымірымасць, бязлітасная барацьба большэвікоў з трацкісцкімі спробамі загубіць заваёвы рэволюцыі забяспечылі перамогу.

У гады грамадзянскай вайны белагвардзейцы ў саюзе з імперыялістамі прышлі на совецкую зямлю з мэтай аднавіць капіталізм. Голад і холад, сыпняк і гаспадарчае разбурэнне, вогненнае кола імперыялістычных шакалаў, з усіх бакоў цясніўшых нашу краіну, імкнуўшыхся адабраць ад пролетарыята і працоўнага сялянства заваяваную ў дні Окцябра ў крывавых бойках з капіталістамі свабоду і аднавіць капіталістычную ўладу ў Расіі,—нішто не магло зламаць вялікіх заваёў пролетарскай рэволюцыі, узначальваемай партыяй Леніна—Сталіна.

Пролетарыят у саюзе з бяднейшым сялянствам, пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў, на чале з правадырамі—Леніным і Сталіным, у гераічнай барацьбе на фронтах грамадзянскай вайны, разграмілі ўсіх інтэрвентаў і акупантаў і замацавалі ўладу дыктатуры пролетарыята.

І ў гады соцыялістычнага будаўніцтва, калі барацьба стала яшчэ больш складанай, перамагала непахісная воля большэвікоў, якія вялі і вядуць шматмільённыя кагорты пролетарыята і працоўнага сялянства ад перамогі к перамозе. Грандыёзны план індустрыялізацыі і калектывізацыі краіны патрабаваў напружання ўсіх сіл для яго выканання. Пад сталінскім вадзіцельствам партыя разграміла контррэволюцыйных трацкістаў, правых апартуністаў, адстаяла вучэнне Леніна аб магчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне і забяспечыла поўную, канчатковую і беспаваротную перамогу соцыялізма ў СССР.

Соцыялізм стаў адзіна пануючай і камандуючай сілай ва ўсёй нашай народнай гаспадарцы. У нас няма беспрацоўя, і кожнаму працоўнаму адчынен шырокі шлях да заможнага, культурнага і радаснага жыцця. А там, у краінах капіталізма, у краінах фашызма мільёны рабочых і сялян галадаюць, жабрачаць, не маюць работы. У нас, у Краіне советаў, шырока разгортваецца пролетарская дэмакратыя. А там, у капіталістычных краінах, фашызм знішчае апошнія рэшткі буржуазнай дэмакратыі.

Ідэі Леніна—Сталіна ператварыліся ў магутную матар'яльную сілу. Яны ўвасоблены ў гігантах соцыялістычнай індустрыі, у палях звыш 200 тысяч калгасаў і каля 6 тысяч соўгасаў, у новай культуры горада і вёскі, у магутна ўзброенай навейшай тэхнікай нашай Чырвонай арміі. Яны вырасцілі людзей, мільёны людзей, таленты якіх з кожным днём паказваюць усё новыя і ўсё больш захапляючыя ўзоры бязмернай адданасці сваёй вялікай соцыялістычнай радзіме.

Возьмем цяжкую прамысловасць, якая безупынна ідзе ў авангардзе ўсёй нашай народнай гаспадаркі. Яна з бліскучымі перамогамі закончыла 1934 год і цвёрда трымае курс на перавыкананне свайго грандыёзнага плана і ў 1935 годзе. За чатыры гады мы давялі вы-

творчасць чыгуну з 5 мільёнаў тон да 10, у той час як Англія, якая ганарылася сваім «прагрэсам», здолела вырашыць гэту задачу толькі за 36 год. Удзельная вага СССР у сусветнай машынабудаўнічай прамысловасці з 4,2%, у 1928 г. вырастае да 37,5% у 1937 г. Мы вышлі на першае месца ў Еўропе па чыгуну, сталі, машынабудаўніцтву, трактарабудаўніцтву, па вытворчасці грузавых аўтамашын і па нафце.

Грандыёзнасць нашага росту настолькі вялікая, што кошт адных новых пабудоў, якія заканчваюцца ў адзін толькі 1935 год, вымяраецца дзесяткамі мільярдаў рублёў. План 1935 года прадугледжвае ўвод у эксплаатацыю новых пабудоў агульным коштам у 22 мільярды 375 мільёнаў рублёў. Мільён кіловат электраэнергіі, 41 шахта, магутнасцю ў 24 млн. тон здабычы вугалю, 6 домен магутнасцю ў 1,8 млн. тон чыгуну, 34 мартэны на 2,2 млн. тон сталі, 22 пракатныя станы, 85 пабудоў харчовай прамысловасці, 29 пабудоў лёгкай прамысловасці, 1797 кілометраў новых чыгуначных ліній, 8 млн. 300 тысяч квадр. метраў жылой плошчы—такі далёка няпоўны пералік таго, што будзе зроблена на працягу аднаго 1935 года.

Узросшая і ўмацаваўшаяся на базе калгасаў і соўгасаў, узброеная багатай тэхнікай сельская гаспадарка нашага вялікага Савецкага саюза дае ў гэтым годзе прырост прадукцыі ў 16,3%. Гэта значыць, што наша сельская гаспадарка, закончыўшы рэканструкцыйны перыяд, шпаркім тэмпам ідзе ўгору. Па Совецкаму саюзу ў цэлым на месяц раней леташняга выкананы план хлебапаставак. Вынікі сельскагаспадарчага года паказваюць якасны рост нашага соцыялістычнага земляробства, рост вытворчасці не толькі зернавых і тэхнічных культур, але і пачатак бурнага ўздыму жывёлагадоўлі.

Пашоў у гару раней адстаўшы чыгуначны транспарт. Пад кіраўніцтвам Л. М. Кагановіча ён ужо сістэматычна перавыконвае план пагрузкі і паспяхова змагаецца за выкананне пастаўленай тав. Сталіным задачы—грузіць не менш 80 тысяч вагонаў у суткі.

Бліскучым паказчыкам вялікіх перамог соцыялізма з'яўляецца і нядаўна праведзеная ліквідацыя картачнай сістэмы на ўсе прадуктовыя тавары і зніжэнне цэн на хлеб, што спрыяла яшчэ больш хуткаму ўздыму дабрабыту працоўных мас горада і вёскі.

Смела, упэўнена і бадзёра ідуць наперад к культурнаму і заможнаму жыццю совецкія рабочыя, калгаснікі, усе сумленныя працаўнікі нашай вялікай неасяжнай радзімы.

Несакрушымым соцыялістычным фарпостам на рубяжы з капіталістычным Захадам з'яўляецца Совецкая Беларусь—неадлучная частка Совецкага Саюза Соцыялістычных Рэспублік. У брацкім саюзе і супрацоўніцтве з народамі СССР Совецкая Беларусь, пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, на аснове ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі дасягнула бліскучых перамог у галіне сельскай гаспадаркі і прамысловасці, за якія БССР і яе кіраўнікі—тт. Гікало і Галадзед—узнагароджаны ордэнам Леніна.

На прасторах ордэнаноснай Совецкай Беларусі выраслі фабрыкі і заводы, абсталяваныя па апошняму слову тэхнікі. Вырас гегемон рэволюцыі—пролетарыят, колькасць якога ў 1913 годзе складала ўсяго 20 тысяч, а цяпер узнялася да 200 тысяч чалавек. Ліквідавана кулацкая кабала. 87 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак аб'яднана ў калгасах. Звыш 3000 трактароў працуюць на калгасных і соўгасных палях Совецкай Беларусі.

Прамысловасць і сельская гаспадарка нашай ордэнаноснай рэспублікі сустракае 18 гадавіну вялікага Окцябра з велізарнымі перамогамі і дасягненнямі.

Пад кіраўніцтвам КП(б)Б, на чале з лепшым сталінцам—тав. Гікало, наша прамысловасць паспяхова змагаецца за выкананне плана 3 года другой пяцігодкі, забяспечыўшы выкананне гадавога плана за дзевяць месяцаў на 76,0 проц., план III квартала—на 104,4 проц. і вераснёўскі план—на 108,0 проц.

Не адстае ад прамысловасці і соцыялістычная сельская гаспадарка, якая ў гэтым годзе датэрмінова і добраякасна выканала план веснавой сяўбы, своечасова і значна лепш, чым у мінулыя гады, правяла ўборачную кампанію, датэрмінова выканала абавязацельствы перад пролетарскай дзяржавай па зярнопастаўках і бульбе, дабілася значнага ўздыму соцыялістычнай жывёлагадоўлі—105 % планавага задання 1935 г. па буйнай рагатай жывёле, а зараз калгасы і МТС змагаюцца за выкананне плана па здачы дзяржаве высокаякаснай ільнапрадукцыі.

Выраслі беларуская совецкая літаратура, кіно, тэатр—нацыянальныя па форме і пролетарскія па зместу. Ліквідавана няграматнасць і паспяхова ажыццяўляецца ўсеагульная пачатковая асвета. Выраслі моцныя нацыянальныя кадры. Усё гэта ёсць сапраўдны трыумф ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. Усё гэта стала магчымым толькі таму, што ленінска-сталінская нацыянальная палітыка перамагла, што былі разбіты і разгромлены контррэволюцыйныя трацкісты, правыя апартуністы, беларускія буржуазныя нацыяналісты, вялікадзяржаўныя шавіністы і прымірэнцы да іх.

У выніку ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі БССР, з былой эканамічна адсталай, цёмнай, няграматнай і прыгнечанай аграрнай поўкалоніі царскага імперыялізма, воляю партыі большэвікоў і геройчнай барацьбой працоўных мас, пры ўсямернай брацкай дапамозе пролетарыята ўсяго Совецкага саюза ператворана ў адну з перадавых індустрыяльна-аграрных краін вялікага Совецкага саюза, у краіну суцэльнай граматнасці, у рэспубліку, якая за выдатнейшыя поспехі ўзнагароджана найвышэйшай узнагародай—ордэнам Леніна.

Пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі, на чале з любімым і мудрым правадыром сусветнага пролетарыята, геніяльным прадаўжальнікам справы Леніна—таварышом Сталіным, працоўныя масы Совецкай Беларусі, пры брацкай узаемадапамозе ўсяго Совецкага саюза, ствараюць радаснае, заможнае, культурнае соцыялістычнае жыццё.

Натхнёныя ленінска-сталінскімі ідэямі рабочы клас і калгаснае сялянства нашай вялікай радзімы сустракаюць 18 гадавіну Окцябрскай рэволюцыі новымі ўзорамі барацьбы за ўздым вытворчасці, за далейшае ператварэнне нашай краіны ў самую заможную і квітнеючую краіну, у краіну соцыялістычнага багацця.

Нашы поспехі ў справе будаўніцтва соцыялістычнага грамадства, сталінскія клопаты аб людзях, барацьба за ажыццяўленне лозунга **«Галоўнае цяпер у людзях, аўладаўшых тэхнікай. Кадры вырашаюць усё»** выклікалі ў народных масах новы сусветна-гістарычны пачын—рух стаханаўцаў, бусыгінцаў, сметанінцаў, крываносаўцаў, вінаградаўцаў—рух выдатнікаў соцыялізма. Барацьбой за нябачаную ў свеце прадукцыйнасць працы, за ператварэнне стаханаўска-бусыгінскага ме-

тада работы ў метад мас, барацьбой за культурнае і заможнае жыццё, гатоўнасцю заўжды і ўсюды даць бязлітасны адпор любым спробам ворага пасягнуць на нашы вялікія заваёвы, маналітнай згуртаванасцю вакол сваёй любімай партыі Леніна—Сталіна адзначаюць працоўныя Савецкага саюза 18 гадавіну вялікай пролетарскай рэволюцыі.

Перамога соцыялізма і знішчэнне класаў у нашай краіне, рост фашызма ў капіталістычных краінах, крызіс і ў сувязі з ім усё большае пагоршанне становішча працоўных мас, выклікалі ў шырокіх масах рабочых капіталістычных краін вялікі паварот ад рэфармізма к комунізму. Гэты паварот выражаецца зараз ва ўзрастаючым з кожным днём імкненні рабочых за рубяжом да адзіных дзеянняў, да адзінага фронту з комуністамі ў барацьбе супроць фашызма і вайны.

Вялікі рух за адзінства рабочага класа ўсё мацней і мацней расце. На аснове ажыццяўлення рашэнняў VII кангрэса Комінтэрна, адзінства народнага фронту ва Францыі атрымала новую перамогу. Пры выбары ў сенат у Парыжы, з 10 абраных 8 прашлі па спісу народнага фронту. У члены сената абраны Марсель Кашэн. Рэволюцыйны крызіс спее ў свядомасці мас. Магутны парыў пролетарыяў капіталістычных краін к соцыялізму набліжае час рэволюцыйнага выбуху ў гэтых краінах. Окцябрская рэволюцыя ёсць пачатак сусветнай пролетарскай рэволюцыі. Гэта сталінскае палажэнне з асаблівай сілай падкрэсліў VII сусветны кангрэс Комуністычнага Інтэрнацыянала, які прадэманстраваў перад усім светам поўнае адзінства паміж пролетарыятам краіны пераможнага соцыялізма і змагаючымся за сваё вызваленне пролетарыятам капіталістычных краін. У гэтым адзінстве зарука таго, што справа Леніна—Сталіна, справа Окцябрскай рэволюцыі, пераможа ва ўсім свеце.

Пролетарыят і калгаснае сялянства Савецкага саюза клічуць пролетарыят і сялян усяго свету на барацьбу супроць фашызма і захватніцкай вайны. Працоўныя СССР вітаюць народныя масы Абісініі, якія мужна абараняюць сваю незалежнасць ад італьянскага фашызма. Глыбокімі сімпатыямі прасякнуты працоўныя Краіны саветаў да рэволюцыйных пролетарыяў Германіі—мужных барацьбітоў супроць фашысцкіх катаў, якія цягнуць да сярэдневякоўя. Рабочыя і сяляне СССР поўны інтэрнацыянальнай салідарнасці з гераічным рабочым класам і ўсімі працоўнымі масамі Кітая, якія змагаюцца за Савецкую ўладу і супроць японскіх імперыялістычных захватнікаў. У непарушнай сувязі з поспехамі будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне, з развіццём рэволюцыйнага руху ва ўсім свеце, народ Саюза Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік з большэвіцкай энергіяй і настойлівасцю паспяхова прадаўжае вялікую справу Окцябрскай рэволюцыі, з гонарам выконвае сваю работу ўдарнай брыгады сусветнага пролетарыята.

Працоўныя масы Савецкага саюза пад кіраўніцтвам партыі, бязлітасна і да канца раздушаць двурушнікаў і тройчы праклятых наймітаў буржуазіі з падонкаў былой зіноўеўска-трацкісцкай зграі, да канца выкараняць паследышаў буржуазіі, яшчэ вышэй узнімуць ленінска-сталінскую непрымірымасць да ўсіх ворагаў ленінізма і на чале з ВКП(б)—правадыром і арганізатарам пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва—забяспечаць поўную перамогу справы Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.

Лозунгі ЦК ВКП(б) к 18 гадавіне Вялікай пролетарскай рэволюцыі ў СССР—гэта баявы сцяг нашай далейшай барацьбы і перамог.

Бурна разгортваецца магутны рух стаханаўцаў па Совецкай краіне. Ад станка к станку, ад машыны к машыне, ад калгаса к калгасу перадаецца магчымы толькі ў нашых совецкіх умовах, ва ўмовах дыктатуры пролетарыята, тэмп работы, які ўзнімае прадукцыйнасць працы на новую ступень. Гэты народны рух—дзейсны адказ шырокіх мас нашай вялікай социялістычнай радзімы на лозунг правадыра:

> «Каб прывесці тэхніку ў рух і выкарыстаць яе да дна, патрэбны людзі, аўладаўшыя тэхнікай, патрэбны кадры, здольныя асвоіць і выкарыстаць гэту тэхніку па ўсіх правілах майстэрства... Кадры вырашаюць усё» **(Сталін).**

І няма сумнення ў тым, што наш слаўны социялістычны Донбас, які ўжо даў рэкордную здабычу вугалю, з поспехам і гонарам выканае заклік наркома Серго Орджанікідзе і закончыць план другой пяцігодкі ў чатыры гады. Няма сумнення і ў тым, што рабочыя і работніцы, інжынеры і тэхнікі любой галіны прамысловасці на аснове стаханаўскага руху, пад сцягам ленінска-сталінскай партыі, забяспечаць агромныя дасягненні на ўсіх участках социялістычнага будаўніцтва.

Барацьба за нябачаную ў свеце прадукцыйнасць працы, за пераўтварэнне стаханаўска-бусыгінскага метада работы ў метад мас, барацьба за культурнае і заможнае жыццё, за гатоўнасць заўжды і ўсюды даць бясстрашны адпор любым спробам ворага падарваць справу социялізма, яшчэ мацней трымаць на замку граніцы вялікага Совецкага саюза, працаваць так, каб быць падобным на вялікага машыніста лакаматыва рэволюцыі—Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна, які пераможна вядзе поезд социялістычнага будаўніцтва—будзе лепшым адказам на лозунгі ЦК ВКП(б) к 18 гадавіне Окцябрскай рэволюцыі.

Задача заключаецца ў тым, каб адзначыць 18 гадавіну пролетарскай дыктатуры ўздымам магутнай народнай творчасці, ініцыятывы і социялістычнага спаборніцтва на яшчэ больш высокую ступень. Трэба ўзмацніць барацьбу кожнага прадпрыемства, МТС, соўгаса за рэнтабельнасць і прыбытковасць сваёй вытворчасці. Усямерна ўзняць прадукцыйнасць працы, шырока ўкараняючы стаханаўскія метады работы ва ўсе галіны народнай гаспадаркі. Агарнуць максімальнымі клопатамі і ўвагай кожнага ўдарніка, праца якога з'яўляецца ў нас справай гонару, справай славы, справай доблесці і геройства.

Буйныя перамогі, атрыманыя нашай ордэнаноснай социялістычнай рэспублікай у галіне сельскай гаспадаркі, абавязваюць нас яшчэ ў большай меры ўмацоўваць з дня ў дзень калгасны лад. Узняць адстаючыя калгасы да ўзроўню перадавых, зрабіць усе калгасы большэвіцкімі, усіх калгаснікаў заможнымі, дапамагчы сумленным аднаасобнікам уступіць у калгасы, поўнасцю ажыццявіць прыкладны статут сельскагаспадарчай арцелі, змагацца за найбольш паспяховае вырашэнне першачарговай праблемы—праблемы жывёлагадоўлі і павышэнне ўраджайнасці социялістычных палёў—вось нашы баявыя задачы.

Святкаванне Окцябрскай рэволюцыі на вёсцы мы павінны адзначыць завяршэннем усіх гаспадарча-палітычных кампаній і ў першую чаргу забяспечыць поўнае выкананне плана ільназагатовак, здаўшы дзяржаве валакно вышэйшай нумарнасці. Ажыццяўленне Сталінскага наказу—працаваць у калгасе добрасумленна і берагчы калгаснае

дабро—ёсць шлях да заможнага жыцця нашага калгаснага сялянства, цвёрда і беспаваротна стаўшага пад чырвоны сцяг соцыялізма.

Паспяховае разгортванне таваразвароту паміж горадам і калгаснай вёскай узнімае калгаснае сяло да новых вяршынь культуры. Таму задача разгортвання культурнага кааперацыйнага гандлю ў вёсцы мае выключнае значэнне ў справе далейшага ўмацавання нашых калгасаў. Мы павінны стварыць у вёсцы апарат цывілізаванага кааперацыйнага гандлю.

Сталінскія клопаты аб людзях стаяць у цэнтры лозунгаў 18 гадавіны пролетарскай рэволюцыі ў СССР.

> «Чалавек—гэта слова гучыць ганарова ў нашай краіне» «Галоўнае цяпер у людзях, аўладаўшых тэхнікай». «Берагчы кожнага здольнага і разумеючага работніка, берагчы і вырошчваць яго».

Гэтымі словамі нашага вялікага правадыра т. Сталіна ўпрыгожацца калоны окцябрскіх дэманстрацый совецкага народу. Соцыялізм будуюць людзі, соцыялізм будуецца для людзей. Вынікі 18 год пролетарскай дыктатуры ёсць грандыёзны паказ таго, што толькі соцыялізм забяспечвае добрабыт і сапраўды вялікія клопаты аб людзях, аб грамадзянах нашай вялікай радзімы.

Толькі з перамогай пролетарскай рэволюцыі рабочыя, сяляне, усе працоўныя прыгнечаных нацыянальнасцей старой Расіі ўпершыню атрымалі сваю соцыялістычную бацькаўшчыну. Толькі ў Окцябрскіх баях 1917 года працоўныя нашай краіны атрымалі сваю радзіму, сталі гаспадарамі яе лёсу.

Наша радзіма разам з тым ёсць і радзіма сусветнага пролетарыята. Гэта значыць, што кожны наш новы поспех мае найвялікшае міжнароднае значэнне.

Тысячы **выдатных** людзей вырасціла і выхавала наша соцыялістычная радзіма. Усіх іх радніць яснасць мэты, настойлівасць у справе дасягнення мэты і цвёрдасць характару, якая ламае ўсе і ўсякія перашкоды. Гэтыя рысы культывуюцца партыяй Леніна—Сталіна ў мільёнах совецкіх людзей. Гэтыя рысы яшчэ ў большай меры трэба прышчапляць і надалей, каб забяспечыць новыя цудоўныя справы ў бліжэйшай будучыні.

Уперадзе яшчэ шмат работы, яшчэ не мала труднасцей. Рэшткі паміраючага класавага ворага яшчэ спрабуюць падарваць справу соцыялізма. Наша задача—выкараніць да канца ўсіх паследышаў буржуазіі. Для гэтага патрэбна павысіць рэволюцыйную класавую пільнасць.

«Рэволюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам» **(Сталін).** Чым вышэй гэта якасць будзе ў нас, тым хутчэй мы раздушым да канца двурушнікаў і тройчы праклятых наймітаў буржуазіі з падонкаў былой зіноўеўска-трацкісцкай зграі і ўсіх ворагаў рабочага класа. Вышэй сцяг ленінска-сталінскай непрымірымасці да ўсіх ворагаў ленінізма!

Праверка партыйных дакументаў, якая цяпер праводзіцца, узмацняе, загартоўвае і маналітуе баявыя кагорты нашай слаўнай большэвіцкай партыі. Праверка партдакументаў рашуча паскорыла тэмп перабудовы работы ўсіх партарганізацый і ажывіла партработу. У гэтым гарантыя яшчэ больш паспяховага і пераможнага руху нашай краіны па шляху соцыялізма.

Патрабаванні да кожнага з нас выключна ўзраслі. Быць на ўзроўні гэтых патрабаванняў—першачарговы абавязак кожнага комуніста. Для гэтага гісторыю партыі Леніна—Сталіна мы павінны зрабіць набыткам кожнага комуніста, кожнага комсамольца, кожнага барацьбіта за социялізм.

За ідэйную ўзброенасць кожнага комуніста тэорыяй Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна!

На вопыце барацьбы партыі з ворагамі партыі мы павінны яшчэ мацней загартоўваць нашу моладзь. Партыя заклікае ўсіх нас «вырасціць вартую змену», выхаваць «здаровае жыццярадаснае пакаленне, гатовае да працы і абароны социялістычнай радзімы».

Імперыялістычныя драпежнікі рыхтуюць напад на бацькаўшчыну працоўных усяго свету—на Совецкі саюз.

> «**Цэнтрам сіл,** якія працуюць на вайну, на паскоранне яе выбуху, з'яўляецца **фашызм;** у Еўропе самая рэакцыйная і агрэсіўная форма фашызма, гітлераўская Германія, у Азіі—ваеннафашысцкая Японія...
>
> **Цэнтрам сіл,** якія змагаюцца супроць вайны і яе падпальшчыкаў, **з'яўляецца** СССР, які згуртоўвае вакол сябе не толькі міжнародны пролетарыят, але і другія класы, роўна як і слабыя нацыі і народы, якія не жадаюць вайны» **(Мануільскі).**

Мы за мір. Мы адстойваем справу міру, як ні адна іншая краіна. «Але мы гатовы адказаць ударам на ўдар падпальшчыкаў вайны».

Кожны сын нашай социялістычнай радзімы ў любую хвіліну гатоў выступіць са зброяй у руках разам з нашай роднай непераможнай Чырвонай арміяй.

Мы ўпэўнена і цвёрдым поступам ідзем да новых перамог, бо краінай пролетарскай дыктатуры кіруе ленінска-сталінская партыя, бо наш шлях асвятляе нам вялікі непераможны сцяг Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна!

М. Малаковіч

# Палескі Камітэт большэвікоў у 1917 годзе

Сусветная імперыялістычная вайна, пeратварыўшая ў «адзіны крывавы камок» усё грамадска-палітычнае жыццё Расійскай імперыі, з небывалаю сілай «раскрыла ўсю яе гніласць, гнуснасць, увесь цынізм і распусту царскай шайкі з пачварным Распуціным на чале яе, усе зверствы сям'і Раманавых—гэтых пагромшчыкаў, заліўшых краіну крывёю яўрэяў, рабочых, рэволюцыянераў; гэтых «першых сярод роўных» памешчыкаў, якія ўладалі мільёнамі дзесяцін зямлі і ішлі на ўсе зверствы, на ўсе злачынствы, на разарэнні і ўдушэнні любога ліку грамадзян дзеля захавання гэтай сваёй і свайго класа «свяшчэннай уласнасці».

Імперыялістычная вайна з'явілася тым «магутным, усясільным «рэжысёрам», які, з аднаго боку, у стане быў паскорыць у агромных памерах плынь сусветнай гісторыі, а з другога боку—парадзіць нябачанай сілы сусветныя крызісы, эканамічныя, палітычныя, нацыянальныя і інтэрнацыянальныя» *).

Самадзяржаўю не дапамагалі: ні крывавая расправа з рэволюцыйнай партыяй і рэволюцыйнымі масамі пролетарыята і працоўных мас сялянства; ні пагромы, ні патрыятычна-шавіністычная агітацыя пад лозунгам: «За веру, цара і айчыну»; ні ўзмацненне атрадаў паліцыі, жандармерыі і ахранкі; ні абвешчанне ваеннага становішча ў дзесятках гарадоў, прылягаючых к фронту.

Безупынныя мабілізацыі лепшых маладых сіл пролетарыята і сялянства, рэквізіцыі, прыстасаванне ўсёй прамысловасці для вытворчасці на патрэбы вайны, рост дарагоўлі, расстройства транспарта, голад на фронце і ў тыле, паражэнні на фронце—усё гэта садзейнічала хуткай мабілізацыі сіл пролетарыята і сялянства пад кіраўніцтвам большэвікоў для рашаючай барацьбы з самадзяржаўем і з імперыялістычнай буржуазіяй.

У Беларусі, як і па ўсёй тэрыторыі царскай Расіі, адбывалася падрыхтоўка рэволюцыйных сіл для барацьбы з самадзяржаўем і капіталізмам.

Рэпрэсіі і рэакцыя асабліва ўзмацніліся ў перыяд імперыялістычнай вайны ў Беларусі, як у прыфрантовай мясцовасці. Кожнага, хто толькі наклікаў на сябе падазрэнне ў «неблагонадежности» і неспагадлівых адносінах да вайны, хутка накіроўвалі ў Сібір—у ссылку на катаржныя работы, або на фронт—на першую лінію агня. Агенты самадзяржаўя такімі-ж метадамі распраўляліся і з рэволюцыянерамі

*) Ленін, т. XX, стар. 14.

Гомеля. Але, не гледзячы на гэта, рэволюцыйныя сілы Палесся не толькі не падалі, але раслі і мацнелі.

Магутнасць рэволюцыйных сіл Беларусі, у тым ліку і Палесся, умацавалася ў сувязі з тым, што тут было вялікае зграмаджэнне салдацкіх мас. Гомель-жа з'яуляўся тэхнічным цэнтрам Заходняга фронту. Тут былі сканцэнтраваны тэхнічныя часці, ваенныя базы і майстэрні: чыгуначныя, аружэйныя, паветраплавальныя, аўтамабільныя і інш., у якіх знаходзілася больш 10.000 чалавек. Часці гэтыя ў большасці былі ўкамплектаваны кваліфікаванымі рабочымі Піцера, Масквы, Урала, Донбаса. Сярод іх не мала было і такіх, якія мелі ўжо значны вопыт рэволюцыйнай барацьбы.

Большэвікі Беларусі, не гледзячы на рэакцыю і паліцэйскае самавольства, паспяхова прадаўжалі крапатлівую работу па арганізацыі сваіх сіл і баявую агітацыю супроць імперыялістычнай вайны.

Масы пад кіраўніцтвам большэвікоў прашлі ў папярэднія дзесяцігоддзі вялікую школу класавай барацьбы. Як указаў Ленін:

> «Без рэволюцыі 1905—1907 гадоў, без контррэволюцыі 1907—1914 гадоў немагчыма было-б такое дакладнае «самавызначэнне» усіх класаў рускага народу і народаў, насяляючых Расію, вызначэнне адносін гэтых класаў адзін да другога і да царскай манархіі, якое праявіла сябе ў восем дзён лютаўска-сакавіковай рэволюцыі 1917 года *).

Буйнейшае значэнне меў вопыт барацьбы рабочага класа, узначаленай большэвікамі ў час імперыялістычнай вайны, якая з'явілася «усясільным «рэжысёрам».., магутным паскаральнікам» плыні сусветнай гісторыі.

У выніку мы мелі агромны ўздым мільёнаў—пролетарыята, салдат, сялянства—на барацьбу з самадзяржаўем, з прыгнечаннем памешчыкаў і капіталістаў, з нацыянальна-каланіяльным уціскам.

Паўстанне пролетарыята і салдат у Петраградзе 27 лютага ўзняло агромную хвалю рэволюцыйнага абурэння мас ва ўсіх закутках царскай Расіі. Самадзяржаўе на працягу васьмі дзён было зломлена.

Рашаючую ролю ў звяржэнні самадзяржаўя адыграў пролетарыят сталіц і перш за ўсё Пецербурга, які павёў за сабою салдат піцерскага гарнізона, фронту і сялянства.

Рэволюцыя, пачаўшыся ў Піцеры, хутка пашырылася ва ўсіх кутках Расіі. Паўсюды адбываліся рашучыя сутычкі рэволюцыйных мас з контррэволюцыяй.

Звяржэнне самадзяржаўя ў Петраградзе рабочыя, салдаты і працоўныя Гомеля падтрымалі ўзброенай дэманстрацыяй сваіх сіл і гатоўнасцю прадаўжаць барацьбу да канчатковай перамогі над буржуазіяй і памешчыкамі. Дэманстрацыю ўзначаліла аўтабаза, падрыхтаваная большэвіком Казловым (уральскі рабочы). Да дэманстрацыі далучыліся рабочыя Нова-Беліцы і Гомеля.

Гэта першая дэманстрацыя ў Гомелі выклікала ажыўленне і ўздым палітычнай актыўнасці рабочых і салдат гарнізона, і ўжо 4—5 сакавіка ў Гомелі быў створан Совет рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

К сярэдзіне сакавіка ў Гомель пачалі з'язджацца з ссылкі і розных гарадоў старыя гомельскія большэвікі-падпольшчыкі. К канцу сакавіка тут ужо былі тт. Хатаевіч, Цырлін Д., Цырліна Е., Агранаў і інш.

Прыехаўшымі таварышамі была створана група большэвікоў для

*) Ленін, т. XX, стар. 14

ўзнаўлення разбуранага ў 1915 годзе Палескага Камітэта большэвікоў.
У гэты час у Гомелі ўжо дзейнічаў аб'яднаны меншавіцка-бундаўскі соцыял-дэмакратычны камітэт. Уся дзейнасць гэтага камітэта была накіравана на распаўсюджанне сярод мас ідэй згодніцтва з буржуазным Часовым урадам і падтрыманне яго імперыялістычнай палітыкі.

Асабліва актыўную работу павялі соцыял-здраднікі (меншавікі і бундаўцы) па стварэнню аб'яднанай арганізацыі з усіх соцыял-дэмакратычных плыней, без розніцы фракцый. Гэта здрадніцкая работа была перш за ўсё накіравана супроць большэвікоў, супроць Леніна. Ленін, прадбачачы такога роду вылазку ўсіх расійскіх соцыял-патрыётаў, у лісце з Цурыха 17 сакавіка пісаў:

> «Па-мойму, галоўнае цяпер—не даць сябе заблытаць у глупыя «аб'яднанчыя» спробы з соцыял-партыётамі (або, яшчэ небяспечней, хістаючыміся накшталт Арганізацыйнага Камітэта, Троцкага і К°) і прадаўжаць работу **сваёй** партыі ў паслядоўна-**інтэрнацыянальным** духу» *).

Барацьба соцыял-здраднікаў з большэвікамі пад лозунгам: «За адзінства ўсёй соцыял-дэмакратыі» была адным з тактычных прыёмаў, найбольш замаскаваным, разлічаным на абман мас. У першыя дні пасля лютаўскай рэволюцыі ва многіх гарадах Беларусі (Менску, Віцебску, Оршы, Магілеве і інш.) узніклі аб'яднаныя соцыял-дэмакратычныя арганізацыі. Толькі ў Гомелі, не гледзячы на тое, што там барацьбу за «аб'яднанне» узначалілі такія мацёрыя меншавікі, як Сеўрук і Багданаў, большэвікам удалося перамагчы аб'яднанчыя трацкісцка-меншавіцкія тэндэнцыі і адразу стаць на правільны шлях—стварэння самастойнай большэвіцкай арганізацыі.

Меншавік Сеўрук, кіраўнік меншавіцка-бундаўскай арганізацыі Гомеля і старшыня згодніцкага совета, да прыезду ў Гомель у першыя дні лютаўскай рэволюцыі знаходзіўся ў Петраградзе, састаяў членам большэвіцкай арганізацыі. За меншавіцка-каменеўскія погляды і барацьбу з партыяй па пытаннях характару і перспектыў рэволюцыі, па пытаннях аб тактыцы, аб адносінах да часовага буржуазнага ўрада, да імперыялістычнай вайны і пытаннях унутрыпартыйнага будаўніцтва—быў выключан з радоў большэвіцкай партыі разам з Вайцінскім.

Але Сеўрук не раззброіўся. Для пашырэння сваіх ідэй, ён толькі ад'ехаў далей ад большэвіцкага цэнтра. У Гомелі Сеўрук скрываў тое, што яго выключылі з большэвіцкай партыі. Выдаючы сябе за старога большэвіка, меншавік Сеўрук імкнуўся не дапусціць узнаўлення большэвіцкай арганізацыі ў Гомелі.

Аднак большэвікі Гомеля не толькі пазбеглі памылкі большасці партыйных арганізацый у Беларусі і правільна рэалізавалі ўказанне Леніна і ЦК, але і паспяхова, не гледзячы на ўсе перашкоды, бязлітасна выкрывалі трацкісцка-меншавіцкую сутнасць лозунга «аб'яднання ўсёй соцыял-дэмакратыі».

Следуючы старым рэволюцыйным традыцыям, большэвікі Гомеля павялі работу па ўзнаўленню Палескага Камітэта. Пачалася вялікая, крапатлівая работа па выяўленню і збіранню большэвіцкіх сіл з застаўшыхся работнікаў перыяду падполля, у першую чаргу сярод рабочых, у вайсковых часцях, а таксама і сярод той часткі інтэлігенцыі,

*) Ленін, т. XX, стар 7.

якая на сходах і мітынгах выступала супроць меншавікоў і эсэраў у абарону большэвіцкіх пазіцый у пытанні аб вайне, аб зямлі і інш.

У першыя-ж дні прымкнулі да створанай большэвіцкай групы ваенныя таварышы (Ланге, Бастынец і інш.). Са старых большэвікоў быў у Гомелі тав. Абрамовіч (у Нова-Беліцы). Неўзабаве ў рады большэвікоў уступілі тт. Гандзін, Леплеўскі, прымкнулі і некаторыя рабочыя, сярод якіх выдзяляўся чыгуначнік тав. Якубаў.

Меншавікі і бундаўцы прыклалі ўсе свае намаганні. усю зваротківаснь, увесь свой вопыт, усе свае аратарскія сілы, якія яны мелі ў сваім распараджэнні ў дастатковай колькасці, для таго толькі, каб не дапусціць стварэння большэвіцкіх арганізацый у Гомелі. Але, не гледзячы на ўсе намаганні, меншавікам не ўдалося пахіснуць цвёрдасці гомельскіх большэвікоў. У напружанай падрыхтоўчай рабоце большэвікам у кароткі час удалося скалаціць моцную групу і аформіць большэвіцкую арганізацыю.

К першаму арганізацыйнаму сходу ў Гомелі налічвалася ўжо каля 30 чалавек большэвікоў. Сход, на якім была афармлена Палеская арганізацыя РСДРП (большэвікоў), адбыўся 6 красавіка. Вырашана было назваць арганізацыю палескай, а абраны камітэт з 5 чалавек— Палескім Камітэтам РСДРП (большэвікоў). Гэтай назвай і падкрэслівалася арганізацыйная і праграмная самастойнасць і незалежнасць ад аб'яднанага меншавіцка-бундаўскага с.-д. камітэта і пераемная сувязь новаарганізаванага камітэта з камітэтам перыяда падполля.

З першых-жа дзён свайго арганізацыйнага існавання Палескі Камітэт падпаў пад шалёную траўлю меншавіцка-бундаўскай «аб'яднанкі».

Меншавіцка-эсэраўска-буржуазны блок, створаны для барацьбы з большэвікамі, не грэбаваў абсалютна ніякімі сродкамі. Большэвікам Гомеля не толькі забаранялі друкаваць літаратуру, а нават затрымлівалі, не выдавалі адрасатам большэвіцкую газету «Правда». Большэвікам адмаўлялі ў памяшканні. І калі аднойчы Палескі Камітэт хацеў правесці паседжанне ў памяшканні гарадской міліцыі, то меншавікі і бундаўцы зрабілі ўсё магчымае, каб не дапусціць большэвікоў у будынак міліцыі.

Абстаноўку, у якой пачынаў сваю работу Палескі Камітэт у 1917 годзе, каротка можна ахарактарызаваць наступным чынам: згодніцкія, дробна-буржуазныя партыі ў гэты перыяд яшчэ карысталіся давер'ем мас. Меншавіцка-бундаўскі ўплыў асабліва быў шырокі сярод рабочых саматужных майстэрань, таксама як і сярод салдат яшчэ моцны быў уплыў меншавікоў і эсэраў.

Совет Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў, прафсаюзныя органы былі ў руках аб'яднанцаў і эсэраў.

Эсэраўска-меншавіцкая абарончая тэорыя падтрымання часовага буржуазнага ўрада для «абароны рэволюцыі», а па сутнасці прапаганда лозунга імперыялістаў «вайна да пераможнага канца», устаноўка на аб'яднанне сіл вакол ваеннай клікі і падрыхтоўку сіл да наступлення на Заходнім і Паўднёва-Заходнім фронтах, карысталіся вялікім падтрыманнем у згодніцкім совеце і ў адсталай частцы працоўных мас.

Стрыжнем усёй дзейнасці большэвіцкай партыі ў гэты перыяд з'яўлялася падрыхтоўка пралетарыята і бяднейшага сялянства для заваёвы ўлады і забяспечання падтрымкі найшырэйшых працоўных

мас у барацьбе за дыктатуру пролетарыята. У гэты перыяд барацьбы пролетарыята з буржуазіяй найбольш небяспечнай соцыяльнай апорай імперыялізма з'яўляліся дробна-буржуазныя партыі эсэраў і меншавікоў.

«Без ізаляцыі гэтых партый нельга было разлічваць на **разрыў** працоўных мас з імперыялізмам, без забяспечання-ж гэтага разрыву нельга было разлічваць на перамогу совецкай рэволюцыі» *).

Таму асноўнае стратэгічнае правіла ленінізма, як фармулюе яго т. Сталін, заключалася ў гэты перыяд у прызнанні таго, што:

«1. найбольш небяспечнай соцыяльнай апорай ворагаў рэволюцыі ў перыяд рэволюцыйнай развязкі, што набліжаецца, з'яўляюцца **згодніцкія** партыі;

2. звергнуць ворага (царызм або буржуазію) немагчыма без ізаляцыі гэтых партый;

3. галоўныя стрэлы ў перыяд падрыхтоўкі рэволюцыі павінны быць, з прычыны гэтага, накіраваны на ізаляцыю гэтых партый, на адрыў ад іх шырокіх мас працоўных» **).

У адпаведнасці з гэтым большэвікі Гомеля разгарнулі агромную арганізацыйную і агітацыйна-прапагандысцкую работу непасрэдна ў масах: на заводах, у майстэрнях, у гуртках, у вайсковых часцях, выкрываючы здрадніцкую сутнасць згодніцкай палітыкі меншавікоў у советах, профсаюзах і іншых арганізацыях. Усе сілы камітэта былі размеркаваны па асобных вайсковых часцях, прадпрыемствах, дзе большэвікі працавалі ў якасці прапагандыстаў, агітатараў, вярбоўшчыкаў.

Першы час галоўную сваю ўвагу Палескі Камітэт накіраваў на заваёву тэхнічных часцей, у якіх канцэнтравалася значная частка індустрыяльных рабочых. Большэвіцкая лінія ў адносінах да вайны карысталася вялікай папулярнасцю і падтрыманнем сярод мас. У гэтых часцях была магчымасць у найкарацейшы тэрмін скалаціць кадры большэвіцкіх работнікаў, якія-б маглі адыграць вялікую ролю не толькі ў рэволюцыянізаванні арміі, але і ва ўсёй той вялікай рабоце, якую праводзіў Палескі Камітэт.

Гэтая тактыка большэвікоў у Гомелі цалкам апраўдалася. Ужо ў першыя дні работы сярод салдат у тэхнічных часцях (3 карэнны парк, аўтабаза) большэвікі выявілі і згрупавалі вакол сабе актывістаў салдат, якія спачуваюча адносіліся да большэвіцкіх выступленняў.

Праз параўнаўча кароткі час выступленні большэвікоў на салдацкіх мітынгах пачалі карыстацца велізарнай увагай. Так, напрыклад, ужо 30 мая (12 чэрвеня) пад непасрэдным кіраўніцтвам Палескай арганізацыі мітынг 143 тылавога этапа вынес рэзалюцыю пратэсту супроць імперыялістычнай вайны:

«У інтарэсах умацавання рэволюцыйных заваёў народу і хутчэйшага сканчэння братазабойчай вайны мы патрабуем, каб уся

*) Сталін, „Пытанні ленінізма“, выд. X, стар. 92.

**) Сталін, там-жа, стар. 91.

ўлада ў краіне перашла ў рукі ўсяго насельніцтва ў асобе прадстаўнікоў Совета рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў».*)

8(21) чэрвеня на мітынгу, на якім прысутнічала 1.000 салдат 3 карэннага парка, па прапанове старшыні Палескага Камітэта была прынята рэзалюцыя супроць рыхтуемага Часовым урадам пры падтрыманні згоднікаў наступлення:

> «Да таго часу, пакуль тайныя дагавары, заключаныя крывавым царскім урадам, не расторгнуты, вайна з боку Расіі, як і з боку Англіі і Францыі, вядзецца толькі ў імя імперыялістычных захватных мэт класа капіталістаў усіх краін. Кааліцыйны ўрад з'яўляецца прадстаўніком буйнай буржуазіі, які працягвае імперыялістычную палітыку ў імя сваіх мэт. Вайну можа пакончыць толькі ўрад народу ў асобе Совета Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў, да якіх неабходны пераход усёй улады»**).

Вынікі напружанай работы большэвікоў Палескага Камітэта ў першы час, галоўным чынам, сказаліся ў росце партыі. Ужо на працягу красавіка месяца партыя вырасла на 100 чалавек з ліку салдат і 30 чалавек рабочых. Буйным таксама поспехам было і тое, што большэвікі на працягу ўжо першага месяца свайго існавання, як арганізацыя, дабіліся ў некаторых вайсковых часцях перавыбараў дэлегатаў у Совет рабочых і салдацкіх дэпутатаў, дзе замест эсэрствуючых з афіцэрскага складу былі абраны большэвікі, а таксама заваявалі на свой бок некалькі членаў совета, раней абраных. У рэзультаце ў Совеце арганізавалася фракцыя ў колькасці каля 30 чалавек.

Побач з гэтым, з самага пачатку была наладжана работа сярод чыгуначнікаў праз рабочага большэвіка Якубава. Работа, што праводзілася сярод рабочых, з усёй відавочнасцю паказала, наколькі нетрывалым быў уплыў меншавікоў і эсэраў у масах. Уступленне 30 чалавек рабочых у большэвіцкую партыю на працягу толькі красавіка месяца асабліва яскрава гэта пацвярджае. Яшчэ больш гэта пацвердзіла першамайская дэманстрацыя, калі пад сцягам большэвікоў ішлі тысячы салдат 3 і 4 карэнных паркаў, рабочыя Варшаўскай акругі шляхоў зносін (ВОПС) і каля тысячы рабочых і салдат, адкалоўшыхся ад згодніцкіх калектываў. Але ўсё-ж сакавік і красавік—гэта яшчэ быў перыяд значнага ўплыву дробна-буржуазных, згодніцкіх партый на масы.

Імперыялістычная палітыка Часовага ўрада і падтрыманне яе згоднікамі з «аб'яднанкі», цярплівая сістэматычная і ўпартая растлумачальная работа большэвікоў хутка ацвярозіла працоўныя масы ад абарончай пошасці. Асабліва ўскалыхнула шырокія масы абвешчанае наступленне на фронце і паражэнне рускай арміі.

Наступленнем на фронце буржуазны ўрад не толькі хацеў даказаць саюзным урадам сваю вернасць імперыялістычным прынцыпам, але і спадзяваўся павярнуць растучую рэвалюцыйную актыўнасць мас на шлях патрыятызма і шавінізма і задушыць рэвалюцыю.

Дэманстрацыя 18 чэрвеня ў Пецербургу і чэрвеньскія дэманстрацыі пралетарыята і салдат на месцах з'яўляюцца адным з пераломных момантаў у гісторыі развіцця пралетарскай рэвалюцыі. Дэманстрацыя

*) Архіў Ін-та Гіст. партыі, ф. 20, стар. 29.
**) Там-жа.

як у Піцеры, так і на месцах, адбывалася наперакор жаданню дробна-буржуазных партый і советаў.

У Гомелі меншавікі, эсэры, бундаўцы, сіяністы-соцыялісты ўсімі сіламі стараліся не дапусціць дэманстрацыі. Але ўсё-ж пад націскам мас Гомельскі совет прымушан быў прызначыць дэманстрацыю на 25 чэрвеня.

Чэрвеньскія дэманстрацыі паказалі агромны рост уплыву большэвікоў.

Ленін, ацэньваючы падзеі, пісаў:

> «Дэманстрацыя 18 чэрвеня стала дэманстрацыяй сіл і палітыкі рэволюцыйнага пролетарыята, які ўказвае напрамак рэволюцыі, указвае выхад з тупіка.
>
> ... У гэтым сэнсе 18 чэрвеня было першай палітычнай дэманстрацыяй **дзеяння,** раз'ясненнем не ў кніжцы або ў газеце, а на вуліцы, не праз правадыроў, а праз масы, раз'ясненнем таго, як розныя класы дзейнічаюць, хочуць і будуць дзейнічаць, каб весці рэволюцыю далей» *).

Гомельскія меншавікі, бундаўцы, эсэры і інш. дробна-буржуазныя партыі, каб затрымаць адыход рабочых да большэвікоў, звярнуліся да «левых» лозунгаў.

У гэтых адносінах характэрна адозва Гомельскага совета, выпушчаная ў дзень маніфестацыі 25 чэрвеня і падпісаная не толькі ўсімі дробна-буржуазнымі партыямі, але нават камітэтам Паалей-Цыён. Лозунгамі дробна-буржуазных партый з'яўляліся: «далоў контррэволюцыю», «далоў контррэволюцыю чорнай сотні», «далоў контррэволюцыю 4 дзяржаўнай думы, Мілюкова і кампаніі». Гэтай траскатнёю аб контррэволюцыі дробна-буржуазныя партыі Гомеля хацелі адцягнуць масы ад асноўнага большэвіцкага лозунга—«Уся ўлада советам». Гэты лозунг соцыял-згоднікі Гомеля імкнуліся падмяніць лозунгам толькі «давер'я» і падтрымання «аб'яднаным ва ўсерасійскую арганізацыю Советам Рабочых, Салдацкіх і Сялянскіх Дэпутатаў».

Напярэдадні ліпеньскіх падзей, у адказ на растучую рэволюцыйную актыўнасць пролетарыята, салдат і працоўных мас сялянства, буржуазія, падтрымліваемая меншавікамі і эсэрамі, пераходзіла ў адкрытае контрнаступленне і шукала шляхоў для канчатковага падаўлення рэволюцыі і ўстанаўлення буржуазнай ваеннай дыктатуры. У арміі крок за крокам аднаўляўся стары рэжым, ажывілася дзейнасць контррэволюцыйных чорнасоценных арганізацый.

То там, то тут адбываліся патрыятычныя і контррэволюцыйныя дэманстрацыі са збіеннем і забойствамі староннікаў большэвікоў. Усюды адбывалася падрыхтоўка расправы з рэволюцыяй. Рост разрухі ў народнай гаспадарцы пагражаў пролетарыяту голадам. Такая абстаноўка і паражэнне на фронце не маглі не выклікаць новага выбуху абурэння рабочага класа. Рабочыя Пецербурга і рэволюцыйныя часці гарнізона, даведзеныя да апошняй ступені негадавання і абурэння контррэволюцыйнай палітыкай Часовага ўрада, 3-га ліпеня арганізавалі ўзброеную дэманстрацыю з патрабаваннем тэрміновага пераходу ўлады ў рукі советаў. Гэта дэманстрацыя, якая выбухла стыхійна, паміма жадання большэвіцкай арганізацыі, была ўзначалена большэвікамі з мэтайператварыць выступленне рабочых і гарнізона ў мір-

*) Ленін, т. XX, стар. 548—549.

ную дэманстрацыю. Бальшэвікі ўсімі сіламі стараліся папярэдзіць ліпеньскае выступленне рабочых і салдат, улічваючы тое, што контррэволюцыя, сабраўшы свае сілы, імкнецца выклікаць несвоечасовае выступленне рабочых, каб канчаткова задушыць рэволюцыю.

Бальшэвікі ў гэты перыяд, выходзячы з суадносін класавых сіл у краіне, лічылі ўзброеную барацьбу за ўладу несвоечасовай. Ваеннай арганізацыяй бальшэвікоў былі прыняты ўсе меры к таму, каб пазбегнуць кровепраліцця і паралізаваць правакацыйныя выхадкі контррэволюцыі, засеўшай з кулямётамі на дахах. Але, не гледзячы на мірны характар дэманстрацыі, буржуазія ўсё-ж пачала страляць па дэманстрантам.

Падзеі 3—5 ліпеня, якія азначалі «выбух рэволюцыі і контррэволюцыі разам», закончыліся часовай перамогай контррэволюцыі. Разам з тым, у ліпеньскія дні скончылася двоеўладдзе. «Хісткае становішча ўлады спынілася, улада перашла ў рашаючым месцы ў рукі контррэволюцыі». Устанавілася фактычна ваенная дыктатура.

Часовая перамога буржуазіі ў саюзе са згоднікамі ў цэнтры натхняе і гомельскіх меншавікоў у барацьбе з бальшэвікамі. Барацьба настолькі абвастраецца, што бальшэвікі прымушаны былі пакінуць памяшканне Совета (замак князя Паскевіча) і прытуліцца ў гімназіі Сыркінай. У Новабеліцы зусім прышлося ліквідаваць легальнае памяшканне партыйнага камітэта: зняць шыльду, схаваць літаратуру. Меншавікі рыхтавалі арышт кіраўнікоў Палескага Камітэта. Камітэт рыхтаваўся да пераходу на нелегальнае становішча. Але гэта становішча не аслабіла росту бальшэвіцкага ўплыву на масы. Бальшэвіцкія сілы, не гледзячы на ўсе труднасці, раслі.

Палескі Камітэт, у адпаведнасці з указаннямі Леніна з падполля і рашэннямі VI з'езда бальшэвіцкай партыі, па-ранейшаму вёў работу ў гушчы саміх мас, тлумачачы стварыўшаеся становішча, арыентуючы масы на немінучасць новага рэволюцыйнага выбуху, падрыхтоўваючы масы да апошняга рашучага бою.

Змена становішча выклікала змену бальшэвіцкай тактыкі. Калі да ліпеньскіх дзён бальшэвікі пад лозунгам «уся ўлада советам» вялі барацьбу за мірнае развіццё рэволюцыі, то пасля ліпеньскіх дзён, калі канчаткова зніклі ўсякія надзеі на мірнае развіццё рускай рэволюцыі, перамога зрабілася магчымай толькі пры ўмове ўзброенай барацьбы.

Ленінскае ўказанне з падполля аб змене тактыкі знашло поўнае адлюстраванне ў дакладзе тав. Сталіна на VI з'ездзе партыі. Даўшы аналіз ліпеньскім падзеям і суадносінам класавых сіл у новых абставінах, тав. Сталін даў разгорнуты план работы па падрыхтоўцы ўзброенага паўстання для заваёвы дыктатуры пролетарыята.

Праграмныя ўказанні Леніна і Сталіна, пастановы VI з'езда партыі былі асновай усёй практычнай дзейнасці Палескага Камітэта ў перыяд падрыхтоўкі штурму. Не гледзячы на ўсе труднасці поўлегальнага становішча, на ўсю траўлю і паклёп з боку згодніцкіх партый, Палескі Камітэт з кожным днём пашыраў сферу свайго ўплыву, заваёўваючы на свой бок усё новыя і новыя атрады рабочых і салдат не толькі Гомеля, але і Веткі, Рагачова і іншых бліжэйшых гарадоў.

Асабліва шырока разгарнулася работа Палескага Камітэта пасля прыезду ў Гомель **Лазара Майсеевіча Кагановіча.**

Прыезд тав. Кагановіча ў Гомель умацаваў, ажывіў партыйную арганізацыю і надаў усёй рабоце больш шырокі размах і маштаб.

Палескі Камітэт з большай энергіяй узмацніў арганізацыйна-прапагандысцкую работу. У жніўні-верасні месяцах Палеская арганізацыя з'яўлялася ўжо буйнай арганізацыяй, якая мела вялікі ўплыў не толькі ў гор. Гомелі, але і ў бліжэйшых гарадах і мястэчках: Рагачове, Магілеве, Клінцах, Чарнігаве, Насовічах, Ветцы і інш. Да гэтага часу Паласкаму Камітэту ў радзе месц удалося ўжо стварыць бальшэвіцкія партыйныя камітэты (у Новабеліцы, Рагачове, Насовічах, Клінцах і інш.). Такім чынам Палеская арганізацыя ператварылася фактычна ў губернскую. Маючы ўжо значныя кадры ў Гомелі (у верасні ў Гомелі было звыш 700 членаў большэвіцкай партыі), Палескі камітэт пашыраў свой уплыў на суседнія гарады, арганізуючы выезды актыва Гомельскай арганізацыі і, галоўным чынам, работнікаў самога Камітэта (тт. Кагановіча, Хатаевіча, Цырліна, Агранава, Абрамовіч, Леплеўскага і інш.).

Для стварэння большэвіцкай арганізацыі ў Магілеве парткамітэтам была паслана група таварышоў на чале з тав. Хатаевічам. У Магілеве ў гэты час існавала аб'яднаная с.-д. арганізацыя.

Пасля гэтага выезду, які ўсё-ж не прывёў да арганізацыі самастойнай большэвіцкай групы у Магілеве, тав. Кагановіч увесь час цікавіўся становішчам у Магілеве, штурхаў мясцовых большэвікоў да хутчэйшага выхаду з «аб'яднанкі», растлумачваў ім усю шкоднасць прабывання большэвікоў у адной арганізацыі з абаронцамі-згоднікамі. На абласной канферэнцыі друкароў у Гомелі, дзе дэлегатамі былі толькі два большэвікі, ад Палескага Камітэта прысутнічаў тав. Кагановіч Л. М. Ён падышоў да дэлегата з Магілева і доўга распытваў аб становішчы. Даведаўшыся, што магілеўскія большэвікі моцна трымаюцца «аб'яднанкі», тав. Кагановіч абяцаў прыехаць дапамагчы ў арганізацыі там большэвіцкай работы для ажыццяўлення расколу са згоднікамі.

Праз некаторы час тав. Кагановіч прыехаў у Магілеў, сабраў усіх большэвікоў і прапанаваў адкалоцца ад «аб'яднанкі» і стварыць самастойную большэвіцкую арганізацыю. Ён указаў на прыклад Палескага Камітэта, які працуе самастойна і адчувае сябе нядрэнна.

Палескі Камітэт аказваў агромную дапамогу ў стварэнні большэвіцкіх арганізацый, у іх штодзеннай рабоце і ў іншых гарадах і мястэчках (Рагачове, Беліцы, Насовічах і інш.). Тав. Рыскін указвае, што ў стварэнні самастойнай большэвіцкай арганізацыі ў Рагачове рашаючую ролю адыграў прыезд Л. М. Кагановіча і праведзеная там ім работа.

Тав. Кагановіч дапамог ажыццявіць раскол «аб'яднанкі» у Рагачове, дзе ўжо ў верасні 1917 года ўдалося стварыць самастойную арганізацыю большэвікоў.

Ад Палескага Камітэта ў Рагачоў часта прыязджаў таксама і тав. Хатаевіч, які выконваў даручаную Камітэтам работу.

Тав. Кагановіч у барацьбе за большэвізацыю растучых рэвалюцыйных сіл у раёне Палескага Камітэта надаваў вялікае значэнне марксісцка-ленінскаму выхаванню. З гэтай мэтай ён наведваў гурткі, правяраў іх работу і работу прапагандыстаў.

Заваёва мас на бок большэвіцкай партыі, мабілізацыя іх вакол большэвіцкіх лозунгаў была адной з асноўных і важнейшых задач на шляху заваёвы дыктатуры пролетарыята. Палескі Камітэт асабліва вялікую ўвагу ў сваёй рабоце ўдзяляў Магілеву. Магілеў быў месцам, дзе знаходзілася Стаўка вярхоўнага галоўнакамандуючага. Стаўка на працягу ўсяго перыяда ад лютага да канчатковага яе разгрому з'яўлялася пунктам, вакол якога канцэнтраваліся ўсе сілы чор-

насоценна-манархічнай і буржуазнай контррэволюцыі, галоўным чынам армейскай.

Яшчэ задоўга да карнілаўскага мяцежу, да Стаўкі пачалі сцягвацца контррэволюцыйныя сілы і праз яе накіроўвацца ў Піцер і Маскву. У Магілеве былі сканцэнтраваны найбольш рэакцыйныя вайсковыя часці. У Магілеве быў цэнтр афіцэрскага саюза. Ад Магілеўскай Стаўкі выходзілі і ніці арганізацыі спецыяльных контррэволюцыйных сіл, ударных батальёнаў, батальёнаў смерці, георгіеўскіх кавалераў і т. д. Усё гэта не магло не звярнуць на сябе сугубай увагі Палескага Камітэта. Гэта ўвага ўзмацнілася асабліва з моманту прыезду тав. Кагановіча.

Пастаўленая Камітэтам задача заключалася ў тым, каб арганізаваць і моцна згуртаваць усе рэволюцыйныя сілы ў барацьбе з контррэволюцыйнай Стаўкай. Іменна ў гэтых мэтах Палескі Камітэт арганізаваў работы ў тылавых часцях Заходняга фронту, ахапляючы сваім уплывам не толькі тыя часці, якія знаходзіліся ў Гомелі, але і часці, размеркаваныя ў бліжэйшых гарадах і мястэчках, асабліва па лініі чыгункі Гомель—Магілеў. Гэта дзейнасць Палескага Камітэта дала свае станоўчыя вынікі не толькі ў дні карнілаўскага мяцежу, але і ў Окцябрскія дні, калі Стаўка ў барацьбе супроць совецкай улады не знашла падтрымання ў войсках, што знаходзіліся на тэрыторыі Магілеўскай губерніі, і аказалася ізаляванай.

Часовы ўрад на чале з Керэнскім, выконваючы волю контррэволюцыйных класаў (буржуазіі і манархічна-памешчыцкага класа), прызначыў галоўнакамандуючым арміі ген. Карнілава. З першых-жа дзён свайго камандвання Карнілаў паказаў контррэволюцыйную рашучасць у барацьбе з рэволюцыяй: аднавіў смяротную кару ў арміі, павёў барацьбу супроць армейскіх камітэтаў і іншых салдацкіх арганізацый. Але бравага генерала цікавіла не толькі армія. Яго асноўнай задачай з'яўлялася змена ўсяго існуючага ладу ў Расіі ў інтарэсах капіталістаў і памешчыкаў. Планы Карнілава зусім адпавядалі інтарэсам усёй расійскай контррэволюцыі.

Іменна таму на маскоўскай дзяржаўнай контррэволюцыйнай нарадзе 12 (25) жніўня руская буржуазія выбрала сваім правадыром і героем глаўкаверха генерала Карнілава, які тут-жа, на нарадзе, выступіў з праграмай «суровага рэжыму для аздараўлення краіны». Надзеі ўсёй расійскай контррэволюцыі ў гэтых адносінах былі ўскладзены на генерала Карнілава. Генерал Карнілаў не прымусіў сябе доўга чакаць. Звярнуўшыся ў Стаўку, дзе па-ранейшаму галоўную ролю адыгрывалі нікалаеўскія генералы і палкоўнікі, ён пачаў заразжа падрыхтоўку да мяцежу. У Магілеве пачалася канцэнтрацыя надзейных часцей. Былі тэрмінова выкліканы «ударны батальён», «батальён смерці», «дзікая дывізія тэкінцаў», узводы спецыяльнага прызначэння.

Магілеўскі згодніцкі совет і згодніцкія партыі сталі канчаткова на бок буржуазнай контррэволюцыі і пышнымі «соцыялістычнымі» фразамі толькі прыкрывалі арганізацыю сіл контррэволюцыі і мяцеж, які рыхтаваўся ў Стаўцы. І калі 27 жніўня пачаўся мяцеж, Магілеўскі совет, не аказаўшы ніякага супраціўлення, адразу стушаваўся, уступіўшы паўсюды месца контррэволюцыі. Гомельскі совет 27 жніўня атрымаў паведамленне аб захопе Магілева контррэволюцыйнымі войскамі Стаўкі і аб удары, які рыхтаваўся супроць рэволюцыйных

Петраграда і Масквы. Але згодніцкая частка, якая пераважала яшчэ ў Совеце, не магла арганізаваць хоць якога-небудзь супраціўлення контррэволюцыі. Арганізацыю сіл супроць карнілаўскага мяцежу ўзначаліў Палескі Камітэт і большэвіцкая фракцыя ў Совеце.

Па атрыманні звестак аб становішчы ў Магілеве, пад кіраўніцтвам большэвіцкай арганізацыі Гомеля была створана надзвычайная пяцёрка.Ад Палескага Камітэта ў пяцёрку ўвайшоў тав. Хатаевіч. Пяцёрка і большэвіцкая фракцыя ў Совеце дзейнічалі ў адпаведнасці з указаннямі Палескага Камітэта. Камітэт праявіў вялікую аперацыйнасць, быстрату і цвёрдасць у арганізацыі барацьбы супроць контррэволюцыі. На працягу аднаго дня ўлічаны былі часці гомельскага гарнізона, на якія можна было палажыцца ў барацьбе супроць Карнілава. Быў арганізован атрад у некалькі соцень чалавек, які з батарэяй хутка накіраваўся к Магілеву. Для аўладання важнейшымі пунктамі былі пасланы камісары з большэвікоў на тэлеграф, тэлефон, чыгунку, устаноўлен пікет на Кіева-Пецербургскім шасэ. Усе гэтыя мерапрыемствы ўжыты былі для ізаляцыі Стаўкі ад Паўднёва-Заходняга фронту, адкуль Карнілаў чакаў дапамогі, і для спынення сувязі Стаўкі з прыязнымі яму англійскай і французскай ваеннымі місіямі пры штабе Паўднёва-Заходняга фронту, якія абяцалі падтрыманне.

27 жніўня ваенным аддзелам было затрымана некалькі аўтамашын, што імчаліся з Кіева ў Магілеў. У іх аказаліся афіцэры замежных місій пры Паўднёва-Заходнім фронце, якія спяшалі аказаць дапамогу такому «рашучаму» генералу Карнілаву. На станцыі таксама быў затрыман адзін буйны агент Карнілава. Усе яны былі арыштаваны.

Для ўзгодненай дзейнасці супроць Стаўкі была ўстаноўлена сувязь з Віцебскам і Смаленскам, якія ў сваю чаргу затрымлівалі перакіданне контррэволюцыйных войск з Магілева і фронту ў сталіцы Расіі.

Палескі Камітэт, напружваючы ўсе сілы для барацьбы з карнілаўшчынай, у той-жа час працягваў выкрываць контррэволюцыйную сутнасць Часовага ўрада і згодніцкую лінію дробна-буржуазных партый.

Тактыка і дзейнасць Палескага Камітэта цалкам адпавядалі ленінскай тактыцы ў барацьбе з карнілаўшчынай. Ленін у лісце ў Цэнтральны Камітэт пісаў:

> «Паўстанне Карнілава ёсць вельмі нечаканы... і проста-такі неймаверна круты паварот падзей.
>
> Як усякі круты паварот, ён патрабуе перагляду і змены тактыкі. І, як з усякім пераглядам, трэба быць архі-асцярожным, каб не ўпасці ў беспрынцыпнасць.
>
> Па майму пераконанню, у беспрынцыпнасць упадаюць тыя, хто... скатваецца да абаронцтва, або... да **блока** з эсэрамі, да **падтрымання** Часовага ўрада.
>
> ... І падтрымліваць урад Керэнскага мы **нават цяпер** не павінны. Гэта беспрынцыпнасць. Спытаюцца: няўжо не біцца супроць Карнілава? Вядома, так! Але гэта не адно і тое-ж, тут ёсць грань; яе пераходзяць іншыя большэвікі, упадаючы ў «згодніцтва», даючы **захапіць** сябе плыні падзей.
>
> Мы будзем ваяваць, мы ваюем з Карнілавым, **як і войскі** Керэнскага, але мы не падтрымліваем Керэнскага, а выкрываем

яго слабасць. Гэта розніца. Гэта розніца даволі тонкая, але архі-істотная, і забываць яе нельга» *).

Гэта ленінская тактыка апраўдалася цалкам. У карнілаўскія дні ўплыў большэвікоў па ўсёй Расіі надзвычай узмацніўся. Барацьба з карнілаўшчынай адыграла велізарную ролю ў справе мабілізацыі мас вакол большэвіцкай партыі, у справе выкрыцця дробна-буржуазных згодніцкіх партый.

Пасля карнілаўшчыны ва ўсёй Расіі перавага сіл вызначылася ў бок большэвікоў, у бок пролетарскай рэволюцыі. Гэтая-ж перавага сіл ясна вызначылася і ў Гомелі. Большэвікі ў Совеце пры моцным падтрыманні рэволюцыйных мас рабочых і салдат сталі фактычна кіруючай партыяй. Не маючы яшчэ ў Совеце сваёй большасці, апіраючыся на рэволюцыйныя масы, большэвікі амаль па ўсіх важнейшых пытаннях праводзілі свае рэзалюцыі. Меншавікі, якія адчувалі сябе да карнілаўшчыны гаспадарамі становішча, губляюць глебу пад нагамі і прымушаны адступаць, прыбягаючы к новым метадам ашуканства мас. Так, старшыня Совета меншавік Сеўрук, аказаўшыся пераможаным большэвікамі, прымушан быў падаць у адстаўку. Але меншавікам не хацелася без бою здаць свае пазіцыі. І таму Сеўрук яшчэ раз паспрабаваў выкарыстаць сілу свайго былога аўтарытэта і звярнуўся «да ўсіх рабочых і салдат» з адозвай. У гэтай адозве Сеўрук ад імя ўсіх згоднікаў прымушан быў прызнаць перамогу большэвікоў, але разам з тым імкнуўся проціпаставіць іх рабочым і салдатам.

Апелюючы да разважнасці мас, Сеўрук у сваёй адозве заяўляе:

«У суботу 9 верасня ў Гомельскім Совеце Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў большэвікі правалілі рэзалюцыю Выканаўчага Камітэта аб адносінах да Петраградскай дэмакратычнай нарады. Совет застаўся такім чынам пры ранейшай рэзалюцыі (ад 1 верасня). Можна было лічыць гэта галасаванне выпадковым, але зараз Совет яшчэ раз пацвердзіў, што ён ідзе за большэвікамі.

... Раз Совет стаў на большэвіцкую лінію, я, як старшыня Совета, ужо не магу больш кіраваць і несці адказнасць за большэвіцкі Совет. Вось чаму я злажыў з сябе абавязкі старшыні».

Не гледзячы на заклік гомельскіх меншавікоў, у асобе свайго правадыра Сеўрука, да мас выступіць супроць большэвіцкага Совета, згоднікі засталіся ў адзіноцтве. Выбары ў Совет, якія праводзіліся ў жніўні-верасні, далі значную колькасць месц большэвікам разам з левымі эсэрамі (інтэрнацыяналістамі), далі большасць супроць абаронцаў з «аб'яднанкі».

Барацьба паміж большэвікамі і меншавіцка-бундаўскай «аб'яднанкай» узмацняецца. У гэтай барацьбе хутка адбываецца чоткае размежаванне сіл рэволюцыі і контррэволюцыі. У гэтых адносінах характэрны сход дэпутатаў Гомельскага совета, які адбываўся 19—20 верасня. На сходзе Совета было пастаўлена пытанне аб міры. Гэта пытанне прыцягнула агромную ўвагу рабочых і салдат Гомеля. К пачатку паседжання ў памяшканні Совета (замак был. князя Паскевіча) і ў парку, дзе знаходзіцца гэта памяшканне, сабралася каля 8.000 чалавек. Два вечары да 2—3 гадзін ночы працягвалася гарачае абгаварэнне пытання, і ўся маса салдат і рабочых прадаўжала заставацца ў памяшканні і ў парку. Калі пасля двухдзённага абгаварэння гэтага

*) Ленін, т. XXI, стар. 116.

пытання значнай большасцю супроць большэвікоў была прынята вельмі няясная рэзалюцыя, якая невыразна высняла адносіны Совета да вайны, не ставіла пытання прама аб спыненні вайны, уся маса салдат, якая знаходзілася ў Совеце і вакол яго, прышла ў сільнае абурэнне і патрабавала перавырашыць пытанне. Совет апынуўся ў такім становішчы, калі ўся маса, не рухаючыся з месца і патрабуючы тэрміновага перавырашэння пытання, не выпускала дэпутатаў з памяшкання Совета. Совет прымушан быў аднавіць паседжанне і прадоўжыць спрэчкі. Пад націскам мас была прынята рэзалюцыя, прапанаваная большэвіцкай фракцыяй, якая, выкрываючы імперыялістычную сутнасць вайны і здрадніцкую ролю Часовага ўрада, патрабавала:

1. «Рашучага разрыву рускай дэмакратыі з імперыялістычнымі коламі, адмаўлення ад палітыкі наступлення.

2. Тэрміновага апублікавання і абвяшчэння неабавязковымі крывавых царскіх дагавораў.

3. Прамой і адкрытай прапановы мірных умоў дэмакратыі ўсяго свету.

4. Тэрміновага абвяшчэння перамір'я на ўсіх фронтах.

Лічым неабходным тэрміновае скліканне міжнароднай соцыялістычнай канферэнцыі прадстаўнікоў пролетарыята, якія засталіся вернымі інтэрнацыянальнаму сцягу» *).

У верасні і кастрычніку меншавікі і бундаўцы ўсё больш і больш трацяць уплыў і падтрыманне ў масах. Так, напрыклад, на Абласны З'езд Советаў Паўночна-Заходняй області, які адбываўся ў Менску, ад Гомельскага совета дэлегатамі былі абраны 3 большэвікі і 2 левыя эсэры. На Ўсерасійскі з'езд советаў абаронцы не атрымалі ні аднаго месца: дэлегатамі былі абраны большэвікі і адзін левы эсэр. Дэлегатам на Ўсерасійскі з'езд далі наказ дабіцца пераходу ўлады ў рукі Советаў. Пры правядзенні падрыхтоўчай кампаніі да II Усерасійскага з'езда Гомельскі совет па ўсіх асноўных пытаннях (аб вайне, аб уладзе, аб зямлі) прыняў большэвіцкія рэзалюцыі.

Такім чынам у агромнай напружанай барацьбе на працягу 6—7 месяцаў Палескаму Камітэту, на чале з тав. Кагановічам, удалося выкрыць перад масамі здрадніцкую ролю згодніцкіх партый, ізаляваць іх ад рэволюцыйнай масы і павесці іх за сабой у барацьбе за ўладу Советаў, за дыктатуру пролетарыята.

«Няма сумнення,—пісаў Ленін,—канец верасня прынёс нам велізарнейшы пералом у гісторыі рускай, а, па ўсёй відавочнасці, таксама і сусветнай рэволюцыі» **).

Гэты пералом перш за ўсё выразіўся ў тым, што рабочы клас, салдаты і сялянскія масы адыходзілі ад дробна-буржуазных партый і ішлі пад сцягі большэвіцкай партыі. Перавыбары советаў, якія пачыналіся, ясна паказалі, што пролетарыят больш не верыць меншавікам і эсэрам. Советы з органаў згодніцтва ператварыліся ў органы мабілізацыі мас на барацьбу супроць вайны, голаду, разрухі, супроць імперыялістычнага Часовага ўрада, у органы барацьбы за дыктатуру пролетарыята. Советы большэвізаваліся.

*) Архіў Гістпарта, ф. 20, д. 29, стар. 105—106.
**) Ленін, т. XXI, стар. 235.

Рабочы клас Беларусі ў сваёй пераважнай большасці стаў пад сцяг большэвізма на барацьбу супроць імперыялістычнага Часовага ўрада і супроць буржуазнай беларускай «Рады».

Напярэдадні Окцябрскай рэволюцыі ў раёне дзейнасці Палескага Камітэта існавалі даволі шматлікія і моцныя большэвіцкія арганізацыі (у Гомелі каля 900 чалавек, у Рагачове—80 чал., у Нова-Беліцы, у Насовічах і інш.). Раслі большэвіцкія сілы і ў Магілеве. У выніку праведзенай работы Л. М. Кагановічам былі створаны большэвіцкія групы ў батальёне георгіеўскіх кавалераў пад кіраўніцтвам т. Хахлова і пры агульнаармейскім камітэце пад кіраўніцтвам тав. Максімава.

У тых пунктах, дзе дзейнічалі большэвіцкія арганізацыі, Советы рабочых і салдацкіх дэпутатаў у значнай сваёй частцы былі заваяваны большэвікамі ўжо ў верасні. У Магілеве-ж эсэраўска-меншавіцкі совет аж да 18 лістапада аказваў контррэволюцыйнае супраціўленне пераходу ўлады ў рукі Советаў.

Гомель, як цэнтр дзейнасці Палескага Камітэта, займаў вельмі важнае стратэгічнае становішча ў ваенных адносінах (чыгуначны вузел, які звязваў Паўднёва-Заходні і Заходні фронт з Масквой і Ленінградам). Палескаму Камітэту ўдалося арганізаваць і выхаваць значныя кадры большэвікоў, разгарнуць рэволюцыйную дзейнасць ва ўсіх вайсковых часцях, ва ўсіх важнейшых прадпрыемствах горада і яго аколіц, стварыўшы там свае рэволюцыйныя ячэйкі, якія ў перыяд узброенага паўстання пролетарыята з'явіліся рэволюцыйнымі ачагамі барацьбы за ўладу Советаў у Гомелі і навокал яго.

У барацьбе за ажыццяўленне ўзброенага паўстання і дыктатуры пролетарыята большэвіцкая партыя на чале з Леніным і Сталіным разбіла здрадніцкую контррэволюцыйную тэорыю штрэйкбрэхераў, Каменева і Зіноўева аб немагчымасці ажыццяўлення соцыялістычнай рэволюцыі ў Расіі без дапамогі пролетарыята іншых краін і аб небяспецы разрыву з дробна-буржуазнай дэмакратыяй.

Наперакор усёй здрадніцкай дзейнасці Каменева і Зіноўева (апублікаванне ў непартыйным друку сакрэтнага рашэння ЦК аб узброеным паўстанні, дэзерцірства з работы), пролетарыят у саюзе з беднейшым сялянствам, пры падтрыманні салдацкай масы, выступіў пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі для звяржэння панавання буржуазіі і памешчыкаў.

Подлае здрадніцтва гэтай парачкі ў самыя адказнейшыя дні рэволюцыі непасрэдна выцякала з меншавіцкай пазіцыі Каменева, якую ён займаў у першы час пасля лютаўскай рэволюцыі і на красавіковай канферэнцыі. Здрадніцтва Каменева і Зіноўева ў гэты перыяд з'яўлялася асновай усяго паследуючага кола двурушніцтва і здрадніцтва, што прывяло іх да трацкізма і закончылася белагвардзейскім фашысцкім актам.

Не гледзячы на здрадніцтва Зіноўева і Каменева, большэвіцкая партыя арганізавала 24—25 кастрычніка паўстанне рабочых і салдат у Петраградзе, Маскве і іншых гарадах.

Дружным ударам, у адпаведнасці з ленінскім планам, быў звергнут буржуазны ўрад.

Першыя звесткі аб паўстанні ў Піцеры былі атрыманы ў Гомелі ў ноч на 26 кастрычніка. Гэтыя звесткі радасна былі сустрэнуты рабочымі і працоўнымі масамі Гомеля. Палескі Камітэт для растлумачэння масам значэння вялікай пролетарскай рэволюцыі мабі-

лізаваў усе свае сілы, паслаў сваіх прадстаўнікоў ва ўсе вайсковыя часці і на прадпрыемствы горада Гомеля.

Найбольш рэволюцыйныя ваенныя часці былі пераведзены на баявое становішча і былі гатовы па першаму закліку большэвіцкага Палескага Камітэта выступіць за ўладу Советаў.

У гэты-ж дзень камітэтам былі сфармаваны атрады Чырвонай гвардыі ў колькасці 400 чалавек з рабочых Гомеля. Яны ўзброіліся вінтоўкамі і рэвольверамі, узятымі з аружэйнай базы Заходняга фронту.

Палескі Камітэт, атрымаўшы звесткі аб пролетарскай рэволюцыі, устанавіў кантроль над прасоўваннем ваенных часцей, пры гэтым ніякія эшалоны на Петраград і Маскву не прапускаліся на працягу ўсяго часу аж да канчатковага разгрому контррэволюцыйнай стаўкі і ўмацавання совецкай улады ў Расіі. Гэтым самым Палескі Камітэт адыграў велізарную ролю ў справе ізалявання контррэволюцыйнай Стаўкі.

«Мы лакалізавалі рух ударнікаў, карнілаўцаў, увашлі ў кантакт з чыгуначным камітэтам»—гаварыў тав. Кагановіч на II губернскім з'ездзе советаў. *)

Атрыманыя звесткі аб адбыўшайся пролетарскай рэволюцыі выклікалі актывізацыю дробна-буржуазнай контррэволюцыі ў асобе меншавікоў, бундаўцаў, эсэраў і інш., якія прынялі рэзалюцыю з выражэннем давер'я і падтрымання Часовага ўрада.

Палескі Камітэт і Гомельскі совет у сувязі з адсутнасцю правільных звестак з цэнтраў апынуўся ў самых цяжкіх умовах, бо быў адрэзан ад Петраграда контррэволюцыйнай Стаўкай. З Магілева, згуртаваная вакол Стаўкі контррэволюцыя на чале з генералам Духонiным, прыехаўшым Чэрновым і групай правых эсэраў рассылала па ўсёй краіне ілжывыя тэлеграмы і паведамленні аб няўдаўшымся большэвіцкім пераваpоце, аб перамозе Керэнскага, аб тым, што правінцыя і фронт не падтрымалі пераварота і т. д. Усё гэта рабілася з мэтай унесці замяшанне і збянтэжанасць у рады рэволюцыйных мас рабочых і салдат. Акрамя звестак, атрыманых 26 кастрычніка, Гомель аж да 30 кастрычніка з Петраграда непасрэдна звестак не меў.

У надзвычайна напружанай абстаноўцы 28 кастрычніка па ініцыятыве Палескага Камітэта быў склікан сход дэпутатаў Совета. Сход быў вельмі многалюдным. Але, не гледзячы на многалюднасць, на сходзе панаваў напружаны, сканцэнтраваны настрой, без звычайнага шуму, крыку і апладысментаў. Напружанасць абстаноўкі на сходзе ўзмацнілася пасля абвяшчэння правакацыйнай тэлеграмы з Магілева. У тэлеграме паведамлялася, што казакі генерала Краснова пры садзейнасці паўстаўшых унутры горада ўвайшлі ў Петраград, што Ленін бяжаў, Смольны абкружаны. Частка большэвіцкага ўрада арыштавана і т. д.

Але гэтай правакацыйнай тэлеграмай не ўдалося ўнесці ў рады большэвікоў Гомеля збянтэжанасці і смутку.

На гэтым-жа сходзе меншавік Сеўрук ад імя ўсіх згоднікаў унёс прапанову стварыць контррэволюцыйны орган—«Камітэт **выратавання радзімы і рэволюцыі»**. Большэвікі-ж вялі барацьбу за стварэнне камітэта **«аховы рэволюцыі»**. Настрой сходу быў неакрэслены.

*) „Рэволюцыйная Стаўка" за 1917 г. № 21.

Тав. Кагановіч сваім выступленнем, у якім ён выкрыў контррэвалюцыйную сутнасць прапановы згоднікаў, палажыў канец хістанням.

Вось што расказвае тав. Прывароцкі аб гэтым выпадку:

«Тады ўсе партыі, якія былі супроць нас, мабілізавалі ўсе свае сілы: выпусцілі лепшых сваіх прамоўцаў, выступалі істэрычна, асабліва Сеўрук, які выступаў адным з першых. Нам трэба было стварыць сабе большасць. Да выступлення тав. Кагановіча настроі ў залі былі неакрэсленымі, апладзіравалі і тым і другім. Пералом быў створан іменна тав. Кагановічам. Мне запамяталася некалькі фраз з яго прамовы. Ён звярнуўся да сходу: «Ад каго вы хочаце ратаваць рэволюцыю? Ад петраградскіх рабочых, якія заслалі сваімі трупамі брук Петраграда ў 1905 г. і цяпер? З кім вы хочаце яе ратаваць? З памешчыкамі і капіталістамі: Радзянко, Гучковым і Тярэшчанка? Вы хочаце ратаваць рэволюцыю ад нас, рабочых?»... Гэтыя некалькі фраз і ўся прамова яго зрабілі вельмі моцны ўплыў. Каля мяне стаяў рабочы—меншавік. Ён галасаваў за большэвіцкую рэзалюцыю і сказаў, што «умее-ж Кагановіч так гаварыць, што мароз прабягае па целу, і нельга з ім не згадзіцца».

Створаны Камітэт рэволюцыйнай аховы пад кіраўніцтвам Палескага Камітэта адыграў рашучую ролю ў затрыманні эшалонаў казакаў, якія рухаліся з Паўднёва-Заходняга фронту на Петраград і Маскву для падаўлення паўстання.

Палескаму Камітэту ўдалося не прапусціць ні аднаго вагона з казакамі. Такім чынам Палескі Камітэт садзейнічаў паспяховаму ажыццяўленню ўзброенага паўстання ў Петраградзе і Маскве, бо не дапусціў падмацавання контррэволюцыйным сілам Керэнскага, ген. Краснова і інш.

Наступныя дні аж да 30 кастрычніка праходзілі ў тым-жа няведанні сапраўдных падзей у Петраградзе і Маскве. Па-ранейшаму працягвалі паступаць ілжывыя правакацыйныя тэлеграмы са Стаўкі.

Толькі 30 кастрычніка былі атрыманы больш падрабязныя звесткі аб сапраўдным становішчы ў Піцеры і буйных прамысловых цэнтрах. Урад Советаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў паведамляў аб перамозе, атрыманай пад Пулкавым піцерскімі рабочымі над войскамі генерала Краснова, аб захопе гэтага генерала ў палон і аб уцёках Керэнскага. Разам з тым з усіх канцоў краіны і фронту паступалі радасныя звесткі аб тым велізарным энтузіязме, з якім сустракаюць масы рабочых, салдат і сялян звесткі аб перамозе рэволюцыі, што паўсюды ўлада пераходзіць к советам пры поўнай ізаляцыі ад працоўных мас Часовага ўрада і згоднікаў.

Стан трывогі і напружання, выкліканы невядомасцю, адразу-ж змяніўся агромнай радасцю, уздымам, ахапіўшым салдат гарнізона і рабочых.

30 кастрычніка ўвечары зноў склікаецца паседжанне гарадскога Совета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, сумесна з Выканкомам совета сялянскіх дэпутатаў. На гэта паседжанне гомельскія соцыял-здраднікі абаронцы, следуючы прыкладу сваіх піцерскіх і маскоўскіх аднадумцаў, якія выступілі на баку контррэволюцыйнага Часовага ўрада, паспрабавалі апошліць вялікую пролетарскую рэволюцыю і ашукаць масы, рысуючы Окцябрскую соцыялістычную рэволюцыю, як сепаратыўнае, ізаляванае выступленне жменькі піцерскіх большэвікоў.

якія, дабіўшыся «пагубнага раздзялення дэмакратыі, вядуць краіну к пагібелі» *).

Але гэтая спроба натравіць масы супроць большэвікоў не аказала ніякага ўздзеяння. Выступленне тав. Кагановіча на гэтым паседжанні выкрыла здрадніцкую ролю соцыял-згодніцкіх партый.

Выкрываючы здрадніцкую ролю дробна-буржуазных партый у перыяд барацьбы за дыктатуру пролетарыята, т. Кагановіч заявіў, што Советы—рэволюцыйныя штабы, аплот рэволюцыі. Меншавікі і эсэры—ярыя ворагі Советаў. Калі паўстаў петраградскі пролетарыят і гарнізон, меншавікі не толькі ганебна пакінулі сваіх гінучых братоў, але пашлі насустрач палкам Керэнскага.

На гэтым паседжанні была прынята большэвіцкая рэзалюцыя аб пераходзе ўсёй улады ў рукі Советаў, аб тэрміновым адхіленні і арышце агентаў і здраднікаў Часовага ўрада, аб неабходнасці правесці агульныя перавыбары Совета і Выканкома.

Упартай, штодзеннай работай большэвіцкаму Палескаму Камітэту ўдалося выкрыць контррэволюцыйную сутнасць нацыяналізма, Бунда, эсэраў і аб'яднаць пад сцягам інтэрнацыяналізма працоўных Гомеля. Першы час пасля лютаўскай рэволюцыі Бунд меў вялікі ўплыў на рабочых саматужных майстэрань Гомеля. Вялікадзяржаўніцкія настроі праяўляліся сярод рабочых чыгуначнікаў. Бундаўцы, эсэраўцы, чорнасоценцы з «саюза рускага народу» усімі сіламі імкнуліся раз'яднаць пролетарыят і працоўных Гомеля па нацыянальнаму прызнаку; затушоўваючы класавыя супярэчнасці, яны высоўвалі на першы план нацыянальнае пытанне. Толькі Палескі Камітэт паслядоўна вёў барацьбу за аб'яднанне ўсіх працоўных пад сцягам інтэрнацыяналізма. У Окцябрскія дні пролетарыят і працоўныя Гомеля пашлі за большэвікамі пад сцягам інтэрнацыяналізма, парваўшы раз і назаўсёды з нацыяналістычнай дробна-буржуазнай ідэалогіяй Бунда і з вялікадзяржаўніцтвам.

Фактычна яшчэ да Окцября рэальная палітычная ўлада ў горадзе Гомелі належала Совету, і ўсе гэтую ўладу прызнавалі. Пасля рэволюцыі Совет прыняў на сябе функцыі агульнага кіраўніцтва горадам і паветам. На чале Совета стаў большэвік т. Леплеўскі, які да Окцябрскай рэволюцыі, будучы членам большэвіцкай фракцыі, вёў непрымірымую барацьбу са згоднікамі.

Трыумфальнае шэсце пролетарскай рэволюцыі адразу пасля Окцябрскіх дзён спалучалася з крапатлівай творчай работай па ўмацаванню ўлады советаў, якая ажыццяўляла дыктатуру пролетарыята, па арганізацыі апарата ўлады і т. д.

Адкрытыя ворагі пролетарыята і працоўнага сялянства—меншавікі, бундаўцы, эсэры і іншыя дробна-буржуазныя партыі—як паўсюды ў краіне, так і ў Гомелі, напружвалі ўсе сілы, каб перашкодзіць умацаванню дыктатуры пролетарыята.Ператварыўшы гарадскую думу і земскую ўправу ў свае апорныя пункты, меншавікі, бундаўцы, правыя эсэры, маючы ў першы перыяд совецкай улады ў Гомелі сваіх прадстаўнікоў і ў органах Совета, усімі сіламі імкнуліся перашкодзіць разгортванню дзейнасці советаў. Згоднікі ў Совеце спрабавалі тармазіць устанаўленне кантроля на чыгунцы, пошце, тэлеграфе, пагражаючы забастоўкай у выпадку яго ажыццяўлення, змагаючыся супроць арышту прадстаўнікоў Часовага ўрада. Велізар-

*) З пратакола паседжання Совета. Архіў Гістпарта, ф. 20.

нае значэнне ў гэты момант мелі органы дыктатуры пролетарыята, узнікшыя ў перыяд узброенага паўстання Ваенна-рэволюцыйныя камітэты.

Палескім Камітэтам праз большэвіцкую фракцыю 17 лістапада быў склікан надзвычайны сход Совета рабочых і салдацкіх дэпутатаў па пытанню аб рэканструяванні ўлады. Пытанне гэта па настойванню большэвіцкай фракцыі было перанесена на паседжанне выканаўчага камітэта, на агульны сход Совета. На гэтым сходзе выявілася, што склад прэзідыума не адпавядаў новаму складу выканкома: замест двух прадстаўнікоў большэвікі мелі права на 4 месцы; аб'яднанцы замест 3 мелі два месцы і левыя эсэры—замест 2—адно месца. Навасканструяваны прэзідыум быў названы В. Р. Камітэтам і ў абсалютнай сваёй большасці стаяў на плацформе Другога Ўсерасійскага з'езда советаў.

Ад большэвікоў у прэзідыум Гомельскага совета рабочых і салдацкіх дэпутатаў увайшлі наступныя т.т.: Кагановіч, Леплеўскі, Жылін і Ефесаў. На армейскі з'езд у Менск былі абраны ад большэвікоў тт. Хатаевіч, Егораў, Сясін, Ерафееў. Совет у новым сваім складзе сапраўды прыступіў да ажыццяўлення ўлады советаў у Гомелі. З гэтага повады Палескі Камітэт 21 лістапада паведаміў у ЦК партыі:

> «Нарэшце ў нашым горадзе, не толькі ў рэзалюцыях, але на справе, пачынае ажыццяўляцца совецкая ўлада. Абраны агульным сходам совета Рэволюцыйны Камітэт з першых-жа дзён уступіў на шлях энергічнай, рашучай, рэволюцыйнай барацьбы з контррэволюцыяй і безуладдзем у горадзе. Былі адхілены ад пасады камісары былога Часовага ўрада—гарадскі і павятовы. На месца гарадскога камісара прызначан член Выканаўчага камітэта Петраградскага совета рабочых і салдацкіх дэпутатаў тав. Жылін, які ўжо прыняў справы ад былога камісара і ўступіў у выкананне сваіх абавязкаў. Прыступлена да арганізацыі чырвонай рабочай гвардыі» *).

Такім чынам, ужо к канцу лістапада 1917 года ўлада Советаў, як адзіная ўлада пролетарыята, канчаткова ўмацавалася ў Гомелі. Для штодзеннай практычнай работы створаны былі камісарыяты па асобных галінах гаспадаркі, наладжана была работа ў галіне забяспечання горада харчаваннем. Створан быў асобы чырвонагвардзейскі рэволюцыйны атрад, на які апіраўся Совет ва ўсіх сваіх мерапрыемствах. Вялікая работа праводзілася ў галіне гаспадарчага і культурнага жыцця горада і вёскі.

Намаганнямі большэвікоў з Палескага Камітэта ўдалося адолець сабатаж і супраціўленне соцыял-здраднікаў з «аб'яднанкі». Ліквідацыяй камісараў Часовага ўрада канчаткова была выбіта глеба з-пад ног старых органаў улады.

У Магілеве паведамленне аб адбыўшайся пролетарскай рэволюцыі ў Петраградзе сустрэнута было як Стаўкай на чале з ген. Духонінам, так і згодніцкім советам, з азвярэлай злосцю і гатоўнасцю змагацца супроць рэволюцыі.

Генерал Духонін у размове па прамому проваду з Леніным і Сталіным не прызнаў Совецкай улады і адмовіўся пачаць тэрміновыя перагаворы з ваюючымі краінамі аб перамір'і.

*) Архіў Гістпарта.

Магілеўскі згодніцкі совет, каб не адстаць ад **гаспадароў,** на прапанову навапрызначанага Соўнаркомам вярхоўнага галоўнакамандуючага тав. Крыленко ўстанавіць Совецкую ўладу і адхіліць Духоніна, прыняў здрадніцкую рэзалюцыю аб непрызнанні тав. Крыленко.*)

Такім чынам, Стаўка, афіцэрска-згодніцкі агульнаармейскі камітэт і Выканком Магілеўскага совета ўступілі ў адзін контррэволюцыйны золатапагонны белагвардзейскі саюз.

Прыбыўшыя ў Магілеў у Окцябрскія дні правадыры эсэраўскай партыі—Чэрноў і Скобелеў—сумесна з агульна-армейскім камітэтам спрабавалі стварыць у Магілеве згодніцкі «урад» на чале з Чэрновым.

У сярэдзіне лістапада ў Магілеў пачалі прыбываць прадстаўнікі ад рэволюцыйных часцей арміі ў агульнаармейскі камітэт. Прыбыццё прадстаўнікоў ад арміі ўмацоўвала рады большэвікоў у Магілеве. Большэвіцкая фракцыя, сумесна з большэвікамі вайсковых часцей, рыхтавала захоп улады Советам у Магілеве. Устанаўленне совецкай улады ў Магілеве стала магчымым толькі тады, калі да горада наблізіўся рэволюцыйны атрад прызначанага Соўнаркомам галоўнакамандуючага тав. Крыленко і калі ўнутры горада ўжо дастаткова разгарнулася работа большэвікоў. Большэвікі Магілева 18 лістапада сабралі пленум Магілеўскага совета. Большасцю галасоў было прынята рашэнне далучыцца да совецкай улады. Тут-жа, на пленуме, быў арганізован Ваенна-Рэволюцыйны Камітэт.

Такім чынам Магілеў стаў совецкім. Пасля гэтага пачалася велізарная работа па арганізацыі совецкай улады ў павеце ў цэлым. У першую чаргу неабходна было наладзіць партыйную работу ў самым горадзе Магілеве. Да гэтага часу тут усё яшчэ значная частка большэвікоў прадаўжала заставацца ў «аб'яднанцы». Неабходна было таксама заняцца арганізацыяй губернскіх органаў совецкай улады. З гэтай мэтай быў склікан губернскі з'езд советаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў у Магілеве, пад кіраўніцтвам тав. Кагановіча Гэты з'езд паклаў моцны пачатак існаванню агульнагубернскай улады советаў. На гэтым-жа з'ездзе была яшчэ значная колькасць згоднікаў, якія не прамінулі зрабіць спробу выкарыстаць з'езд, проціпаставіўшы советам устаноўчыя сходы і буржуазны лозунг «уся ўлада ўстаноўчаму сходу».

Тав. Кагановіч на гэтым з'ездзе, выкрываючы дробна-буржуазную контррэволюцыю, указаў, што большэвікі не адмаўляюцца склікаць устаноўчы сход, але, калі ён пойдзе супроць совецкай улады, калі ён стане штабам контррэволюцыі, прыкрываючыся лозунгам «уся ўлада ўстаноўчаму сходу» у барацьбе супроць советаў, то большэвікі і пролетарыят міндальнічаць з ім не будуць.

Меншавікі і правыя эсэры пасля свайго поўнага паражэння ўсімі сіламі імкнуліся сарваць з'езд, матывуючы тым, што ён не з'яўляецца правамоцным у сувязі з адсутнасцю прадстаўнікоў ад значнай часткі павятовых советаў. Тав. Кагановіч, выказваючы свае адносіны да з'езда і прадстаячай работы, гаварыў, што час рэзалюцый прашоў, што прышоў час справы. Неабходна арганізаваць уладу ў губерніі і таму адмовіцца ад гэтай работы ні ў якім разе нельга. Выказваючыся па гэтаму пытанню ў другі раз, тав. Кагановіч настойваў на неабходнасці прызнаць з'езд правамоцным, указваючы на магчымасць ско-

*) Рэволюцыйная барацьба ў Гомельскай губерні.

рага склікання III з'езда советаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. (Па пратакольнаму запісу.) *).

Па настойванню тав. Кагановіча і групы большэвікоў дэлегатаў з'езда (Максімаў, Марголін і інш.) з'езд адбыўся.

У сваім дакладзе і рэзалюцыі па бягучаму моманту тав. Кагановіч з усёй чоткасцю і ўпэўненасцю, уласцівымі большэвіку-ленінцу, даў марксісцкі аналіз развіцця рэволюцыі ад лютага да Окцябрскіх дзён, паказаўшы здрадніцкую ролю згоднікаў.

«Расійская рэволюцыя, — адзначае рэзалюцыя, прынятая з'ездам,—з самага пачатку вышла з рамак буржуазнай рэволюцыі. Але палітыка згодніцтва азнаймавала сабой поўную перамогу буржуазіі. Буржуазія рукамі меншавікоў, эсэраў і абаронцаў зацягвала вайну, павяла барацьбу супроць заваёў арміі, аднавіла нават пакаранне смерцю салдат. Абараняючы інтарэсы памешчыкаў, яны ўсміралі нагайкамі сялян, абараняючы асноўныя ўстоі недатыкальнасці буржуазнай свяшчэннай прыватнай уласнасці; змагаючыся супроць кантролю рабочых над вытворчасцю і размеркаваннем, яны давялі прамысловасць да поўнага развалу. Нарэшце яны прыступілі да барацьбы з советамі, змагаючыся з кожным паасобку.

Грамадзянская вайна, пачатая буржуазіяй, дашоўшы ў сваім развіцці да вышэйшага пункту напружання, завяршылася пераможнай пролетарскай Окцябрскай рэволюцыяй.

Окцябрская рэволюцыя паставіла на чале ўлады Советы рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў, прыступіла на справе да ажыццяўлення задач пролетарыята і бяднейшага сялянства. Совецкая ўлада перадала зараз-жа зямлю сялянам, заключыла перамір'е і прыступіла да мірных перагавораў, увёўшы кантроль над вытворчасцю і размеркаваннем, змагаючыся з усякімі праявамі контррэволюцыі.

Узмацненне контррэволюцыі азначае пагібель усіх заваёў рэволюцыі, умацаванне совецкай улады азначае правядзенне ў жыццё ўсіх задач, пастаўленых рэволюцыяй. Толькі ўмацаванне совецкай улады і заваёў рэволюцыі можа выратаваць краіну і рэволюцыю. Таму ў сучасны адказнейшы гістарычны момант, калі вырашаецца лёс пролетарыята і бяднейшага сялянства, выражаем поўнае давер'е ўраду, які выконвае волю рабочых, салдат і сялян, абяцаем яму поўнае падтрыманне ў ажыццяўленні совецкай улады і правядзенні ў жыццё ўсіх дырэктыў Совета народных камісараў у рашучай бязлітаснай барацьбе з усякімі праявамі контррэволюцыі **).

У гэтым глыбокім марксісцка-ленінскім аналізе бягучага моманту, тав. Кагановіч з усёй сілай падкрэслівае, што трэба толькі канчаткова перамагчы супраціўленне буржуазіі і яе агентаў з лагера згоднікаў, тады рабочы клас і бяднейшае сялянства, пры падтрыманні шырокіх мас працоўных, цалкам ажыццёвяць пастаўленыя рэволюцыяй задачы, г. зн. будуць будаваць соцыялістычнае грамадства, бо ў расійскага пролетарыята, падтрымліваемага працоўнымі масамі сялянства, даволі сіл для таго, каб не толькі заваяваць уладу, але каб паспяхова ажыццявіць пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

*) Магіл. Адз. Цэнтр. Сов. архіва, ф. 50, л. 4, 9—92.
**) Магіл. архіў, ф. 4, л. 4, спр. 32.

Рэзалюцыя, чотка ставячы пытанне аб магчымасці пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне, сваім астрыём накіравана супроць здраднікаў справы пролетарыята—Зіноўева і Каменева, якія сваім штрэйкбрэхерствам і дэзерцірствам у дні паўстання і ў першыя дні пасля Окцябра імкнуліся сарваць барацьбу пролетарыята пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі за ажыццяўленне соцыялістычнай рэволюцыі.

На гэтым-жа з'ездзе было абрана губернскае бюро, якому з'езд даручыў:

«1) Праводзіць у жыццё ўсе няцерпячыя адкладу мерапрыемствы па павету;

2) склікаць да 5 студзеня аб'яднаны з'езд советаў рабочых і сялянскіх дэпутатаў.

Гэта рэзалюцыя была прынята па прапанове тав. Кагановіча па пытанню аб бліжэйшых мерапрыемствах для арганізацыі губернскай улады. У пратакольным запісе па гэтаму пытанню сказана:

«Тав. Кагановіч прапануе абраць з усяго асяроддзя губернскае бюро з'езда з 7 чалавек. Сялянскі з'езд 22 снежня вылучыць з сябе столькі-ж. Гэты аб'яднаны орган будзе вышэйшым органам улады Магілеўскай губерніі да III з'езда советаў рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў 5 студзеня і прапанаваў перайсці да практычнага разгляду пытання аб уладзе» *).

На з'ездзе былі заслуханы тэзісы т. Кагановіча аб арганізацыі совецкай улады ў губерніі, якія былі цалкам прыняты. Прынятыя тэзісы аб арганізацыі совецкай улады завяршылі тую велізарную работу, якую прарабіў з'езд пад кіраўніцтвам большэвікоў на чале з тав. Кагановічам.

У час другога губернскага з'езда советаў т. Кагановічам быў склікан сход большэвікоў Магілева, дзе ва ўпор было пастаўлена пытанне аб выхадзе з «аб'яднанкі» і стварэнні самастойнай большэвіцкай арганізацыі, Рашучай пастаноўкаю пытання аб расколе і растлумачэннем трацкісцка-меншавіцкай сутнасці аб'яднання соцыял-дэмакратыі тав. Кагановіч дабіўся разрыву магілеўскіх большэвікоў з меншавікамі і выхаду з «аб'яднанкі».

Для канчатковага афармлення большэвіцкай арганізацыі ў Магілеве, быў пасланы Палескім Камітэтам т. Хатаевіч. Такім чынам у Магілеве самастойная большэвіцкая арганізацыя пачала існаваць толькі з сярэдзіны снежня 1917 года.

Так у барацьбе з дробна-буржуазнымі контррэволюцыйнымі партыямі, перамагаючы дробнаўласніцкую стыхію велізарнай масы сялян, саматужнікаў і галоўным чынам шырокіх колаў гарадскога і мястэчковага мяшчанства, чыноўніцтва, абывацельшчыны, Палескі Камітэт на чале з тав. Кагановічам пад кіраўніцтвам большэвіцкага ЦК устанаўляў і ўмацоўваў уладу советаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў, ствараючы большэвіцкую арганізацыю Гомельшчыны— адзін з перадавых атрадаў КП(б)Б.

---

*) Магіл. архіў, ф. 50, 4, спр. 32.

**П. Грыгорчык**

# 2-гі з'езд КПЗБ і задачы барацьбы за адзінства дзеяння супроць фашызма

У чэрвені гэтага года адбыўся другі з'езд КПЗБ *).

Падрыхтоўка да з'езду і сам з'езд прашлі пад знакам правядзення ўнутрыпартыйнай і масавай работы ў сувязі з падрыхтоўкай да VII кангрэса Комінтэрна.

У жыцці КПЗБ гэты з'езд мае агромнае значэнне. Ён абагуліў вопыт работы партыі за апошнія гады і распрацаваў новыя тактычныя арыентыроўкі, якія адпавядаюць патрабаванням сучаснай палітычнай сітуацыі і выражаюцца ў неабходнасці стварэння адзінага фронту барацьбы рабочага класа і антыфашысцкага народнага фронту.

КПЗБ прышла к свайму з'езду таксама багатая вопытам усёй комуністычнай партыі Польшчы і іншых секцый Комінтэрна, асабліва французскай компартыі ў справе стварэння адзінага рабочага фронту.

Паміж першым і другім з'ездамі КПЗБ прашло 7 год. **) За гэты перыяд КПЗБ, як састаўная частка КПП, чэрпаючы з яе вопыту, разам з ёю і пад яе кіраўніцтвам, прашла багаты і цяжкі шлях рэволюцыйнай барацьбы супроць фашызма і польскай акупацыі ў Заходняй Беларусі.

Шлях гэты запісан крывёю многіх членаў партыі і комсамола, забітых у барацьбе і замардаваных у дэфензівах і турмах: ён запісан пакутамі тысяч палітычных вязняў як комуністаў, так і беспартыйных рэволюцыянераў, лепшых перадавых сыноў рабочага класа і працоўнага сялянства Заходняй Беларусі.

У перыяд паміж 1 і 2 з'ездамі КПЗБ разам з усёй КПП прашла багаты шлях ідэалагічнай барацьбы з праваапартуністычнай групай Кастшэвы-Варскага, у выніку чаго ўся партыя ідэалагічна ўзмацнілася і кансалідавалася на аснове правільнай палітычнай лініі вакол ЦК КПП з тав. Ленскім на чале.

Палітычнае кіраўніцтва і правільная большэвіцкая крытыка КПЗБ з боку ЦК КПП, як у працэсе яе штодзённай работы, так і на самым з'ездзе, садзейнічалі хутчэйшай ліквідацыі недахопаў у рабоце і

---

*) На з'ездзе прысутнічалі 21 дэлегат з рашаючым голасам і 9 з дарадчым. Прадстаўлены былі ўсе акругі КПЗБ, акрамя двух, і прысутнічала дэлегацыя КСМ ЗБ. На з'езд прыбылі прадстаўнікі: ЦК КПП, ЦК КПЗУ і КСМП. Былі прачытаны прывітальныя лісты Выканкома Комінтэрна, ЦК КП(б)Б, КІМ'а і Выканкома МОПР'а.

**) I з'езд КПЗБ адбываўся летам 1928 г. З часу свайго ўтварэння (увосень 1923 г.) да I з'езда КПЗБ мела тры партыйныя канферэнцыі: 1-я—увосень 1923 г., 2-я—увосень 1924 г. і 3-я—зімой 1926 г.

ўнутранаму ўмацаванню самой партыі, якая разам з усёй КПП расла ідэалагічна і здолела выхаваць згуртаваныя кадры партыйнага актыва.

Дзейнасць КПЗБ паміж 1 і 2 з'ездамі праходзіла ў асноўным ва ўмовах развіцця і абвастрэння эканамічнага крызіса капіталізма, ва ўмовах нарастання рэволюцыйнага руху. Аднак няправільна і памылкова было-б думаць, што гэта нарастанне адбывалася па простай узбежнай лініі.

Нарастанне рэволюцыйнага ўздыму ў Заходняй Беларусі характарызуецца, яшчэ больш як ва ўсёй Польшчы, вялікай няроўнамернасцю, якая перш за ўсё выявілася ў развіцці сялянскага руху, у значным разрыве паміж нацыянальна-вызваленчым рухам і барацьбой гарадского пролетарыята. У перыяд 1931-33 гг. сялянскі рух у Заходняй Беларусі дасягнуў даволі высокага напружання, а ў 1934 г. страціў свой размах і адстаў ад узроўню рэволюцыйнай барацьбы пролетарыята. Ліквідацыя гэтага разрыву—трудная, але разам з тым і асноўная задача, над вырашэннем якой упарта працуе КПЗБ.

У Заходняй Беларусі, як акупаванай і нацыянальна прыгнечанай краіне, дзе пануючая польская буржуазія і памешчыкі прымяняюць метады поўкаланіяльнай эксплаататацыі натуральных багаццяў і насельніцтва,—эканамічны (прамысловы і сельскагаспадарчы) крызіс набыў больш вострыя формы і меў больш зруйнавальныя вынікі, чым у карэннай Польшчы.

Голад і галеча з кожным годам узрастаюць, ахапляючы ўсё больш шырокія слаі рабочых, працоўных сялян і гарадской дробнай буржуазіі. Хуткім тэмпам нарастае небяспека вайны і пагроза нападу фашысцкай Польшчы ў блоку з іншымі імперыялістычнымі дзяржавамі на СССР, узмацняецца антысовецкая траўля. Толькі паслядоўная мірная палітыка совецкага ўрада, умацаванне эканамічнай і ваеннай магутнасці СССР у рэзультаце паспяховага будаўніцтва соцыялізма, развіццё рэволюцыйнага руху і сімпатыі к СССР працоўных мас капіталістычных краін, а таксама супярэчнасці паміж імперыялістычнымі дзяржавамі садзейнічалі таму, што момант ваеннага нападу на СССР адцягваўся і часова адкладаўся.

У гэтых абставінах КПЗБ, выступаючы пад агульным палітычным лозунгам: «Далоў фашысцкі ўрад голаду, тэрору і вайны», арганізавала рабочых і беспрацоўных на адпор наступленню капітала, выступала ў абарону працоўных сялян і прыгнечаных народаў, вяла іх на барацьбу супроць падаткаў і даўгоў, супроць кулацкай хутарызацыі, супроць нацыянальнага ўціску, за зямлю для сялян, за права Заходняй Беларусі на самавызначэнне аж да аддзялення. У сваёй агітацыі партыя ўказвала, што адзіным выхадам з ярма капіталістычнага крызіса, тэрору і нацыянальнага ўціску з'яўляецца рэволюцыя: звяржэнне ўлады буржуазіі і памешчыкаў і ўстанаўленне совецкай улады.

У барацьбу супроць наступлення капітала былі ўцягнуты пад уплывам КПЗБ або пад яе непасрэдным кіраўніцтвам шырокія атрады рабочага класа: тэкстыльшчыкі, рабочыя лясной і дрэваапрацоўчай прамысловасці, будаўнікі, скуранікі, рабочыя шкляных заводаў, шаўцы, краўцы і інш. Найбольш буйнымі за гэты перыяд з'яўляюцца ўсеагульныя забастоўкі беластоцкіх тэкстыльшчыкаў у 1932 і 33 гг., якія працягваліся па некалькі тыдняў і закончыліся перамогай рабочых; забастоўка лясных рабочых у Белавежы, Слонімшчыне і Пру-

жаншчыне зімой 1933-34 г., якая ахапіла да 10.000 чалавек і таксама закончылася перамогай.

Паасобныя з гэтых забастовак выліліся ў вулічныя дэманстрацыі рэволюцыйна-палітычнага характару і закончыліся сутычкамі з паліцыяй. Так, забастоўка рабочых у мястэчку Супрасль 10 ліпеня 1933 года вылілася ў баявую рэволюцыйную дэманстрацыю. Паліцыя страляла па рабочых. У выніку былі забіты двое рабочых. У буйных сутычках з паліцыяй працякала таксама забастоўка лясных рабочых. Паліцыя пусціла ў ход зброю—забіты адзін рабочы.

Амаль усе забастоўкі знаходзілі жывы водгук салідарнасці і падтрымання сярод іншых атрадаў рабочага класа і беспрацоўных. У знак салідарнасці з бастуючымі рабочымі Супраслі і пратэсту супроць расстрэлаў, беластоцкі пролетарыят адказаў палітычнай забастоўкай. Дата Супрасльскага расстрэлу зрабілася настолькі папулярнай сярод рабочых Беластока і акругі, што кожны год адзначаецца палітычнымі забастоўкамі і рэволюцыйнымі масоўкамі. Усе буйнейшыя забастоўкі рабочых аказвалі моцны ўплыў на сялянства суседніх раёнаў. Яно жыва рэагавала на барацьбу і са сваіх мізэрных сродкаў матар'яльна дапамагала бастуючым.

Партыя мае таксама поспехі ў справе палітычнай актывізацыі рабочага класа. Пад палітычнымі лозунгамі комуністычнай партыі, пад лозунгамі абароны СССР, супроць фашызма і небяспекі вайны дэманстравалі тысячы рабочых Заходняй Беларусі ў дзень 1 Мая, 1 жніўня, 7 лістапада. Найбольш буйныя і масавыя рэволюцыйныя дэманстрацыі ў дзень 1 Мая адбыліся ў 1934 годзе ў Вільні, а ў гэтым годзе—у Беластоку, сабраўшы да 8 тысяч удзельнікаў, у Вільні і іншых гарадах. У радзе выпадкаў партыі ўдалося ўзняць рабочых на палітычныя забастоўкі пратэсту, але працягваліся яны толькі па некальні гадзін, а ў лепшым выпадку—дзень.

Галоўнымі недахопамі ў галіне ўзмацнення ўплыву КПЗБ у рабочым класе з'яўляюцца: надзвычайная слабасць работы сярод чыгуначнікаў, комунальнікаў і рабочых дзяржаўна-манапольных фабрык (запалкі, табак), таксама вялікая слабасць работы ў профсаюзах, асабліва фашысцкіх, дзе арганізавана многа тысяч рабочых якраз у большасці з дзяржаўных і комунальных прадпрыемстваў.

2-гі з'езд КПЗБ завастрыў увагу партыі на неабходнасць як найхутчэй перамагчы слабасць работы ў профсаюзах, узмацніць у іх свой уплыў, аб'яднаць надзвычайна раздроблены профрух на аснове класавай барацьбы і ўнутрысаюзнай дэмакратыі. Важнейшая задача партыі, як гэта ставіць перад комуністычнымі партыямі VII кангрэс Комінтэрна,—дабіцца поўнага класавага адзінства профруху, як важнейшага рычага ў справе стварэння адзінага рабочага і антыфашысцкага народнага фронту.

Прымяненне тактыкі адзінага фронту па-новаму стварыла для партыі шырокія магчымасці, паступова зжываючы сваё сектанцтва, бліжэй падыйсці да рабочых, якія знаходзяцца пад уплывам ППС і Бунда і арганізаваны ў рэфармісцкіх саюзах. Узмацненне ўплыву партыі ў профсаюзах і дагаворанасць з мясцовым кіраўніцтвам соцыял-дэмакратычных партый і рэфармісцкіх профсаюзаў спрыяла таму, што ў паасобных выпадках і мясцовасцях сапраўды ўдалося арганізаваць шырокія аднафрантовыя выступленні. Такою была сёлетняя масавая першамайская дэманстрацыя ў Беластоку і радзе ін-

шых гарадоў Заходняй Беларусі, такою была і ўсеагульная аднадзённая палітычная забастоўка ў Беластоку, арганізаваная 19 чэрвеня супроць новай фашысцкай канстытуцыі і выбарчага закона і ахапіўшая да 7 тысяч рабочых.

Усё гэта гаворыць за тое, што КПЗБ, зжываючы сваё сектанцтва, зможа знайсці агульную мову, устанавіць адзінства дзеянняў з арганізацыямі ППС, Бунда, рэфармісцкімі саюзамі і дабіцца на аснове рашэнняў VII кангрэса Комінтэрна рэальных поспехаў у справе стварэння адзінага пролетарскага фронту барацьбы.

КПЗБ узнімала шырокія масы працоўных сялян на барацьбу супроць падаткаў і шарваркаў, супроць даўгоў і фашысцкай зямельнай рэформы, супроць памешчыцкай і кулацкай эксплаатацыі. Найбольшую вострасць і размах набылі сялянскія выступленні супроць грабежніцкіх налогаў. У гэты перыяд партыя высунула лозунг: «Ні гроша падаткаў фашысцкаму ўраду голаду, тэрору і вайны», які ў даных умовах ўпаўне адпавядаў патрэбам і імкненням самога сялянства. Але заклік да актыўнага паўсямеснага байкоту падаткаў не падмацоўваўся ў дастатковай меры барацьбой за штодзенныя частковыя патрабаванні. У паасобных выпадках выступленні сялян набывалі форму масавага адпору зборшчыкам падаткаў, паліцыі і карным экспедыцыям. Такія распыленыя сялянскія выступленні партыя імкнулася аб'яднаць, надаць ім больш арганізаваны характар, накіраваць у русло барацьбы супроць памешчыкаў і ўсёй сістэмы акупацыйнага рэжыму.

У гады найбольшага абвострання крызіса (1931-33) барацьба сялянства ў Заходняй Беларусі дасягнула даволі высокага напружання і ў цэлым радзе раёнаў вылілася ў масавыя рэволюцыйныя выступленні, якія часта канчаліся сутычкамі з паліцыяй. Найбольш масавы і баявы характар насілі выступленні сялян аколіц Асташына, Камень-Кашырска, Кобрына і інш.

Вялікую, усё ўзрастаючую актыўнасць у рэволюцыйнай барацьбе праяўляе на працягу апошніх год вясковы поўпролетарыят, так званыя сезонныя рабочыя. Стачкі сезонных рабочых на лясных распрацоўках зімой, а на памешчыцкіх палях летам выбухаюць ва ўсіх кутках Заходняй Беларусі. Зімой 1933-34 г. пад кіраўніцтвам КПЗБ была праведзена забастоўка лясных рабочых і возчыкаў, якая ахапіла да 10.000 сялян-беднякоў і закончылася перамогай бастуючых.

Узровень сялянскага руху ў Заходняй Беларусі за гэты перыяд у агульным адпавядае шырокаму размаху сялянскай барацьбы як у Заходняй Украіне, так і ў карэннай Польшчы, дзе ён выліўся ў рад мясцовых паўстанняў, ахапіўшых дзесяткі вёсак і цэлыя паветы, як, напрыклад: у Ліско (Зах. Украіна—1932 г.), Ропчыцах (карэнная Польшча—1933 г.).

Пачынаючы, прыкладна, з другой паловы 1933 і на працягу ўсяго 1934 года ў Заходняй Беларусі наглядаецца бясспрэчнае аслабленне сялянскай барацьбы і адставанне сялянства ад пролетарыята.

У чым прычыны аслаблення? Яны крыюцца як у змяніўшыхся аб'ектыўных умовах, так і ў недахопах партыйнай работы на вёсцы, а таксама і ў тым, што барацьба перадавых вёсак і раёнаў Заходняй Беларусі не была падтрымана масавымі выступленнямі ў іншых раёнах і гарадскімі рабочымі.

Напалоханы шырокаю хваляй сялянскіх выступленняў, фашысцкі ўрад, узмацняючы тэрор, пашоў на некаторае змяншэнне сялянскай

запазычанасці і процантаў па ёй. Дзякуючы прымусовай унутранай пазыцы, праведзенай у 1933 г., урад некалькі паслабіў падатковы націск на сялян у 1934 г. і не скупіўся на ўсялякія абяцанкі. Гэта пачало выклікаць ілюзіі і хістанні сярод часткі серадняцтва.

Партыя несвоечасова ўлічыла змены, што адбыліся ў настроях сялян і ў абстаноўцы. У партыйнай практыцы даволі моцна ўкараніліся сектанцкія адносіны да штодзённых запатрабаванняў мас як у сялянскім, так і нацыянальным пытанні, былі лявацкія заскокі ў прымяненні ўзброеных форм барацьбы, што безумоўна садзейнічала адрыву партыі ад мас.

Партыя недаацаніла значэння частковых штодзенных запатрабаванняў у арганізацыі сялянскай барацьбы. Пасля спаду хвалі сялянскіх выступленняў, партыя прадаўжала выстаўляць лозунг «ні гроша падаткаў», як лозунг паўсямеснага дзеяння, тым часам як галоўны ўпор трэба было зрабіць на частковыя патрабаванні.

Падводзіць шырокія масы да непасрэднага байкоту падаткаў, да вышэйшых форм барацьбы можна толькі на падставе частковых патрабаванняў, якія правільна выражаюць патрэбы мас і здольны ўзняць іх на барацьбу. Адсутнасць плацформы такіх патрабаванняў і недаацэнак іх на практыцы з'яўляліся буйным недахопам партыйнай работы на вёсцы.

> «Асабліва важна,—як гаворыцца ў рэзалюцыі VII кангрэса Комінтэрна,—мабілізаваць **працоўных сялян** супроць фашысцкай палітыкі аграблення асноўных мас сялянства: супроць эксплаататарскай палітыкі цэн манапалістычнага капітала і буржуазных урадаў, супроць непасільнага цяжару падаткаў, арэнднай платы, запазычанасці, супроць прымусовага продажу сялянскай маёмасці, за дзяржаўную дапамогу разоранаму сялянству».

Гэты недахоп КПЗБ ужо выправіла і распрацавала плацформу частковых патрабаванняў як у сялянскім, так і ў нацыянальным пытанні, прыстасоўна да ўмоў Заходняй Беларусі.

Лозунг «ні гроша падаткаў» партыя высоўвае зараз ва ўсёй краіне, як лозунг прапаганды.

Непасрэдны байкот падаткаў партыя арганізуе толькі тады, калі настроі мас для гэтага даспелі, і толькі там, дзе папярэдняй масавай работай створаны адпаведныя прадпасылкі.

Ва ўмовах абвострання ўціску і прыгонніцкай эксплаатацыі і пад уплывам нарастаючай рэволюцыйнай актыўнасці пролетарыята летам гэтага года вызначылася некаторае ажыўленне сялянскай барацьбы. Яскравейшым пацверджаннем гэтага з'яўляецца масавая барацьба сялян некалькіх валасцей у Сувальшчыне супроць прыгонніцкіх шарваркавых работ, а таксама ўпартая барацьба сялян 30 вёсак над возерам Нарач супроць пазбаўлення іх права лоўлі рыбы. Гэтыя факты сведчаць аб тым, што толькі арганізуючы барацьбу сялян на аснове штодзённых, частковых патрабаванняў і цесна ўвязваючы яе з барацьбой супроць нацыянальнага ўціску, партыя зможа падвесці сялян да аграрнай рэволюцыі супроць памешчыкаў, да захопу і канфіскацыі іх зямель, як састаўной часткі пролетарскай рэволюцыі ва ўсёй Польшчы.

З асаблівай увагай з'езд спыніўся на пытанні нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, на прычынах яго аслаблення.

Калі ў перыяд 1925-30 гг. КПЗБ узначальвала шырокі нацыянальна-вызваленчы рух і кіравала яго масавымі арганізацыямі, як стотысячная «Работніцка-сялянская грамада», а пазней «Змаганне», то на працягу апошніх год размах гэтага руху сільна аслабеў. Такое становішча небяспечна тым больш, што за апошні час значна ўзрасла контррэволюцыйная актыўнасць беларускай буржуазіі, а польскі фашызм узмоцнена рыхтуецца да вайны супроць СССР.

Адной з прычын гэтага аслаблення з'яўляецца белы тэрор, які значна абвастрыўся ў параўнанні з папярэднімі гадамі, і нацыянальны ўціск акупанцкай улады ў адносінах да малейшых праяў нацыянальна-вызваленчага руху. Цярпіма адносячыся да дзейнасці беларускіх буржуазных і нацыяналістычных партый, нават яўна падтрымліваючы дзейнасць некаторых з іх, імкнучыся падначаліць усіх свайму кантролю і кіраўніцтву, фашысцкі ўрад у той-жа час бязлітасна падаўляе ўсякі рух працоўных мас, бо ён не ідзе па лініі інтарэсаў акупанцкай улады.

Аднак, не толькі ў гэтым трэба бачыць прычыны аслаблення нацыянальна-вызваленчага руху. З'езд указаў, што адною з галоўнейшых прычын аслаблення нацыянальна-вызваленчага руху з'яўляюцца нацыянал-апартуністычныя памылкі, дапушчаныя партыяй і яе кіраўніцтвам. Карэнні гэтых памылак правільна ўскрыты ў спецыяльнай рэзалюцыі ЦК КПЗБ «Аб асноўных крыніцах нацыянал-апартунізма ў КПЗБ» *). У асноўным яны заключаліся ў недаацэнцы ролі беларускай буржуазіі, у няправільным поглядзе на беларускую інтэлігенцыю, як на самастойную кіруючую сілу ў нацыянальна-вызваленчым руху.

Пасля перамогі Окцябрскай рэволюцыі і стварэння БССР, як неадлучнай часткі вялікага Савецкага саюза, беларуская буржуазія не склала зброі. Яна збірала свае сілы па абодва бакі граніцы, манеўравала, перамалёўвалася ў чырвоны колер, мяняла формы і метады барацьбы, але ні на хвіліну не спыняла яе як у адносінах БССР, так і рэволюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі.

Пасля майскага перавароту Пілсуцкага і ўстанаўлення фашысцкай дыктатуры ў Польшчы пазіцыі беларускай буржуазіі і кулацтва Заходняй Беларусі значна ўмацаваліся. Спрыяла гэтаму правадзімая польскім фашызмам камасацыя (хутарызацыя) і рад іншых гаспадарчых мерапрыемстваў, асабліва значных у гады так званай часковай стабілізацыі капіталізма ў Польшчы (1926-29). У выніку гэтага палітычная сувязь, а разам з ёю і залежнасць беларускай буржуазіі і кулацтва ад польскага фашызма, умацавалася, палітычная актыўнасць беларускай буржуазіі ўзрастала.

Буйныя поспехі КП(б)Б у справе індустрыялізацыі і калектывізацыі БССР, у справе паслядоўнага ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, разгром кулацтва, як класа на аснове суцэльнай калектывізацыі, разгром контррэволюцыйнай нацдэмаўшчыны пазбавілі беларускую буржуазію апошняй надзеі—дабіцца звяржэння савецкай улады ў БССР, апіраючыся на ўнутраную контррэволюцыю. Беларуская буржуазія пачынае прымяняць усё больш вострыя формы барацьбы супроць БССР: шкодніцтва, правакацыю, дыверсію, шпіянаж у карысць Польшчы. У сучаснай міжнароднай сітуацыі беларуская буржуазія робіць адкрытую стаўку на вайну, якую

*) Гл. „Большэвік Беларусі" № 7 за 1934 г.

польскія і нямецкія фашысты рыхтуюць супроць СССР, вядзе гнусную антысовецкую траўлю і натхняе на барацьбу недабітыя рэшткі сваіх пабрацімцаў у БССР.

Малейшая недаацэнка беларускай буржуазіі немінуча павінна была прывесці і прывяла к таму, што ўся партыя і яе кіраўніцтва аслабілі сваю пільнасць у адносінах беларускай буржуазіі і барацьбу з ёю. Нацыяналістычная агентура скарыстала з гэтага, каб пранікнуць у рады нацыянальна-вызваленчага руху і нават у рады партыі для падрыўной контррэволюцыйнай работы. З'езд указаў, што крыніцай нацапартуністычных памылак партыі быў уплыў на яе дробна-буржуазных нацыяналістычных элементаў, а таксама нязжытая да канца ідэалагічная спадчына «Беларускай Рэволюцыйнай Арганізацыі», арганізацыі дробнабуржуазнага эсэраўскага толку, якая ў 1923 г. улілася ў рады КПЗБ.

За апошнія гады КПЗБ, паспяхова адольваючы нацапартунізм у сваіх уласных радах, значна павялічыла сваю пільнасць і завастрыла барацьбу супроць беларускай буржуазіі. Усё гэта стварыла прадпасылку далейшага развіцця нацыянальна-вызваленчага руху на правільных асновах.

З'езд адзначыў, што ў далейшай барацьбе партыі супроць беларускай буржуазіі і беларускага нацыяналізма неабходна шырока выкрыць іх нібы «незалежніцкую ідэалогію», указваючы масам, што так званая «Беларуская Народная Рэспубліка», якая ў 1918 г. служыла інтарэсам нямецкага і польскага імперыялізма, ёсць буржуазны лозунг, за якім скрываецца імкненне беларускай буржуазіі і кулацтва пры дапамозе польскіх і нямецкіх штыкоў звергнуць совецкую ўладу ў БССР і пашырыць граніцы польскай акупацыі на ўсход.

У гэтай барацьбе неабходна шырэй папулярызаваць сярод працоўных мас Заходняй Беларусі палітыку КП(б)Б і поспехі БССР. На аснове дыктатуры пролетарыята, няўхільна праводзячы ленінска-сталінскую нацыянальную палітыку, БССР дабілася велізарнейшых поспехаў ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва, з адсталай і прыгнечанай краіны яна ператварылася ў квітнеючую індустрыяльна-аграрную краіну, заняла адно з перадавых месц у сям'і соцыялістычных рэспублік Совецкага саюза, у той час як гаспадарка Заходняй Беларусі ва ўмозах польскай акупацыі дэградуе, а яе насельніцтва даведзена да крайняй галечы і разарэння. Поспехі БССР—агромны фактар, рэволюцыянізуючы працоўныя масы Заходняй Беларусі.

Партыя ў барацьбе супроць беларускай буржуазіі ставіць спецыяльную задачу—адваяваць тыя масы, якія яшчэ ахоплены яе палітычным уплывам. Асаблівая ўвага ўдзяляецца беларускай працоўнай інтэлігенцыі, становішча якой ва ўмовах польскага акупанцкага рэжыму бязвыхадна. Частка яе, хоць і паддалася ўплыву беларускага нацыяналізма, але пры ўмелай тактыцы партыі можа быць прыцягнута, як актыўны ўдзельнік нацыянальна-вызваленчага руху і антыфашысцкага народнага фронту.

Комуністы павінны ўстанавіць таварыскі падыход да беларускай інтэлігенцыі і тых працоўных, якія ахоплены ўплывам беларускага нацыяналізма; упарта, цярпліва працаваць над імі, абараняць іх патрабаванні, уцягваць у рады антыфашысцкага народнага фронту, выхоўваць у духу пролетарскага інтэрнацыяналізма.

Як буйнейшы недахоп у дзейнасці КПЗБ, трэба адзначыць тое, што барацьба супроць беларускай буржуазіі не ўвязана з барацьбой супроць нацыянальнага ўціску, супроць польскай акупацыі, як галоўнага ворага. Размах барацьбы супроць нацыянальнага ўціску яшчэ вельмі слабы.

Па гэтаму пытанню з'езд адзначыў:

> «Значна шырэй, чым дагэтуль, партыя мусіць разгарнуць масавую барацьбу супроць польскай акупацыі, за права Заходняй Беларусі на самавызначэнне аж да аддзялення на грунце канкрэтных праяў нацыянальнага ўціску, за частковыя нацыянальныя дамаганні ў найцяснейшай увязцы з барацьбой супроць акупанцкага грабежніцтва і поўкаланіяльнага капіталістычна-памешчыцкага вызыску».

У нацыянальным, як і ў сялянскім пытанні, адпраўным пунктам для развіцця нацыянальна-вызваленчага руху і ўзмацнення масавай барацьбы супроць польскай акупацыі з'яўляюцца штодзенныя частковыя патрабаванні, якія выражаюць жыццёвую зацікаўленасць самых шырокіх народных мас, усіх прыгнечаных польскім імперыялізмам нацыянальнасцей: беларусаў, літоўцаў, яўрэяў, украінцаў. Недаацэнка гэтых патрабаванняў, сектанцкае ігнараванне нацыянальных пачуццяў, гістарычнага мінулага свайго народу, што з усёй сілай бічуе VII кангрэс Комінтэрна, і складае сабою змест шырока распаўсюджанага ў радах партыі нацыянальнага нігілізма:.

У сувязі з гэтым у рашэннях з'езда гаворыцца:

> «Змагаючыся з польскім, беларускім, яўрэйскім, украінскім, літоўскім нацыяналізмам, змагаючыся з антысемітызмам і ўсякай формай нацыянальнага шавінізма, выкараняючы нацыянал-апартунізм ў сваіх радах,—партыя павінна рашуча і ўпарта выкарчоўваць усялякія праявы нацыянал-нігілізма, лявацкія заскокі і сектанцтва, якія з'яўляюцца ў сучасны момант галоўнай перашкодай у разгортванні масавай барацьбы супроць нацыянальнага ўціску і польскай акупацыі».

* * *

Сучасная міжнародная палітычная сітуацыя характарызуецца ростам фашысцкай рэакцыі і надзвычай узросшай небяспекай вайны. Напад Італіі на Абісінію можа пакласці пачатак сусветнай бойні і паскорыць напад фашысцкіх дзяржаў на СССР. Перад тварам гэтай небяспекі і пад уплывам гістарычных перамог соцыялізма ў СССР адбываецца працэс рэволюцыянізавання працоўных мас усіх краін. Соцыял-дэмакратычныя рабочыя ўсё больш паварачваюцца да сумеснай з комуністамі барацьбы супроць фашызма, супроць вайны, у абарону СССР; ўзмацняецца бражэнне ў масах, ахопленых уплывам фашызма.

Усе гэтыя працэсы, якія характарызуюць сучасную сітуацыю, знаходзяць сваю праяву таксама і ў Польшчы і ў Заходняй Беларусі.

Крызіс і дэпрэсія асобага роду ў Польшчы, асабліва ў акупаванай Заходняй Беларусі, носяць зацяжны і цяжкі характар. Акупанцкі ўрад узмацняе поўкаланіяльныя метады эксплаатацыі працоўных мас. На вёсцы аднаўляецца прыгонніцтва. Заработная плата сістэматычна зніжаецца і значна адстае ад ўзроўню заработнай

платы рабочых Польшчы. Падатковы цяжар у параўнанні з 1929 годам ўзрос ўдвая. Хуткім тэмпам ідзе працэс разарэння і збяднення гарадской і местачковай, пераважна яўрэйскай, дробнай буржуазіі. Працоўная інтэлігенцыя прыгнечаных нацыянальнасцей, асабліва беларуская, пазбаўлена амаль ўсякай перспектывы на атрыманне работы. Зусім бязвыхадна і безнадзейна становішча моладзі, якая ў большасці выкінута з вытворчасці і не мае ніякай перспектывы ў жыцці.

У сувязі з узмоцненай падрыхтоўкаю фашысцкага ўрада да вайны супроць СССР белы тэрор і нацыянальны ўціск набылі нябачаныя памеры. Беларускія школы даўно ліквідаваны, а літоўскія і яўрэйскія ўзмоцнена паланізуюцца і праследуюцца. Паліцэйскія карныя экспедыцыі супроць выказваючых свой пратэст і бунтуючых працоўных сялян, у спалучэнні з тонкімі манеўрамі і наглай дэмагогіяй, сталі асноўным метадам панавання польскіх акупантаў у Заходняй Беларусі.

Увядзенне новай фашысцкай канстытуцыі і новага выбарчага закону пазбаўляе народныя масы ўсёй Польшчы апошніх рэштак дэмакратычных правоў, набытых барацьбой пакаленняў. Фашысцкая ўніфікацыя прафсаюзаў пагражае поўнай ліквідацыяй існуючых рабочых саюзаў. Ва ўмовах Заходняй Беларусі гэта азначае яшчэ большае абвастрэнне палітычнага і нацыянальнага ўціску.

У апошні час выдан закон, якім Віленшчына ператвараецца ва «ўмацаваную тэрыторыю» і ўлада над ёй аддаецца ў рукі ваеншчыны, што роўназначна ўвядзенню ваеннага становішча з усімі яго вынікамі.

Палессе (Берасцейшчына, Піншчына) ужо некалькі год знаходзіцца ў руках неперавышанага ката і садыста—палескага ваяводы Костэка Бернацкага, майстра жорсткага белага тэрору, утончаных метадаў правакацыі і забойстваў з-за вугла.

Правядзенне гэтых мерапрыемстваў фашызм стараецца палегчыць распальваннем вялікадзяржаўнага польскага шавінізма, траўляй прыгнечаных нацыянальнасцей, арганізацыяй яўрэйскіх пагромаў. Эканамічны ўціск і гвалт над народнымі масамі яшчэ больш ўзрастае ў сувязі з ваеннай антысовецкай палітыкай польскага фашызма.

У саюзе з гітлераўскай Германіяй польскі фашызм стараецца скалаціць у Еўропе антысовецкі блок, ўцягнуць ў яго Венгрыю і Фінляндыю, падрыхтаваць захоп Літвы і раздзел Чэхаславакіі. Ён імкнецца заваяваць і адарваць ад СССР Совецкую Украіну і Совецкую Беларусь. На працоўныя масы Заходняй Беларусі, якой у гэтай антысовецкай вайне прызначана адыграць ролю плацдарма, падаюць, акрамя ўсяго іншага, цяжкія працоўныя павіннасці (шарваркі) па будаўніцтву дарог, мастоў, асушцы балот і т. д., якія маюць выключна ваенна-стратэгічнае значэнне. У момант самай вайны па тэрыторыі Заходняй Беларусі пройдуць мільённые полчышчы польскай і германскай армій, грабячы і руйнуючы натуральныя багацці і апошні набытак працоўнага насельніцтва.

Улічваючы адказнасць моманту, з'езд у спецыяльнай рэзалюцыі завастрыў ўвагу ўсёй партыі на неабходнасць узмацнення антываеннай работы, а таксама работы ў арміі.

Працоўныя і прыгнечаныя масы Заходняй Беларусі з любоўю і надзеяй глядзяць на СССР, як на сваю соцыялістычную бацькаўш-

чыну і аплот міру. З асаблівай ўвагай яны сочаць за поспехамі СССР. Гнусныя антысовецкія паклёпы польскіх фашыстаў і беларускіх нацыяналістаў не могуць засланіць сабою рэчаіснасці. Працоўныя масы Заходняй Беларусі ўсё ясней бачаць велізарную розніцу паміж становішчам БССР у вольным Саюзе ССР і Заходняй Беларусі ў Польшчы, акупаванай і прыгнечанай польскім імперыялізмам. Поспехі, дасягнутыя працоўнымі СССР і яго састаўною часткай—БССР, пад кіраўніцтвам ВКП(б), правадыра народаў СССР і сусветнага пролетарыята—вялікага Сталіна, указваюць шлях і працоўным Заходняй Беларусі, натхняюць і ўзнімаюць іх на барацьбу.

> «Уся палітыка польскага імперыялізма,—гаворыцца ў рэзалюцыі з'езда,—вядзе на Заходняй Беларусі да велізарнага абвастрэння класавых і нацыянальных супярэчнасцей, да збірання буйных выбуховых сіл супроць фашысцкай дыктатуры і польскай акупацыі».

У Заходняй Беларусі адбываюцца глыбокія зрухі ў масах. У радах соцыял-дэмакратычных рабочых (ППС, Бунд), а таксама ў рэфармісцкіх профсаюзах расце цяга к адзінаму фронту барацьбы. Не гледзячы на агромныя перашкоды і труднасці, адзіны фронт рабочага класа Заходняй Беларусі пашыраецца і ўмацоўваецца. Наступленне капітала, ўвядзенне новай фашысцкай канстытуцыі, пагроза фашысцкай уніфікацыі профсаюзаў, небяспека вайны—усё гэта б'е па рабочаму класу ў цэлым, па комуністычных, пэпээсаўскіх, бундаўскіх рабочых.

Усведамленне агульнасці класавых інтарэсаў і неабходнасці класавага адзінства ў барацьбе з фашызмам усё глыбей і глыбей пранікае ў разрозненны рабочы клас Заходняй Беларусі.

На шляху к стварэнню класавага адзінства профсаюзаў, класавага адзінства пролетарыята ў Заходняй Беларусі стаяць яшчэ вялікія труднасці. Яны заключаюцца ў супраціўленні некаторых кіраўнікоў мясцовых арганізацый соцыял-дэмакратычных партый і рэфармісцкіх саюзаў, а таксама ў даволі моцных арганізацыйных пазіцыях фашысцкіх саюзаў. Але лёд зрушан. У далейшым усё будзе залежаць ад умення, гібкасці і настойлівасці комуністаў.

Працэсы бражэння і радыкалізацыі адбываюцца ў радах сялянскай партыі, у нізах беларускіх нацыяналістычных партый і арганізацый (БХД, БІГІК, ТБА і інш.), а таксама ў масах, ахопленых уплывам фашысцкіх партый, асабліва сярод моладзі. Умацоўваючы свой уплыў у Заходняй Беларусі, польскі фашызм пабудаваў шырокую сетку сваіх арганізацый («Стральцы», «Легіён маладых», «Маладая вёска» і інш.). Рабоча-сялянскія масы, асабліва моладзь, ішлі ў гэтыя арганізацыі не таму, што яны пераконаныя староннікі фашызма. Яны ішлі туды ў надзеі атрымаць працу або льготы, захопленыя спортам або ашуканыя дэмагогіяй. У масах, ахопленых уплывам гэтых арганізацый, расце нездаволенасць, выбухаюць бунты супроць кіраўніцтва. Масы шукаюць выхаду, імкнуцца да сумеснай з усім рабочым класам барацьбы за свае класавыя інтарэсы.

На першамайскай дэманстрацыі ў Вільні рабочыя з калоны фашысцкіх саюзаў кідалі выгукі:—«Няхай жыве рэволюцыя». У апошняй забастоўцы дрэваапрацоўчыя рабочыя «Чорнай вёскі», большасць якіх з'яўляюцца членамі «Стральца» і «Саюза рэзервістаў», прагналі свайго начальніка, які пачаў было лаяць іх за ўдзел у забастоўцы. Такіх прыкладаў не мала.

Ва ўмовах крызісу, нацыянальнага ўціску і палітычнай рэакцыі моцна абвастрыліся за апошні час трэнні паміж польскім фашызмам, які выражае інтарэсы пануючай польскай буржуазіі і памешчыкаў, і беларускай буржуазіяй. Паасобныя партыі беларускай буржуазіі, як напрыклад Белхадэцыя, цясней звязаная з пэўнымі слаямі сялянства і беларускай інтэлігенцыяй, апазіцыйна настроены ў адносінах польскага фашызма.

Важнейшая задача КПЗБ у тым і заключаецца, каб актыўна ўклініцца ў гэтыя працэсы, паскорыць іх і стварыць адзіны рабочы і антыфашысцкі народны фронт ў барацьбе супроць акупацыі, ваеннай небяспекі, за абарону СССР.

З'езд указаў, што асноўнай плацформай антыфашысцкага народнага фронту павінны быць патрабаванні адмены фашысцкай канстытуцыі і выбарчага закону; усеагульнае, роўнае, тайнае, непасрэднае і прапарцыянальнае выбарчае права як ў мясцовыя самакіраўніцтвы, так і ў сейм і сенат; супроць падрыхтоўкі польскага фашызма к вайне супроць СССР, за зрыў антысовецкага ваеннага саюза з Германіяй, за заключэнне Польшчай усходняга пакта з СССР; супроць нацыянальнага ўціску і паланізацыі, за школу на роднай мове за кошт дзяржавы, за свабоду слова, друку і арганізацый і інш. У гэтую плацформу неабходна ўключыць, як указвае рэзалюцыя VII кангрэса Комінтэрна, таксама патрабаванні, якія ідуць па лініі карэнных інтарэсаў пролетарыята і высоўваюцца масамі, паасобнымі соцыял-дэмакратычнымі, сялянскімі, беларускімі партыямі і арганізацыямі.

Высоўваючы шырокую плацформу антыфашысцкага народнага фронту, з'езд заяўляе:

> «Змагаючыся разам з усёй КПП за звяржэнне капіталістычнага ладу, за стварэнне на яго руінах рабоча-сялянскай совецкай улады, КПЗБ адначасова змагаецца супроць усякіх замахаў фашысцкай рэакцыі на дэмакратычныя правы, як важнейшы набытак народных мас у капіталістычнай дзяржаве. КПЗБ змагаецца за ўтрыманне і пашырэнне гэтых правоў».

Да ўдзелу ў антыфашысцкім народным фронце неабходна прыцягнуць усіх, хто хоць у якой-небудзь меры хоча змагацца супроць наступлення капітала, фашысцкай рэакцыі, нацыянальнага ўціску і т. д., і не толькі рабочых, і працоўных сялян, але працоўную інтэлігенцыю і шырокія масы гарадской дробнай буржуазіі. Да ўдзелу ў ім неабходна прыцягваць цэлыя арганізацыі партыі ППС, Бунда, Сялянскай партыі, а таксама некаторыя беларускія і іншыя партыі, культурныя і гаспадарчыя арганізацыі, якія стаяць за абарону дэмакратычных правоў. З гэтай мэтай неабходна ўзмацніць нашу работу ў масах, ахопленых уплывам гэтых арганізацый, зварочвацца з прапановамі да іх кіраўніцтва, ісці на максімальныя ўступкі, праяўляць максімальную цярплівасць і такт. Разам з тым комуністы ні ў якім разе не павінны замазваць свайго самастойнага палітычнага твару, паслядоўна выкрываючы ўсякія праявы сабатажу, штрэйкбрэхерства, пасіўнасці і т. п. з боку паасобных кіраўнікоў згодніцкіх партый ці цэлых арганізацый.

Барацьба за ажыццяўленне класавага адзінства профруху, стварэнне сапраўднага адзінага фронту рабочага класа супроць наступлення капітала і фашызма, стварэнне шырокага антыфашысцкага народнага фронту ў барацьбе супроць вайны, акупацыі, за абарону

СССР—вось асноўная задача, якую з'езд паставіў перад усёй партыяй.

Гістарычныя рашэнні VII кангрэса Комінтэрна, які даў новыя тактычныя ўстаноўкі для дзейнасці компартый усіх краін, патрабуюць ад КПЗБ далейшага развіцця палажэнняў II з'езда і канкрэтызацыі іх прыстасоўна да ўмоў Заходняй Беларусі.

Узброеная гэтымі рашэннямі, КПЗБ пад кіраўніцтвам КПП будзе ўпарта і паслядоўна выкоўваць адзіны рабочы і антыфашысцкі народны фронт, як асноўную ўмову падвядзення шырокіх народных мас да рашаючых баёў за ўладу Советаў ва ўсёй Польшчы.

---

П. Андрэеў

# Міжнароднае становішча к 18 гадавіне Окцябра

Апошнія падзеі ў галіне міжнароднага становішча характарызуюцца складанейшым перапляценнем імперыялістычных супярэчнасцей, рэзкімі зменамі ў расстаноўцы сіл і крайняй няўстойлівасцю існуючых адносін у капіталістычным свеце.

У дакладзе на VII кангрэсе Комінтэрна тав. Эрколі, даўшы аналіз узаемаадносін імперыялістычных вялікіх дзяржаў, падкрэсліў, што найбольш глыбокай супярэчнасцю сучаснага гістарычнага перыяду прадаўжае заставацца процілегласць паміж капіталістычным светам і светам соцыялізма і што гэта супярэчнасць выражаецца зараз асабліва рэзка ў тым, што імперыялісты двух буйнейшых краін—Германіі і Японіі—адкрыта заклікаюць да вайны супроць Совецкага саюза і імкнуцца стварыць блок рэакцыйных і фашысцкіх дзяржаў для падрыхтоўкі і правядзення гэтай вайны.

Капіталістычны свет б'ецца ў прадваеннай ліхаманцы. Буржуазія большасці краін шукае выхаду з тупіка супярэчнасцей на шляхах фашызацыі і тэрору супроць рабочага класа, на шляхах узбраенняў і новых імперыялістычных войн.

Галоўным тормазам, які перашкаджаў развязванню вайны, з'яўлялася і з'яўляецца мірная палітыка Совецкага саюза, яго растучая ваенная і эканамічная магутнасць і шырокія мерапрыемствы па ўмацаванню і ахове нашых граніц. Растучая ваенная і эканамічная магутнасць Совецкага саюза дазваляе яму адкрыта выступаць на сусветнай арэне з палітыкай міру і аб'яднаць вакол сябе ўсе station ўчыя фактары, здольныя ў той ці іншай меры служыць справе міру. СССР прадстаўляе сабой непрыступную крэпасць і несакрушымую цытадэль міру.

* * *

Важнейшай падзеяй, якая стварыла ваенную сітуацыю і надзвычай абвастрыла міжнародныя адносіны, асабліва ў еўрапейскай частцы свету, з'яўляецца італьянская каланіяльная вайна ў Абісініі.

Фашысцкая Італія, у пошуках выхаду з-пад удараў асабліва цяжка закрануўшага яе гаспадарку эканамічнага крызіса, пачала рэалізацыю сваёй каланіяльнай праграмы, выступіўшы з вайной супроць Абісініі. Не гледзячы на надзвычай цяжкія вынікі крызісу, Італія за гэтыя гады, напружваючы ўсе сілы, стварыла сільны морскі флот і асабліва сільны ваеннапаветраны флот. Дзякуючы гэтаму і дзякуючы агромнаму развіццю італьянскай авіяцыі, у асаблівасці, суадносіны сіл на Сяродземным моры значна змяніліся. Англійскі флот перастаў быць гаспадаром Сяродземнага мора, яму пагражае італьянскі па-

ветраны і моркі флот. Пра гэта яўна гаворыць не толькі італьянскі і французскі, але англійскі і германскі друк. Добра інфармаваны Гарвін у «Обсэрвэр» піша:

> «Шлях Гібралтар—Мальта—Египет—Адэн, гэта—жыццёвая лінія імперыі. Сёння—вельмі сумна гэта прызнаць—мы гэтых сяродземных шляхоў не маглі-б утрымаць супроць варожай Італіі, калі Англія адна процістаяла-б Італіі на гэтым моры. Італія распалагае пераважнымі паветранымі сіламі. Што-ж датычыць морскіх сіл, то наша стогадовая магутнасць у гэтых геаічных водах паслаблена. Італія мае там больш ста мінаносцаў і 70 падводных лодак. Нічога дзіўнага, што ў нашых сяброў павысіўся настрой. У даны момант яны трымаюць нас у руках. Ад Гібралтара да Адэна мы не былі-б у стане ўтрымаць уласнымі сіламі супроць варожай Італіі жыццёвыя камунікацыйныя шляхі імперыі, якія вядуць у Індыю. У першую фазу, мы-б не маглі пасылаць войскі і амуніцыю праз Сяродземнае мора. Мы былі-б прымушаны рухацца праз Кап».

Інакш кажучы, справа ідзе аб тым, што адзін з важнейшых каланіяльных нерваў Вялікабрытаніі знаходзіцца пад італьянскім ударам. У гэтым сэнсе тым больш велізарнае значэнне набывае барацьба за Абісінію, якая фактычна з'яўляецца барацьбой не толькі за яе натуральныя багацці, але і за кантроль над важнейшымі морскімі гандлёвымі шляхамі.

Абісінія лічыцца адной з патэнцыяльна найбольш багатых краін Афрыкі. Займаючы плошчу прыкладна ў 1.100 тыс. кв. клм. яна амаль удвая больш Францыі. Па шчыльнасці насельніцтва Абісінія займае адно з першых месц сярод іншых афрыканскіх краін. Большая яе частка, т. зв. уласна Абісінія, прадстаўляе сабой плоскаўзвышша са здаровым кліматам, які дае магчымасць шырока культываваць каштоўныя трапічныя і субтрапічныя сельскагаспадарчыя расліны. Ёсць таксама ўказанні, што краіна мае багатыя (яшчэ мала даследваныя) залежы каштоўных мінералаў—золата, медзі, плаціны, нікеля, жалезнай руды і вугалю. Велізарны патэнцыяльныя рэсурсы воднай энергіі. Адно толькі возера Тана, з якога бярэ свой пачатак Галубы Ніл, можа даць сотні тысяч конскіх сіл энергіі. Абісінія з'яўляецца тою краінай, на эксплаатацыі якой не адна імперыялістычная дзяржава марыць падправіць свае справы, якія пахіснуліся ў выніку эканамічнага крызісу.

Не выключаючы прыродных багаццяў Абісініі, належыць адзначыць, што ёсць яшчэ дзве акалічнасці, якія прыкоўваюць увагу імперыялістаў да гэтай краіны.

Першай з іх з'яўляецца тое, што ад прытоку абісінскіх вод у значнай меры залежыць водаснабжэнне Судана і Египта. Прытокі такіх вялікіх рэк як Галубы Ніл і Собат, бяруць свой пачатак ля вод, якія сцякаюць з абісінскага ўзвышша. Значыць, у выпадку пабудовы на абісінскіх прытоках Ніла і Галубога Ніла плацін, рэгулюючых сток вады, забяспечанне вадой англа-егіпецкага Судана і самога Египта многа залежала-б ад тых, хто гэтымі плацінамі будзе ўладаць. Вось чаму Англія, фактычны гаспадар Египта і Судана, праяўляе такую зацікаўленасць да Абісініі, асабліва да той часткі яе, дзе знаходзіцца возера Тана і выцякаючы з яго Галубы Ніл.

Другой акалічнасцю, якая ўзмацняе інтарэс да гэтай краіны, і

гэта галоўнае, з'яўляецца яе геаграфічнае становішча. Знаходзячыся ў непасрэднай блізасці ад Чырвонага мора і праліва Баб-Эль-Мандэб, Абісінія фактычна стаіць над шляхамі, якія вядуць з Суэца ў Індыю, яна стаіць на важнейшым сусветным гандлёвым шляху, які звязвае Атлантычны акіян і Сяродземнае мора з Індыйскім і Ціхім акіянамі і Еўропу з Індыяй, Аўстраліяй і Далёкім Усходам. Абісінія пануе, акрамя таго, над новымі сухаземнымі і паветранымі шляхамі, асабліва важнымі для Англіі, над шляхамі, якія вядуць ад Кана да Каіра. Сільнейшыя морскія дзяржавы—Англія, Францыя і Італія,—улічваючы гэта выгаднае яе геаграфічнае распалажэнне, яшчэ задоўга да сканчэння пабудовы Суэцкага канала*), пачалі пасылаць свае ваенныя экспедыцыі к берагам Чырвонага мора і Індыйскага акіяна і адваёўваць кавалкі Самалійскага ўзбярэжжа, якое належала Абісініі. Так, напрыклад, Францыя захапіла Обок і Таджуру, Англія—Берберу і Зейлу, Італія—Асаб, г. зн. пункты, уладанне якімі мела надзвычайнае значэнне для ўмацавання пазіцый на вялікім морскім шляху на Ўсход. Але гэтыя пазіцыі канчаткова не могуць быць замацаваны без ўстанаўлення панавання над тэрыторыяй, якая прымыкае да захопленых ужо частак узбярэжжа. А такой тэрыторыяй да Самалійскага ўзбярэжжа Чырвонага мора і Індыйскага акіяна з'яўляецца Абісінія. Стала быць, далейшая барацьба за ўстанаўленне панавання над узбярэжжам Чырвонага мора і барацьба за кантроль над цэнтральным участкам морскага шляху на Ўсход павінна мець цесную сувязь з барацьбой за панаванне над самой Абісініяй. Таму, такая барацьба не можа працякаць ізалявана і насіць характар вайны супроць уласна Абісініі.

Абісінскі канфлікт вышаў за свае мяжы і набыў форму агульных спрэчак паміж Італіяй і Англіяй, г. зн.—краінамі-сапернікамі на Сяродземным моры. Прычым пагроза ваеннага вырашэння гэтых спрэчак паміж Англіяй і Італіяй за Абісінію становіцца ўсё больш сур'ёзнай. Спробы мірна ўладзіць гэты канфлікт не далі ніякіх рэзультатаў. Ні паездка Ідэна ў Рым, ні парыжскія перагаворы, ні прапановы Совета Лігі нацый да згоды не прывялі. Італія не жадае задаволіцца малымі ўступкамі ў Абісініі. Мусаліні ў радзе афіцыяльных заяў патрабаваў поўнага каланіяльнага падпарадкавання Абісініі Італіі і, разлічваючы на нейтралізацыю некаторых палітычных колаў і на сур'ёзныя затрудненні Англіі, парашыў явачным парадкам ажыццявіць свой пратэктарат над Абісініяй.

Італія пераканалася, што шляхам дыпламатычных перагавораў яна не даб'ецца сур'ёзных каланіяльных уступак, і што таму неабходна выкарыстаць напружанае становішча, каб пад пагрозай вайны дабіцца ад Англіі і Францыі згоды на захоп ёю Абісініі. Захоп Манчжурыі Японіяй, так сама як і германскія ўзбраенні, выклікалі толькі пратэст з боку іншых дзяржаў, але не дзеянні. Нарэшце аднаўленне германскага імперыялізма, якое прымусіла Францыю шукаць зближэння з Італіяй, дало повад спадзявацца, калі не на дапамогу, дык у кожным разе на нейтралізацыю Францыі. Стварыўшы магутны паветрана-морскі флот, мадэрнізаваўшы армію, італьянскі фашызм высунуў сябе у лік першых сапернікаў Вялікабрытаніі на галоўных комунікацыйных шляхах.

*) Суэцкі канал адкрыты для навігацыі ў 1869 годзе.

Англійскае панаванне над шляхамі, якія вядуць у Індыю праз Сяродземнае і Чырвонае мора і яе панаванне над Егіптам, Суданам і Суэцкім каналам можа быць падарвана, калі Абісінія апыніцца ў італьянскіх руках.

У гэтым сутнасць пытання і ў гэтым прычына таго, што англійскія імперыялісты не супакойваліся нават пасля афіцыяльных заяў Мусаліні аб тым, што ён гарантуе англійскія інтарэсы ў Абісініі. На яго «мірныя» запэўніванні Англія адказала спешным перакідваннем буйных спалучэнняў ваенна-морскага флоту ў Сяродземнае і Чырвонае мора, узмацненнем у гэтых-жа раёнах авіябаз, палкоў у Егіпце і Судане, ліхаманкавым умацаваннем Мальты, Суэцкага канала і т. д. і адначасова актывізацыяй сваёй еўрапейскай палітыкі, накіраванай у першую чаргу на пошукі саюзнікаў.

Мабілізацыя італьянскіх войск, адпраўка на ўсходне-афрыканскі фронт і агульны размах ваенных падрыхтаванняў Італіі і яе ўзброены напад на Абісінію, не маглі не адбіцца на еўрапейскай сітуацыі.

Становішча зараз такое, што вайна ва Ўсходняй Афрыцы, пачатая Італіяй, можа самым нечаканым чынам стварыць сур'ёзнейшыя небяспекі як для Англіі, так і для Францыі. Гэтыя краіны з вопыту апошніх каланіяльных войн *) ведаюць, што вайна ў Абісініі не можа мець характару лёгкай і кароткатэрміновай ваеннай экспедыцыі, а што гэта вайна патрабуе ад Італіі значнага напружання сіл, буйнай арміі і можа зацягнуцца на рад год. Такое звязванне італьянскіх сіл у Афрыцы безумоўна будзе аслабляць пазіцыі Італіі ў Еўропе, асабліва ў Дунайскім басейне, можа неспрыяюча адбіцца на роўнавазе сіл, якая тут устанавілася. Вось чаму, па меры таго, як ваенныя падрыхтаванні Італіі набывалі ўсё большы размах і закончыліся ваенным паходам супроць Абісініі, Францыя, адчуваючы, што Германія не праміне скарыстаць з гэтага становішча, пачала праяўляць усё большы непакой і ўрэшце заняла параўнаўча адмоўную пазіцыю ў адносінах да італьянскай акцыі. Але, не маючы яшчэ поўнай упэўненасці ў палітыцы Англіі, у прыватнасці па пытанню суместнага выступлення супроць магчымай агрэсіі з боку Германіі, Францыя прадаўжае будаваць сваю палітыку так, каб італьянскі ўрад бачыў, што Францыя ў інтарэсах агульнага франка-італьянскага збліжэння не будзе актыўна процідзейнічаць экспансіі італьянскага імперыялізма ў Абісініі. Але толькі пры ўмове, каб гэта экспансія не развязвала ў бліжэйшы час вялікай вайны ў Афрыцы, што ў значнай ступені зменшыла-б каштоўнасць італьянскай дапамогі супроць Германіі.

Другой прычынай, якая прымушае Англію і Францыю аднесціся адмоўна да італьянскай авантуры ў Афрыцы, з'яўляецца баязнь, як-бы буйная каланіяльная вайна ў Абісініі, у выпадку хоць-бы колькі-небудзь сур'ёзных паражэнняў італьянскай арміі, не паслужыла сігналам да антыімперыялістычнага руху ў іншых каланіяльных краінах. Так, напрыклад, французская газета «Дэпеш калоніяль», непакоячыся за свае калоніі, піша:

> «Абісінія з'яўляецца краінай чорнаскурых, і падзеі ў Абісініі могуць выклікаць розныя рухі ў некаторых частках чорнай Афрыкі, якія знаходзяцца пад апекай вялікіх еўрапейскіх дзяржаў. Пацверджаннем гэтага служаць паведамленні аб намерах многіх амерыканскіх неграў уступіць добраахвотнікамі ў абісінскую армію. Францыя, зразумела, знаходзіцца ў прывілеяваным

*) Вайна ў Марокко, Лівіі.

становішчы, паколькі яе адносіны да адсталых рас грунтуюцца на высокім пачуцці справядлівасці і чалавечага брацтва. Аднак ніколі не варта жартаваць з агнём. У нас у даны момант ёсць сякія-такія затрудненні ў нашых адносінах з мусульманскімі народамі, і гэта акалічнасць прымушае нас захоўваць найвялікшую асцярожнасць на ўсіх участках палітычнай арэны».

Гэтыя апасенні французскіх імперыялістаў былі не дарэмны. Вайна ў Абісініі выклікала агромную хвалю абурэння сярод каланіяльных народаў. У заходнім друку ўсё часцей з'яўляюцца (пакуль кароткія) паведамленні пра розныя прапановы аб дапамозе, якую прапануюць Абісініі паасобныя залежныя краіны. Як паведамляе «Фелькішэр Беобахтэр» з Санаа (Іемен), імам Іемена стаў на бок абісінцаў. Паводле слоў газеты, імам прыняў рад мер супроць транзіта харчавання праз Іемен у італьянскую калонію Эрытрэю і, з другога боку, прызначыў порт Хадэйду ў якасці перавозачнага пункта для еўрапейскіх і японскіх паставак амуніцыі для Абісініі. Адсюль яны будуць пераправуляцца ў Харар праз Берберу (Англійскае Самалі) *).

Іншую пазіцыю займаюць у абісінскім пытанні дзве буйныя дзяржавы, якія з неаслабнаю ўвагай сочаць за падзеямі ў Афрыцы,— Германія і Японія. Кожная з іх таксама не супроць таго, каб пагрэць рукі каля гэтага новага вогнішча вайны і выкарыстаць яе ў інтарэсах сваёй імперыялістычнай палітыкі.

Рад паведамленняў аб тым, што Японія ў апошні час сістэматычна дастаўляла ўзбраенне абісінцам, гаворыць за тое, што японскі імперыялізм добраахвотна не пакіне завяваныя ім шляхам жорсткай канкурэнтнай вайны абісінскія рынкі, дзе на долю Японіі прыпадае зараз амаль 60% ўсяго ўвозу і 80% увозу тэкстылю. Акрамя таго, не забыты яшчэ спробы Японіі атрымаць буйную канцэсію на развядзенне бавоўны у ніжніх раёнах Абісініі, што выклікала надзвычайную трывогу ў краінах, якія маюць «свае інтарэсы» у Абісініі. Гэта канцэсія меркавала перасяліць сюды значную колькасць японцаў для апрацоўкі баваўняных плантацый; ажыццяўленне гэтага мерапрыемства многа дапамагло-б японцам у стварэнні буйнай сыравіннай базы, якая ў хуткім часе была-б ператворана ў плацдарм японскай эканамічнай экспансіі ва ўсёй Усходняй Афрыцы.

Што-ж датычыць Германіі, то не выпадкова асаблівае ўзбуджэнне яе каланіяльных прэтэнзій саўпала з пачаткам італьянскай авантуры ў Абісініі. Фашысцкая Германія па меркаваннях сваёй еўрапейскай палітыкі і каланіяльных патрабаванняў ва ўзнікненні гэтай вайны зацікаўлена. Яна спадзяецца, што Італія, занятая афрыканскімі справамі, аслабіць сваю ўвагу на такіх важных для яе пытаннях, як дунайскае, пытанне аншлюса і інш., і гэтым самым дасць Германіі магчымасць больш свабоднага манеўравання ў гэтай частцы Еўропы.

Такім чынам мы бачым, што італьянскі фашызм, пачаўшы вайну за перадзел калоній, у сваіх разліках на еўрапейскую сітуацыю пралічыўся. Адна група вялікіх дзяржаў, якая падтрымліваецца амаль усімі малымі дзяржавамі, выказвае свае адмоўныя адносіны да яе палітыкі вайны; другая-ж (Германія, Японія), калі і зацікаўлена ва ўзнікненні гэтай вайны, то і ў гэтай зацікаўленасці прасочваецца халодны разлік на паражэнне каланіяльнай праграмы італьянскага фашызма і аслабленне яго еўрапейскіх пазіцый.

---

*) Тасс, „Правда“ № 283.

Італія мае падаўляючую ваенную перавагу над Абісініяй. Яна ўладае адной з буйнейшых армій у Еўропе, з навейшым тэхнічным аснашчэннем. Асабліва важнае значэнне ва ўмовах каланіяльнай вайны мае магутная італьянская авіяцыя. Шматлікі камерцыйны флот забяспечвае хуткую перакідку буйных спалучэнняў войск і матар'ялаў на тэатры вайны. Матар'яльныя рэсурсы Італіі зараз зусім непараўнальны з тымі, якія меў у сваім распараджэнні італьянскі ўрад у 1895-1896 гг. пры разгроме абісінцамі італьянскай арміі пры Адуа.

Але ці забяспечвае ўсё гэта хуткую ліквідацыю канфлікта і ці прынясе канчатковую перамогу італьянскаму фашызму,—гэта яшчэ стаіць пад пытаннем.

Перш за ўсё трэба мець на ўвазе новую абстаноўку і новыя акалічнасці, у якіх італьянскаму фашызму прыходзіцца дзейнічаць.

Першай з іх з'яўляецца тое, што з перамогай соцыялізма ў СССР каласальна ўзрасла роля пролетарскай дзяржавы як фактара міру сярод народаў. Вакол СССР зараз групуюцца незацікаўленыя ў вайне. СССР становіцца таксама цэнтрам згуртавання народаў, якія ненавідзяць фашызм, не жадаюць яго імперыялістычных войн і патрабуюць ад сваіх урадаў адмаўлення ад вайны. У гэтых умовах мірная палітыка Савецкага саюза ператвараецца цяпер у палітыку ўсяго міжнароднага пролетарыята і ўсіх працоўных свету, якія, не даспеўшы яшчэ да ідэі рэволюцыйнага звяржэння капіталізма, ужо з'яўляюцца праціўнікамі ўсякай імперыялістычнай вайны.

З гэтай сілай, таксама як і з уласным пролетарыятам, італьянскі фашызм, развязваючы новую вайну, не сустрэцца не зможа.

І другое:

Ліга нацый, якая яднае пагалоўную большасць дзяржаў свету, амаль аднадушна прызнала яе агрэсарам, інакш кажучы,—нападаючай краінай. Гэта значыць, што з моманту, калі факт парушэння Італіяй арт. 12 статута Лігі нацый установлен, пытанне аб мерах супроць краіны, якая парушыла гэты статут, уступае ў сілу. Першая частка артыкула 16 абавязвае членаў Лігі парваць з агрэсарам усе гандлёвыя і фінансавыя адносіны, а таксама забараніць сваім грамадзянам мець якія-б там ні было гандлёвыя і фінансавыя справы з грамадзянамі дзяржавы, якая парушыла статут Лігі нацый, незалежна ад таго з'яўляецца яна членам Лігі ці не.

Такім чынам практычна пастаўлена пытанне аб санкцыях, прызначэнне якіх зводзіцца да магчыма большага затруднення ўмоў вайны. Гэта стварае зусім іншую перспектыву для італьянскага фашызма, у дзесяткі раз больш нявыгадную, чым гэта было ў 1896 г.

Безумоўна, гэтыя санкцыі могуць мець дзейснае значэнне толькі пры ўмове іх шматбаковага прымянення. Савецкі дэлегат у Лізе нацый, т. Пацёмкін, пры распрацоўцы праграмы санкцый у Жэневе падкрэсліў, што «санкцыі павінны быць адчувальны, цвёрды і насіць усеагульны характар. Без усеагульнасці яны не могуць быць ні цвёрдымі, ні сапраўднымі». Ліга нацый 50 галасамі супроць двух устрымаўшыхся (Аўстрыя і Венгрыя) 11 кастрычніка ўжо прыняла першую санкцыю супроць агрэсара: «Прапанову № 1»—аб забароне вывазу зброі і ваенных матар'ялаў у Італію і дазволе вывазу іх у Абісінію.

Распрацоўка далейшай праграмы санкцый прывяла да прыняцця «Прапановы № 1», «Прапановы № 2», «Прапановы № 3 і 4», якія

прадугледжваюць забарону італьянскага імпарту ў іншыя краіны, экспарт у Італію, закрыццё крэдытаў для Італіі і інш.

Значэнне санкцый будзе ў значнай меры залежаць ад англа-французскага супрацоўніцтва. Францыя, перш чым даць сваю згоду на поўнае прымяненне эканамічных санкцый, дакладна фармулявала абавязацельствы англійскага ўрада ў адносінах сітуацыі, якая можа стварыць тую ці іншую пагрозу французскай бяспецы ў Еўропе. Пакуль што няма яшчэ поўнай дагаворанасці паміж Францыяй і Англіяй па гэтаму пытанню.

Але разам з гэтым было-б памылкова недаацэньваць значэння санкцый наогул. Паміма таго, што сучасная сістэма сусветных гаспадарчых узаемаадносін, якая выключае ўсякую мажлівасць капіталістычнай аўтаркіі, надае эканамічным санкцыям пэўнае эфектыўнае значэнне, іх прымяненне з пункту погляду эвалюцыі такіх мер мае яшчэ больш важнае значэнне.

Пытанне зараз у тым, што «першы раз у гісторыі капіталізма агрэсія аднэй з дзяржаў выклікала спробы другіх паставіць вайну па-за законам і абмежаваць яе працягласць». Совецкі саюз, абвясціўшы сябе прыхільнікам усякай меры, якая абмяжоўвае агрэсара, будзе ўсімі сіламі садзейнічаць прымяненню іх у найбольш разгорнутай форме, паколькі гэта будзе служыць справе міру.

Вызначаючы сваю пазіцыю ў адносінах Італа-абісінскай вайны, совецкі ўрад вуснамі свайго дэлегата тав. Літвінава заявіў, што «для ваенных аперацый няма апраўданняў, за выключэннем выпадкаў самаабароны», таму мы адносімся адмоўна да захватніцкіх планаў Італіі ў Абісініі.

«Совецкі ўрад адносіцца прынцыпова адмоўна да сістэмы калоній, да палітыкі сфер уплыву, да мандатаў, і да ўсяго, што мае адносіны да імперыялістычных мэт»—заявіў тав. Літвінаў на пленуме Лігі нацый 14 верасня.

Але, выказваючы свае адмоўныя адносіны да ўсяго таго, «што мае адносіны да імперыялістычных мэт», Совецкі саюз, дзеючы па прынцыпу, што «мір недзялімы», не абмяжоўваецца толькі славеснай дэкларацыяй. Наша палітыка ў Жэневе—гэта палітыка актыўнага падтрымання ўсіх мерапрыемстваў, усіх сіл, накіраваных супроць вайны ва Ўсходняй Афрыцы.

* * *

Другой акалічнасцю, якая садзейнічала стварэнню ваеннай атмасферы ў Еўропе, з'яўляецца ператварэнне Германіі з раззброенай, па Версальскаму дагавору, дзяржавы ў фашысцкую краіну, якая дастаткова ўжо ўзброілася навейшымі дасягненнямі ваеннай тэхнікі, у краіну, якая адкрыта рыхтуецца да новых войн і захватаў.

Ажыццяўляючы свае грандыёзныя ўзбраенні і падрыхтоўку да вайны на сушы, на моры і ў паветры, фашысцкі ўрад ператварыў Германію ў змрочную ваенную казарму. Пазбаўленая па Версальскаму дагавору права трымаць армію, якая перавышае колькасна 100.000 чалавек, пазбаўленая права мець ваенную авіяцыю, танкі, падводныя лодкі і хімічныя сродкі вайны, сучасная Германія зараз ужо мае армію, якая перавышае па сваёй колькаснасці французскую армію. Яна анулявала аднабаковым актам ваенныя артыкулы Версальскага дагавора, абвясціла аб стварэнні 12 карпусоў—36 пяхот-

ных дывізій (прыкладна 550.000 чалавек) для службы ў сучасны момант.

Уся эканоміка Германіі падначалена ваенным патрэбам, асабліва прамысловасць, дзе сістэма вытворчасці і кіраўніцтва ўсё больш пераводзіцца на ўзоры ваеннай гаспадаркі. Ствараюцца вялікія мабілізацыйныя запасы, прымаюцца энергічныя меры па забяспечанню краіны ваеннай сыравінай на выпадак вайны і т. д. Ва ўсіх галінах эканамічнай падрыхтоўкі да вайны адчуваецца глыбіня ахопу ўсёй народнай гаспадаркі краіны, які далёка перавысіў усё тое, што рабілася і робіцца ў гэтай галіне ў іншых капіталістычных краінах Еўропы, і набліжаецца па сваіх формах да той сістэмы «ваеннай гаспадаркі», якая прымянялася германскім капіталізмам у апошнія два гады вайны 1914 года. Не абмяжоўваючыся мерапрыемствамі пробнага характару, германскі фашызм ужо ў сучасны момант важнейшыя галіны прамысловасці прыводзіць у стан амаль поўнага мабілізацыйнага разгортвання.

Гэта агульны вынік палітыкі Гітлера, увенчаны законам ад 16 сакавіка «Аб увядзенні ўсеагульнай вайсковай павіннасці».

Другою, не менш важнай акалічнасцю, паследваўшай за легалізацыяй германскіх узбраенняў, з'яўляецца пытанне аб англа-германскай морскай згодзе.

Англа-германская морская згода разглядаецца германскім фашызмам як новы, маючы велізарнае значэнне, поспех германскай палітыкі, накіраванай на зрыў супрацоўніцтва дзяржаў, зацікаўленых у захаванні існуючага становішча, і як поспех, які палягчае яму вырашэнне задач у Прыбалтыцы і наогул на ўсходзе Еўропы і ў першую чаргу падрыхтоўку нападу на СССР.

Англія згадзілася задаволіць асноўныя германскія патрабаванні аб прадстаўленні Германіі флота, роўнага 35% морскіх сіл усёй Брытанскай імперыі. 18 ліпеня гэта згода была падпісана. Згода прадугледжвала, што танаж германскага флота не павінен перавышаць 35% танажу злучаных сіл усёй Брытанскай імперыі ў тым выглядзе, як яны вызначаны дзеючымі морскімі дагаворамі, і што «Германія будзе прытрымлівацца прапорцыі 35 : 100 пры ўсіх акалічнасцях, г. зн. што прапорцыя не будзе закранута будаўніцтвам іншых дзяржаў». Ствараецца ўражанне, што Германія, падпісаўшы згоду ў такім выглядзе, нібы зрабіла значную ўступку Англіі. Але на самай справе,—як паведаміў адзін відны дыпламатычны карэспандэнт англійскай газеты «Дэйлі тэлеграф»,—«Германскія дэлегаты былі запэўнены, што Вялікабрытанія (рана ці позна—П. А.) будзе вымушана на практыцы павялічыць свой уласны флот у адказ на якоенебудзь павелічэнне адною з замежных дзяржаў, якое магло-б разглядацца Англіяй у якасці пагрозы для яе бяспекі. Гэта павелічэнне Брытанскага флота аўтаматычна дало-б права Германіі прапарцыянальна павялічыць яе флот». Такім чынам, мы бачым, што гэты пункт можа толькі з'явіцца адпраўным пунктам для новай гонкі ўзбраенняў.

Нявыгаднасць і нават небяспеку морскай згоды з Германіяй для самой Англіі яшчэ больш адкрыта характарызуе морскі карэспандэнт англійскай газеты:

«Брытанскае адміралцейства... прызнала за сваёй вялікай морскай суперніцай у сусветнай вайне, за дзяржавай, якая ледзь

не знішчыла канчаткова брытанскі гандаль і не разбурыла Імперыю, дзякуючы флоту Адкрытага мора і яшчэ больш падводным лодкам, права распалагаць флотам, роўным 35% свайго уласнага. Меркаваць загадзя, што гітлераўская Германія парашыла здаволіцца гэтай прапорцыяй, гэта значыць дрэнна яе ведаць. Больш чым імаверна, што кіраўніцтва германскага флота выкарыстае гэту санкцыю, што яно рэалізуе на працягу мінімальнага часу тое, што яму прадастаўляе Лонданскае адміралцейства, гатовае аднавіць, як толькі момант здасца яму зручным, літанію сваіх прэтэнзій або сваіх патрабаванняў. Англійскі флот з'яўляецца зараз хросным бацькам пры хрышчэнні свайго злейшага ворага. Ён зноў сустрэне яго перад сабою праз некалькі год у Паўночным моры, настолькі-ж небяспечным, калі не больш, чым быў флот Шэера для эскадр Джэліко і Біцці: маленькая рыбка вырасце ў вялікую».

Такім чынам відаць, што з чыста морскага пункту погляду англа-германская згода ні ў якім разе не можа лічыцца выгаднай для Англіі. Як толькі гэта пытанне паступіла на разгляд англійскай палаты лордаў, дык віднейшыя палітычныя прадстаўнікі, як напрыклад: лорд Ллойд і адмірал Біцці, заявілі, што англа-германская згода «умацоўвае ўсе сілы, якія дзейнічаюць супроць інтарэсаў Англіі і ўсяго свету» і патрабавалі ад урада тэрміновай выпрацоўкі новай праграмы ваенна-морскага будаўніцтва і тэрміновай рэканструкцыі ўсяго англійскага флота.

Аднак, паўстае пытанне: якія-ж палітычныя меркаванні штурхнулі англійскі ўрад на такія значныя ўступкі германскаму фашызму, яўна аслабляючыя сілы брытанскага флота на еўрапейскіх морах?

Перш за ўсё ў гэтых меркаваннях асноўную ролю адыгралі складаныя разлікі кіраўнікоў еўрапейскай і сусветнай палітыкі брытанскага імперыялізма, пабудаваныя на палітыцы забяспечання еўрапейскага тылу перад тварам растучай пагрозы англійскім інтарэсам на Далёкім Усходзе, разлікі, якія адводзяць германскую экспансію ў Балтыку і яшчэ далей—у антысовецкае русло.

Актывізацыя японскай агрэсіі ў Кітаі і ў прыватнасці ўтаржэнне японскіх войск у паўночныя правінцыі Ўнутранага Кітая і правінцыі Ўнутранай Манголіі ствараюць непасрэдную пагрозу інтарэсам Вялікабрытаніі. Англія інвесціравала буйнейшыя сумы ў розныя прадпрыемствы Ўнутранага Кітая. Захоп правінцыі Хэбэй разам з Бейпінам і Цянцзінам, а таксама магчымы захоп, у бліжэйшы час, і сумежных кітайскіх правінцый—Чахара, Шансі, Шандуня, з мэтай стварыць з іх другую марыянетачную «дзяржаву», падначаленую японскаму кантролю, азначаюць сур'ёзнейшую пагрозу інтарэсам на Далёкім Усходзе іншых дзяржаў і ў першую чаргу інтарэсам Англіі, якая мае найбольш значныя капіталаўкладанні ў Кітаі. Рэзкі тон англійскага кансерватыўнага друку ў адносінах апошніх дзеянняў японскіх мілітарыстаў у Кітаі гаворыць аб тым, што Брытанія не збіраецца лёгка тут капітуляваць, што яна зацікаўлена і таму будзе імкнуцца да папярэджання спроб Японіі ўстанавіць сваё панаванне ва Ўнутраным Кітаі самым непасрэдным чынам.

І вынікі гэтага тону пачалі хутка сказвацца на брытанскай далёка-ўсходняй палітыцы. Нашчупваецца глеба для аднаўлення кантакту і супрацоўніцтва са ЗША. Адначасова з гэтым Вялікабрытанія ўмацоўвае свае стратэгічныя пазіцыі на Ціхім акіяне і падрыхтоўвае

перакідку ў Сінгапур значных морскіх і паветраных сіл. Умацаванне Сінгапурскай базы заканчваецца датэрмінова—у бягучым 1935 годзе, замест 1939 года. Устанаўляюцца сталыя паветраныя трасы паміж Вялікабрытаніяй і Аўстраліяй, па якіх павінна будзе праводзіцца хуткая перакідка англійскіх ваенна-паветраных сіл к любому пагражаемаму пункту ціхаакіянскіх уладанняў Вялікабрытаніі. Усе гэтыя мерапрыемствы гавораць аб напружанасці ў адносінах паміж Англіяй і Японіяй.

Гэтыя змены на Далёкім Усходзе не маглі, вядома, не адбіцца на еўрапейскай палітыцы Вялікабрытаніі, якая яўным чынам імкнецца забяспечыць свой еўрапейскі тыл з тым, каб мець большыя магчымасці манеўравання на Ціхім акіяне. Таму Вялікабрытанія заключае двухбаковую згоду з Германіяй аб суадносінах морскіх сіл і адначасова спрабуе таксама дабіцца заключэння «паветранага Лакарно» паміж заходнімі дзяржавамі. Няпэўным, аднак, прадстаўляецца, каб германскі фашызм, які шукае выхаду з раздзіраючых яго ўнутраных супярэчнасцей на шляхах тэрору і наступлення на рабочы клас ўнутры краіны, на шляхах знешне-палітычнай агрэсіі, мог спыніцца на тым узроўні ўзбраенняў, які мог быць устаноўлен на падставе вышэйадзначаных кампрамісаў. Германскі фашызм, як толькі будзе мець пэўныя магчымасці, з гэтымі 35% абмежаваннямі зробіць так сама, як зрабіў з усімі ваеннымі абмежаваннямі Версальскага дагавора.

Ліхаманкавае ажыццяўленне германскіх узбраенняў сваёй асновай мае падрыхтоўку да вайны за агульны перадзел свету. Пры гэтым, як нам вядома, галоўнай мэтай германскай знешняй палітыкі на даным адрэзку часу з'яўляецца ператварэнне прыбалтыйскіх краін у адпраўныя пасты германскага ўплыву для далейшай экспансіі на Ўсход; утаржэнне на тэрыторыю Совецкага саюза і ператварэнне Украіны ў калонію германскага імперыялізма. Аднак, гэта зусім не азначае, што «рух на Ўсход» супярэчыць германскім планам каланіяльных захопаў у іншых частках свету.

Агульная знешне-палітычная праграма германскага фашызма, паданая ў кнізе Адольфа Гітлера «Мая барацьба», як вядома, выходзіць далёка за межы ўзнаўлення Германіі ў старых даваенных граніцах. І паколькі гэта праграма прынята германскай буржуазіяй, германскія ўзбраенні пагражаюць не толькі народам на Ўсходзе, па адрасу якіх пасылаюцца адкрытыя пагрозы і асабліва па адрасу СССР, але таксама і тым, хто ўладае былымі германскімі землямі, у тым ліку і Англіі, якая ўладае значнай часткай калоній, што раней належалі Германіі. У агульным кірунку палітыкі германскага фашызма, апошняга часу, напрамак галоўнага ўдару ідзе а) па лініі нейтралізацыі аднаго фронту з тым, каб мець свабоду дзеянняў на другім фронце і б) па лініі стварэння ваенных саюзаў—ваеннай кааліцыі дзяржаў для ўзрыву тэрытарыяльнага «статус кво».

Гітлер, разлічваючы на антысовецкія пачуцці заходняй буржуазіі, рыхтуе вайну ў першую чаргу супроць Совецкага саюза. Такая стаўка выгадна яму таму, па-першае, што яна з'яўляецца лепшым прыкрыццём усёй яго захватніцкай палітыкі, а, па-другое, таму, што вайна з Захадам—у прыватнасці з Францыяй і яе саюзнікамі—можа быць пасільна Германіі толькі пасля таго, як яна, паводле іх разлікаў і меркаванняў, узбагаціцца сыравінай на Ўсходзе. Такі разлік Гітлера і К°. Таму германскі фашызм усёй сваёй дзейнасці, звяза-

най з ваеннай падрыхтоўкаю краіны, надае ярка выражаны антысовецкі характар.

Падрыхтоўка вайны супроць Совецкага саюза—гэта першае і асноўнае звяно германскай палітыкі. Але разам з тым антысовецкі канёк ёсць таксама і свайго роду метад маскіроўкі, разлічанай на ўсыпленне пільнасці тых, каму яна таксама пагражае.

Праводзячы такую двaістую палітыку, Германія рашуча выступае супроць франка-совецкай ідэі калектыўнай бяспекі. Германія выступае супроць усякай сістэмы калектыўных дагавораў, якія грунтуюцца на прынцыпе захавання міру і калектыўных гарантыях цэласнасці і недатыкальнасці тэрыторый. Гэтым дагаворам Германія процістаўляе сваю сістэму сепаратных узгадненняў, напрыклад: за паветраны пакт, але супроць усходняга пакта і т. д.

Такой з'яўляецца першая частка курсу германскай знешняй палітыкі, накіраванай на дасягненне патрэбнай ёй расстаноўкі сіл у Еўропе. Там нейтралізацыя—тут свабода дзеянняў. Другую-ж частку складаюць задачы па стварэнню ваеннага саюза з групаю краін, якія падзяляюць яе агрэсіўныя імкненні, саюза, які павінен быць створан і існаваць пад германскім кіраўніцтвам.

Узмоцненая падрыхтоўка да вайны, якую ліхаманкава рыхтуе ўрад Гітлера, паставіла Францыю тварам у твар з пагрозай аднаўлення імперыялістычнай магутнасці яе бліжэйшага канкурэнта і саперніка. Канфлікт па пытанню аб германскіх узбраеннях, пасля бясплодных спроб знайсці кампраміснае рашэнне, закончыўся, як вядома, выхадам Германіі з Лігі нацый (кастрычнік 1933 года). Гэтым актам урад Гітлера кінуў адкрыты выклік усёй версальскай сістэме і заявіў аб тым, што ён рыхтуе рэвізію Версаля на шляхах новай імперыялістычнай вайны. Адначасова фашысцкая дыпламатыя развіла актыўную дзейнасць у Еўропе, накіраваную на падрыў сістэмы французскіх саюзаў. Польшча ўсё больш уцягвалася ў арбіту германскага ўплыву.

Аўстрыйская праблема, пастаўленая ў парадак дня германскімі фашыстамі (аншлюс, г. зн. аб'яднанне Аўстрыі з Германіяй), не здымаецца. Спробы германскіх фашыстаў правесці гэтую «уніфікацыю» не спыняюцца і дагэтуль, трымаючы Італію ў ліку дзяржаў, праціўнікаў германскай экспансіі ў цэнтральную Еўропу. Прамым вынікам абвастрэння італа-германскіх адносін з'явілася франка-італьянскае збліжэнне (рымскае ўзгадненне ад 9 студзеня 1935 года).

У асноўным узгадненне прадстаўляе спробу вырашыць спрэчныя паміж Італіяй і Францыяй пытанні дзеля дасягнення якой-небудзь адзінай пазіцыі ў адносінах прэтэнзій Германскай Імперыі.

Палітыка манеўравання ў адносінах Англіі і тыя ўступкі, на якія ідзе Германія (прыняцце 35% нормы ў адносінах да англійскага флота, адмаўленне ад «бязлітаснай» падводнай вайны і т. д.), дзеля ажыццяўлення свайго замыслу—нейтралізацыя Англіі і аслабленне Францыі—пакуль таксама не мае поспеху. Брытанскі імперыялізм, манеўруючы ў сваю чаргу ў адносінах Германіі, можа ісці на сепаратыўныя ўзгадненні з апошняй толькі ў граніцах, якія абмяжоўваюць французскую гегемонію ў Еўропе. Але не больш, бо ўсе далейшыя ўступкі немінуча прывядуць к стварэнню непасрэднай пагрозы таксама і англійскім інтарэсам.

Такім чынам, тры вялікія дзяржавы, якія граюць першую скрыпку ў еўрапейскай і сусветнай палітыцы, ні сябрамі, ні тым больш саюз-

нікамі Германіі не з'яўляюцца. Наадварот, калі напрамак у англійскай палітыцы зведзен толькі к таму, каб «рэгуляваць» актыўнасць германскага фашызма, накіроўваць яе па бяспечнаму для сябе антысовецкаму руслу,не дапускаць празмернага ўзмацнення германскага імперыялізма і выкарыстоўваць яго для антысовецкай гульні, дык палітыка Францыі і Італіі гаворыць аб тым, што ў германскім імперыялізме яны адчуваюць свайго злейшага ворага.

Актывізуючы свой знешні гандаль у Дунайскім басейне, германскі фашызм разам з тым не ўпускаў ніводнай магчымасці, якая садзейнічала-б у ажыццяўленні агульнага плана палітычнай экспансіі ва ўсходняй Еўропе. Праводзячы рад эканамічных мерапрыемстваў у Югаславіі і Румыніі, германскія фашысты разам з тым узмацняюць тут сваю прапаганду, маючы сваёй мэтай разлажыць або, ў крайнім выпадку, хоць-бы падарваць сістэму Малой Антанты.

Аднак, пашырыць свой уплыў на гэтыя краіны ў такой меры, каб гэта палегчыла агрэсію ў Дунайскім басейне, германскаму фашызму не ўдалося. Агульны размах рэвізіяніцкіх патрабаванняў Германіі выклікаў, а ў сучасны момант выклікае яшчэ больш сур'ёзныя апасенні Чэхаславакіі, Румыніі і Югаславіі. Германія не ўзмацніла сваіх пазіцый у гэтым раёне Еўропы. Наадварот, уся палітыка Гітлера і асабліва апошні яго акт—адмена ваенных артыкулаў Версальскага дагавора—мела прамым вынікам аслабленне пазіцыі Германіі ў паўднёва-ўсходняй Еўропе. Пасля гэтага закона ў краінах Малой Антанты яшчэ больш умацоўваецца імкненне к падтрыманню супрацоўніцтва Францыі з СССР у справе забяспечання міру. Заява румынскага міністра замежных спраў Тітулеску аб тым, што Малая Антанта абвесціць усеагульную мабілізацыю ў выпадку, калі іншыя краіны, узбраенні якіх абмежаваны пасляваеннымі мірнымі дагаварамі, паследуюць прыкладу Германіі і пачнуць узбройвацца, сведчыць аб тым, што ў гэтай частцы Еўропы ствараецца шырокі фронт краін, прыхільнікаў захавання «статус кво», краін, якія ў сваёй палітыцы ўсё больш і больш прымушаны ўлічваць факт, што ў асобе СССР яны маюць усё больш магутны і адзіна паслядоўны аплот міру.

Уся дзейнасць фашысцкай Германіі ў Прыбалтыцы зводзіцца к імкненню германскага фашызма да эканамічнага і палітычнага падпарадквання Балтыйскіх лімітрофаў і да ператварэння іх у плацдарм для вайны супроць Совецкага саюза.

Маючы такую праграму, германскі фашызм прыкладае ўсе намаганні к таму, каб уплываць на палітыку гэтых малых краін і накіроўваць яе па жаданаму для фашызма руслу. Выкарыстоўваюцца ўсе магчымыя сродкі эканамічнага націску. Распаўсюджваюцца самыя гнусныя антысовецкія вымыслы разлічаныя на запалохванне прыбалтыйскай буржуазіі «чырвонай небяспекай», якая нібы пагражае ім з боку «усходніх суседзяў». Прапагандуюцца ідэі выгадных для Германіі ваенных саюзаў. Так, напрыклад, фашысцкі орган «Фолькішэр Беобахтэр» у артыкулах, прысвечаных «ваенна-палітычнаму становішчу Латвіі і Эстоніі», імкнецца даказаць, што: «Адзіным ваенным праціўнікам Эстоніі і Латвіі з'яўляецца СССР»; што «Ні Эстонія, ні Латвія не маюць магчлівасці ўласнымі сродкамі забяспечыць абарону сваіх граніц»; што «Абедзве Балтыйскія краіны адчуваюць патрэбу ў моцным саюзніку, якім з'яўляецца Германія». Сэнс гэтых артыкулаў, так сама як і агульны знешне-палітычны курс германскага фашызма, прадстаўляецца зусім ясным: германскія каланізатары, пры-

крываючы свае захватніцкія планы ў адносінах саміх-жа балтыйскіх дзяржаў «місіяй абароны малых народаў», імкнуцца шляхам запалохвання лімітрофаў «чырвонай небяспекай» к зрыву найбольш эфектыўных мер забяспечання міру і бяспекі ва ўсходняй Еўропе, г. зн. усходняга пакта і к падпарадкванню знешняй палітыкі балтыйскіх дзяржаў сваім антысовецкім планам.

Аднак, трэба сказаць, што калі Германіі ўдалося аказаць уплыў на знешнюю палітыку Латвіі і Эстоніі шляхам мер, падкупаючых буржуазію гэтых краін (выгадныя гандлёвыя дагавары, буйныя закупкі і т. д.), шляхам розных дэмагагічных запэўніванняў аб неагрэсіі і аб сваёй «місіі абароны малых народаў», то, як толькі словы замяніліся справай, ва ўрадавых колах гэтых краін пачалося некаторае протразвенне. Англа-германская морская згода і ваенна-морскае будаўніцтва Германіі адразу-ж ускрыла сапраўднае значэнне ўсіх міралюбных запэўніванняў германскай дыпламатыі. З артыкуламі, поўнымі трывогі за бяспеку на Балтыцы і аб пагрозе лімітрофам з боку гітлераўскай Германіі, выступілі не толькі апазіцыйна настроеныя, але і афіцыяльныя эстонскія і латвійскія газеты.

Пры гэтым трэба мець на ўвазе ненавісць шырокіх слаёў латышскага і эстонскага народаў да гітлераўскай знешне-палітычнай праграмы.

У адрозненне ад Латвіі і Эстоніі, Літва ў гэтым пытанні заняла больш паслядоўную пазіцыю. Знаходзячыся пад крыжавым агнём Германіі і Польшчы, літоўская буржуазія б'е трывогу, адчуваючы, што супрацоўніцтва гэтых двух імперыялістаў накіравана ў першую чаргу супроць літоўскай дзяржавы. Пасля рухнуўшых надзей германскага фашызма на змену статута Мемельскай абласці, тон гітлераўскага друку набліжаецца да адкрытых заклікаў к захопу гэтай абласці. Калі ў 1933 годзе геббельсаўскі «Ангрыф», за некалькі дзён да прыходу фашыстаў к уладзе, крычаў, што: «Мы патрабуем звароту Мемеля», што «Літва павінна ўбрацца з Мемельскай абласці» і т. д., дык ужо ў 1935 годзе (чэрвень м-ц) Гітлер вуснамі сваёй даверанай асобы, палкоўніка Арнім, заяўляе: «Калі Польшча застанецца нейтральнай, то даволі будзе адной германскай дывізіі, каб даказаць Літве, што Мемельская вобласць з'яўляецца германскай тэрыторыяй». І яшчэ большую трывогу выклікала сярод гэтых колаў польска-германская згода ад 26 студзеня 1934 года.

Знаходзячыся перад тварам такой абстаноўкі, літоўскі ўрад узяў праверараны ім на практыцы курс на яшчэ большае ўмацаванне прыяцельскіх адносін з Совецкім саюзам і ў адрозненне ад іншых лімітрофаў аказваў больш шчырае і больш дзейснае падтрыманне для ажыццяўлення праекта Ўсходняга пакта.

Такім чынам мы бачым, што першапачатковая стаўка германскага фашызма на германа-англа-італьянскі ваенны альянс аказалася бітай у сілу выявіўшыхся непрымірымых супярэчнасцей паміж імперыялістамі гэтых краін. Разлік на лаяльныя адносіны фашысцкіх урадаў Латвіі і Эстоніі не апраўдваецца, бо ненавісць народаў Латвіі і Эстоніі да германскай агрэсіі, якая нясе ім яшчэ большую кабалу, прымушае ўласныя ўрады стаць на іншы шлях. Францыя-ж і яе саюзнікі—краіны Малой Антанты—пастаўлены самім-жа германскім фашызмам у лік першых сваіх супраціўнікаў. У сувязі з гэтым паўстае пытанне: дзе-ж і на каго гітлераўская Германія разлічвае ў якасці сваіх ваенных саюзнікаў?

Германія бясспрэчна зрабіла сур'ёзную прабоіну ў пасляваеннай сістэме французскага блоку. Польшча з гэтага блоку фактычна выпала. Разлік на Польшчу найбольш характэрны для германскага фашызма. Прычым, ранейшыя разлікі Гітлера, якія не выходзілі за межы нейтралізацыі Польшчы на выпадак вайны, зараз, як гэта можна меркаваць, вышлі за гэтыя межы. Германія разлічвае не толькі на нейтралітэт, але і на актыўнае ваеннае падтрыманне Польшчы на некаторых тэатрах будучай вайны і ў першую чаргу на яе дапамогу ў антысовецкай вайне. Характэрнаю стаўка на Польшчу з'яўляецца таму, што ідэя антысовецкага польска-германскага саюза не новая. Гэта ідэя была закладзена яшчэ ў перыяд Брэсцкіх перагавораў. Ужо тады ген. Гофман патрабаваў палітыкі кампрамісу з польскімі памешчыкамі, кампрамісу, які павінен быў стаць адпраўным пунктам для германа-польскага супрацоўніцтва, накіраванага супроць Совецкага саюза.

Тэндэнцыі прагерманскай арыентацыі канчаткова перамагаюць, і зараз, як мы бачым, набываюць форму германа-польскага саюза. Усё часцей на старонках польскага друку паяўляюцца выказванні за канчатковы разрыў саюза з Францыяй.

«Я хацеў-бы каб у польскай грамадскасці ўзнікла рэакцыя, накіраваная супроць пераконання, нібы мы адданы на міласць або нямiласць нашага саюзніка. Нібы мы не ў стане знайсці ў Еўропе іншую сістэму саюзаў, акрамя саюза з Францыяй» (з брашуры Цат-Мацкевіча).

У такім-жа сэнсе выказваецца відны кансерватар, былы міністр замежных спраў Польшчы—Сапега:

«Лічу, што згоды з Германіяй можна дасягнуць без афяр з нашага боку і з узаемнай выгадай. Таму мне здаецца зусім лагічнай пазіцыя газеты «Слова», якая лічыць, што наш пакт аб неагрэсіі з Совецкім саюзам з'яўляецца актам, які супярэчыць нашым асноўным палітычным задачам».

З гэтага часу пачынаецца эра супрацоўніцтва паміж польскім і германскім фашызмам. Польшча з'явілася галоўнай апорай Германіі ў справе барацьбы супроць ўсходне-еўрапейскага пакта ўзаемнай дапамогі. Польшча—першы і самы актыўны памочнік германскага імперыялізма па разбурэнню сістэмы калектыўнай бяспекі ў Еўропе. Ужо ёсць факты ваеннага супрацоўніцтва паміж Польшчай і Германіяй, устанаўляюцца сувязі паміж армейскім кіраўніцтвам, нашчупваюцца агульныя пункты ўзаемадзеяння генеральных штабаў і т. д.

Аснова такога супрацоўніцтва—адзінства мэты і імкненняў германскага імперыялізма на Ўсход Еўропы, інтэрвенцыя супроць Совецкага саюза.

Германія прыкладае ўсе намаганні для таго, каб падпарадкаваць Польшчу свайму ўплыву. Яна затушоўвае наяўныя праграмныя супярэчнасці. Але Германія разам з тым не можа канчаткова іх ліквідаваць. Пытанне аб Польскім калідоры і Верхняй Сілезіі не вырашана. Бясконцыя трэнні паміж Польшчай і Германіяй у Данцыгу не спыняюцца. Германа-польская дэкларацыя ад 26 студзеня 1934 года, якая прадугледжвае мірнае вырашэнне ўсіх тэрытарыяльных спрэчак паміж Польшчай і Германіяй, таксама ніводным словам не ўпамінае аб адмаўленні Германіі ад перагляду граніц.

Польшча ўжо ўцягнута ў арбіту германскага ўплыву і прыцягнута да сумеснага ваеннага супрацоўніцтва. Але германскі фашызм, які

разглядае польскую нацыю, як нацыю, якая «настолькі-ж імпатэнтна і нязначна, наколькі патрабавальна і нахабна» *), як нацыю ніжэйшую ў расавых адносінах, выкарыстоўвае дапамогу сучаснага фашысцкага ўрада Польшчы для сваіх грабежніцкіх намераў у адносінах Совецкага саюза, каб потым, падначаліўшы яе поўнаму свайму кантролю, ператварыць у сталага свайго васала.

Прыкладаючы ліхаманкавыя натугі для таго, каб стварыць больш ўнушальную ваенную кааліцыю, германскі імперыялізм заклікае пад свой сцяг у першую чаргу тых, хто быў яго саюзнікам у мінулую вайну. Венгрыя з першых-жа дзён прыходу Гітлера к уладзе актыўна падтрымлівала яго рэвізіяніcцкую палітыку. І зараз, калі машына эканамічнай мабілізацыі германскага імперыялізма працуе безадказна і на чаргу пастаўлена задача пашырэння блока «нездаволеных» існуючым тэрытарыяльным становішчам,—Венгрыя з падвойнай настойлівасцю запрашаецца да гэтага блока.

Такім чынам мы бачым, што задача арганізацыі ваенных саюзаў у цэнтры Еўропы, над стварэннем якіх узмоцнена працуе фашысцкая дыпламатыя вайны, вырашаецца ў кірунку ад Берліна к Варшаве і ад Берліна к Будапешту.

* * *

Прадпрынятае ў чэрвені 1935 года наступленне японскіх мілітарыстаў на Паўночны Кітай прывяло к далейшаму абвостранню сусветных імперыялістычных супярэчнасцей. Японскі імперыялізм зараз больш, чым калі-небудзь, разгортвае агітацыю і прапаганду вайны пад сваім славутым лозунгам «Азія для азіятаў». Японская агрэсія і шалёныя тэмпы ўзбраенняў узарвалі тую няўстойлівую роўнавагу сіл, якая была ўстаноўлена на Ціхім акіяне Вашынгтонскім дагаворам. Дэнансаваўшы гэты дагавор, яна прыняла праграму ўстанаўлення свайго панавання ў басейне Ціхага акіяна. У брашуры японскага морскага міністэрства, прыўрочанай к трыццацігоддзю руска-японскай вайны, падаюцца наступныя асновы ваенна-морскай палітыкі Японіі:

«Японія павінна стаць адзіным гаспадаром на Далёкім Усходзе; без магутнага флота Японія не можа ажыццявіць свае планы кантынентальнай экспансіі; без ваеннай гегемоніі на моры Японія не можа выканаць сваіх задач на Далёкім Усходзе—японскі флот павінен быць гегемонам на Ціхім акіяне».

Агрэсіўная палітыка Японіі, падмацаваная сільнымі ўзбраеннямі, ў прыватнасці на моры, выклікала вялікую трывогу ў Англіі і Амерыцы і прывяла да новай гонкі морскага ўзбраення. Урад ЗША прыняў рашэнне адказаць на японскае ўзбраенне праграмай буйнейшага морскага будаўніцтва. Вырашана будаваць флот да межаў, устаноўленых б. Вашынгтонскім дагаворам, павялічыць асабовы склад морскіх сіл на 11 тысяч чалавек, абсталяваць новыя базы на ціхаакіянскім ўзбярэжжы і т. д. Прымаюцца меры к ўстанаўленню сталай паветранай сувязі з Гавайскімі астравамі. Нарэшце, як дэманстрацыя, якая дае зразумець, што ЗША не збіраюцца так лёгка капітуляваць перад Японіяй, былі праведзены грандыёзнейшыя морскія манеўры, у якіх ўдзельнічала 180 морскіх караблёў і 450 самалётаў. На манеўрах вырашалася ваенная аперацыя супроць Японіі ў раёне Мідуэя і Гавайскіх астравоў і асабліва ўдзелена ўвага базаванню флота на

*) Альфрэд Розенберг „Міф XX стагоддзя“, вып. 1934 г.

Алеуцкія астравы і Аляску, як найбольш блізкія пункты ад Курыльскіх астравоў і Хакайдо.

Англійскі імперыялізм, таксама ўстрывожаны пранікненнем Японіі ў Паўночны і Цэнтральны Кітай, у сваю чаргу праводзіць рад мераприемстваў, каб забяспечыць свае інтарэсы ў Кітаі. Так, напрыклад, Англія, у адказ на ультыматыўныя патрабаванні Японіі, аб прадастаўленні ёй права кантраляваць галоўнейшыя галіны ўсёй кітайскай эканомікі, высунула прапанову аб стварэнні міжнароднага кансорцыума фінансавай дапамогі Кітаю. Далей, не з'яўляюцца тайнай таксама факты аказання англічанамі ўзмоцненай дапамогі паўднёвым гуаньдуньскім генеральскім клікам, настроеным супроць японскага ўтаржэння ў Кітай і інш. Праводзіцца рад мер па ўмацаванню стратэгічных ваенна-морскіх баз, распалажаных на шляхах к Кітаю і т. д.

Такое становішча рэчаў не стварала радасных перспектыў японскаму імперыялізму. Аднак планы вялікай вайны, якую Японія рыхтуе супроць СССР, не адкладаюцца. Мірная палітыка Совецкага саюза, якая падкрэслена намі актам продажу КУЧ, узмацняе пазіцыю тых японскіх колаў, якія, па крайняй меры ў сучасны момант, не спяшаюць з развязваннем вялікай антысовецкай вайны. Тым не менш, найбольш рэакцыйныя колы японскага імперыялізма, адстойваючы свае «пераважныя інтарэсы і правы» у Кітаі, зноў пачалі актывізаваць сваю правакацыйную дзейнасць у адносінах да СССР і Мангольскай Народнай Рэспублікі. Даволі ўказаць на шматлікія выпадкі парушэння японскімі суднамі нашых рэчных граніц, забойства совецкіх пагранічнікаў і патрабаванне японскай ваеншчыны, каб урад Мангольскай Народнай Рэспублікі дазволіў стварыць на тэрыторыі МНР апарат японскіх упаўнаважаных і ў першую чаргу з ліку квантуанскай арміі.

Гэта з'яўляецца паказчыкам таго, што Японія не толькі не пакінула антысовецкіх замыслаў, але ўзмоцнена рыхтуецца да іх ажыццяўлення, чакаючы для гэтага больш зручнага моманту.

Такім-жа паказчыкам з'яўляецца і далейшая ваенна-стратэгічная падрыхтоўка японскага мілітарызма. Так, напрыклад, японскі імперыялізм у сучасны момант, праводзячы рад ваенных аперацый у Паўночным Кітаі, разлічвае на тое, каб забяспечыць сабе тыл з боку Кітая і стварыць новы, дадатковы плацдарм для нападу на Мангольскую Народную Рэспубліку і затым на Совецкі Далёкі Ўсход. У Манчжурыі ідзе ўзмоцненае будаўніцтва чыгунак. Толькі за апошнія два гады пабудавана больш як 1500 клм. чыгуначных ліній, прычым большасць з іх мае напрамак да граніцы СССР і т. д.

Праводзячы сваю нязменную палітыку міру, Совецкі саюз не мог заставацца безуважным да адкрытых падрыхтаванняў японскага імперыялізма к нападу на нашы граніцы. Прапануючы заключыць пакт аб ненападзе, прапануючы стварыць камітэт для разбору пагранічных канфліктаў, нарэшце, згаджаючыся ўступіць КУЧ, Совецкі саюз, бачачы непасрэдна растучую небяспеку японскай агрэсіі, вымушан быў прыняць рад энергічных мерапрыемстваў, якія забяспечвалі-б нашы далёка-ўсходнія граніцы ад японскага ўтаржэння, забяспечвалі-б мірныя ўмовы жыцця і працы рабочых і сялян совецкага Далёкага Ўсходу, занятых вялікай справай будаўніцтва соцыялізма.

Усё большае абвастрэнне супярэчнасцей паміж капіталістычнымі краінамі, рэзкае абвастрэнне крызіса ўсёй капіталістычнай сістэмы, шалёная гонка ўзбраенняў, наступленне капіталізма на працоўныя

масы і імкненне перакласці ўвесь цяжар эканамічнага крызіса і яго вынікі на плечы рабочага класа і працоўнага сялянства, разгул фашызма ў Германіі, Італіі, Японіі і іншых краінах, растучая пагроза новай імперыялістычнай вайны—усё гэта, з аднаго боку, прывяло і прыводзіць да рэзкага абвастрэння класавых супярэчнасцей і ўнутры саміх капіталістычных краін, паміж эксплаататарскім і эксплаатуемым класам, а з другога боку,—«да размежавання ўсіх сіл класаў, народаў і дзяржаў на два лагеры: лагер вайны і лагер міру» (**Мануільскі**).

> «Цэнтрам сіл, працуючых на вайну, на паскарэнне яе выбуху, з'яўляецца фашызм; у Еўропе—самая рэакцыйная і агрэсіўная форма фашызма—гітлераўская Германія у Азіі—ваенна-фашысцкая Японія.
>
> Цэнтрам сіл, якія змагаюцца супроць вайны і яе падпальшчыкаў, з'яўляецца СССР, які згуртоўвае вакол сябе не толькі міжнародны пролетарыят, але і іншыя класы, роўна як і слабыя нацыі і народы, якія не жадаюць вайны» *).

VII кангрэс Комуністычнага Інтэрнацыянала распрацаваў тактычныя і практычныя задачы далейшай барацьбы комуністычнай партыі ў капіталістычных краінах і сусветнага пролетарыята ў барацьбе супроць наступлення фашызма, ваеннай небяспекі і абароны радзімы сусветнага пролетарыята—СССР, а таксама задачы і тактыку барацьбы пролетарыята супроць наступлення капіталізма на рабочы клас, арганізацыю падрыхтоўкі рэволюцыйных сіл на барацьбу за звяржэнне капіталізма і перамогу сусветнай пролетарскай рэволюцыі.

VII кангрэс КІ чотка вызначыў задачы комуністычных партый і пролетарыята капіталістычных краін і ў сваім рашэнні па дакладу тав. Эрколі ўказаў, што:

> «Комуністы, энергічна змагаючыся і супроць ілюзій, нібы можна знішчыць вайну, пакуль яшчэ існуе капіталістычны лад, прыкладаюць і будуць прыкладаць усе намаганні для папярэджання вайны. У выпадку-ж узнікнення новай сусветнай імперыялістычнай вайны—наперакор усім стараннім рабочага класа папярэдзіць яе—комуністы будуць імкнуцца павесці праціўнікаў вайны, арганізаваных у барацьбе за мір, на барацьбу за ператварэнне імперыялістычнай вайны ў вайну грамадзянскую супроць фашысцкіх падпальшчыкаў вайны, супроць буржуазіі, за звяржэнне капіталізма» **).

* * *

Сярод хаосу непрымірымых імперыялісцкіх супярэчнасцей паміж капіталістычнымі краінамі і ўсё больш абвастраючыхся ўнутраных супярэчнасцей паміж эксплаатуючымі і эксплаатуемымі класамі; сярод бушуючых хваль эканамічных узрушэнняў і ваенных авантур—«СССР

---

*) Мануільскі—даклад на маскоўскім і ленінградскім партактыве аб выніках VII кангрэса Комінтэрна (часоп. „Коммунистический Интернационал" № 27, стар. 12).

**) Там-жа, стар. 153.

стаіць асобна, як уцёс, прадаўжаючы сваю справу соцыялістычнага будаўніцтва» (**Сталін**).

> «Наша палітыка ясная»,—заявіў т. Сталін на XVII партыйным з'ездзе, даючы вызначэнне характару нашай знешняй палітыкі.—Яна ёсць палітыка захавання міру і ўзмацнення гандлёвых адносін з усімі краінамі. СССР не думае пагражаць каму-б там ні было і тым больш напасці на каго-б там ні было. Мы стаім за мір і адстойваем справу міру. Але мы не баімся пагроз і гатовы адказаць ударам на ўдар падпальшчыкаў вайны. Хто хоча міру і дабіваецца дзелавых сувязей з намі, той заўсёды знойдзе ў нас падтрыманне».

Гэтыя словы тав. Сталіна былі і яшчэ доўга будуць асновай савецкай знешняй палітыкі. Барацьба за мір—барацьба за соцыялізм. Барацьба супроць вайны—барацьба супроць фашызма.

Перад тварам растучай небяспекі новых войн Савецкі саюз прымае рад паслядоўных энергічных мер, накіраваных на выкрыццё і зрыў планаў фашысцкіх падпальшчыкаў вайны. Савецкі саюз ніколі не меў ілюзій наконт моцнасці і непахіснасці міжнародных дагавораў, але тым не менш Савецкі ўрад заключае розныя дагаворы і ўзгадненні, дагаворныя абавязацельствы, паколькі такія дагаворы і абавязацельствы затрудняюць да пэўнай ступені падрыхтоўку вайны і адцягваюць яе тэрмін. Акрамя таго, згода капіталістычных краін заключаць з намі такія дагаворы сведчыць аб тым, што не толькі наша мірная палітыка, але і рост нашай эканамічнай і ваеннай магутнасці, закліканай служыць справе міру, атрымлівае шматбаковае прызнанне.

За васемнаццаць год рэволюцыі Савецкі саюз зрабіў каласальныя поспехі ў справе ўздыму культурнага ўзроўню і матар'яльнага дабрабыту працоўных. Пролетарыят і сялянства, ажыццявіўшы, пад кіраўніцтвам сваёй комуністычнай партыі, разгорнутае наступленне на капіталістычныя элементы горада і вёскі, ліквідаваўшы—на аснове суцэльнай калектывізацыі—кулацтва як клас, ідзе па шляху ўсё большага ачышчэння сваіх радоў ад класава-чуждых элементаў, знішчаючы і змятаючы іх са шляхоў соцыялізма і адначасова ўмацоўваючы класавую аднароднасць насельніцтва СССР.

Пролетарыят і калгаснікі Савецкага саюза процістаяць цяпер капіталістычным краінам, як адзіны калектыў будаўнікоў новага соцыялістычнага грамадства, «гатовых усімі сродкамі, цаною свайго жыцця абараняць заваёвы рэволюцыі» *). Пролетарыят і калгаснае сялянства ў рэзультаце пераможнага завяршэння першай пяцігодкі і паспяховага выканання першай паловы другога пяцігадовага плана, прадстаўляюць такую сілу, якая дазваляе ім з поўнай упэўненасцю ў перамогу адносіцца да перспектывы магчымага нападу імперыялістычных краін.

Акрамя тэтага, перамога соцыялізма ў СССР, умацоўваючы пазіцыі сусветнага пролетарыята ў барацьбе з капіталізмам, «усё больш ператварае міжнародны рабочы клас у дзейсную сілу, здольную аказваць рашаючы ўплыў на ход падзей унутры паасобных краін і на сусветнай арэне».

---

*) З дакл. т. Эрколі.

Павышаючы сваю рэволюцыйную боездольнасць, міжнародны пролетарыят становіцца незамянімым саюзнікам Краіны советаў у справе зрыву імперыялістычных і антысовецкіх планаў фашысцкай буржуазіі, у справе ўмацавання міру. СССР і міжнародны пролетарыят—тэта несакрушальная сіла.

Дзякуючы гэтай сіле і магутнасці, падмацаванай тэхнічным аснашчэннем краіны, некаторыя з буржуазных краін, следуючы простаму разліку, лічаць тактыку захавання мірных і нармальных адносін з магутнай Совецкай дзяржавай больш выгаднай і разумнай.

Совецкі саюз, як фактар сілы і як фактар міру, заняў галоўнае і аўтарытэтнейшае месца на сусветнай арэне. Ні адно пытанне, якое мае важнае міжнароднае значэнне, не можа быць вырашана без ўдзелу СССР. Гэта галоўны і агульны рэзультат совецкай знешняй палітыкі, з якім пролетарыят і сялянства, кіруемыя сваёй слаўнай комуністычнай партыяй, падыходзяць к 18 гадавіне Окцябра.

Напомнім важнейшыя этапы барацьбы совецкага ўрада за мір.

Совецкі ўрад праводзіў палітыку заключэння двухбаковых пактаў аб ненападзе і нейтралітэце, паспяхова пачатую дагаворамі з Турцыяй аб дружбе і нейтралітэце ў снежні 1925 года і дагаворам з Германіяй ў красавіку 1926 г. Да ліку першых пактаў аб непападзе адносяцца таксама дагаворы з Афганістанам (1926 г.), з Літвой (1926 г.) і з Іранам (1927 г.). У 1931 г. усе гэтыя пакты затым прадоўжваліся.

Пераможнае завяршэнне першай пяцігодкі, індустрыялізацыя краіны, перамога калгаснага ладу, рост абароназдольнасці Совецкага саюза ўмацавалі міжнароднае становішча СССР і павялічылі яго ўдзельную вагу ў сусветнай палітыцы.

У той-жа час на другім полюсе адбываецца развал капіталістычнай стабілізацыі і немінучыя абвостранні супярэчнасцей унутры імперыялістычнага лагера. Перамога фашызма ў Германіі азначала крайнюю рэакцыю і тэрор супроць рабочага класа і працоўных ва ўнутранай палітыцы і нічым непрыкрытую агрэсію ў знешняй палітыцы. Заявы германскіх фашыстаў, што ўзбраенні ім патрэбны для антысовецкага паходу, былі надта слабым аргументам для Францыі, бо дзейнасць фашысцкай дыпламатыі ў Польшчы і Югаславіі, разлічаная на падрыў сістэмы французскіх ваенных саюзаў, з'ўлялася прамой і непасрэднай пагрозай французскай гегемоніі ў Еўропе. Гэта акалічнасць была асноўнай прычынай павароту ў палітыцы Францыі ў адносінах да СССР, які выразіўся ў заключэнні пакта аб ненападзе паміж СССР і Францыяй (падпісанага ў лістападзе 1932 г.). І гэтым-жа закладзен пачатак франка-совецкага супрацоўніцтва як ў галіне эканамічнай (гандлёвая згода 1934 г.), так і ў справе забяспечання міру (сумесныя намаганні, накіраваныя на заключэнне рэгіянальных пактаў, гарантуючых мір і бяспеку ва ўсходняй Еўропе).

Яшчэ да заключэння пакта аб ненападзе з Францыяй Совецкі саюз, ўлічваючы асаблівую важнасць пастаноўкі пытання аб забяспечанні міру ва ўсходняй Еўропе, заключае аналагічныя пакты з прыбалтыйскімі дзяржавамі: з Фінляндыяй (1932 г.), з Латвіяй (1932 г.) і з Эстоніяй (1932 г.) і ў гэтым-жа (1932) годзе з Польшчай.

Характэрнай асаблівасцю совецкіх двухбаковых дагавораў з'яўляецца тое, што яны не накіраваны супроць якой-небудзь трэцяй стараны і цалкам выцякаюць з нашай палітыкі падтрымання мірных

адносін з усімі дзяржавамі і забяспечання мірных умоў для будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне.

Прадаўжаючы сваю палітыку ў гэтым-жа напрамку, Совецкі ўрад 2 верасня 1933 года заключае дагавор аб дружбе, ненападзе і нейтралітэце з Італіяй.

На працягу ўсяго перыяда манчжурскай авантуры Совецкі ўрад захоўваў абсалютны нейтралітэт, пададрваўшы гэтым ўсе надзеі імперыялістычных колаў, якія разлічвалі, што інтэрвенцыя Японіі ў Манчжурыю адразу-ж развяжа вайну паміж Японіяй і СССР. Мудрая і паслядоўная палітыка міру Совецкага ўрада, пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна, падмацаваная мерамі павышэння абароназдольнасці нашых далёкаўсходніх граніц, ахаладжваючы дзейнічала на японскіх авантурыстаў вайны.

Жадаючы папярэдзіць далейшыя ўскладненні паміж СССР і Японіяй, Совецкі ўрад прадаў Японіі КУЧ.

Буйным дасягненнем нашай дыпламатыі ў справе ўмацавання міру з'яўляецца ўнесенае М. М. Літвінавым на канферэнцыі па раззбраенню ў 1933 годзе вызначэннс нападаючай стараны. Наша вызначэнне агрэсара сустрэла спачатку непрыхільныя адносіны з боку большасці буржуазных дзяржаў. Але ў далейшым, пры росце агрэсіі германскага імперыялізма, рад дзяржаў перагледзелі свае пазіцыі і далучыліся да канвенцыі. Удзельнікамі першай канвенцыі з'яўляюцца: СССР, Турцыя, Афганістан, Іран, Польшча, Румынія, Эстонія і Латвія; удзельнікамі другой—СССР, Турцыя, Чэхаславакія, Югаславія і Румынія; удзельнікамі трэцяй—СССР і Літва.

Умацаванне міжнароднага становішча Совецкага саюза з'яўляецца прамым вынікам перамог соцыялізма ўнутры краіны, што знашло далейшае пацверджанне ва ўстанаўленні дыпламатычных адносін СССР з Румыніяй, Венгрыяй і Балгарыяй у 1934 годзе, а яшчэ раней—з Іспаніяй (абмен пасламі да апошняга часу, аднак, не адбыўся). Чэхаславакія, якая да гэтага часу будавала свае адносіны ў рамках прызнання дэ-факто, цалкам аднаўляе нармальныя дыпламатычныя адносіны з СССР.

Адзінаю сілай, стрымліваючай стыхію вайны, выступае СССР—як барацьбіт за мір, на якога ўскладаюць надзеі ўсе працоўныя, ўсе сапраўдныя праціўнікі вайны.

У сваёй штодзеннай барацьбе за мір Совецкі ўрад не адмаўляўся супрацоўнічаць з тымі буржуазнымі дзяржавамі, якія па тых ці іншых меркаваннях, у даны момант, працівяцца вайне.

Як толькі стала відавочным, што Ліга нацый у данай канкрэтнай гістарычнай абстаноўцы можа паслужыць хоць-бы малейшай перашкодай для развязвання імперыялістычнай вайны, Совецкі саюз згадзіўся ўступіць у Лігу нацый.

У далейшым, калі канчаткова выявілася рэзка адмоўная пазіцыя Германіі і Польшчы ў адносінах да Ўсходняга пакта, франка-совецкае зближэнне прывяло да падпісання ў маі 1935 года франка-совецкага дагавора аб узаемадапамозе.

Праз параўнаўча кароткі прамежак часу Совецкі саюз атрымлівае яшчэ адну буйнейшую перамогу на знешне-палітычным фронце. Чэхаславакія, якая прыняла наша вызначэнне агрэсара, ў імкненні стварэння бяспекі ў паўднёва-ўсходняй Еўропе, следуе прыкладу Францыі і падпісвае з намі таксама пакт аб узаемнай дапамозе.

Вось тыя галоўнейшыя поспехі на знешнім фронце, з якімі пролетарыят першай у свеце соцыялістычнай дзяржавы, кіруемай комуністычнай партыяй на чале з мудрым правадыром—т. Сталіным, падыходзіць к свайму 18-му юбілею. СССР вышаў на сусветную арэну, як вялікая дзяржава, прадстаўляючая сабой велізарнейшую сілу, якая процістаіць вайне. Гэты выхад і супрацоўніцтва з буржуазнымі дзяржавамі не падарвалі яго асновы, а наадварот—умацавалі. На яго сцягах і на гэтым фронце напісана: «Барацьба за мір—барацьба за соцыялізм».

Гэтыя поспехі совецкай знешняй палітыкі тлумачацца ў першую чаргу тым, што грунтуецца яна на непахісных прынцыпах марксізма-ленінізма і мае непарыўную сувязь з унутранай палітыкай умацавання дыктатуры пролетарыята і пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства. Праводзячы сваю палітыку барацьбы за мір, Совецкі ўрад гэтым самым змагаецца за перадышку, неабходную для соцыялістычнага будаўніцтва, за ўмацаванне міжнародных пазіцый СССР, і ў той-жа час за ўмацаванне пазіцый сусветнага пролетарыята ў яго барацьбе з капіталізмам.

А. Любовіч

# Асноўныя задачы плана народнай гаспадаркі БССР на 1936 год

Соцыялістычная гаспадарка ў БССР, як і ва ўсіх частках нашай вялікай Совецкай краіны, ідзе няўхільна ў гару. Нядаўна—к 15 гадавіне вызвалення ад белапалякаў—ордэнаносная БССР падвяла вынікі агромным перамогам на фронце гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, на фронце барацьбы з класавым ворагам.

Усё далей і шырэй разгортваецца рух рабочых і калгаснікаў БССР за новыя перамогі па ўсёй лініі вялікай соцыялістычнай будоўлі. Пад лозунгамі мудрага настаўніка і любімага правадыра тав. Сталіна ўзнімаецца магутны пласт перадавых людзей Совецкай краіны—выдатнікаў вытворчасці, дасканала аўладаўшых тэхнікай. Яны вядуць соцыялістычнае спаборніцтва ў асваенні невычэрпных магчымасцей і багаццяў, закладзеных у нетрах зямлі і на яе паверхні.

Святкуючы 18 гадавіну вялікага Окцябра, мы павінны прагледзець, што яшчэ застаецца незавершаным з плана вялікіх работ другой пяцігодкі, якія забяспечваюць пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства; што трэба ўключыць у план 1936 года для таго, каб рабочыя і калгаснікі БССР разам з усімі працоўнымі Совецкага саюза к 20 гадавіне Окцябра маглі рапартаваць нашай вялікай партыі, усёй краіне Советаў, працоўным усяго свету аб бліскучых перамогах соцыялістычнага ладу, аб максімальным асваенні здабытых багаццяў, аб надзвычайным уздыме матар'яльнага і культурнага ўзроўню ўдзельнікаў вялікай соцыялістычнай будоўлі.

> «Асноўнай і рашаючай гаспадарчай задачай другой пяцігодкі з'яўляецца завяршэнне рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі. Рашаючай-жа ўмовай завяршэння тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі ў другой пяцігодцы павінна з'явіцца асваенне новай тэхнікі і новай вытворчасці».
>
> «Пафас новага будаўніцтва... павінен быць дапоўнен у другім пяцігоддзі пафасам асваення новых заводаў і новай тэхнікі, сур'ёзным уздымам прадукцыйнасці працы, сур'ёзным скарачэннем сабекошту» **(Сталін).**
>
> «Яшчэ больш хуткі ўздым добрабыту рабочых і калгасных мас, значны рост рэальнай зарплаты, павышэнне ўзроўню спажывання працоўных у 2—3 разы».

Усе паследуючыя пастановы партыі, канкрэтнае і мудрае кіраўніцтва тав. Сталіна даюць рад асноўных установак у справе паспяховага завяршэння задач, пастаўленых XVII з'ездам партыі. Гістарычная пра-

мова тав. Сталіна аб кадрах, пастановы партыі і ўрада аб зніжэнні цэн на хлеб, аб адмене картак на прадукты—усё гэта стварае ўмовы для пераможнага ажыццяўлення задач, пастаўленых XVII з'ездам ВКП(б) па другому пяцігадоваму плану.

* * *

Як ідзе выкананне народна-гаспадарчага плана бягучага 1935 года на подступах к чацвертаму году другой пяцігодкі, якія недахопы яшчэ не адолены, што павінна быць пастаўлена ў лік асноўных задач разгортвання плана 1936 года?

Па ўсёй лініі прамысловасці і сельскай гаспадаркі наглядаецца ўсё большае асваенне тэхнікі, з меншымі скачкамі і рыўкамі выконваюць прадпрыемствы свае вытворчыя заданні, павышаюць культуру вытворчасці, пераходзячы да сістэматычнай работы над планам, ліквідуючы моманты сезоннасці ў розных галінах вытворчасці.

У выкананні гадавога плана прамысловасць БССР не адстае ад агульнасаюзнай. За 8 месяцаў бягучага года яна дала 65,8% супроць 65,7% саюзных. Калі прасачыць за тым, як выконваецца план выпуску прадукцыі як саюзнымі наркаматамі, так і мясцовай прамысловасцю БССР, то можна меркаваць, што агульны план вытворчасці на 1935 год будзе перавыканан па колькасных паказчыках па меншай меры на 5—6%.

Прадпрыемствы саюзнай прамысловасці БССР, якія ва ўсёй валавой прадукцыі прамысловасці нашай рэспублікі займаюць 48%, дадуць найбольшае перавыкананне плана (каля 10%) па цяжкай прамысловасці, у астатніх галінах ёсць усе падставы чакаць перавыканання ад 3 да 4%. Адстаюць у выкананні плана толькі прадпрыемствы Наркамунутргандлю. Калі партыйныя, прафсаюзныя арганізацыі і заводакіраўніцтвы гэтых прадпрыемстваў не прымуць канкрэтных сур'ёзных мер для ліквідацыі прарыву, то к канцу года яны могуць прыйсці з ганебнымі лічбамі.

Рад галін рэспубліканскай і мясцовай прамысловасці БССР падыходзяць к Окцябрскай гадавіне з поўнай упэўненасцю ў перавыкананні гадавога плана. Напрыклад, у выпрацоўцы электраэнергіі па БССР чакаецца перавыкананне плана на 1,8%, што супроць 1934 года дае прырост на 14,3%. Устаноўленая магутнасць электрастанцый БССР к канцу года ўзрастае на 25,3%. Па Наркаммясцпрому з 24 асноўных яго галін 17 выконваюць планавае заданне. Кааперацыйна-прамысловыя арганізацыі даюць перавышэнне плана ад 1,8% да 9,1%.

Пры напружанай энергічнай рабоце ў IV квартале прамысловасць БССР можа і павінна выйсці па ўсёй лініі яшчэ з большымі дасягненнямі, адначасова яшчэ шырэй разгортваючы пачатую барацьбу за якасць прадукцыі, за пашырэнне асартыменту, за прымяненне стаханаўскіх метадаў у рабоце.

Адставанне паасобных галін саюзнай і мясцовай прамысловасці ў чацвертым квартале павінна быць ліквідавана, і ўся прамысловасць ордэнаноснай БССР у цэлым павінна закончыць трэці год другой пяцігодкі поўным выкананнем промфінплана па ўсіх паказчыках. «Пафас асваення» павінен стаць асабліва высокім на подступах к 1936 г. Дзякуючы вялікаму энтузіязму мас, які выразіўся ў шырокім і масавым руху за стаханаўскі метад работы, агромнаму ўздыму тэхнічнай і агульнай культуры, росту добрабыту рабочага класа, рад галін прамысловасці Савецкага саюза можа падыйсці да выканання пяцігадо-

вага плана ўжо напярэдадні года, завяршаючага другую пяцігодку. БССР, як неадрыўная частка вялікай Совецкай краіны, не можа адстаць у гэтым руху.

У галіне сельскай гаспадаркі па галоўнейшых паказчыках плана 1935 года мы таксама прыдзем з выкананнем задання. У сельскай гаспадарцы БССР адбываецца працэс, вызначаны другім пяцігадовым планам,—тэмпы росту прадукцыі жывёлагадоўлі перавышаюць тэмпы росту прадукцыі паляводства. Побач з гэтым, расце ўдзельная вага тэхнічных і кармавых культур, якія для народнай гаспадаркі БССР маюць выключнае значэнне. Валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі павінна даць сёлета прырост каля 9%.

Усё далей пашыраюцца і замацоўваюцца перамогі калгаснага ладу. К пачатку 1935 года ў БССР было 72,6% калектывізаваных гаспадарак, а зараз, паводле папярэдніх даных,—85%. Далейшы рост калектывізацыі суправаджаецца шырокай ініцыятывай калгаснікаў па сцягванню хутароў і дробных пасёлкаў у новыя калгасныя цэнтры, што вядзе да знішчэння распыленасці, адсталасці гаспадарак, да поўнай ліквідацыі вынікаў шкодніцкай дзейнасці прышчэпаўшчыны, да няўхільнага ўздыму соцыялістычнай сельскай гаспадаркі.

Аднак, побач з дасягненнямі, у нашай рабоце на паасобных участках соцыялістычнага будаўніцтва яшчэ не мала недахопаў.

Сельская гаспадарка асабліва адстае ў выкарыстанні трактарнага парка, асваенні тэхнічных культур, развіцці жывёлагадоўлі.

Найбольш слабым месцам сельскай гаспадаркі з'яўляецца ворыва цалінных зямель і выкарыстанне трактарнага парка. Значная частка МТС не выконваюць сёлета нават заніжаную, супроць 1934 года, норму выпрацоўкі—250 га на адзін умоўна 15-сільны трактар, хоць і маюць усе магчымасці перавыканаць яе, аб чым сведчыць работа перадавых МТС. Напрыклад, Лельчыцкая МТС, на адзін 15-сільны трактар дала ў сярэднім 285 га на 1/X, Заслаўская—271 га.

Паасобныя передавыя трактарныя брыгады раду МТС амаль у два разы перавыконваюць устаноўленую Наркамземам БССР норму. Так, брыгада з 4-х трактароў т. Ручука (Капыльская МТС) на 1/X выпрацавала ў сярэднім 428 га, а перадавы трактарыст гэтай брыгады—478 га. Брыгада т. Захвіцэвіча (Дзержынскай МТС) дала рэкордную цыфру выпрацоўкі—512 га. Побач з гэтым мы маем такія МТС, як Петрыкаўская, якая ў сярэднім на адзін 15-сільны трактар на 1/X дала ўсяго 122 га, Любаньская—143 га і т. д. Гэта сведчыць аб тым, што справа выкарыстання трактарнага парка ў нас арганізавана дрэнна.

Прамысловасцю і сельскай гаспадаркай БССР далёка яшчэ не скарыстаны ўсе магчымасці ўзмоцненага ўздыму яе на ўзровень іншых рэспублік і абласцей Совецкага саюза. Яшчэ някрануты вялікія рэзервы, недастаткова асвоена абсталяванне, асабліва нізкі ўзровень арганізацыі, падбору і падрыхтоўкі рабочай сілы, яшчэ застаецца сезоннасць, ярка выяўленая па такіх галінах, як торф, будматар'ялы, якія з'яўляюцца базай далейшага шырокага развіцця ўсёй прамысловасці БССР.

Калі металаапрацоўчыя прадпрыемствы БССР добра асвоілі даволі высокую тэхніку вытворчасці станкоў, то гэтага нельга сказаць пра асваенне ўсёй тэхнікі наяўнага абсталявання.

З найбольшай адсталасцю ад усёй народнай гаспадаркі БССР ідзе буд'індустрыя. Яна не задавальняе патрабаванняў, якія выклікаюцца агромным разгортваннем будоўлі ў прамысловасці, у комунальнай і жыллёвай гаспадарцы, у раёнах і калгасных цэнтрах.

* * *

У БССР, паводле другога пяцігадовага плана, павінны развівацца рэканструкцыйныя працэсы, якія вызначыліся ў гады першай пяцігодкі.

Павышэнне ўдзельнай вагі мясцовых відаў паліва, у прыватнасці торфу; канцэнтрацыя капітальнага будаўніцтва прамысловасці, у яе асноўных галінах, на торфе; арганізацыя новай галіны прамысловасці—торфахіміі, узмацненне значэння ў лёгкай прамысловасці ільнаапрацоўкі; разгортванне вытворчасці тэхнічных культур і шырокае развіццё жывёлагадоўлі; рост культурна-бытавога будаўніцтва—усё гэта ва ўмовах БССР мае асаблівае значэнне і патрабуе фарсіраванага вырашэння.

XVII з'ездам партыі перад мясцовай прамысловасцю пастаўлена важнейшая задача—праявіць максімальную ініцыятыву ў вышуканні новых відаў сыравіны, каб у тры разы павялічыць вытворчасць прадметаў шырокага спажывання. Гэта задача павінна знайсці канкрэтнае выражэнне ў народна-гаспадарчым плане БССР на 1936 год.

Мясцовая прамысловасць павінна не толькі грунтавацца на сваёй сыравіне, але і разгарнуць прадпрыемствы ў непасрэднай блізкасці ад крыніц гэтай сыравіны, каб пазбавіцца нерацыянальных перавозак. Тым часам большасць галін лёгкай прамысловасці БССР усё яшчэ залежыць ад сыравіны, якая прывозіцца з іншых рэспублік і абласцей Совецкага саюза.

У прамысловасці рэспубліканскага значэння (у далейшым Наркамяспрома) надзвычай вялікаю была доля прамысловасці швейнай, якая ў 1932 годзе давала 44,3% усёй прадукцыі гэтага наркамата. З развіццём пашывачных фабрык у розных частках Совецкага саюза наша швейная прамысловасць скарачалася і ў 1935 годзе дала толькі 72,3% прадукцыі супроць 1932 года, што сільна зніжала паказчыкі выканання вытворчага плана па ўсёй лёгкай прамысловасці, якая, не гледзячы на штогодні значны прырост, дасягнула ў 1935 годзе толькі 86,1% супроць 1932 года.

Разам з тым, швейная прамысловасць, дзякуючы сваёй значнай удзельнай вазе, прыцягвала к сабе найбольшую ўвагу, што адмоўна адбівалася на тых галінах мясцовай прамысловасці, якія павінны былі атрымаць найбольшае развіццё на базе мясцовых сыравінных рэсурсаў.

Сыравінныя рэсурсы БССР павінны быць ініцыятыўна распрацаваны для вытворчасці як прадметаў шырокага спажывання, так і абсталявання, неабходнага ў прамысловасці, сельскай гаспадарцы, капітальным будаўніцтве.

Пытанне аб суадносінах у развіцці паасобных галін мясцовай прамысловасці БССР—вялікае прынцыповае пытанне. Яно патрабуе ўзмоцненай увагі тым больш, што сярод часткі работнікаў прамысловасці не выключаны спробы захаваць нездаровыя, супярэчлівыя ўстаноўкам пяцігадовага плана пазіцыі.

* * *

Аб'ёмныя і якасныя заданні другога пяцігадовага плана будуць цалкам і з гонарам выкананы пры ўмове, калі мы чотка вызначым асноўныя задачы плана народнай гаспадаркі БССР на 1936 год.

Адной з галоўнейшых задач, выражаных у пастановах XVII з'езда партыі, з'яўляецца стварэнне новай энергетычнай базы для завяршэння рэканструкцыі ўсіх галін народнай гаспадаркі, больш шырокае выкарыстанне ў энергаснабжэнні мясцовых відаў паліва, асабліва торфу, і гідраэнергетычных рэсурсаў. Побач з гэтым павінна быць разгорнута газіфікацыя торфу і сланцоў, шырока развіты новыя галіны вытворчасці ў хіміі, у тым ліку хімічная распрацоўка торфу, на што ўказвае другі пяцігадовы план народнай гаспадаркі БССР:

«Важнейшай задачай правільнага развіцця народнай гаспадаркі БССР на 2 пяцігоддзе з'яўляецца рэзкае палепшанне яе паліўнага баланса ў напрамку павышэння долі мясцовых відаў паліва, у прыватнасці торфу».

«Асноўнай паліўнай базай электрастанцый з'яўляецца торф, на якім арыентавана будаўніцтва раённых і буйных фабрычназаводскіх і комунальных станцый».

«Адным з буйнейшых мерапрыемстваў па хімічнай прамысловасці ў другім пяцігоддзі з'яўляецца арганізацыя новай галіны прамысловасці—торфахіміі».

Торф, як база энергетыкі, павінен забяспечыць павышэнне ў 1936 годзе магутнасці электрастанцый звыш як на 25%. Торф, як аснова новых галін вытворчасці па торфахіміі, з'яўляецца цэнтральным пунктам плана 1936 года. Рост здабычы торфу (у 1935 г. прырост 25% супроць 1934 года) павінен быць забяспечан новай тэхнікай абсталявання, пашырэннем удзельнай вагі гідраторфу і найлепшай арганізацыяй усёй торфздабычы. Асноўная частка капіталаўкладанняў у прамысловасць БССР павінна праектавацца перш за ўсё на базе энергетыкі і хіміі.

Ва ўсёй сістэме торфаздабычы павінны быць знішчаны недахопы, якія затрымліваюць яе шырокае разгортванне, што адмоўна ўплывае і на іншыя галіны народнай гаспадаркі БССР.

Адна з пярвейшых задач—гэта поўная падрыхтоўка к пачатку сезона механізмаў, памяшкання для рабочых, добрая арганізацыя торфаздабычы, што да апошняга часу было найбольш слабым месцам. Другая—пашырэнне сезона здабычы торфу і сістэматычны перавод тарфянай прамысловасці на круглагадовую работу, што робіцца пакуль у вопытным парадку ў некаторых месцах СССР. Трэцяя—зрабіць сабекошт здабычы торфу больш танным. Штогодняя вярбоўка і перавозка рабочых стварае ў радзе месц накладныя выдаткі ў размеры каля аднаго рубля на тону, дзякуючы чаму торф абыходзіцца даражэй за прывазны каменны вугаль.

Барацьба за зніжэнне сабекошту торфу будзе садзейнічаць, побач з эканоміяй дзяржаўных сродкаў, зніжэнню сабекошту ўсёй прадукцыі тых галін прамысловасці, якія поўнасцю або часткова базуюцца на тарфяным паліве. У бліжэйшыя гады торф павінен стаць і стане асноўным відам паліва для ўсёй нашай прамысловасці. Вось чаму зніжэнне яго сабекошту—адна з цэнтральных задач усёй торфапрамысловасці, адпаведных кіруючых органаў і наркаматаў—павінна знайсці сваё канкрэтнае выражэнне ў плане работы на 1936 год.

Для пашырэння здабычы торфу неабходна выкарыстаць і дробныя балоты. Асвоіць іх павінна прамысловасць РВК, прамысловая кааперацыя і калгасы, узяўшы прыклад з Маскоўскай вобласці, якая выявіла 50 дробных балот з запасам торфу каля соцень мільёнаў тон і прымацавала іх да цэлага раду прадпрыемстваў раённага значэння. За кошт дробных балот праграма торфаздабычы па Маскоўскай вобласці пашырана сёлета на адзін мільён тон, а ў 1936 г. з дробных балот намечана здабыць да 1,7 мільёна тон.

Для найбольш поўнага асваення тарфяных багаццяў неабходна правесці як на подступах, так і ў пачатку 1936 г., узмоцненае вывучэнне новых метадаў здабычы торфу і ўсёй арганізацыі тарфяной прамысловасці. Навукова-даследчыя ўстановы БССР і ў першую чаргу Інстытут прамысловасці Наркаммясцпрома павінны сканцэнтраваць выключную ўвагу на прымяненні новых тэхнічных і арганізацыйных метадаў торфаздабычы.

Торфапрамысловасць БССР павінна выйсці ў 1936 г. са значным перавыкананнем пяцігадовага плана. Яна можа выканаць усё заданне нават к пачатку 1937 года. З'яўляючыся базай паліва, электрыфікацыі, хіміі, гэтая частка гаспадаркі патрабуе выключнага сканцэнтравання сродкаў і сіл у плане 1936 года.

З тарфяной прамысловасцю непасрэдна звязана хімічная на базе торфу і іншых рэсурсаў БССР. У план 1936 года павінна быць уключана капітальнае будаўніцтва аб'ектаў па гідролізу торфу і драўніны, вытворчасці і газіфікацыі торфу. Хімічная прамысловасць павінна даць сельскай гаспадарцы БССР пашыраную вытворчасць фасфарытнай мукі.

Хімія, як на базе торфу, так і розных адыходаў драўніны, побач з такім буйным прадпрыемствам як Магілеўская шоўкавая фабрыка, з'яўляецца адною з важнейшых частак прамысловасці БССР, якія грунтуюцца цалкам на мясцовых прыродных рэсурсах. У адпаведнасці з гэтым удзельная вага хімічнай прамысловасці БССР як па аб'ёму вытворчасці, так і па капіталаўкладаннях у новыя прадпрыемствы, павінна быць значна павышана.

Шырокія магчымасці ў развіцці новай галіны прамысловасці адкрывае выпрацоўка спірту з тарфяных ачосаў. Развіццю гэтай справы кладзе пачатак вопытны завод па гідролізу торфу, будаўніцтва якога ўжо заканчваецца.

У 1936 г. павінен быць пабудован торфасмолаперагонны завод на базе адыходаў торфзавода імя Сталіна ў Гомелі. У басейне р. Сож разгортваецца пабудова складанага энергахімічнага камбіната. У план 1936 года неабходна ўключыць будаўніцтва дапаможных прадпрыемстваў Прапойскага энергахімічнага камбіната. Гэты камбінат мае агромнае значэнне як для прамысловасці, так і сельскай гаспадаркі БССР, якая атрымае азотныя ўгнаенні.

Па хімічнай прамысловасці саюзнага значэння намячаецца рэканструкцыя і пабудова другой чаргі Магілеўскай фабрыкі штучнага валакна, што павінна павялічыць яе прадукцыю ў чатыры разы. Па мясцовай прамысловасці трэба падрыхтаваць фасфарытную гаспадарку так, каб у 1937 годзе яна дала дадаткова 65 тысяч тон фасфарытнай мукі. У 1935 годзе трэба канчаткова вырашыць праблему прамысловага выкарыстання сапрапеляў, закончыўшы доследы і праектаванне.

Пералічаным не вычэрпваецца праграма работ па хімічнай прамысловасці, якая павінна забяспечыць не толькі важнейшыя запатрабаванні народнай гаспадаркі БССР, але і раду прылягаючых абласцей, асабліва ў частцы ўгнаення для сельскай гаспадаркі.

> «Першая пяцігодка паклала пачатак будаўніцтву хімічнай прамысловасці. У другім пяцігоддзі вызначаецца далейшае яе развіццё, прычым побач з колькасным ростам план прадугледжвае правядзенне якасных змен у напрамку арганізацыі новых вытворчасцей на аснове выкарыстання новых відаў сыравіны» *).

Сканцэнтраваўшы значныя сродкі і сілы на хімічнай прамысловасці, якая грунтуецца на торфе і іншых прыродных рэсурсах, мы выканаем пастанову XVII з'езда ВКП(б):

> «Дабіцца рашаючых зрухаў у развіцці хімічнай прамысловасці, якія забяспечвалі-б шырокую хімізацыю ўсіх галін народнай гаспадаркі і ўмацаванне абароназдольнасці краіны».

У гэтай-жа пастанове гаворыцца аб павышэнні ў 10 раз вытворчасці ўсіх відаў угнаення за гады другой пяцігодкі. Усямерна пашыраючы ўсе віды хімічнай прамысловасці БССР, мы забяспечым сельскую гаспадарку дастатковай колькасцю і якасцю ўгнаенняў, што рэзка ўзніме ўраджайнасць.

* * *

У 1936 годзе павінна значна развіцца і ўмацавацца металаапрацоўчая прамысловасць. Пяцігадовы план вялікае месца ў эканоміцы БССР адводзіць машынабудаўніцтву:

> «Машынабудаўніцтва БССР захоўвае ў другім пяцігоддзі вызначыўшуюся ў першым пяцігоддзі спецыялізацыю на сельскагаспадарчым і агульным машынабудаўніцтве і на абслугоўванні запатрабаванняў рэспублікі ў рамонце і абсталяванні».

Гомельскі завод сельскагаспадарчых машын саюзнага падначалення павінен быць пашыран і, згодна генеральнаму праекту, даць прадукцыі амаль удвая больш, чым у 1935 г. Перад рэспубліканскай металаапрацоўчай прамысловасцю стаіць задача далейшага павышэння кваліфікацыі, далейшай спецыялізацыі заводаў. Яна выпускае ўжо 16 тыпаў розных станкоў. 1936 год павінен даць падвойную колькасць, уключаючы такія станкі, як складаныя радыяльна-свідравальныя, папярэчна-стругальныя.

Побач з развіццём аб'ёму і якасці вытворчасці новых тыпаў станкоў, металаапрацоўчая прамысловасць БССР павінна ў 1936 г. цалкам задаволіць заказы на машыны і абсталяванне для торфу, дрэваапрацоўчай прамысловасці, сельскай гаспадаркі, дробнага гідраэлектрабудаўніцтва і капітальнага рамонту абсталявання. Ужо ў III квартале гэтага года металаапрацоўчыя заводы, якія ўваходзяць у сістэму Наркаммясцпрома БССР, з гонарам выканалі заказы на такія складаныя машыны, як ільнатрапалка сістэмы «Антонава» і рад іншых машын для сельскай гаспадаркі. Гэта было зроблена праз кааператаванне раду заводаў у рэспубліканскай прамысловасці, што можа і павінна быць пашырана ў 1936 годзе, каб цалкам забяспе-

*) 2-гі пяцігадовы план па БССР.

чыць заказы на прамысловае і сельскагаспадарчае абсталяванне. Конныя прыводы, корнеклубнерэзкі, бульбакапалкі, турбіны для дробных гідраўстановак, плугі Фамічова, параконныя і аднаконныя акучнікі і рад іншых машын, неабходных як непасрэдна для сельскай гаспадаркі, так і для дапаможнай прамысловасці, што ўзнікае ў калгасах (цэгла, чэрапіца і т. д.), павінны быць пастаўлены вытворчасцю ў 1936 годзе.

Металаапрацоўчая прамысловасць БССР можа значна перавысіць аб'ём сваёй прадукцыі ў 1936 г. у параўнанні з тым, што вызначана пяцігадовым планам. Яна можа і павінна стаць базай для рэканструкцыі і разгортвання раду галін прамысловай вытворчасці, як непасрэдна ўваходзячых у сістэму рэспубліканскай і мясцовай прамысловасці, так і ўзнікаючых на базе мясцовай сыравіны ў гаспадарках калгасаў.

Рэзка ўзрасці павінна шкляная прамысловасць. Для гэтага яна мае ў нас надзвычай спрыяючыя сыравінныя і паліўныя магчымасці.

Шкляная прамысловасць прыцягвае к сабе агромную ўвагу саюзнага ўрада. Спецыяльная камісія, пасланая ў Амерыку для вывучэння найбольш высокай тэхнікі вытворчасці шкла, дала ў сваіх вывадах багаты матар'ял, які абгаварваецца ў аўтарытэтных камісіях пры ўрадзе Саюза. Шкляная прамысловасць БССР, акрамя разгортвання вырабу гатунковай пасуды, тары, тэхнічнага, а таксама рознага роду бытавога шкла, павінна ў 1936 годзе паставіць вытворчасць розных канструкцый і дэталей для абсталявання новых будынкаў, а таксама плітачны і абліцовачны матар'ял. Шкло павінна знайсці вялікае прымяненне ў будаўніцтве малочна-кансервнага камбіната ў Рагачове.

Шкляная прамысловасць павінна даць разнастайныя будаўнічыя дэталі і прадметы быту. Высокая якасць лоеўскіх пяскоў, якія выкарыстоўваюцца шклянай прамысловасцю БССР, забяспечанасць паліўнай базай ствараюць для гэтага ўсе неабходныя прадпасылкі.

Ужо ў IV квартале г.г. намечана перавесці прадпрыемствы шклянай прамысловасці БССР на бесперапынную работу, дзеля чаго трэба падрыхтаваць дадатковыя кадры кваліфікаваных рабочых і забяспечыць іх фабрычна-заводскім жыллёвым фондам.

Разгортванне прамысловага і комунальнага будаўніцтва, рэканструкцыя гарадоў, крайняя патрэбнасць у новым жыллёвым фондзе, стварэнне раённых і калгасных цэнтраў, а таксама шырокае будаўніцтва соцыяльна-культурных устаноў, у першую чаргу школ, патрабуюць значнага павышэння вызначанага па другому плану аб'ёму вытворчасці будматар'ялаў. Трэба стварыць моцныя будаўнічыя арганізацыі, якія забяспечылі-б выкананне шырокай праграмы капітальнага будаўніцтва ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі і культуры.

Многія гаспадарнікі ўсё яшчэ не зразумелі ў поўнай меры задач, якія стаяць перад будаўнічай індустрыяй. У радзе гаспадарчых органаў стварылася думка, што прамысловая база будматар'ялаў ў нас не толькі зусім дастатковая, але мае нават «перавытворчасць» цэглы і чарапіцы. Гэтая думка склалася ў выніку цэлага раду нездаровых з'яў у капітальным будаўніцтве папярэдніх год. Зацяжка і перавод з аднаго года на другі раду капітальных будоўляў не выклікалі ў радзе наркаматаў і гаспадарчых органаў неабходнай мабілізацыі сіл на тое, каб паскорыць капітальнае будаўніцтва, павысіць яго эфектыўнасць, папярэдзіць замарожванне сродкаў. Заказчыкі, як і праектныя арганізацыі, а з імі разам і Дзяржплан БССР,

не задумваліся над тым, каб ўдасканаліць будаўнічую тэхніку, шырэй скарыстоўваць агнятрывалыя матар'ялы і дэталі, адпавядаючыя социялістычнай рэканструкцыі гарадоў, раёнаў і калгасных цэнтраў. Адсюль—самацёк, тэхнічная адсталасць, саматужніцтва ў справе будаўніцтва і арганізацыі вытворчасці будматар'ялаў.

Яшчэ ў пачатку гэтага года на заводах ляжала некалькі мільёнаў штук «затаваранай» чарапіцы. Вытворчасць чарапіцы не толькі не развівалася, але стаяла напярэдадні кансервацыі, бо гаспадарнікі будаўнікі ніяк не маглі адвыкнуць ад думкі, што дах трэба рабіць абавязкова толькі жалезны, або з гонту ці драні. У гэтым годзе адна толькі Маскоўская вобласць для замены ў калгасах стрэх і новага будаўніцтва наладзіла вытворчасць 45 мільёнаў штук чарапіцы, а для БССР здавалася ўжо «перавытворчасцю» праграмнае заданне ў 4.700 тыс. штук. Тым часам для будаўніцтва толькі ў гарадах, не кажучы ўжо аб агромнай патрэбнасці калгасных цэнтраў, неабходна на 1936 год не менш 20 мільёнаў штук чарапіцы.

Такі-ж «план», такія-ж адсталыя, шкаднейшыя адносіны былі і ў дачыненні вытворчасці іншых мясцовых будматар'ялаў (цэгла, вапна), асабліва да новых відаў будаўнічых дэталей і матар'ялаў. Буд'індустрыя фактычна не лічылася нават у сістэме прамысловасці.

План 1936 года павінен рэзка выпяціць прамысловасць будматар'ялаў і побач з ёю буд'індустрыі. Трэба забяспечыць пабудову раду новых вапенных і цагельных заводаў са штучнымі сушылкамі для круглагадовай вытворчасці цэглы; для будаўніцтва новых калгасных цэнтраў стварыць у калгасах прамысловыя брыгады і дапаможныя прадпрыемствы па масавай арганізацыі вытворчасці цэглы, чарапіцы, абпалу вапны і вытворчасці раду іншых будматар'ялаў.

У адпаведнасці з гэтым павінна высока ўзняцца ўдзельная вага прамысловасці будматар'ялаў і буд'індустрыі ў агульнай суме капіталаўкладанняў, каб забяспечыць яе адпаведнай механізацыяй і сталымі кадрамі замест непадрыхтаваных, выпадкова падабраных сезонных рабочых і наладзіць круглагадовую работу на аснове нядаўна вынесенай пастановы ЦК КП(б)Б і СНК БССР.

* * *

Адна з вузлавых задач плана 1936 года—далейшае разгортванне прадпрыемстваў па апрацоўцы лёну. БССР, як асноўны ільнаводны раён Саюза, мае дастатковую колькасць сыравіны, якая для сваёй апрацоўкі патрабуе фарсіраванага будаўніцтва Оршанскага ткацка-прадзільнага камбіната. Гэты камбінат з'яўляецца аб'ектам другой пяцігодкі і, побач з рэканструяванай ільнапрадзільнай фабрыкай «Дзвіна», павінен даць у 1937 г. 67 млн. кв. метраў ільняных тканей.

Вялікія капіталаўкладанні ў ільнаапрацоўчую прамысловасць вызначаюцца па Наркамлегпрому СССР. Устаноўкі другога пяцігадовага плана цвёрда гавораць аб коле аб'ектаў капітальнага будаўніцтва, вакол якіх павінны быць сканцэнтраваны сродкі ў БССР.

> «Капітальнае будаўніцтва прамысловасці канцэнтруецца ў асноўным у галінах: ільнаапрацоўчай, торфе, электрабудаўніцтве, машынабудаўніцтве і будматар'ялах, што дае магчымасць ажыццявіць далейшую спецыялізацыю БССР, у адпаведнасці з яе натуральнымі багаццямі».

У плане 1936 года трэба прадугледзець найбольш сканцэнтраванае разгортванне тых галін лёгкай, харчовай і дрэваапрацоўчай прамысловасці, якія цалкам грунтуюцца на мясцовых сыравінных рэсурсах і павінны зрабіць вялікі ўклад у вытворчасць розных відаў шырспажыву. Вытворчасць прадметаў шырокага спажывання рэспубліканскімі, нізавымі кааперацыйнымі і іншымі галінамі прамысловасці БССР складае 64,7% ўсёй валавой прадукцыі 1935 г. К канцу другой пяцігодкі трэба забяспечыць выкананне пастановы XVII з'езда партыі аб росце вытворчасці прадметаў шырокага спажывання мясцовай прамысловасці ў тры разы. Сюды адносіцца развіццё скургалантарэйных, грэбнегузікавых вырабаў, новых відаў металёвага шырспажыву, сваім асартыментам і якасцю адпавядаючых павышаным патрабаванням рабочых і калгасных мас.

Важнейшая задача, якая стаіць перад намі ў сельскай гаспадарцы— завяршэнне калектывізацыі.

XVII з'езд партыі падкрэсліў:

> «Вызначаны прырост прадукцыі сельскай гаспадаркі можа быць дасягнуты толькі на аснове поўнага завяршэння калектывізацыі і ажыццяўлення тэхнічнай рэканструкцыі ўсёй сельскай гаспадаркі».

Завяршэнне калектывізацыі, побач з далейшым уздымам культуры ў калгасах, з далейшым аснашчэннем сельскагаспадарчай вытворчасці тэхнікай і найбольш поўным яе асваеннем, дасць далейшыя перамогі ў соцыялістычным будаўніцтве на вёсцы.

У 1936 г. неабходна шырока падтрымаць і адлюстраваць ва ўсім плане па сельскай гаспадарцы агромную цягу калгаснікаў да арганізацыі добра ўпарадкаваных калгасных цэнтраў праз сцягванне ў іх раскіданых па хутарах і дробных пасёлках гаспадарак. У 1936 годзе ствараецца магчымасць аказаць планавую дзяржаўную дапамогу арганізацыі новых, адпавядаючых уздыму калгаснага жыцця, 600—700 калгасных цэнтраў, якія маглі-б уцягнуць у сябе па меншай меры 50 тысяч хутароў і дробных пасёлкаў.

Выкананне сельскай гаспадаркай БССР сёлетняга плана гаворыць аб магчымасці і неабходнасці паставіць на 1936 год задачу—значна павысіць тэмпы росту валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі, асабліва жывёлагадоўчай, і тэхнічных культур. Жывёлагадоўля мае ўсе магчымасці выканаць план 1936 года, прычым па буйнай рагатай жывёле мы можам прыйсці ўжо ў канцы 1936 года да завяршэння плана другой пяцігодкі. Ёсць усе падставы гаварыць пра тое, што ў 1936 годзе валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі будзе ў два разы больш, чым гэта чакаецца к канцу 1935 года (на 8,9%). Неабходна пашырыць пасеў пшаніцы, бо ў 1935 годзе яшчэ не дасягнута неабходная адпаведнасць з патрабаваннямі пяцігадовага плана.

Рост жывёлагадоўлі выклікае настойлівую неабходнасць значна пашырыць кармавую базу. У 1935 годзе пасевы траў, асабліва шматгадовых не адпавядаюць размерам зацверджаных для БССР севазваротаў, таму план 1936 года павінен прадугледзець узмоцнены рост пасеваў кармавых траў. Будаўніцтва МТС і механізацыя асноўных сельскагаспадарчых працэсаў таксама не ідуць яшчэ на адпавядаючым гадам пяцігодкі ўзроўні.

Капіталаўкладанні на 1936 год у сельскую гаспадарку павінны пайсці галоўным чынам на разгортванне энергетыкі, меліярацыі і кадраў.

* * *

Галоўнаю часткай плана 1936 года па социяльна-бытавому раздзелу павінна быць жыллёвае будаўніцтва, побач з пашырэннем і палепшаннем санітарна-гігіенічных прадпрыемстваў гарадоў БССР. Але жыллёвае будаўніцтва ў 1936 годзе не павінна абмяжоўвацца капіталаўкладаннямі толькі па лініі выканкомаў і жылкааперацыі. Комунальна-жыллёвая гаспадарка сканцэнтраваная ў веданні горсоветаў, райвыканкомаў, павінна забяспечыць агульныя для ўсяго горада меры па соцыялістычнай рэканструкцыі, добрабыту, развіццю і палепшанню комунальных прадпрыемстваў.

У плане 1936 года найбольш значную ўдзельную вагу маюць комунальныя прадпрыемствы па электрыфікацыі, водаправоду, брукаванню і ўпарадкванню вуліц. Гэтыя асноўныя элементы гарадской гаспадаркі ў 1936 годзе павінны пашырыцца на сецъ гарадоў, дзе расце прамысловасць саюзнага і рэспубліканскага значэння, і не новаарганізаваныя акруговыя цэнтры, бо каштоўнасць жылля зніжаецца, калі ў ім няма святла, вады, калі яно стаіць на неўпарадкванай вуліцы. Таму ўдзельная вага гэтых важнейшых частак комунальнай гаспадаркі ў агульных капіталаўкладаннях займае больш 55%.

Чакаемае выкананне плана 1935 года паказвае значныя зрухі ў комунальна-бытавым абслугоўванні насельніцтва гарадоў БССР. Вось некалькі характэрных лічбаў. Водпуск вады павялічыўся на мільён кубаметраў у год, забрукавана 48 тысяч кв. метраў вуліц і плошчаў, выпрацоўка электраэнергіі па Белэнергатрэсту, які абслугоўвае гарады, і па мясцовых станцыях вырасла за год на 14,5 мільёна кілоўват гадзін. Усё гэта, безумоўна, далёка не забяспечвае сільна ўзросшых запатрабаванняў гарадоў БССР і ў параўнанні з іншымі галінамі народнай гаспадаркі рэзка адстае (асабліва электрыфікацыя) ад аб'ёму развіцця, намечанага планам другой пяцігодкі. Капіталаўкладанні ў водаснабжэнне і электрыфікацыю гарадоў у 1936 г. павінны быць лепш і цалкам асвоены.

У плане 1936 года ставіцца задача ўзмоцненага капітальнага рамонту жыллёвага фонда як па лініі выканкомаў, так і жылкааперацыі. Новай плошчы павінна быць уведзена ў эксплаатацыю не менш 27 тысяч кв. метраў. Трэба сказаць, што ў 1935 г., не гледзячы на вялікую патрэбу ў новым жыллёвым фондзе, зацверджаныя планам капіталаўкладанні скарыстоўваліся нездавальняюча. Рад пабудоў пераходзяць няскончанымі на будучы год.

Тым часам, паводле плана на 1936 г., жыллёвае будаўніцтва павінна расці не толькі за кошт укладанняў па лініі выканкомаў і жылкааперацыі, але і фабрычна-заводскіх прадпрыемстваў. Устаноўка бярэцца на непасрэдную, арганічную сувязь асноўных прадпрыемстваў саюзнай і рэспубліканскай прамысловасці з жыллёвым фондам кожнага данага прадпрыемства. Пры пабудове новых фабрык і заводаў і пашырэнні існуючых буйных прамысловых прадпрыемстваў абавязкова павінны ўключацца ў іх планы капітальныя ўкладанні на жыллёвае будаўніцтва для рабочых і ІТР, што найлепш забяспечыць іх непасрэдныя бытавыя запатрабаванні.

Жыллёвы фонд саюзнай і рэспубліканскай прамысловасці—адзін са сродкаў лепшай арганізацыі рабочых кадраў, ліквідацыі сезон-

насці. У плане 1936 года павінны быць рэзка павялічаны сродкі на жылбудаўніцтва прамысловых прадпрыемстваў супроць лімітаў комунальнай гаспадаркі.

Наркаматы і дзяржорганы да апошняга часу па сутнасці не цікавіліся пытаннем жыллёвага фонду фабрык і заводаў, спадзеючыся на комунальную гаспадарку. Цяпер-жа, пры выключнай увазе к кадрам на аснове гістарычных установак тав. Сталіна, кіраўнікі прамысловых прадпрыемстваў без адгаворак і спасылання на іншыя арганізацыі, павінны моцна ўзяцца за стварэнне фабрычна-заводскага жылфонда, за палепшанне культурна-бытавых умоў усёй рабочай масы. Гэтымі клопатамі павінны быць прасякнуты ўсе планы капіталаўкладанняў у арганічнай сувязі з будоўляй і рэканструкцыяй фабрык і заводаў.

Важнейшай задачай з'яўляецца разгортванне будаўніцтва школ і падрыхтоўка кадраў. У план 1936 года ўключана будаўніцтва 24 школ на 16 тысяч месц у гарадах БССР і 52 сельскія школы на 11 тысяч месц. Гэты агромны ўклад у фонд культуры наглядна сведчыць аб вялікім уздыме масавай вучобы, аб шырокім разгортванні культуры і большэвіцкага выхавання.

Для падрыхтоўкі педагагічных кадраў вызначана будоўля трох вучэбных карпусоў і некалькіх інтэрнатаў, што разам з незаконча̀нымі ў 1935 г. пабудовамі дасць да двух з паловай тысяч месц.

У капітальнае будаўніцтва кіно ўкладаюцца сумы, у два з лішнім разы большыя супроць папярэдняга года. Акрамя новых кінотэатраў, якія будуюцца ў шасці гарадах на 3.800 месц, і двух сельскіх новых кіно, планам намечана пераабсталяванне нямых кіно ў гукавыя і набыццё некалькіх дзесяткаў аўтокінаперасовак, што значна павялічыць магчымасць гукавой кінофікацыі БССР.

Такім чынам план культурнага будаўніцтва ў БССР на 1936 год гаворыць аб далейшым, яшчэ большым росквіце соцыялістычнай культуры, аб глыбокім пранікненні яе ў рабочыя пасёлкі і калгасы ордэнаноснай БССР.

* * *

Гістарычнае рашэнне ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб зніжэнні цэн на хлеб і адмене картачнай сістэмы на прадукты асабліва завастрае пытанне аб рэканструкцыі і пашырэнні тэхнічнай базы гандлю, аб культурным абслугоўванні працоўнага спажыўца, аб найбольш поўнай забяспечанасці гандлёвых баз як сельскай, так і гарадской сеці, баз хлебапячэння і грамадскага харчавання. Акрамя разгортвання культурных, тэхнічна абсталяваных гандлёвых баз і магазінаў, неабходна ўключыць у план арганізацыю калгасных рынкаў, якія павінны адпавядаць запатрабаванням культурнага калгаснага гандлю. У гэтай справе ў нас найбольшая адсталасць, уключаючы і сталіцу Менск. Існуючыя саматужнага тыпу рынкі не адпавядаюць росту тавараздвароту і павышаным запатрабаванням калгаснага гандлю.

Соцыялістычная рэканструкцыя гарадоў, і ў першую чаргу Менска, патрабуе шырокага разгортвання комунальнай і жыллёвай гаспадаркі, асабліва ў галіне будаўніцтва школ, якое па аб'ёму павінна вырасці, па крайняй меры, у тры разы супроць 1935 года.

Каб паспяхова і поўнасцю выканаць план культурна-бытавога будаўніцтва на 1936 год, трэба падрыхтаваць рэзервы будматар'-

ялаў, як след разлічыць іх баланс, рэзка пашырыць вытворчасць будматар'ялаў рэспубліканскай прамысловасці, аж да прамысловасці раёнаў і калгасаў.

Пад будаўніцтва павінна быць падведзена рэальная база, якая залежыць галоўным чынам ад рэспубліканскай і мясцовай прамысловасці будматар'ялаў, ад разгортвання буд'індустрыі. Таму ўсе планы будаўніцтва павінны быць уважліва распрацаваны, асабліва ў галіне балансу мясцовых будматар'ялаў, якія абавязана даць выключна прамысловасць БССР.

У святле гістарычных установак т. Сталіна пытанне аб кадрах павінна заняць першае месца ў кожнай частцы народна-гаспадарчага плана 1936 года.

Звычайна ў нас з выключным спазненнем распрацоўваюцца пытанні аб кадрах, прадукцыйнасці працы, якасных паказчыках вытворчасці і сабекошту, няўважліва і неахайна падыходзяць да выканання гэтых важнейшых раздзелаў плана.

Паказчык прадукцыйнасці працы выводзяць вельмі проста: дзеляць аб'ём вытворчасці на заяўленую колькасць рабочай сілы на плануемы год. Гэтым-жа метадам самацёку, голых арыфметычных дзеянняў вызначаюць колькасць рабочай сілы, неабходнай на вытворчасці.

Распрацоўкі плана па кадрах, працы і яе прадукцыйнасці носяць механічны, заявачны, дзяляцкі характар, замест таго, каб у першую чаргу адлюстраваць у іх дырэктывы нашай партыі, выявіць багацейшыя магчымасці, закладзеныя ва ўсёй арганізацыі социялістычнай гаспадаркі—разгорнутае соцыялістычнае спаборніцтва мас, рух выдатнікаў, стаханаўцаў.

Каб атрымаць больш спрыяючыя адпраўныя моманты па прадукцыйнасці працы, к канцу складання гадавога плана часам прад'яўляюцца запатрабаванні ўключыць у план дадатковыя заяўкі на рабочую сілу. Так, напрыклад, было ў канцы 1934 года са швейнай прамысловасцю Наркаммясцпрома, так паўтарылася і ў бягучым годзе.

Асноўная задача, якая стаіць у 1936 г. перад усімі гаспадарчымі арганізацыямі БССР і ў першую чаргу перад прамысловасцю,—гэта большэвіцкая барацьба за **сталыя кваліфікаваныя кадры рабочых.** Не толькі ў тых галінах вытворчасці, якія носяць сезонны характар (торф, будматар'ялы, буд'індустрыя), але ў ільнянай, а таксама ў радзе іншых, наглядаецца вялікая цякучасць, тэхнічная няграматнасць рабочай сілы, што тармозіць правільную арганізацыю вытворчасці. Надзвычай вяліка залежнасць правільнай арганізацыі вытворчасці ад кадраў сталых кваліфікаваных рабочых, асваення механізмаў, работы ўнутрызаводскага транспарта. Сезонныя, непадрыхтаваныя, арганічна не звязаныя з прадпрыемствам рабочыя не толькі даюць значна меншую прадукцыйнасць, але адмоўна ўплываюць і на ўсю арганізацыю вытворчасці.

Цяпер, напярэдадні 1936 года, як у плане, так і ў аперацыйнай падрыхтоўцы, павінна быць пастаўлена задача—стварыць сталыя кадры рабочых, арганізаваць іх падрыхтоўку не толькі на фабрычна-заводскіх прадпрыемствах, якія працуюць круглы год, але і ў «сезонных» галінах прамысловасці. Нашы гаспадарнікі абавязаны ўзяцца за арганізаваны набор рабочай сілы, у тым ліку на торф, на цагельныя заводы, на будаўніцтва. Рабіць гэта трэба не ў парадку

самацёку або адміністрацыйнага загаду-«нарада» ад райвыканкомаў, а так, як вучыў тав. Сталін,—арганізавана набіраць рабочую сілу ў калгасах, заключаць з імі дагавары, браць на сябе абавязацельства падрыхтаваць завербаваных рабочых, прадставіць ім неабходныя культурна-бытавыя ўмовы. У 1936 годзе мы абавязаны цалкам пазбявіцца «грымас» вярбоўкі, што звычайна наглядалася ў раёнах пры наборы рабочай сілы для сезонных работ. Прамысловасць будматар'ялаў, буд'індустрыі павінна мець сталыя кадры падрыхтаваных рабочых для круглагадовай працы.

Правільны набор рабочай сілы, арганізацыя яе падрыхтоўкі, стварэнне сталых кадраў, ліквідацыя сезоннасці і сезонных настрояў, сістэматычная ўпартая барацьба за найлепшыя кадры—вось галоўнейшыя задачы народнагаспадарчага плана на 4 год другой пяцігодкі.

План 1936 года павінен выключыць спробы механічнага награмаджэння розных заявак у наркаматы, што яшчэ далёка не зжыта ў практыцы гаспадарнікаў. Трэба дакладна выканаць патрабаванні партыі і ўрада аб праграме будаўніцтва на 1936 год, аб найбольш поўным асваенні капіталаўкладанняў, пуску новых пабудоў, ліквідацыі беспраектнага і бескаштарыснага будаўніцтва.

У 1936 годзе мы павінны ўвесці ў эксплаатацыю значна большую колькасць аб'ектаў, чым у папярэднія гады, кожны ўкладзены ў будоўлю рубель павінен даваць усё большы і большы эфект.

Падрыхтоўку да будаўніцтва трэба пачаць яшчэ сёлета, каб з першых-жа дзён новага года яно разгарнулася па ўсёй лініі. У чацвертым годзе другой пяцігодкі нельга адкладаць пачатку будаўніцтва на другую палову года, як гэта было дапушчана сёлета. Совецкая дзяржава ўкладае велізарныя сродкі ва ўсе галіны будаўніцтва, каб хутчэй і паўней ажыццявіць план вялікіх работ і тым самым выканаць заданні XVII з'езда партыі аб яшчэ большым росце матар'яльнага і культурнага ўзроўню рабочых і калгаснікаў.

Народна-гаспадарчы план 1936 года мае велізарнае значэнне для паспяховага выканання ўсяго плана другой пяцігодкі. Распрацоўка ўсіх яго элементаў павінна быць праведзена своечасова і з асаблівай увагай. К пачатку новага гаспадарчага года планы павінны быць не толькі зацверджаны, але і даведзены да кожнага прадпрыемства, да кожнага раёна.

Агромныя рэзервы, якія мае ў сваім распараджэнні народная гаспадарка БССР, мы павінны максімальна выкарыстаць у 1936 годзе, каб паскорыць тэмпы развіцця як прамысловасці, так і сельскай гаспадаркі і забяспечыць не толькі выкананне, але і перавыкананне пяцігадовага плана.

План павінен арганізаваць масы на барацьбу за высокія тэхніка-эканамічныя паказчыкі, за мабілізацыю рэзерваў на выкананне волі партыі, выражанай у пастановах яе XVII з'езда. Глыбока прадуманая, разгорнутая праграма асваення перадавых тэхнічных дасягненняў, высокіх нарматываў выкарыстання машын і абсталявання будзе вырашана з поспехам толькі пры ўмове барацьбы за кадры, за людзей, аўладаўшых тэхнікай, бясконца адданых справе соцыялістычнага будаўніцтва.

Планавая сістэма разам з усімі гаспадарчымі органамі павінна цалкам і безагаворачна забяспечыць рэалізацыю ўказанняў тав. Сталіна, выражаных у гістарычнай прамове аб кадрах.

Л. Готфрыд

# Прамысловасць БССР к 18 гадавіне Окцябрскай рэволюцыі

Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка, як і ўвесь Совецкі саюз, сустракае 18-ю гадавіну Окцябрскай рэволюцыі велізарнейшымі перамогамі на ўсіх фронтах соцыялістычнага будаўніцтва. На працягу апошніх год Беларусь высунулася ў рады самых перадавых рэспублік і абласцей вялікага Совецкага саюза і за выдатныя поспехі атрымала высокую ўзнагароду—ордэн Леніна.

Узнагароджанне БССР і яе кіраўнікоў—таварышоў Гікало і Галадзеда—ордэнам Леніна з'яўляецца знамянальнаю вехай на гістарычным шляху, пройдзеным нашай рэспублікай ад адсталай аграрнай, цёмнай і забітай калоніі былой царскай Расіі да перадавой квітнеючай індустрыяльна-аграрнай соцыялістычнай рэспублікі.

БССР дабілася гэтых велізарнейшых поспехаў і перамог ў выніку правільнага правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі і сістэматычнай дапамогі пролетарыята ўсяго Совецкага саюза, у выніку гераічнай барацьбы працоўных мас БССР, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, на чале з тав. Гікало, за ажыццяўленне генеральнай лініі партыі, указанняў правадыра партыі і ўсіх працоўных—тав. Сталіна.

За 18 год барацьбы партыі і працоўных мас карэнным чынам змяніўся твар нашай рэспублікі. На тэрыторыі БССР выраслі новыя, буйныя соцыялістычныя прамысловыя прадпрыемствы, *калгасы* і соўгасы, якіх не ведала былая акраіна царскай Расіі.

Царская каланіяльна-эксплаататарская ўлада не цікавілася развіццём прамысловасці і культурным будаўніцтвам акраін. Яна ўсю сваю палітыку накіравала на прыгнечанне нацменшасцей, максімальна ўзмацняючы эксплаатацыю ва ўгоду буржуазіі і капіталістаў.

Дарэволюцыйная прамысловасць Беларусі, як і ўсіх іншых населеных нацменшасцямі акраін, складалася пераважна з дробных саматужных прадпрыемстваў. На 4.700.000 насельніцтва (ў межах сучаснай Совецкай Беларусі) у 1913 годзе налічвалася ўсяго каля двух дзесяткаў тысяч рабочых, занятых пераважна ў рамеслена-саматужных прадпрыемствах. Удзельная вага прадукцыі прамысловасці ва ўсім нацыянальным даходзе складала 4,9 проц.

За гады імперыялістычнай і грамадзянскай вайны, дзякуючы гаспадаранню акупантаў—немцаў і белапалякаў—жабрацкая прамысловасць Беларусі была зведзена амаль на нішто. Такую спадчыну атрымала совецкая ўлада ад капіталістаў—эксплаататараў былой царскай Расіі.

* * *

Совецкая ўлада, пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў, ажыццяўляючы ленінска-сталінскую нацыянальную палітыку, накіравала ўсе свае намаганні на тое, каб ліквідаваць эканамічную адсталасць, узняць эканоміку і гаспадарку БССР да ўзроўню перадавых раёнаў і абласцей Совецкага саюза.

Прамысловасць БССР з года ў год расла і развівалася. За апошнія сем-восем год прамысловасць Беларусі ўзрасла гіганцкі. Уласна кажучы, яна пабудавана занова, бо нельга лічыць за сур'ёзную прамысловасць дробныя саматужныя майстэрні, якія цягнулі мізэрнае існаванне ў гарадах і мястэчках «чарты аседласці» і каланіяльнага прыгнечання рускім ваенна-феадальным імперыялізмам.

Пасля аднаўлення і рэканструкцыі старых прадпрыемстваў прадукцыя прамысловасці БССР ужо ў 1927-28 гг. у параўнанні з 1913 годам падвоілася і дасягала 241 мільёна рублёў. У 1934 годзе прадукцыя прамысловасці вырасла супроць даваеннай прадукцыі 1913 года больш як у 9 раз і складала ўжо суму 1.293 млн. руб., што ў агульнай колькасці прадукцыі прамысловасці і сельскай гаспадаркі дае 67—68 проц.

Пры агульным бурным уздыме індустрыяльнага развіцця ўсяго Совецкага саюза ўдзельная вага прадукцыі цэнзавай прамысловасці БССР у агульнасаюзнай з года ў год павялічаецца. Калі ў 1922-23 гг. яна складала 1,6%, то ўжо ў 1932 г. узнялася да 2,3%. Тэмпы індустрыялізацыі БССР, у параўнанні з бурнымі тэмпамі па ўсяму Саюзу, значна вышэй, дзякуючы чаму Совецкая Беларусь становіцца ў рады перадавых індустрыяльных рэспублік і абласцей Совецкага саюза.

За 18 год у БССР вырас рад зусім новых галін прамысловасці, якіх не ведала не толькі дарэволюцыйная Беларусь, але і ўся царская Расія (выпрацоўка штучнага шоўку—Магвалакно, ацэтованая, каніфольная, тарфяная прамысловасць і рад іншых).

Пасля Окцябрскай рэволюцыі ў Совецкай Беларусі пабудаваны сотні новых, абсталяваных высокай тэхнікай прадпрыемстваў. Усім вядомы такія гіганты заводы і фабрыкі ўсесаюзнага значэння, як Гомсельмаш, Гомельскі шклозавод імя Сталіна—адно з буйнейшых прадпрыемстваў шклянай прамысловасці Саюза, Крычаўскі цэментны завод, Барысаўская запалкавая фабрыка імя Кірава, Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат, Магвалакно, Быхаўскі ацэтованы завод, віцебская швейная фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі», «КІМ», «Окцябр», Белдрэс і т. д.

Гэты спіс буйнейшых, абсталяваных навейшай сучаснаю тэхнікай прадпрыемстваў, на кожным з якіх працуе па некалькі тысяч рабочых, можна было-б значна прадоўжыць. Акрамя таго, мы маем рад рэканструяваных прадпрыемстваў. Напрыклад, па металапрамысловасці:

Завод імя Варашылава ў Менску (машынабудаўніцтва і станкабудаўніцтва).

Завод імя Кірава (Менск)—станкабудаўніцтва.
Завод імя Кірава (Гомель)—машына і станкабудаўніцтва.

Завод імя Кірава (Віцебск)—станкі, радзіятары і т. д.
Завод імя Дзімітрава (Магілеў)—металаапрацоўка.

Трынаццаць металаапрацоўчых заводаў (цвікі, метызы).

Акулярная фабрыка ў Віцебску.

У гэтай галіне прадпрыемстваў за апошнія гады адбываўся працэс вялікага росту вытворчай культуры, які знашоў сваё, так сказаць, матар'яльнае выражэнне ў асваенні раду тыпаў станкоў (першымі з чатырох названых заводаў). Больш таго, удзельная вага станкабудаўніцтва БССР у агульнасаюзнай ужо цяпер даходзіць да 16%, а к 1937-40 гг. прамысловасць БССР будзе выпускаць з 40.000 агульнасаюзнай вытворчасці звыш 5.000 станкоў.

Былі ў нас людзі, якія лічылі, што металапрамысловасць БССР не павінна займацца станкабудаўніцтвам, што яе ўдзел—быць **толькі** рамонтнаю базай нашай прамысловасці. Гэтым людзям з Дзяржплана БССР (трацкіст Галендо) КП(б)Б дала рашучы адпор.

У металапрамысловасці БССР выраслі кадры выдатных кваліфікаваных рабочых, майстраў, брыгадзіраў, начальнікаў цэхаў, дырэктароў. Зараз мы можам сказаць, што з такімі кадрамі нашы заводы вельмі хутка могуць асвоіць самыя складаныя машыны, станкі і іншае абсталяванне.

За гэтыя гады, разам з ростам прамысловасці, гіганцкі вырасла энергетычная і паліўная база народнай гаспадаркі БССР. Пабудаваны такія магутныя электрастанцыі як БелДРЭС імя Сталіна на 24.000 квт., Менская ЦЭЦ—6000 квт., Магілеўская—5000 квт. і рад іншых. Магутнасць ўсіх электрастанцый за апошнія 7 год павялічылася больш як у 5 раз: з 14,4 тысяч квт. у 1927-28 гг. да 74,5 тыс. квт. у 1934 г. Выпрацоўка электраэнергіі—з 37,3 млн. кілават-гадзін у 1927-28 гг., да 251 млн. у 1934 годзе,—больш як у 6 раз.

Выключныя дасягненні мы маем ў развіцці торфаздабычы—гэтай асноўнай паліўнай базы БССР. Торфаздабываючая прамысловасць, якой зусім не ведала дарэволюцыйная Беларусь, к 18 гадавіне Кастрычніцкай рэволюцыі вырасла ў магутную прамысловую галіну. Торф у паліўным балансе нашай прамысловасці з кожным годам займае ўсё большую ўдзельную вагу, замяняючы сабой дарагое прывознае паліва—каменны вугаль і нафту. За апошнія пяць год ўдзельная вага торфу амаль падвоілася і ў 1934 годзе складала 23,7 проц. замест 14,1 проц. у 1930 годзе. Яшчэ больш ярка гэта кідаецца ў вочы, калі ўзяць лічбовыя даныя за апошнія пяць год. У 1930 г. торф у паліўным балансе промтэхгрупы БССР складаў 125 тыс. тон., у 1934 г. гэтая лічба ўзрасла да 806 тысяч тон. Усяго ў 1934 г. для патрэб народнай гаспадаркі БССР здабыта 1.367 тысяч тон. Па плану 1935 г. намечана здабыць 1.686 тыс. тон паветрана-сухога торфу, здабыта-ж па I/X—35 г. 1.722,5 тыс. тон.

Па багаццю тарфяных залежаў БССР справядліва можа быць названа «тарфяным Данбасам», бо мае невычэрпныя запасы на плошчы звыш 462 тыс. га., асваенне якіх—адна з адказнейшых задач БССР, што з усёй выразнасцю адзначыў тав. Куйбышэў у сваім дакладзе на XVII з'ездзе партыі:

«Важнейшай задачай другой пяцігодкі БССР з'яўляецца рэзкае палепшанне паліўнага баланса рэспублікі ў напрамку павелічэння долі мясцовага віду паліва, **у прыватнасці торфу**».

Разам з ростам дзяржаўнай і мясцовай значна ўзрасла прадукцыя саматужнай прамысловасці. Сістэма Белсампромсаюза ў 1933 годзе дала прадукцыі на 118.127,1 тыс. руб., у 1934 г.—на 152.677,3 тыс. руб., а ў 1937 годзе—апошнім годзе другой пяцігодкі—саматужная прамысловасць БССР дасць прадукцыі не менш як на 248.061 тыс. руб.

У БССР, як і ва ўсім Совецкім саюзе, ужо даўно ліквідавана беспрацоўе. Побач з буйным ростам прамысловасці нябачана вырас і пролетарыят. Калі ў дарэволюцыйнай Беларусі па ўсіх прадпрыемствах налічвалася ўсяго каля двух дзесяткаў тысяч рабочых, то ў 1934 годзе ў прамысловасці Совецкай Беларусі было занята 145.000 рабочых, і з кожным месяцам іх колькасць ўзрастае. З агульным ростам прамысловых рабочых няўхільна растуць рады беларускага пролетарыята з карэнных нацыянальнасцей. Ва ўсёй прамысловасці рабочых беларусаў занята 82%.

Выраслі таксама шматлікія прамысловыя інжынерна-тэхнічныя кадры: з 5047 чал. у 1932 г. да 6836 чал. у 1934 г. У вышэйшых і сярэдніх навучальных установах навучаецца зараз каля 10.000 чал. замест 4.425 чал. у 1931 годзе.

Агульны рост социялістычнай прамысловасці і сельскай гаспадаркі выклікаў магутны ўздым экономікі Совецкага саюза. Хуткім тэмпам расце і паляпшаецца матар'яльна-бытавое становішча рабочых. Клопаты аб жывых людзях, аб кадрах—у цэнтры ўвагі партыі і совецкай улады. Усе мерапрыемствы партыі і ўрада накіраваны на далейшае палепшанне матар'яльна-культурнага становішча працоўных мас вялікага Совецкага саюза.

Адмена ў студзені 1935 года картачнай сістэмы на хлеб і некаторыя іншыя прадукты, рашэнне ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 26/IX аб адмене нармаванага водпуску на ўсе мясныя і тлушчавыя прадукты, паніжэнне цэн на хлеб і іншыя прадукты—усё гэта стварае ўмовы для яшчэ больш хуткага палепшання матар'яльнага і культурна-бытавога становішча працоўных, бо цесна звязана з павышэннем рэальнай заработнай платы.

Гэтыя рашэнні партыі і ўрада з'яўляюцца паказчыкам буйнейшых перамог і поспехаў, дасягнутых комуністычнай партыяй і совецкай уладай у барацьбе за выкананне задач другой пяцігодкі аб павышэнні ўзроўню спажывання працоўных у 2—3 разы ў параўнанні з першай пяцігодкай. Яны ствараюць новы стымул далейшага ўздыму прадукцыйнасці працы і вытворчага энтузіязма сярод шырокіх мас працоўных, што паскарае пабудову социялізма ў нашай краіне.

Стаханаўскі рух, які шырока разгортваецца па ўсяму Совецкаму саюзу, з'яўляецца паказчыкам агромнага энтузіязма будаўнікоў социялізма, наяўнасці велізарных рэзерваў і магчымасцей далейшага гіганцкага росту прадукцыйнасці працы.

У бязлітаснай барацьбе з класавым ворагам і яго агентурай, з рэшткамі контррэволюцыйнага трацкізма, правага апартунізма і контррэволюцыйным нацыяналізмам усіх колераў і масцей партыя большэвікоў, пад кіраўніцтвам правадыра ўсіх працоўных—вялікага Сталіна, выкрыла і разбіла ушчэнт усе контррэволюцыйныя тэорыі аб немагчымасці пабудовы социялізма ў адной краіне, аб немагчымасці індустрыялізацыі краіны і перабудовы сельскай гаспадаркі на социялістычнай аснове.

Генеральная лінія партыі перамагла на ўсіх фронтах соцыялістычнага будаўніцтва. Наша краіна ператворана ў передавую індустрыяльную з буйнай соцыялістычнай сельскай гаспадаркай. Соцыялізм ў СССР перамог канчаткова і беспаваротна.

* * *

К 18 гадавіне Окцябрскай рэволюцыі мы маем агромныя дасягненні, аднак супакоіцца на іх не можам. Перад намі стаяць яшчэ большыя задачы ў выкананні плана апошніх год другой пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Вялікая ўзнагарода—ордэн Леніна—абавязвае большэвікоў Беларусі працаваць яшчэ лепш і з большай напружанасцю, каб з яшчэ бсльшым поспехам выканаць агромныя задачы другой пяцігодкі.

Прамова тав. Сталіна на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі знамянуе сабой новую гістарычную паласу ў развіцці нашай краіны. За 18 год СССР ператворан у магутную індустрыяльную краіну з передавой першакласнай прамысловасцю, у краіну буйнай абагуленай соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, узброенай передавой сельскагаспадарчай тэхнікай.

> «Мы зжылі ўжо ў асноўным перыяд голаду ў галіне тэхнікі. Але, зжыўшы перыяд голаду ў галіне тэхнікі, мы ўступілі ў перыяд, я-б сказаў, голаду ў галіне людзей, у галіне кадраў, якія ўмеюць асядлаць тэхніку і рушыць яе наперад... Упор павінен быць зроблен цяпер на людзях, на кадрах, на работніках, аўладаўшых тэхнікай. Вось чаму стары лозунг—«Тэхніка вырашае ўсё», які з'яўляецца адлюстраваннем ужо пройдзенага перыяда, калі ў нас быў голад у галіне тэхнікі,—павінен быць цяпер заменен новым лозунгам, лозунгам аб тым, што «кадры вырашаюць усё». У гэтым цяпер галоўнае» **(Сталін).**

Увага і клопаты аб жывых людзях, аб кадрах на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва, вырошчванне партыйных кадраў, арганізатараў мас на выкананне задач другой пяцігодкі, шырокае разгортванне стаханаўскага метада работы, як вышэйшай формы соцыялістычнага спаборніцтва—рашаючая ўмова нашых далейшых *перамог*. Ад вырашэння гэтай задачы залежаць і далейшыя поспехі ўсёй нашай работы.

* * *

Планам другой пяцігодкі прадугледжана далейшая індустрыялізацыя Совецкай Беларусі. Агульная сума капіталаўкладанняў у прамысловасць вызначана ў размеры 1.647,12 млн. рублёў. Асваенне гэтай сумы, побач з выкананнем вытворчага задання па выпуску, палепшанню якасці і зніжэнню сабекошту прамысловай прадукцыі патрабуе напружанай барацьбы.

Акрамя таго, перад намі стаіць задача—выкарыстаць поўную вытворчую магутнасць усіх новапабудаваных і рэканструяваных фабрык і заводаў і ператварыць іх у рэнтабельныя соцыялістычныя прадпрыемствы.

У гэтым годзе ўся прамысловасць БССР за дзесяць месяцаў работы дабілася значных поспехаў у выкананні плана. Па колькасных паказчыках план 1935 года за 9 месяцаў, уключаючы і саюзную прамысловасць, выканан на 74,8%, выпушчана прадукцыі на 22,2%

больш супроць адпаведнага перыяда мінулага года. Прычым, па саюзнай прамысловасці гадавы план за 9 месяцаў выканан на 74,0%, а па рэспубліканскай—на 75,9%, у тым ліку прамысловасцю Наркаммясцпрома—на 75,8%. Асабліва высокія тэмпы выканання промфінплана меліся ў III квартале—104,5 проц. і за верасень месяц—108,0%, што ў значнай меры выраўняла выкананне гадавога плана за ўсе тры кварталы. Аднак, не гледзячы на тое, што рэспубліканскія лічбы на першы погляд ствараюць уражанне, нібы выкананне промфінплана ўсёй прамысловасцю БССР ідзе здавальняюча; не гледзячы на тое, што план III квартала перавыканан, усё-ж трэба сказаць з усёй большэвіцкай праматою, што ў гэтай справе ў нас не ўсё яшчэ добра. Паасобныя галіны прамысловасці не выконваюць не толькі якасных, а нават і колькасных паказчыкаў.

Калі ўгледзецца глыбей, то можна бачыць, што за сярэднімі рэспубліканскімі лічбамі крыюцца прадпрыемствы і паасобныя галіны прамысловасці, якія ганебна адстаюць у выкананні промфінплана на 1935 год.

Па саюзнай прамысловасці адстае ў выкананні плана прамысловасць Наркамлегпрома, выканаўшая гадавы план за дзевяць месяцаў (студзень—верасень) усяго на 69,1%, тады як прамысловасць Наркамцяжпрома за гэты-ж перыяд дала выкананне гадавога плана на 82,3%, а машынабудаўнічая (сельгасмашыны)—на 87,7 проц.

Па сістэме Наркаммясцпрома побач з перадавымі ёсць сістэматычна ганебна адстаючыя галіны прамысловасці.

**Выкананне плана 1935 г. прадпрыемствамі сістэмы Наркаммясцпрома (у %%):**

| Галіны прамысловасці | За 9 месяцаў | За III кварт. | За верасень месяц |
|---|---|---|---|
| Адстаючыя: | | | |
| Хімічная | 42,3 | 85,2 | 78,5 |
| Горнахімічная | 49,0 | 48,0 | 45,2 |
| Чорнай металургіі | 54,2 | 70,5 | 80,9 |
| Пенька-джутавая | 51,9 | 53,1 | 33,3 |
| Маслабойная | 55,4 | 111,5 | 134,8 |
| Мылаварная | 22,8 | 13,9 | — |
| Перадавыя: | | | |
| Лясная | 85,0 | 120,6 | 134,3 |
| У тым ліку мэблевая | 87,5 | 130,9 | 144,6 |
| Машынабудаўнічая і Металаапрацоўчая | 84,8 | 103,8 | 106,2 |
| Паліграфічная | 80,0 | 107,8 | 111,0 |

Прыведзеныя вышэй лічбовыя даныя з усёй нагляднасцю паказваюць, што рад галін прамысловасці і паасобныя прадпрыемствы га-

небна адстаюць у выкананні промфінплана. Заводакіраўніцтвы, партыйныя і профсаюзныя арганізацыі і адпаведныя трэсты не змаглі мабілізаваць шырокія масы рабочых на барацьбу за выкананне промфінплана, не праявілі ініцыятывы ў ліквідацыі прарыву, замест большэвіцкай барацьбы за выкананне плана, пусцілі справу на самацёк, і ў выніку прыходзяць к 18 гадавіне Окцябрскай рэволюцыі з ганебнымі паказчыкамі.

З паасобных наркаматаў уперадзе ідзе прамысловасць Наркамлеса, якая за III квартал выканала план на 106,1% і за 9 месяцаў гадавы— на 82,0%. Ганебна адстае прамысловасць Наркамата ўнутранага гандлю, якая за III квартал дала 66,3% і за 9 месяцаў гадавога плана толькі 28,2%. Следам за ёю адстае прамысловасць Камзага пры СНК БССР, якая план III квартала выканала на 88,9% і гадавы—на 72,7%.

Прадпрыемствы БССР вельмі адсталі ў галіне вырабу прадметаў шырокага спажывання, асабліва ў якасці, апрацоўцы і разнавіднасці асартымента. Толькі Віцебская акулярная фабрыка ў гэтых адносінах дабілася добрых паказчыкаў. Такі сур'ёзнейшы прарыў у рабоце металапрамысловасці трэба ліквідаваць як найхутчэй.

Трэба сказаць, што адставанне металапрамысловасці ў гэтай галіне—**не навіна.** Аб гэтым ужо не раз гаварылася кіраўнікам заводаў і трэстаў. Але справа пачынае паходзіць на пустую балбатню, калі дырэктары прадпрыемстваў, трэстаў і апарата Наркаммясцпрома не прымаюць канкрэтных арганізацыйных мер для пашырэння асартымента шырспажыву, хоць высокаякасных метызаў у нас вельмі многа.

Трэба арганізаваць выстаўку метызавых вырабаў, увязаўшы гэтае пытанне з вытворчасцю, і сачыць за кожным вырабам паасобку, патрабуючы ад кожнага прадпрыемства БССР, каб у сваім рапарце аб выкананні промфінплана яно ўказвала не толькі цыфру, але і падавала яе ў **асартыментным разрэзе.**

Газеты нашы павінны сачыць за гэтым. Трэст, планавы апарат, наркаматы павінны змагацца за безумоўнае выкананне гэтай баявой задачы. Не да твару нашым беларускім металістам, якія маюць у сваім распараджэнні найлепшыя станкі і машыны, выпускаюць дрэнны метыз, часта па ўзорах 1923 года.

Востра перад намі стаіць пытанне аб Гомсельмашы. Трэба ліквідаваць дыспрапорцыю паміж яго цэхамі, бо адны нагружаны на 100%, другія на 40%, і тады яго вытворчасць вырасце гіганцкі.

За развіццё Гомсельмаша павінны моцна змагацца гомельскія арганізацыі, бо гэта прадпрыемства, аснашчонае самай перадавою тэхнікай, мае як для Гомеля, так і для ўсёй БССР, агромнае народна-гаспадарчае значэнне.

* * *

У справе разгортвання совецкага гандлю і забяспечання працоўных высокаякаснымі промтаварамі вялікую ролю адыгрывае лёгкая прамысловасць. Такія яе галіны, як швейная і скурабутковая, створаны фактычна пасля Окцябра. Сюды адносяцца швейныя фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі» (Віцебск), «Окцябр» (Менск), імя Дзержынскага (Бабруйск), «Профінтэрн» (Віцебск), імя Варашылава (Магілеў), імя Крупскай (Менск) і інш.; скурзаводы «Большэвік» (Менск),

імя Сталіна (Магілеў), фабрыка імя Кагановіча (Менск), імя Лекерта (Віцебск).

Абедзве гэтыя галіны па кошту прадукцыі займаюць вялікае месца ў рэспубліканскай прамысловасці.

Можна сказаць, што тэхнічнае абсталяванне гэтых галін прамысловасці мы асвойваем нядрэнна, але якаснай праблемы яшчэ не вырашылі. Швейныя вырабы, акрамя дамскага паліто (фабрыка «Окцябр»), мужчынскага касцюма (фабрыка «Комінтэрн»—Гомель) і некаторых вырабаў «Профінтэрна», на-жаль, яшчэ невысокай якасці. Такія, напрыклад, рэчы, як бялізну, фабрыка імя Крупскай выробляе ніжэй па якасці, чым з горшага матар'ялу маскоўскія саматужнікі. На гэту тэму было больш як трэба гутарак, дырэктары не раз давалі сур'ёзныя абяцанні, аднак рэзультаты пакуль што слабыя.

Трэба, нарэшце, зразумець, што пытаннем якасці нельга займацца ад выпадку да выпадку, у барацьбе за якасць нельга кіравацца сярэднімі лічбамі выканання плана цэхамі і нават зменай. Выпуск высокай якасці прадукцыі трэба добра арганізаваць, устанавіўшы за ёю штодзенны кантроль.

Трэба ўлічваць работу кожнага рабочага на кожнай аперацыі, арганізаваць рух выдатнікаў якасці за стаханаўскі метад у рабоце—гэты вышэйшы від соцыялістычнага спаборніцтва. Штодзенна, штогадзінна мабілізоўваць увесь калектыў на выкананне якасных паказчыкаў—першачарговая задача заводакіраўніцтва, партыйных і профсаюзных арганізацый, усіх прамысловых прадпрыемстваў нашай рэспублікі. Газеты, партыйна-масавая і профработа—усё гэта павінна быць арганізавана вакол задачы: «даць працоўным нашай выдатнай соцыялістычнай радзімы высокаякасныя, зграбныя, добротныя рэчы».

Барацьба за якасць—не менш удзячная задача, чым барацьба за 100% выкананне плана па колькасці. Найвялікшы гонар для ўсяго калектыва фабрыкі—падзяка працоўнага спажыўца за добраякасны тавар.

Па прадпрыемствах скураных таксама востра стаіць пытанне аб якасці і ў першую чаргу афарбоўцы скур. Скуры вытворчасці завода «Большэвік» нярэдка аблязаюць пасля першага дажджу. Скургалантарэя Кустпромкааперацыі (фабрыкі «Усход», імя Фрунзе) павінна значна пашырыць свой асартымент і павялічыць колькасць выпуску на рынак высокаякаснай галантарэі.

Абутковая і швейная галіны прамысловасці Беларусі стаяць перад новым велізарным уздымам. Развіць гэты ўздым—баявая задача скураніка і абутнікаў БССР.

*
* *

Асобае месца ў прамысловасці БССР займае лес і яго апрацоўка (папера, фанера, запалкі, піламатар'ялы, мэбля, гідроліз драўніны, стандартныя дамы, вазы, калёсы і т. д.). Гэта разнастайная група прадпрыемстваў сільна развілася пасля Окцябрскай рэволюцыі. Па апошняму слову тэхнікі пабудаваны ў нас дрэваапрацоўчыя гіганты:

Бабруйскі камбінат (будаўнічыя дэталі, стандартныя дамы, фанера, высокаякасная тара, пілаваны лес і т. п.).

Гомельскі камбінат імя Гікало (піламатар'ялы, вазы, колы, мэбля).

Завод імя Молатава ў Менску.

Завод № 13 у Віцебску.

Завод імя Томскага ў Рэчыцы, і многа іншых фанерных заводаў (да рэчы, БССР ва ўсесаюзным конкурсе фанерных заводаў заняла першае месца).

Запалкавая фабрыка «Х Окцябр» у Рэчыцы (трымае ўсесаюзнае пяршынства).

Запалкавая фабрыка «Пролетарская перамога» у Барысаве (першая ў Саюзе пасля фабрыкі «Х Окцябр»).

Запалкавая фабрыка «Везувій» у Гомелі.

Гідролізны завод, які будуецца ў Бабруйску.

Нарэшце—старыя, карэнным чынам рэканструяваныя прадпрыемствы папяровай прамысловасці: фабрыка «Герой працы» у Добрушы, «Чырвоная зорка» у Чашніках, «Спартак» у Шклове, картонная фабрыка і дрэўмасавы завод у Рагачове.

Леспрамгасы (звыш пяцідзесяці), механізаваныя лесапункты, сплаўныя пункты, сплаўны флот.

У лясной дрэваапрацоўчай прамысловасці Беларусі заняты многія дзесяткі тысяч рабочых і служачых. У рэзультаце свайго развіцця лясная і дрэваапрацоўчая прамысловасць БССР стала адыгрываць вельмі буйную ролю ў эканоміцы нашага вялікага Совецкага саюза. Так, напрыклад, шахты Донбаса атрымліваюць руда-стойкі з Беларусі. 30—40% экспарта запалак і фанеры ідзе з нашых заводаў; 25% усіх сшыткаў дае БССР (Добруш і друкарня Палесдруку ў Гомелі). Усе 74 школы-палацы, пабудаваныя ў гэтым годзе ў Маскве, аснашчоны рамамі і дзвярыма вытворчасці Бабруйскага камбіната. Мэбля завода імя Молатава ідзе па ўсяму Саюзу. Стандартныя дамы (брусчатыя) нашай вытворчасці можна сустрэць і на суровай Камчатцы і ў трапічным Сталінабадзе—сталіцы брацкага Таджыкістана. Папера, картон, піламатар'ялы ідуць ва ўсе канцы СССР. На месцы драпежніцкага прамысловага лесасплаву і купецкіх распрацовак дарэволюцыйнага часу працоўныя БССР з дапамогай саюзнага пролетарыята стварылі сваю буйную лясную індустрыю.

Але гэта толькі першы крок. БССР за апошнія два гады правяла вялікую барацьбу за асваенне новай тэхнікі сваіх прадпрыемстваў і дабілася ўжо бясспрэчна вялікіх поспехаў. Прадпрыемствы па вытворчасці паперы, мэблі, піламатар'ялаў, фанеры, запалак ужо *амаль* год як без прарываў, з месяца ў месяц выконваюць план. Аднак не ўсё яшчэ добра ў леспрамгасах і на сплаве. Па-варварску, некультурна пастаўлена тут справа. Гістарычныя ўказанні тав. Сталіна аб уважлівых і чулых адносінах да людзей, аўладаўшых тэхнікай, амаль не праводзяцца ў жыццё леспрамгасамі БССР, што з'яўляецца асноўнай прычынай адставання гэтага ўчастку.

Шкляная прамысловасць БССР мае яшчэ старыя і новыя, аснашчоныя самай перадавой тэхнікай (гомельскі шклозавод імя Сталіна) прадпрыемствы. Год таму назад усе яны ганебна і безнадзейна адставалі. Але ўзяўся за шкляную прамысловасць ЦК ВКП(б) і СНК Саюза, і разгарнулася барацьба за асваенне новай тэхнікі. У выніку ўсе шкляныя прадпрыемствы БССР, на чале з гомельскім заводам імя Сталіна, могуць цяпер ганарыцца, бо выконваюць свой план. Перад імі стаяць зараз вялікія задачы якаснага парадку, агромныя перспектывы далейшага росту. Вадкае, люстэркавае, аптычнае шкло для Віцебскай акулярнай фабрыкі, сервізныя вырабы, высокагатунковая пасуда—усё гэта ў бліжэйшы час павінны даць нам шклоўшчыкі БССР у вялікай колькасці і высокай якасці.

За апошні час Віцебскай акулярнай фабрыкай выпушчаны першыя ўзоры тэатральных бінокляў. Тав. Гікало горача ўхваліў ініцыятыву дырэктара фабрыкі т. Галузо. Завод імя Молатава пачаў вырабляць добрыя поўнацэнныя піяніно. Прамысловасць БССР вырабляе ўжо не мала зграбных рэчаў хатняга ўжытку, і гэтую справу мы павінны разгарнуць яшчэ шырэй.

Таварышы шклоўшчыкі не могуць паскардзіцца на няўвагу да іх партыі і ўрада—іх дасягненні высока ацэнены. Пяць дырэктароў шклозаводаў узнагароджаны граматамі ўрада БССР. Становішча рабочых шклоўшчыкаў рэзка палепшылася, асабліва за апошні год. Новая сістэма зарплаты цалкам апраўдала сябе. Як ніколі шырока выраслі культурныя запатрабаванні. Клуб, драмгурток, газеты, добрая лекцыя, кіно, граматны даклад, каткі, парк, лодачная станцыя, тэніс, радыё, патэфон, більярд, культурнае кафэ або чайная—неабходны на кожным заводзе. Нельга сказаць, каб усе дырэктары зразумелі гэтыя вострыя запатрабаванні культурнага абслугоўвання рабочых. Яны павінны тэрмінова перабудавацца, і тады наша шкляная прамысловасць яшчэ больш хутка рушыць угору.

Харчовая прамысловасць Беларусі моцна ўзнялася за мінулы год. Аднак рад вельмі сур'ёзных яе галін яшчэ не ўдалося нам як след наладзіць. На буйных фабрыках (саюзных і рэспубліканскіх) трэба яшчэ многа папрацаваць над асартыментам і павелічэннем долі высокаякасных гатункаў у агульнай колькасці прадукцыі. На сярэдніх-жа і дробных прадпрыемствах (спіртовыя, крахмальна-патачныя заводы) неабходна карэнным чынам палепшыць усю арганізацыю і пастаноўку справы.

Трэба прама сказаць, што ні ў адной галіне нашай прамысловасці няма горшага непарадку, чым на большасці спіртовых, харчовых і ільна-заводах, а таксама ў лясной прамысловасці БССР.

Вінаваты ў гэтым мы самі. Райкомы і райвыканкомы часта звысока і з халадком глядзяць на гэтыя важнейшыя галіны прамысловасці, не клапоцяцца аб людзях, не дбаюць аб кадрах, хоць нярэдка гэта адзіныя прадпрыемствы ў раёне. На факты пакраж, антыдзяржаўных тэндэнцый раённыя арганізацыі не ўсюды яшчэ своечасова рэагуюць, не аказваюць спіртзаводам неабходнай дапамогі ў знішчэнні падобных з'яў.

Тав. Гікало востра і рэзка паставіў гэта пытанне перад усімі райкомамі, РВК і цэнтральнымі арганізацыямі. ЦК КП(б)Б абавязаў гэтыя арганізацыі звярнуць асаблівую ўвагу на работу партыйных і комсамольскіх арганізацый спіртзаводаў. На падставе рашэння ЦК былі сабраны ў Менску ўсе комуністы са спіртзаводаў на трохтыднёвыя курсы, дзе быў прапрацован ліст ЦК, рад тэм па гісторыі партыі. Пасля курсаў склікана была агульная канферэнцыя ўсіх работнікаў спіртзаводаў разам з комуністамі і тэхнічнымі кіраўнікамі прадпрыемстваў. Ад комуністаў спіртзаводаў патрабуецца цяпер шырэй разгарнуць работу па згуртаванню ўсёй масы рабочых, служачых і ІТР на барацьбу за ператварэнне спіртзаводаў у сапраўды культурныя прадпрыемствы БССР.

Наогул трэба сказаць, што на многіх прадпрыемствах БССР, якія даўно ўжо адышлі ад становішча саматужных майстэрань, маюць мільённыя асноўныя капіталы, ляжыць яшчэ тоўсты пласт саматужных забабонаў. Непаваротнасць і абломаўшчына перашкаджаюць заводам поўнасцю выкарыстаць усе свае наяўныя магчымасці.

Падбор, замацаванне, выхаванне і вылучэнне надзейных кадраў—галоўная задача Белдзяржспірта, ільнатрэстаў. Калі іх кіраўнікі і ў далейшым будуць абыходзіць гэту справу, яны безнадзейна застрануць на сваім невысокім узроўні і саслужаць дрэнную службу нашай вялікай справе.

Зрабіць спіртзаводы і ільназаводы ўзорнымі прадпрыемствамі БССР—вострая, неадкладная, баявая задача.

* * *

Будаўнічая справа ў БССР гіганцкі вырасла пасля Окцябра. Сотні новых магутных прадпрыемстваў, тысячы прыгожых дамоў узведзены рукамі будаўнікоў нашай рэспублікі. Дом урада ў Менску—узор іх мастацкага ўмення і велізарных магчымасцей. Аднак, будуем мы яшчэ дорага, павольна, а часам і дрэнна.

Перад намі стаіць рад сур'ёзных задач па выкананню будаўнічага плана. У БССР будуць хуткім тэмпам будавацца новая шоўкавая фабрыка, Оршанскі ільнакамбінат, фабрыка «Дзвіна» (рэканструкцыя), Вялікі тэатр у Менску, агромная колькасць жыллёвых дамоў, новая акулярная фабрыка ў Віцебску, новы цэментны завод, новыя цагельныя і вапняныя заводы, люстэркавая фабрыка і т. д. Усяго не пералічыш. Але факт той, што нам засталося зусім мала часу для выканання запланаванага праграмай другой пяцігодкі будаўніцтва ў БССР новых прадпрыемстваў.

Нам трэба як след наладзіць работу цягельных заводаў, рэканструяваць іх сушыльную гаспадарку, калі мы хочам па-большэвіцку выканаць вялікія планы новага будаўніцтва. Наш друк штодня павінен змяшчаць зводкі аб выкананні плана выпрацоўкі цэглы. РК і РВК абавязаны штодзенна займацца гэтым пытаннем, бо калі што і можа сарваць нам тую ці іншую пабудову, дык гэта недахоп цэглы.

Пытанне з кадрамі на цагельных заводах трэба вырашыць па-рэволюцыйнаму, г. зн. смялей высоўваць здольных, ведаючых рабочых, умацаваць заводы комуністамі і комсамольцамі, нарэшце замацаваць наяўныя кадры, ажыццяўляючы ў адносінах да іх указанні тав. Сталіна.

Баявой палітычнай задачай нашай партыі, усіх совецкіх, гаспадарчых і прафесіянальных арганізацый Беларусі з'яўляюцца ўважлівыя адносіны да выхавання і вылучэння рабочых асноўных нацыянальнасцей, асабліва беларусаў, на кіруючую гаспадарчую работу. Зараз дырэктарамі прадпрыемстваў нашай рэспубліканскай прамысловасці працуюць 35% беларусаў, 50% яўрэяў і 15% іншых нацыянальнасцей. Рабочых—беларусаў—82%, бо ў новапабудаваныя галіны прамысловасці рабочыя прышлі пераважна з беларускай вёскі.

Пад кіраўніцтвам тав. Гікало ўжо за апошні год дасягнуты вялікія поспехі ў галіне стварэння кіруючых кадраў з асноўных нацыянальнасцей. Створаны курсы дырэктароў прадпрыемстваў БССР, на якіх кожны дырэктар абавязан прабыць 1 месяц у годзе. Гэта зусім неабходна, бо грандыёзныя задачы, што стаяць перад намі, патрабуюць ад гаспадарчага кіраўніцтва вострага палітычнага разумення ўсёй абстаноўкі і ролі яго прадпрыемства ў ажыццяўленні на справе генеральнай лініі нашай партыі. Неабходна яшчэ смялей вылучаць новыя кадры з мясцовых асноўных нацыянальнасцей на кіруючую работу ў прамысловасці.

Паўтара гады, што прашлі з часу XVII з'езда партыі, былі гадамі баявой барацьбы за асваенне новых прадпрыемстваў, новай тэхнікі. У справе асваення БССР мае ўжо некаторыя поспехі. Замацоўваючы іх, трэба рухацца яшчэ далей.

Стаханаўскі метад здабычы вугалю ў Донбасе, бусыгінскія рэкорды ў Горкім паказваюць, што з тым-жа абсталяваннем, але пры больш правільнай арганізацыі працы і ў першую чаргу падрыхтоўчых работ, можна зрабіць вельмі многа. Стаханаўскі рух выдатнікаў якасці, што разгарнуўся на нашых прадпрыемствах, як вышэйшая форма соцспаборніцтва, павінен дапамагчы нам узняць на яшчэ вышэйшы ўзровень работу прамысловасці Беларусі.

Але, трэба сказаць, што многія дырэктары прадпрыемстваў, трэсты і наркаматы БССР пытаннямі арганізацыі працы займаюцца слаба, а нярэдка і з рук вон дрэнна. Тым часам, пытанні якасці, планавання і барацьбы за рэнтабельнасць прадпрыемства, пытанні прадукцыйнасці працы і зарплаты, пытанні рацыяналізацыі (пры нязначным укладанні атрымаць большы эфект), пытанні ўліку (бухгалтар і яго роля, як правай рукі дырэктара) павінны стаць у цэнтры ўсёй работы наркаматаў, трэстаў, заводакіраўніцтва, партыйных і прафесіянальных арганізацый нашай прамысловасці ў цэлым і кожнага прадпрыемства паасобку.

Перад прамысловасцю БССР стаяць агромныя перспектывы. Калі мы прыкладзем сілы, праявім ініцыятыву і энергію ў вышуканні мясцовых рэсурсаў сыравіны, мы хутка рушым уперад.

Ужо адзін Прапойскі энергахімкамбінат можа захапіць грандыёзнасцю праграмы будаўніцтва. Ён зусім пературорыць угнаяльную базу соцыялістычнай сельскай гаспадаркі БССР.

За павышэнне эфектыўнасці нашай работы з кожным днём, дэкадай, месяцам, кварталам мы павінны ўпарта змагацца.

На IV квартал перад прамысловасцю Беларусі стаяць наступныя сфармуляваныя ў адозве партыйнай нарады гаспадарнікаў БССР актуальнейшыя задачы, якія павінны стаць баявымі лозунгамі кожнага рабочага, кожнага інжынерна-тэхнічнага работніка прамысловасці БССР:

1. Не пазней 20 снежня перавыканаць промфінплан 1935 г. датэрмінова і абавязкова па ўсіх паказчыках (сабекошт, прадукцыйнасць працы, высокая якасць прадукцыі, поўнае выкананне плана ў асартыментным разрэзе). Наш лозунг—«У ордэнаноснай Беларусі не павінна быць ніводнага адстаючага прадпрыемства, цэха, агрэгата».

2. Важнейшым сродкам для ажыццяўлення гэтай задачы павінна стаць шырокае, уважлівае і правільнае ажыццяўленне геніяльных указанняў тав. Сталіна наконт клопату аб людзях.

3. Адзін з баявых лозунгаў для ўсіх зотаўцаў БССР—«Выдатнікі тэхвучобы соцыялістычных прадпрыемстваў павінны стаць выдатнікамі якасці». 37 буйных прадпрыемстваў БССР дасягнулі ўжо суцэльнай тэхнічнай граматнасці. Наша задача—дабіцца гэтага для ўсіх прадпрыемстваў к 18 гадавіне Окцябра. Усе выдатнікі тэхвучобы, усе здаўшыя тэхэкзамен, усе рабочыя павінны стаць выдатнікамі якасці. Выдатны прыклад Стаханава, Бусыгіна, Сметаніна павінны падхапіць ударнікі і ўсе рабочыя прадпрыемстваў БССР.

Трэба з усёй рэзкасцю падкрэсліць, што да гэтага часу пытаннем палепшання якасці прадукцыі як самі прадпрыемствы, так і адпавед-

ныя трэсты і наркаматы займаліся па-кампанейску, ад выпадку да выпадку, не было сталага кантролю. Барацьба за якасць і зніжэнне сабекошту прадукцыі яшчэ не знашла практычнага адлюстравання ў штодзённай рабоце, а ў выніку—якасць прадукцыі па многіх галінах нашай прамысловасці не адпавядае ўзросшым запатрабаванням. Такім адносінам павінен быць пакладзен канец.

Нашым лозунгам павінна стаць: «Прамысловасць Беларусі—мясцовая, рэспубліканская, саюзная—павінна дабіцца таго, каб якасць прадукцыі прадпрыемстваў БССР стаяла на вышэйшым узроўні, у кожным разе, каб яна была не горш прадукцыі лепшых прадпрыемстваў Саюза».

Барацьба за рост стаханаўскага руху, за палепшанне якасці прадукцыі, уздым прадукцыйнасці працы, асваенне новых прадпрыемстваў на поўную іх вытворчую магутнасць, зніжэнне сабекошту, выкананне промфінплана па ўсіх колькасных і якасных паказчыках, ператварэнне ўсіх фабрык і заводаў у рэнтабельныя соцыялістычныя прадпрыемствы павінна стаць у цэнтры барацьбы работнікаў усёй нашай прамысловасці ў цэлым і кожнага прадпрыемства паасобку; у цэнтры ўвагі партыйных, профсаюзных арганізацый і заводакіраўніцтва. Шырокія масы рабочых і інжынерна-тэхнічных работнікаў, увесь іх вытворчы энтузіязм павінны быць мабілізаваны на выкананне гэтых задач.

Масавы рух соцыялістычнага спаборніцтва, якім ахоплены шырокія масы рабочых і інжынерна-тэхнічных работнікаў нашай прамысловасці, павінен перайсці ў сваю вышэйшую форму—соцыялістычнае ўдарніцтва, стаханаўскі рух. Ад соцспаборніцтва і ўдарніцтва адзінсчак, паасобных груп, некалькіх дзесяткаў да масавага руху стаханаўцаў—вось задача партыйных і профсаюзных арганізацый.

* * *

Нельга добра закончыць нядрэнна пачаты гаспадарчы год, калі ўсебакова не падрыхтавацца да зімы. У гэту работу мы ўключаем: нарыхтоўку паліва для прадпрыемстваў, правільную арганізацыю паліўных складаў, хаванне сыравіны, рамонт абсталявання, цэхавых і дапаможных памяшканняў; памятаючы ўказанні тав. Сталіна аб важнейшым рычагу ўздыму ўсёй нашай работы,—клопаты аб людзях, загатоўку для сталовых усяго неабходнага на зіму (засолка агуркоў, закваска капусты, загатоўка бульбы і т. д.), рамонт баракаў, інтэрнатаў, добрую арганізацыю работы клубаў, чырвоных куткоў, клопаты аб прымацаваных да прадпрыемства школах, дзіцячых яслях і пляцоўках—адным словам, ўся сума мерапрыемстваў па культурна-бытавому абслугоўванню, якое штодзенна цікавіць і глыбока хвалюе рабочых, служачых і ІТР.

Указанні тав. Сталіна на XVII з'ездзе аб усямерным развіцці мясцовай, райвыканкомаўскай, рэспубліканскай прамысловасці на мясцовай сыравіне і паліве з тым, каб гіганцкі рушыць уперад справу выпуску разнастайнейшага асартымента высокаякасных вырабаў шырокага спажывання з мясцовай сыравіны, адкрываюць перад намі непачаты край работы. **На гэтым участку мы зрабілі яшчэ ганебна мала.**

Зусім ясна, што поспех справы будзе вырашаць добра пастаўленая партыйная работа на нашых прадпрыемствах. За апошнія гады яна моцна ўзнялася. У барацьбе за план раслі і арганізацыі і паасоб-

ныя комуністы. Аднак, на радзе прадпрыемстваў партработа наладжана яшчэ слаба. Праверка партдакументаў ускрыла тут вялікія прарывы. Яна значна ажывіла работу на прадпрыемствах, і гэта ажыўленне неабходна ва што-б там ні стала замацаваць.

Слабасць партработы на радзе прадпрыемстваў БССР—гэта прарыў як у рабоце РК і ГК, так і ў рабоце промаддзела ЦК КП(б)Б. Мы маем зараз поўную магчымасць звярнуць выключную ўвагу на наладжванне партыйнай і шырокай масавай работы сярод рабочых, канчаткова ліквідаваць разрыў, які стварыўся на некаторых прадпрыемствах паміж высокім узроўнем вытворчай актыўнасці рабочых і слабасцю партмасавай работы сярод іх.

**Комуністы—важакі той вялікай барацьбы за баявое выкананне пастаўленых партыяй і ўрадам задач, якая вядзецца на нашых прадпрыемствах.** Справа партыйных арганізатараў—яшчэ вышэй узняць авангардную ролю комуніста, не забываючы аб тым, што галоўная работа яшчэ ўперадзе, што самае небяспечнае для кадраў нашай прамысловасці—зазнайства, аб чым штодзенна папярэджвае нас тав. Сталін.

Няма ніякага сумнення ў тым, што натхнёныя высокаю ацэнкай сваёй работы—ордэнам Леніна—рабочыя, ІТР, служачыя, кіраўнікі прамысловасці БССР, пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і вялікага Сталіна, пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з тав. Гікало, па-баявому закончаць 1935 год і арганізавана ўступяць у 1936 г., які павінен прынесці яшчэ больш выдатныя перамогі нашай соцыялістычнай радзіме.

---

П. Гearгадзе

# Дасягненні і далейшыя задачы прамысловасці БССР

Восемнаццаты год дыктатуры пралетарыята будзе ўпісан у гісторыю будаўніцтва соцыялізма, як год агромнейшых перамог на палітычным, гаспадарчым і культурным фронтах.

Восемнаццаты год пралетарскай дыктатуры адметны тым, што па ўсяму фронту, на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва мы дабіліся рашучых поспехаў.

Лозунг тав. Сталіна аб людзях, аўладаўшых тэхнікай, здольных асвоіць і выкарыстаць гэту тэхніку да дна з небывалым энтузіязмам падхоплен шырокімі масамі працоўных горада і калгаснай вёскі. Стаханаўскі рух, які шырока разгарнуўся па ўсёй Совецкай краіне, з'яўляецца той новай вышэйшай соцыялістычнай формай арганізацыі працы, якая забяспечвае паспяховае асваенне перадавой тэхнікі нашай прамысловасці, транспарту, сельскай гаспадаркі, Чырвонай арміі.

Шырыцца рух за рэнтабельнасць. Перадавы атрад прамысловасці— цяжкая індустрыя—штодзенна павялічвае колькасць прадпрыемстваў, якія адмаўляюцца ад датацый і пераходзяць на рэнтабельную работу. З прамысловасці гэты рух перакінуўся і паспяхова пашыраецца ў іншых сектарах народнай гаспадаркі.

Поспехі гаспадарчага будаўніцтва сказаліся і на высокім росце матар'яльна-бытавога ўзроўню працоўных. На гэтым участку мы маем сёлета буйнейшыя дасягненні: адменена картачная сістэма на хлеб і іншыя прадукты харчавання, сістэматычна зніжаюцца цэны, павялічваецца таварная маса прадуктаў харчавання і шырспажыву, расце зарплата на базе павышэння прадукцыйнасці працы.

У рэзультаце паспяховага соцыялістычнага будаўніцтва ў Совецкім саюзе соцыялістычны ўклад стаў пануючым. «Расія нэпаўская стала Расіяй соцыялістычнай».

Гэтыя выключныя па сваёй грандыёзнасці перамогі з'яўляюцца рэзультатам упорнейшай барацьбы працоўных нашай краіны пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі за рэалізацыю рашэнняў XVII партыйнага з'езда і ўказанняў правадыра партыі і ўсіх працоўных— т. Сталіна.

* * *

БССР—у нядаўным яшчэ мінулым прыгнечаная, эканамічна адсталая калонія царскай Расіі, краіна, якая славілася сваімі дапатопнымі спосабамі апрацоўкі зямлі, выключна нізкім узроўнем сельскай гаспадаркі, слаба развітай прамысловасцю—к 18 гадавіне Октября, як неадлучная частка Совецкага саюза, прыходзіць з тымі-ж каласальнымі поспехамі ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва, як і ўвесь Совецкі саюз. Шлях ад калоніі рускага царызма да рэспублікі ордэна Леніна—лепшае пацверджанне поўнага трыумфу ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, якая забяспечвае ператварэнне

БССР у перадавую індустрыяльна-аграрную рэспубліку з высока развітай прамысловасцю і буйнай соцыялістычнай сельскай гаспадаркай.

Грандыёзнасць пройдзенага Беларускай ССР шляху індустрыялізацыі краіны і веліч дасягнутага соцыялістычнай прамысловасцю ўзроўню асабліва рэальна выдзяляецца на фоне той спадчыны, якую пролетарыят БССР атрымаў ад дарэволюцыйнага мінулага.

Валавой прадукцыі цэнзавай прамысловасці 1913 года ў 100 млн. руб. процістаіць аб'ём вытворчасці 1935 г. па ўсёй прамысловасці ў 1.500 млн. руб. У 1913 г. уся магутнасць электрастанцый не перавышала 5—6 тыс. квт., у 1935 г. БССР мае электрагаспадарку ў 80 тыс. квт. з гадавой выпрацоўкаю электраэнергіі ў 308 млн. квт. супроць 4,2 млн. у 1913—рост у 73 разы. У рэзультаце паспяховага прамысловага будаўніцтва створан цэлы рад новых вытворчасцей: штучнае валакно, цэмент, ацэтон, фасфарытная мука, станкабудаўніцтва, перапрацоўка торфу, рад галін лёгкай і харчовай прамысловасці і інш.

Дзякуючы совецкай уладзе, пролетарыят БССР, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, пры брацкай дапамозе пролетарыята ўсяго Совецкага саюза, у адносна кароткі тэрмін здолеў дабіцца нябачаных поспехаў у справе гаспадарчага будаўніцтва, у першую чаргу ў галіне прамысловасці.

За аднаўленчы перыяд пролетарыят БССР здолеў не толькі падняць на ногі поўразбураную прамысловасць, але і перавысіць дарэволюцыйны ўзровень. Ужо ў 1925-26 гг. аб'ём валавой прадукцыі адной толькі цэнзавай прамысловасці перавысіў даваенны ўзровень. У 1927-28 гг. даваенны ўзровень быў перакрыты ў 2 разы (рост на 80%).

Якасныя зрухі ў прамысловасці, станоўчыя структурныя змены, дасягнутыя за аднаўленчы перыяд характарызуюцца наступнымі данымі:

| | 1913 г. | 1926-27 г. |
|---|---|---|
| Колькасць рабочых на адно прадпрыемства . . . . . . | 31,8 | 79,0 |
| Валавая прадукцыя на адно прадпрыемства (у тыс. руб. па даваенных цэнах) . . . . . . | 56,3 | 157,5 |
| Каэфіцыент энергафікацыі . . . | 0,93 | 1,26 |

За перыяд да першай пяцігодкі цэлы рад прадпрыемстваў быў карэнным чынам рэканструяваны. Па металаапрацоўчай прамысловасці да такіх прадпрыемстваў адносяцца: віцебскі завод «Чырвоны металіст» (імя Кірава), Оршанскі гваздзільны завод і менскі завод «Энергія» (імя Варашылава). Карэнным чынам рэканструяваны прадпрыемствы дражджовай прамысловасці. Па выпрацоўцы дрожджаў БССР у 1926-27 г. заняла першае месца ў Саюзе (32,4% агульнасаюзнай выпрацоўкі).

Рэканструіруецца таксама дрэваапрацоўчая, скураная і запалкавая прамысловасць. Сюды адносяцца: Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат; запалкавая фабрыка «Х Окцябр» і скурзавод «Большэвік», якія былі пачаты будаўніцтвам у аднаўленчы перыяд.

* * *

Няўхільная палітыка партыі і совецкай улады на індустрыялізацыю краіны, правільная ленінска-сталінская нацыянальная палітыка—ключ

да разумення агромных перамог пролетарыята БССР у справе прамысловага будаўніцтва як у аднаўленчы, так і ў паследуючыя перыяды соцыялістычнага будаўніцтва.

Яшчэ XII з'езд РКП(б)—(1923 г.) падкрэсліў, што «толькі развіццё прамысловасці стварае непахісную аснову пролетарскай дыктатуры». У 1925 г. XIV з'езд ВКП(б), аналізуючы міжнароднае становішча, высунуў неабходнасць індустрыялізацыі краіны, як адзінную ўмову, якая забяспечвае эканамічную самастойнасць СССР.

Партыя, узяўшыся за аднаўленне ўсёй гаспадаркі, у першую чаргу прамысловасці, паставіла перад сабою задачу: у мінімальна кароткі тэрмін ліквідаваць праклятую спадчыну дарэволюцыйнага мінулага—культурную і гаспадарчую адсталасць нацыянальных раёнаў. Гэта патрабавала ўзмоцненых тэмпаў развіцця прадукцыйных сіл нацыянальных рэспублік.

Тав. Сталін у сваім дакладзе на XII з'ездзе адзначыў:

> «Неабходна, каб, акрамя школ і мовы, расійскі пролетарыят прыняў усе меры к таму, каб на акраінах, у адсталых у культурных адносінах рэспубліках,—а адсталі яны не па сваёй віне, а таму, што іх разглядалі раней, як крыніцы сыравіны, неабходна дабіцца таго, каб у гэтых рэспубліках былі створаны ачагі прамысловасці».

Дзякуючы ленінскай нацыянальнай палітыцы, якая рашуча праводзілася ЦК ВКП(б) і пад яго кіраўніцтвам—ЦК КП(б)Б, дзякуючы таму, што БССР, як неадлучная частка ўсяго Совецкага саюза, атрымала значную матар'яльную дапамогу з боку пролетарыята СССР, яна ў перыяд да першай пяцігодкі дабілася тэмпаў росту прамысловасці, якія перавышаюць сярэднія тэмпы па Саюзу, што відаць з наступных даных:

| Паказчыкі *) | У %% да папяр. года | |
|---|---|---|
| | 1926-27 г. | 1927-28 г. |
| Валавая прадукцыя цэнзавай прамысловасці (у тыс. руб. у цэнах 1926-27 г.): | | |
| а) БССР . . . . . . . . | 114,8 | 137,4 |
| б) СССР . . . . . . . | 114,5 | 121,6 |
| Капіталаўкладанні ў дзяржаўную прамысловасць (у тыс. руб.) | | |
| а) БССР . . . . . . . . | 152,5 | 157,7 |
| б) СССР. . . . . . . . | 134,7 | 138,0 |
| Фонды к пачатку года ў дзяржаўвай прамысловасці (у тыс. руб.): | | |
| а) БССР . , . . . . . | 117,2 | 124,2 |
| б) СССР . . . . . . . . | 108,5 | 112,1 |
| Занята па найму без сельскагаспадарчых рабочых (у тыс. чал.) | | |
| а) БССР . . . . . . . . | 111,0 | 107,0 |
| б) СССР . . . . . . . ; . | 108,6 | 103,4 |

*) З даклада тав. Галадзеда на XI з'ездзе КП(б)Б.

Дасягнутыя к першаму пяцігоддзю поспехі не маглі поўнасцю ліквідаваць той нізкі ўзровень вытворча-тэхнічнай базы, які дастаўся пролетарыяту ад старога буржуазнага грамадства. Яшчэ ў большай меры, не гледзячы на павышаныя тэмпы росту прамысловасці, гэта адносілася да нацыянальных рэспублік, у тым ліку і да БССР.

XV з'езд партыі ўстанавіў, што:

> «пяцігадовы план павінен удзяляць асаблівую ўвагу пытанням пад'ёму экономікі і культуры адсталых нацыянальных акраін і астатніх раёнаў, выходзячы з неабходнасці паступовай ліквідацыі іх эканамічнай і культурнай адсталасці, адпаведна прадугледжваючы больш быстры тэмп развіцця іх экономікі і культуры»...

Рашэнне гэта выконвалася з вялікім поспехам. Вялікі былі тэмпы росту народнай гаспадаркі Саюза ў першай пяцігодцы, але яшчэ вышэй тэмпы росту гаспадаркі нацыянальных рэспублік.

І па капіталаўкладаннях і па тэмпах росту прамысловай і сельскагаспадарчай прадукцыі нацыянальныя рэспублікі, асабліва адсталыя, перакрылі сярэднія вельмі высокія тэмпы росту па Саюзу. Пра гэта яскрава гавораць вынікі першай пяцігодкі па БССР. Так, калі па Саюзу сярэднегадовы рост цэнзавай прамысловасці за гады першай пяцігодкі складаў 21,6%, то па БССР за першую пяцігодку сярэднегадовы тэмп прыросту прадукцыі па саюзнай і мясцовай прамысловасці складаў 48,2%. У рэзультаце ўдзельная вага прадукцыі цэнзавай прамысловасці БССР ва ўсёй прадукцыі Саюза з года ў год павялічваецца. Так, у 1922-23 г. удзельная вага прадукцыі прамысловасці БССР раўнялася 1,6%, а ў 1932 г. наша ўдзельная вага ва ўсёй прадукцыі прамысловасці Саюза складала 2,3%.

* * *

Прамысловасць БССР за гады першай і тры гады другой пяцігодкі развіваецца ўвесь час на неаслабна высокім узроўні. Колькасныя і якасныя зрухі ў працэсе індустрыялізацыі БССР характарызуюцца наступнымі лічбамі:

Валавая прадукцыя ўсёй прамысловасці БССР, узросшая за перыяд першай пяцігодкі з 241,2 млн. руб. у 1927-1928 г. да 979 млн. руб. у 1932 г. за першыя тры гады другой пяцігодкі паказвае далейшы высокі рост.

План 1935 г., якім прадугледжан аб'ём вытворчасці ў 1,5 млрд. руб., складае ў адносінах да 1932 года звыш 150%. Гарантыяй выканання і перавыканання гэтай праграмы вытворчасці з'яўляецца тое, што гадавы план за 9 месяцаў 1935 года выканан, разам з лесазагатоўкамі, на 76%. Пры некаторым зніжэнні тэмпаў росту валавой прадукцыі ў 1933 годзе (рост к 1932 г. на 10,9%) 1934 г. даў падвойны тэмп росту прадукцыі супроць 1933 г. (20%).

Рэзультаты ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі ў неаслабным падцягванні народнай гаспадаркі нацрэспублік як у першым, так і ў другім пяцігоддзі, ілюструюць наступныя лічбы:

| Прадукцыя цэнзавай прамысловасці ў %% да 1913 г. | 1913 г. | 1928 г. | 1932 г. | 1934 г. |
|---|---|---|---|---|
| а) СССР . . . | 100,0 | 154,3 | 359,1 | 464,7 |
| б) БССР . . . | 100,0 | 177,4 | 861,0 | 885,0 |

Даваенны ўзровень перакрыт у 1934 г. прамысловасцю БССР амаль у 9 раз.

Пры няўхільным росце сельскай гаспадаркі ўдзельная вага ўсёй прамысловасці ў валавой прадукцыі прамысловасці і сельскай гаспадаркі з года ў год расце і ў 1935 г. дасягала 71,0% супроць 67% 1932 г., 41,3% 1927-28 г. і 10% 1921 года.

За першую пяцігодку і тры гады другой капіталаўкладанні ў прамысловасць складалі, прыкладна, 509 млн. руб. Аб грандыёзнасці размераў штогодніх капіталаўкладанняў у прамысловасць БССР гаворыць тое, што сярэднегадовы аб'ём іх на працягу апошніх 7 год (81,4 млн. руб.) па свайму ўзроўню складае каштоўнасць асноўных фондаў усёй прамысловасці на пачатак першай пяцігодкі (81,6 млн. руб.). У 1935 годзе прамысловасць БССР асвойвае план капітальных работ, які дасягае амаль 100 млн. руб.

На працягу першай пяцігодкі пабудавана і ўведзена ў эксплаатацыю па саюзнай і рэспубліканскай прамысловасці 78 буйных прадпрыемстваў і да 460 дробных.

У другую пяцігодку неаслабным тэмпам завяршаюцца пабудовы, пачатыя ў першай пяцігодцы, разгортваецца будаўніцтва новых гігантаў. У 1933 г. буйная прамысловасць БССР налічвала ўжо 1288 прадпрыемстваў са 159.877 рабочымі і валавой прадукцыяй (у цэнах 1926-27 г.)—821.291 тыс. руб. Гэтыя даныя сведчаць аб далейшым працэсе якаснага росту прамысловасці. У 1933 г. на адно прадпрыемства прыпадала прадукцыі (у нязменных цэнах 1926-27 г.) у сярэднім 637 тыс. руб. і рабочых 124 чал. супроць 1926-27 г.—79 рабочых і 1913 г.—31,8 рабочых.

Ужо за першую пяцігодку пабудован і пушчан у ход рад індустрыяльных гігантаў усесаюзнага значэння. Даволі назваць торфзаводы «Большэвік», «Осінторф», Магілеўскую фабрыку штучнага шоўку, Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат, гомельскі шклозавод імя Сталіна магутнасцю ў 30 тон аконнага шкла ў год, трыкатажную фабрыку «КІМ» з гадавой прадукцыяй да 60 млн. руб., запалкавую фабрыку імя Кірава магутнасцю звыш 800 тыс. скрынак запалак у год, швейную фабрыку «Сцяг індустрыялізацыі» з гадавой прадукцыяй у 30 млн. руб., завод сельскагаспадарчага машына-будаўніцтва Гомсельмаш, маргарынавы завод магутнасцю ў 10 тыс. тон у год маргарыну, кандзіцерскую фабрыку «Комунарка»,—каб зразумець агромны пафас разгорнутага ў БССР будаўніцтва за гады першай пяцігодкі.

Пералік закончаных аб'ектаў новага будаўніцтва і карэннай рэканструкцыі, якая па сутнасці часта з'яўлялася новым будаўніцтвам (менскі завод «Варашылава», «Чырвоны металіст», Добрушская папяровая, мэблевая фабрыка імя Молатава і інш.), уключае ў сабе сотні прадпрыемстваў і заняў-бы многа старонак.

Першыя гады другой пяцігодкі адметны далейшым ростам колькасці дзеючых гігантаў індустрыі: Крычаўскі цэментны завод магутнасцю ў 720 тыс. бочак цэменту ў год, Магілеўскі аўтарамонтны завод, Трубаліцейны завод магутнасцю ў 10 тыс. тон, завод сілікатнай цэглы магутнасцю ў 12 млн. штук цэглы ў год, закончана рэканструкцыя будучага гіганта станкабудаўніцтва БССР—завод імя Кірава ў Менску і т. д. Будуюцца і будуць зданы ў эксплаатацыю

рад буйнейшых заводаў і фабрык: завод па гідролізу драўніны ў Бабруйску, вопытны завод па гідролізу торфу ў Менску, Быхаўскі ацэтонавы завод і т. д. У Оршы разгорнута будаўніцтва аднаго з буйнейшых у Саюзе ільнакамбінатаў коштам у 60—70 млн. руб.

Гэта агромнае па сваіх маштабах абнаўленне і ўзнаўленне асноўных фондаў побач з разгорнутым вывучэннем прыродных рэсурсаў БССР, з'яўляецца лепшым довадам усёй безгрунтоўнасці контррэвалюцыйнай «тэорыі» аб тым, што БССР, з прычыны беднасці прыроднымі рэсурсамі, не мае базы для прамысловага росту і, што развіццё народнай гаспадаркі БССР павінна пайсці па свайму «самабытнаму» шляху, па шляху аграрызацыі, а не індустрыялізацыі краіны.

Арганізацыя ў БССР на базе выкарыстоўвання мясцовай сыравіны такіх прадпрыемстваў і галін прамысловасці, як здабыча, механічная і хімічная перапрацоўка торфу, каніфольна-скіпідарная вытворчасць, гідроліз драўніны, фасфарытная, цэментная, ацэтонавая, дубільна-экстрактная, фарбавая, пярвічнай апрацоўкі лубяных валакон (лёну і канапель), рад прадпрыемстваў па паглыбленай перапрацоўцы драўніны і сельгассыравіны (мясная, плодаперарабляючая, тлушчовая і інш.), сведчыць аб наяўнасці ў БССР агромных прыродных рэсурсаў, якія толькі пры дыктатуры пролетарыята змаглі быць выяўлены і пастаўлены на службу соцыялістычнаму будаўніцтву.

Раней існаваўшыя галіны прамысловасці, як шкляная на базе дадатковага выяўлення запасаў высокаякаснай сыравіны, значна пашырылі сваю вытворчасць і поўнасцю адмовіліся ад завозу сыравіны з іншых раёнаў (любярэцкія пяскі і інш.).

Магутнае развіццё прадукцыйных сіл патрабавала стварэння магутнай паліўнай базы. За першую пяцігодку і асабліва за тры гады другой БССР у гэтай галіне мае вялікія поспехі. Развіццю тарфянай прамысловасці выключна вялікую ўвагу ўдзяляў ЦК КП(б)Б і асабіста тав. Гікало. План 1935 года ў 1687 тыс. тон. торфу перавыканан (здабыта 1722 тыс. тон). За 7 год (1928-1935 гг.) здабыча торфу павялічылася ў 14 раз пры росце ўсёй прамысловай прадукцыі за гэты-ж час у 6,2 раза.

Калі к пачатку першай пяцігодкі асноўным відам паліва ў БССР, асабліва ў найбольш цёплаёмкіх галінах прамысловасці і па электрастанцыях, было прывознае, у першую чаргу вугаль, то цяпер становішча рэзка змянілася. Па промтэхнічнай групе, якая ў паліўным балансе рэспублікі займае дамінуючае месца (1933 г. 48% і 1935 г. 55%), з года ў год ідзе ўкараненне торфу як асноўнага віду паліва. За годы першай пяцігодкі спажыванне торфу ўзрасло ў 70,3 раза. У 1935 г. торфу будзе спажыта ў 2,5 раза больш, чым у 1932 г. і ў 18,7 раза больш, чым у 1927-28 гг.

Энергетычная база рэспублікі з года ў год ўзмацняецца. Дарэвалюцыйная Беларусь мела толькі некалькі маламагутных гарадскіх электрастанцый. За перыяд першай і тры гады другой пяцігодкі пабудаваны і ўведзены ў эксплаатацыю рад новых магутных электрастанцый агульнага карыстання і фабрычна-заводскіх: Белдрэс, Менская ВЭС, Бабруйскага камбіната, Магілеўская і Нова-Беліцкая ЦЭЦ і інш. Карэнным чынам рэканструяваны электрастанцыі такіх буйных цэнтраў, як Менск і Гомель.

**Рост устаноўленай магутнасці электрастанцый і выпрацоўка электраэнергіі характарызуецца наступнымі данымі:**

| | 1913 г. | 1927-1928 г. | 1932 г. | 1933 г. | 1934 г. | 1935 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Устаноўленая магутнасць у тыс. квт . . . . | 5,0 | 14,4 | 61,6 | 66 8 | 75,4 | 80,0 |
| Выпрацоўка электраэнергіі ў млн. квт. гадзін . . . . . . | 4,2 | 37,3 | 172,0 | 214 | 255,5 | 313,4 |

За мінулыя 7 год устаноўленая магутнасць і выпрацоўка электраэнергіі ўзраслі адпаведна: у 65,5 і 8,4 раза. За перыяд 1933-35 гг., дзякуючы павелічэнню ўстаноўленай магутнасці на 18,4 тыс. квт. і росту выпрацоўкі электраэнергіі на 82%, значна аслаблена напружанасць энергабаланса, што мела месца ў канцы першай пяцігодкі. За гады другой пяцігодкі ўведзена ў эксплаатацыю менская ЦЭС у 6 тыс. квт., пашырана Гомельская ЦЭС з 5 да 8 тыс. квт., Полацкая—з 575 квт. да 940 квт., Крычаўская з 2,5 да 4,5 тыс. квт. і т. д.

У БССР за гады рэволюцыі занова створана металаапрацоўчая прамысловасць. У 1933 г. гэта галіна, без прадпрыемстваў па рамонту сельскагаспадарчага інвентара і трактароў (МТМ), налічвала 135 прадпрыемстваў з валавой прадукцыяй (у нязменных цэнах 1926-27 г.) у 75.432 тыс. руб. і колькасцю рабочых у 16.458 чал. У 1935 годзе па гэтым коле прадпрыемстваў выпуск прадукцыі дасягае 100 млн. руб. (без МТМ).

Тэхнічнае пераўзбраенне металапрамысловасці характарызуецца тым, што з усіх 1511 станкоў, якія меліся на металаапрацоўчых прадпрыемствах на 1/1-1933 г., устаноўлена да 1918 г. 17,7%, за 1918-1922 гг.—6,3%, за 1923-28 гг.—26,2% і за 1929-32 гг.—49,8%. У другім пяцігоддзі металапрамысловасць БССР узняла на больш высокую ступень кваліфікацыю вытворчасці. Працэс спецыялізацыі вядучых заводаў металапрамысловасці БССР (імя Варашылава, заводаў імя Кірава—Менск, Гомель і Віцебск) па лініі станкабудаўніцтва, які пачаўся ў 1933 годзе, паглыбляецца далей. За тры гады металапрамысловасцю асвоен цэлы рад вельмі складаных, раней імпартаваўшыхся, станкоў і машын: цэнтральныя пілы Орыён-Гакко, гайканарэзныя поўаўтаматы, рэзьбанарэзныя машыны сістэмы Калава, прадольна-стругальныя, паравыя млыны, насосы Верцінгтон і інш.

Прамысловасць будматар'ялаў, якая ў 1934 г. упершыню за апошнія чатыры гады, выканала план, у 1935 г. замацавала дасягнутыя поспехі і паспяхова рэалізуе павышанае заданне. Значна вырасла яе вытворчая база.

Акрамя пуску Крычаўскага цэментнага завода, Гомельскага шкляннага, Оршанскага завода сілікатнай цэглы, Вярхоўскага вапеннага, за апошнія гады праведзены значныя работы па механізацыі вытворчых працэсаў (прэсы, экскаватары, штучныя сушылкі і інш.) і транспарта на дзеючых прадпрыемствах прамысловасці мясцовых будматар'ялаў.

Магутнасць створанай за апошнія гады матар'яльнай базы для капітальнага будаўніцтва наглядна ілюструецца тымі высокімі тэм-

памі росту вытворчасці, якія за апошнія гады дасягнуты прамысловасцю будматар'ялаў.

| | Адзінка вымеру | 1933 г. | 1934 г. | 1935 г. |
|---|---|---|---|---|
| Цэгла . . . | млн. шт. | 119,6 | 174,0 | 216,0 |
| Цэмент . . . | тыс. тон | — | 35,0 | 88,7 |
| Вапна . . . | " | — | 43,4 | 87,9 |
| Аконнае шкло . . | г. кв. мт. | 125 | 3025 | 5.325 |
| Чарапіца . . . | тыс. шт. | 790 | 2627 | 4.765 |

Прадукцыя хімічнай прамысловасці, якая ў дарэволюцыйны час амаль зусім не існавала і пабудавана занова, вырасла да 59 млн. руб. у 1934 г. і 62 млн. руб. у 1935 г. па саюзнай і рэспубліканскай прамысловасці. У гэтым годзе яна паспяхова асвойвае два новыя віды вытворчасці—ацэтонавую і гідроліз торфу.

Далейшае развіццё лясной прамысловасці ідзе па шляху разгортвання паглыбленай перапрацоўкі драўніны. Пры стабілізацыі за апошнія гады выпрацоўкі піламатар'ялаў на ўзроўні, прыкладна, 1100 тыс. кубаметраў (4% ад саюзнай выпрацоўкі піламатар'ялаў у 1933 г.) значна пашыраецца колькасна і па асартыменту мэблевая вытворчасць, выпрацоўка навукова-наглядных і канцэлярскіх прылад і т. д.

Папяровая прамысловасць БССР, якая займае ў саюзнай выпрацоўцы паперы і картону да 6%, у 1934 г. значна павялічыла аб'ём вытворчасці супроць 1933 года (41,6 тыс. тон паперы замест 33,5 тыс. тон) і ўсё-ж гадавы план выканала толькі на 84,5%. У 1935 г. гэта галіна, якая сістэматычна з года ў год не выконвала плана, дабілася рэзкага пералому ў рабоце.

На высокім узроўні, як у 1934 г., так і ў 1935 г., працякае работа запалкавай і фанернай прамысловасці, якія па выпуску прадукцыі займаюць значную ўдзельную вагу ў саюзнай вытворчасці (адпаведна 23% к 34%).

Рабочы клас БССР мае значныя поспехі і ў рэалізацыі ўказання тав. Гікало: «БССР—узорную лёгкую і харчовую прамысловасць». Гэтыя галіны ў асноўным адносяцца да групы «Б», якая ва ўсёй прамысловай вытворчасці БССР у 1934 г. займала 60,9%. У 1935 г. яны значна палепшылі сваю работу як па колькасных, так і якасных паказчыках.

У сувязі з ростам прамысловасці ўзмацніліся кадры рабочых. У 1934 годзе рабочых налічвалася 126.700 чал. супроць 32.300 чал. у 1927-28 г. Агульны лік рабочых і служачых, занятых ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі БССР, ужо ў 1934 г. дасягаў 457.826 чалавек. У стварэнні кадраў пралетарыята з карэнных нацыянальнасцей атрыманы агромныя перамогі. Беларусаў працуе цяпер 68% ад усяго складу рабочых буйнай прамысловасці.

* * *

XVII партыйны з'езд асобую ўвагу ўдзяліў пытанням развіцця мясцовай прамысловасці. Тав. Сталін на XVII партз'ездзе паставіў перад мясцовай прамысловасцю наступныя задачы:

«Разгарнуць вытворчасць тавараў шырокага спажывання па ўсіх гаспадарчых наркаматах.

Развязаць мясцовую совецкую прамысловасць, даць ёй магчымасць праявіць ініцыятыву ў справе вытворчасці тавараў шырокага спажывання і аказаць ёй усямерную дапамогу сыравінай і сродкамі.

Палепшыць якасць выпускаемых тавараў, спыніць выпуск некамплектнай прадукцыі і караць усіх тых таварышоў, не гледзячы на асобы, якія парушаюць або абыходзяць законы совецкай улады аб якасці і камплектнасці прадукцыі.

Дабіцца сістэматычнага росту прадукцыйнасці працы, зніжэння сабекошту і ўкаранення гаспадарчага разліку.

Дабіць абязлічку ў рабоце і ўраўнілаўку ў сістэме зарплаты.

Ліквідаваць канцэлярска-бюракратычны метад кіраўніцтва ва ўсіх звеннях гаспадарчых наркаматаў, сістэматычна правяраючы выкананне рашэнняў і ўказанняў кіруючых цэнтраў ніжэйстаячымі органамі».

XVII партыйны з'езд у сваёй рэзалюцыі аб другім пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР даў вычарпальныя ўказанні аб далейшым уздыме і развіцці мясцовай прамысловасці:

«Выходзячы з таго, што мясцовая прамысловасць можа з'явіцца сур'ёзным дадатковым фактарам у справе ўсебаковага задавальнення быстра растучых запатрабаванняў рабочых і калгаснікаў, з'езд вызначае рост вытворчасці тавараў шырокага спажывання мясцовай прамысловасцю ў другім пяцігоддзі ў тры разы і абавязвае мясцовыя органы к праяўленню максімальнай ініцыятывы ў справе развіцця мясцовай прамысловасці і вышукання новых відаў сыравіны».

Паследваўшая ў жніўні 1934 года пастанова ЦВК Саюза аб утварэнні Народнага Камісарыята Мясцовай Прамысловасці ўнесла поўную яснасць і чоткасць у арганізацыйную структуру мясцовай прамысловасці і забяспечыла бліскучыя ўмовы для далейшага якаснага і колькаснага росту гэтага ўчастку народнай гаспадаркі.

З якімі-ж вынікамі прыходзіць мясцовая прамысловасць БССР к XVIII гадавіне Окцябрскай рэволюцыі?

На аснове рэалізацыі рашэнняў майскага пленума ЦК КП(б)Б у 1934 г. мясцовая прамысловасць БССР яшчэ ў IV квартале мінулага года забяспечыла пералом у сваёй рабоце, выканаўшы квартальны план на 105,1%. Замацаваўшы поспехі, дасягнутыя ў IV квартале 1934 года, мясцовая прамысловасць у 1935 г. з месяца ў месяц, з квартала ў квартал роўнамерна выконвае і перавыконвае планы.

За 9 месяцаў аперацыйныя квартальныя планы выкананы на 102,3% і звыш плана выпрацавана прадукцыі на 5,8 млн. руб. У рэзультаце перавыканання аперацыйных квартальных планаў за 9 месяцаў забяспечан больш інтэнсіўны тэмп прыросту прамысловай прадукцыі (супроць адпаведнага перыяда мінулага года), чым гэта было прадугледжана гадавым планам. Пры гадавым заданні прыросту прадукцыі мясцовай прамысловасці на 8,9% у 1935 г. ужо за 9 месяцаў гэты рост дасягнуў 15,8%. Выкананне плана шырспажыву, які займае ва ўсёй прадукцыі мясцовай прамысловасці 68%, ідзе на ўзроўні, некалькі больш высокім, чым па прамысловасці ў цэлым і складала за 1 паўгоддзе адпаведна: 103,4% к 102,6%. Рост прадукцыі шырокага спажывання

за 9 месяцаў 1935 года к адпаведнаму перыяду мінулага года складаў 114,9 проц.

Пры гадавым заданні ў 3,9% прадукцыйнасць працы за 8 мес. 1935 года вырасла на 6,9%, прычым па асобных галінах рост гэты яшчэ вышэй (па металаапрацоўчай—23,8%, цагельнай — 19,6%, дрэваапрацоўчай—17,1% і т. п.).

Праароблена значная работа ў справе пашырэння асартыменту, палепшання якасці прадукцыі і больш поўнага задавальнення сезонных патрэб спажыўца.

Рад галін прамысловасці і прадпрыемстваў рашуча сталі на шлях перабудовы вытворчых працэсаў як у інтарэсах палепшання асартыменту, так і якасці прадукцыі.

Па 8 асноўных відах швейнай прамысловасці ў 1933 годзе выраблялася 22 фасоны, у 1934 г.—39, а ў 1935 г.—68 фасонаў. Перабудаваны і тэхналагічныя працэсы. Скурабутковая прамысловасць асвоіла выраб летняга парусінавага абутку і рад новых відаў скургалантарэі. Значна пашыран асартымент прадметаў шырокага спажывання: мэбля, трыкатаж, галантарэя, шкло, кандзіцерскія і іншыя вырабы.

Дасягнут таксама некаторы, хоць і далёка недастатковы, пералом у павелічэнні асартыменту вырабаў для дзяцей і вучняў (па швейнай прамысловасці ўдзельная вага дзіцячага асартыменту ў 1933 г.—9,1%, у 1934 г.—11,2% і ў 1935 г.—15,7%).

Аднак, не ўсе прадпрыемствы справіліся з выкананнем плана. Сюды адносяцца, за невялікім выключэннем, дробныя прадпрыемствы трэстаў. Катэгарычная дырэктыва майскага пленума ЦК КП(б)Б аб недапушчальнасці няўважлівых адносін да работы дробных прадпрыемстваў, якія ва ўмовах БССР маюць агромнае народна-гаспадарчае значэнне, у дастатковай меры не адлюстравана ў штодзеннай робоце мясцовай прамысловасці («Тэтарка», «Пролетарскі молат», Крэйдавы завод, Фарбаколер, цагляныя заводы № 11 і 12, пенькаджутавы, «8 сакавіка», вінзаводы—Капыль і Клімавічы і інш.).

Не гледзячы на станоўчыя зрухі ў справе выканання планавага асартыменту, на паасобных прадпрыемствах мясцовай прамысловасці яшчэ поўнасцю не зжыты антыдзяржаўныя тэндэнцыі (замена больш працаёмкіх відаў вырабаў менш працаёмкімі—«Чырвоны Окцябр», шклозавод «Ільіч», і інш.). У шклянай прамысловасці яшчэ высокі процант бою і браку (завод «Ільіч»—бой гаспадарчай пасуды 29,7% супроць планавых 9%; завод «Ноўка»—бой лампавага шкла 25,5% супроць 17,1% і т. д.). У швейнай прамысловасці не зжыты яшчэ пераробкі і тэкстыльны брак. Нізкая якасць вырабаў парфюмернай прамысловасці. Невысокая якасць некаторых відаў вырабаў харчовай прамысловасці, што часам выклікае нават затаварванне. Слаба асвойваюцца новыя віды станкоў (стругальных—завод імя Варашылава—Менск; калібрава-паліровачных—завод імя Кірава—Гомель; свідравальных 25 м/м—Віцебск). Усё гэта сведчыць аб тым, што гаспадарнікі і ІТР не праявілі яшчэ даволі ініцыятывы, каб узняць тэхнічную культуру вытворчасці на належную вышыню, што пытанне якасці прадукцыі яшчэ не пастаўлена ў цэнтр увагі.

Работнікамі мясцовай прамысловасці не праяўлена яшчэ патрэбнай ініцыятывы ў разгортванні новых галін прамысловасці на базе мясцовай сыравіны. Такім чынам, дырэктыва XVII партыйнага з'езда і VII з'езда советаў аб максімальным павелічэнні выкарыстання мясцо-

вай сыравіны поўнасцю не выканана. Першачарговая задача ўсёй мясцовай прамысловасці—шырока выкарыстаць адыходы і мясцовую сыравіну праз арганізацыю адпаведных галін вытворчасці (картон з адыходаў і кастры, выкарыстанне выкапняў—перафілітаў, ганчарнай гліны і т. п.).

Паспяховасць асваення выражаецца ўрэшце ў выкананні якасных паказчыкаў. 1935 год з'яўляецца пераломным у выкананні мясцовай прамысловасцю заданняў па прадукцыйнасці працы і сабекошту.

Мясцовая прамысловасць у цэлым закончыла 1934 г. з вельмі нездавальняючымі рэзультатамі па сабекошту. Замест планавага зніжэння сабекошту на 4,4%, фактычна павысіла яго на 3,5%. Лёгкая прамысловасць павысіла сабекошт на 8,6% замест знізіць на 0,7%. Акрамя некаторых цэннасных фактараў, на гэты прарыў мела ўплыў невыкананне плана па вытворчасці, прадукцыйнасці працы, якасці прадукцыі, перавыдаткі сыравіны, паліва і іншых матар'яльных каштоўнасцей. Так, напрыклад, па мясцовай прамысловасці ў цэлым перапалена 10 тыс. тон паліва, або 6,8%.

За 7 месяцаў 1935 года мясцовая прамысловасць дабілася некаторага пералому ў гэтай справе. Фактычны сабекошт у адносінах да плана складае 98,7%—зніжэнне на 1,3%.

Аднак рад галін прамысловасці і ў 1935 годзе недавыканалі план па сабекошту: Магілеўскі трубаліцейны завод замест зніжэння павялічыў сабекошт на 21,8%, Хімкіраўніцтва—на 3,7%, мясцовыя будматар'ялы—на 6%, паліграфічная—на 10% і швейная на 0,4%.

Ліпеньская нарада гаспадарнікаў і ІТР пры ЦК КП(б)Б выявіла, што рад прадпрыемстваў як мясцовай, так і саюзнай прамысловасці, не пераключыліся на барацьбу за зніжэнне сабекошту і павышэнне рэнтабельнасці. Прыклад НКМП падхапіла толькі невялікая колькасць прадпрыемстваў: Магілеўская фабрыка штучнага шоўку, Белдрэс, Белметалтрэст і некаторыя іншыя.

Прадпрыемствы Хімкіраўніцтва, Швейтрэста, Скуртрэста і інш. перавышаюць устаноўленыя планам цэхавыя і агульназаводскія нарматывы выдатку сыравіны і паліва. Пры агульным перавыдатку паліва ў 1% перавыдатак па трэсту будматар'ялаў за першае паўгоддзе складаў 42,8%, па шклокіраўніцтву—11,4%, па Белкмо—8% і т. д. Паасобныя фабрыкі швейнай прамысловасці за першае паўгоддзе пагоршылі выкарыстанне плошчы сыравіны як супроць плана, так і супроць 1934 года (фабрыка «Окцябр»), па піваварнай—перавыдатак ячменю і т. д.

Паданыя факты гавораць аб тым, што мясцовая прамысловасць у 1935 годзе далёка не поўнасцю вычарпала магчымасці як колькаснага, так і якаснага свайго росту, не перабудавала сваю работу ў адпаведнасці з рашэннямі XVII з'езда партыі. Яна не можа яшчэ пахваліцца строгім правядзеннем адзінаначалля, поўнай ліквідацыяй функцыяналкі, укараненнем сапраўднага гаспадарчага разліку ва ўсіх цэхах, ліквідацыяй ураўнілаўкі і перабудовай зарплаты рабочых і ІТР для ператварэння яе ў рычаг максімальнай прадукцыйнасці кожнага станка, кожнага агрэгата. Выпраўленне гэтых недахопаў—цэнтральная задача ўсёй мясцовай прамысловасці.

* * *

К 18 гадавіне Окцябрскай рэволюцыі працоўныя БССР, як і ўсяго Совецкага саюза, прыходзяць з найвялікшымі поспехамі і перамогамі.

Дасягнутыя рабочым класам і калгасным сялянствам БССР ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва поспехі Саюзны ўрад адзначыў вышэйшай узнагародай—ордэнам Леніна. Назва ордэнаноснай рэспублікі накладае на нас абавязацельства падзесяцярыць сваю энергію ў барацьбе за поўную ліквідацыю недахопаў, якія ёсць яшчэ ў нашай рабоце, каб забяспечыць яшчэ вышэйшы ўздым усёй народнай гаспадаркі ў апошнія два гады другой пяцігодкі.

План другога пяцігоддзя—гэта праграма поўнага завяршэння тэхнічнай рэканструкцыі ўсіх галін народнай гаспадаркі, далейшага павышэння матар'яльнага становішча працоўных у 2—3 разы і пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Побач з далейшым разгортваннем будаўніцтва новых гігантаў індустрыі (праблема Прапойскага камбіната, Оршанскага ільнакамбіната і інш.) у цэнтры ўвагі павінна быць пастаўлена асваенне перадавой матар'яльна-тэхнічнай базы, створанай за гады першай і тры гады другой пяцігодкі.

У 1936 г. прамысловасць БССР, як і ўсяго Саюза, павінна забяспечыць рост прадукцыі больш як на 20%. Для гэтага ў нас ёсць усе магчымасці. Агромныя рэзервы для далейшага пашырэння вытворчасці мае металаапрацоўчая прамысловасць, будматар'ялаў, цэментная, вапенная, цагляная, скураная, паліграфічная, харчовая і інш. Для характарыстыкі нашых рэзерваў даволі ўказаць, што металапрамысловасць БССР выкарыстоўвае машынны час, прыкладна на 35—40%, рад прадпрыемстваў абутковай прамысловасці мае адзін каэфіцыент зменнасці. Крычаўскі цэментны завод у 1935 годзе выкарыстоўвае сваю магутнасць на 80% і т. д.

Перад кожным гаспадарнікам, ІТР і ўсёй рабочай масай стаіць задача—канкрэтна вывучыць усе ўчасткі свайго прадпрыемства, кожны станок, машыну і агрэгат паасобку, каб скарыстаць з наяўнай тэхнікі максімум таго, што яна можа даць.

Побач з колькасным ростам, перад усёй прамысловасцю і ў першую чаргу перад мясцовай і промкааперацыяй, стаіць неадкладная задача—рэзка пашырыць асартымент вырабаў і палепшыць якасць прадукцыі. Дасягнуты пералом у гэтай справе яшчэ недастатковы і не можа нас задаволіць.

Рабочы, калгаснік, служачы хоча атрымаць ад сваёй прамысловасці высокаякасны касцюм, абутак, тканіну, мэблю і інш. Нецярпіма такое становішча, калі рабочы спажывец, стварыўшы індустрыю, здольную вырабляць самыя складаныя прылады вытворчасці, не знаходзіць у магазінах дзяржаўнага гандлю і кааперацыі такой «дробязі», як іголкі, шнуркі, кнопкі і т. п.

Абавязак прамысловасці—поўнасцю задаволіць гэтыя законныя патрабаванні спажыўца. Работнікі прамысловасці павінны моцна памятаць, што прамысловасць створана для спажыўца, а не наадварот. Мясцовая і кааперацыйная прамысловасць павінны даць той асартымент і якасць прадукцыі, якіх патрабуе рабочы спажывец. Самым катэгарычным чынам трэба паставіць пытанне аб такіх гаспадарніках, якія ў пагоні за каштоўным аб'ёмам прадукцыі парушаюць зацверджаны дзяржаўны план асартыменту.

Справа гонару ўсіх работнікаў прамысловасці—дабіцца, каб марка прадпрыемстваў ордэнаноснай рэспублікі была першай у Саюзе.

Да ўстанаўлення асартыменту прадукцыі прамысловасць павінна шырока прыцягваць спажыўца і прамысловую сець. Партыя і ўрад

удзяляюць вялікую ўвагу разгортванню культурнага совецкага гандлю. Прамысловасць, як вядучы і перадавы ўчастак народнай гаспадаркі, павінна праявіць ініцыятыву ў справе арганізацыі паказальнага гандлю таварамі сваёй вытворчасці, безадкладна разгарнуць у буйнейшых цэнтрах БССР сець спецыялізаванага гандлю сваёй прадукцыяй: пашывачнай, скуранай, шклянай, кандзіцерскай і інш.

На першай нарадзе гаспадарнікаў т. Галадзед адзначыў зусім недастатковую ініцыятыву прамысловасці ў выкарыстанні мясцовых відаў сыравіны. Выпрацоўка прадметаў шырокага спажывання, як і ўся прамысловая прадукцыя, можа вырасці толькі пры ўмове, калі гаспадарнікі пачнуць уважліва вывучаць мясцовыя рэсурсы сыравіны і ўцягваць іх у прамысловую перапрацоўку. Зусім недапушчальны факты, калі рэзультаты навукова-даследчай работы па выкарыстанню мясцовых відаў сыравіны у радзе выпадкаў не рэалізуюцца.

Наркамат мясцовай прамысловасці, горсоветы і РВК павінны шырока разгарнуць арганізацыю цэлага раду нескладаных вытворчасцей, якія не патрабуюць вялікіх капіталаўкладанняў і спецыяльнага абсталявання, каб ужо к пачатку наступнага года значна пашырыць асартымент.

Вялікія перспектывы стаяць перад прамысловасцю мясцовых будматар'ялаў. Вопыт Маскоўскай області, якая за кароткі час здолела разгарнуць вялікую сець заводаў па выпрацоўцы цэглы і чарапіцы для калгасаў, павінен быць выкарыстан прамысловасцю БССР.

Асабліва адказная задача—забяспечыць сістэматычны рост прадукцыйнасці працы, знізіць сабекошт, дабіцца рэнтабельнасці ўсіх без выключэння галін прамысловасці.

За першыя два гады другой пяцігодкі рад галін не справіліся з планавымі заданнямі па якасных паказчыках. Дасягнуты ў 1935 годзе пералом нельга прызнаць дастатковым. Факты перавыдаткаў сыравіны, паліва, дапаможных матар'ялаў, а на некаторых прадпрыемствах і фондаў зарплаты, сведчаць аб тым, што многія гаспадарнікі яшчэ не ўсвядомілі гаспадарчай і палітычнай важнасці беражлівых адносін да совецкай капейкі, значэння гаспадарчага разліку. На нарадзе пры ЦК КП(б)Б работнікі прамысловасці вымушаны былі прызнаць, што на многіх прадпрыемствах гаспадарчы разлік існуе фармальна, а гэта значыць, што яшчэ не зжыты канцэлярска-бюракратычныя метады кіраўніцтва.

Вопыт перадавых прадпрыемстваў цяжкай прамысловасці паказаў, што шлях к высокай прадукцыйнасці працы, к зніжэнню сабекошту, к рэнтабельнасці работы ляжыць праз укараненне сапраўднага гаспадарчага разліку на ўсіх без выключэння ўчастках, праз кантроль рублём усёй работы прамысловасці. Гаспадарнікі БССР павінны памятаць, што ў 1936 годзе ў нас не павінна быць ніводнага адстаючага па якасных паказчыках, нерэнтабельнага прадпрыемства.

Трэба яшчэ вышэй узняць соцспаборніцтва і ўдарніцтва, па-большэвіцку арганізаваць стаханаўскі рух, які з'яўляецца магутнаю зброяй у барацьбе за высокую прадукцыйнасць працы, за максімальнае выкарыстанне тэхнікі.

Неабходна сур'ёзна ўзяцца за ўпарадкаванне сістэмы аплаты працы, падыходзячы дыферэнцыявана «да кожнага цэха, прафесіі, нават да паасобнага рабочага», вывучаючы іх «месца на вытворчасці, кваліфікацыю, нормы выпрацоўкі, прадукцыйнасць» **(Л. Кагановіч).** Неабходна смялей скарыстоўваць вопыт чорнай металургіі па ўкара-

ненню прагрэсіўкі, якая стымулюе лепшую якасць прадукцыі. Зарплату інжынерна-тэхнічных работнікаў трэба перабудаваць так, каб узровень яе быў увязан і залежаў ад выканання колькасных і якасных паказчыкаў плана.

Вялікі лозунг правадыра нашай партыі тав. Сталіна—выкарыстаць тэхніку да дна—выклікаў новую хвалю, магутны ўздым на больш высокую ступень соцыялістычнага спаборніцтва.

Нязмерна ўзросшыя за апошні час вытворча-тэхнічная культура і творчы энтузіязм лепшых людзей нашай эпохі паўсюды руйнуюць так званыя «тэхнічна абгрунтаваныя нормы».

Першы дасканалы пачын забойшчыка Алексея Стаханава, яго соцыялістычны прыклад знашоў падтрыманне перадавікоў многіх галін прамысловасці.

Па прыкладу Стаханава пачаўся рух Сметаніна, Бусыгіна і сотні іншых лепшых вытворцаў, перакрыўшых «нормы» лепшых заводаў заграніцай.

Большасць нашых прадпрыемстваў, не гледзячы на супраціўленне кіраўніцтва паасобных прадпрыемстваў, актыўна ўключыліся ў гэту вялікую справу. Мы ўжо маем дзесяткі соцень лепшых людзей, якія працуюць па метаду Стаханава (браты Скабло, Розенберг—ф-ка імя Кагановіча, Левін—«Большэвік», Ратнер—«Окцябр», Ваўчок—ф-ка імя Крупскай і інш.).

У вопыце стаханаўцаў ляжыць ключ да новых вялікіх перамог нашай прамысловасці, а таму мы абавязаны гэты рух launch пературарыць у магутны паток, які ахапіў-бы мільёны рабочых і працоўных нашай краіны, зрабіць стаханаўскі рух масавым. На жаль, дырэктары трэстаў і прадпрыемстваў, паасобныя партыйныя і профсаюзныя арганізацыі не ўдзяляюць гэтай справе патрэбнай увагі.

Задача заводскіх партыйных, профсаюзных арганізацый і завода-кіраўніцтва—арганізаваць і ўзначаліць шырокую хвалю вытворчага энтузіязма так, каб вопыт перадавых вытворцаў і лепшых арганізатараў свайго рабочага месца, сваёй работы стаў набыткам усіх рабочых.

Арганізацыя працы і зарплата павінны быць перабудаваны так, «каб кожны рабочы зразумеў, што за вышэйшую прадукцыйнасць працы, за работу на больш адказным участку, за лепшую кваліфікацыю павінна быць больш высокая зарплата,—тады наша прамысловасць будзе расці яшчэ хутчэй, тавараў будзе досыць, і выйграе ўвесь рабочы клас» **(Молатаў).**

Ажыццяўляючы на практыцы лозунг тав. Сталіна «тэхніка ў перыяд рэканструкцыі вырашае ўсё», мы дабіліся ліквідацыі таго голаду ў галіне тэхнікі, які атрымалі ў спадчыну ад дарэволюцыйнага мінулага. Аднак лозунг аб тэхніцы часта ўспрыймаўся аднабакова. Многія зразумелі гэты лозунг механічна, у тым сэнсе, што калі нагрымадзіць пабольш машын, то гэтым будзе ўсё дасягнута, забываючы, што тэхніку нельга адрываць ад людзей, якія прыводзяць яе ў рух, што тэхніка без людзей мёртва.

У сваім выступленні на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі тав. Сталін указаў:

> «Каб прывесці тэхніку ў рух і выкарыстаць яе да дна, патрэбны людзі, аўладаўшыя тэхнікай, патрэбны кадры, здольныя асвоіць і выкарыстаць гэту тэхніку па ўсіх правілах майстэрства. Тэхніка без людзей, аўладаўшых тэхнікай,—мёртва.

Калі-б на нашых першакласных заводах і фабрыках, у нашых соўгасах і калгасах, у нашай Чырвонай арміі была дастатковая колькасць кадраў, здольных асядлаць гэту тэхніку, краіна наша атрымала-б эфекту ў тры і ў чатыры разы болей, чым яна мае зараз».

На гэтым адказнейшым участку прамысловасцю павінна быць у найкарацейшы тэрмін праведзена выключна вялікая работа. Сур'ёзная пастаноўка на прадпрыемствах тэхвучобы, ахоп ёю ўсёй рабочай масы, завяршэнне дзяржтэхэкзамена для рабочых, шырокае разгортванне стаханаўскага руху і ўкараненне стаханаўскіх метадаў у выкарыстанне тэхнікі, рашучае павышэнне тэхнічнага ўзроўню ІТР, уважлівыя і чулыя адносіны да кожнага рабочага і яго патрэб—вось адзіна правільны і верны шлях для ўздыму работы прамысловасці на яшчэ вышэйшую ступень, для паспяховага выканання задач рашаючага чацвертага года другой пяцігодкі.

Гэтыя поспехі дасягнуты на аснове разгорнутага соцыялістычнага наступлення на капіталістычныя элементы, ліквідацыі кулацтва як класа на базе суцэльнай калектывізацыі, на аснове разгрому правааппартуністычных элементаў у радах партыі, нацыянал-апартуністаў, контррэвалюцыйнай нацдэмаўшчыны, у барацьбе супроць беларускай, расійскай і інш. контррэвалюцыі, супроць контррэвалюцыйнага трацкізма.

Гэтых поспехаў мы дабіліся ў рэзультаце барацьбы за ажыццяўленне геніяльных указанняў т. Сталіна, яго гістарычных шасці ўмоў, яго ўказанняў аб барацьбе за аўладанне тэхнікай, клопатах аб людзях, аўладаўшых тэхнікай. Гэтых поспехаў мы дабіліся пад бальшэвіцкім кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б пры штодзеннай увазе тав. Гікало.

Гэтыя перамогі адкрываюць новыя велізарныя магчымасці будаўніцтва соцыялізма ў 2-м пяцігоддзі—пяцігоддзі пабудовы бясказавага соцыялістычнага грамадства.

---

**К. Бэнэк**

## Сельская гаспадарка БССР к 18 гадавіне Окцябра

Ажыццяўляючы дырэктывы ЦК ВКП(б) і ўказанні тав. Сталіна, БССР к 18 гадавіне Окцябрскай рэволюцыі дабілася на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва, у тым ліку і ў галіне сельскай гаспадаркі, выдатнейшых поспехаў, што адзначана было вышэйшай узнагародай БССР і яе кіраўнікоў—тт. Гікало і Галадзеда—ордэнам Леніна.

Пройдзеныя гады другой пяцігодкі былі гадамі напружанай большэвіцкай работы ўсёй КП(б)Б па выкарчоўванню рэштак контррэволюцыйнай шкодніцкай дзейнасці прышчэпаўшчыны, па ўмацаванню калгасаў і ачысткі іх ад класава-варожых элементаў, па мабілізацыі ўсёй масы калгаснага сялянства на выкананне гістарычнага лозунга т. Сталіна: «Зрабіць усе калгасы большэвіцкімі і ўсіх калгаснікаў заможнымі».

Перыяд другой пяцігодкі характарызуецца далейшым бурным ростам калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР (з 43,3% на 1/1-33 г. да 85,0% на 1/Х-35 г.). БССР сярод іншых краёў і абласцей Совецкага саюза нядаўна адставала з калектывізацыяй і нават к XVII з'езду ВКП(б) мы ледзь мелі 50% бядняцка-серадняцкіх двароў у калгасах. Цяпер мы можам ганарыцца, што і ў БССР «калгасы і соўгасы разам сталі такою сілай, якая вырашае лёс усёй сельскай гаспадаркі і ўсіх яе галін».

Велізарнейшая дапамога, аказаная Беларусі партыяй і ўрадам Совецкага саюза, забяспечыла карэнную перабудову тэхнічнай базы нашай гаспадаркі, садзейнічала стварэнню для яе новых кадраў, аўладаўшых тэхнікай сучаснай, самай перадавой, механізаванай сельскай гаспадаркі. Колькасць МТС узрасла з 63 у 1933 г. да 96 адзінак у канцы 1935 года. Колькасць трактароў у МТС вырасла з 1683 ў 1933 г. да 3571 у 1935 г. Магутнасць трактарнага парка ўзрасла з 20,5 тыс. конскіх сіл у 1933 г. да 53,4 у 1935 г.

З ростам трактарнага парка адпаведна ўзрастала і колькасць новага прычэпнага інвентара, разнастайных сельскагаспадарчых машын: трактарных плугоў, малатарань, сеялак, жняярак, касілак, снопавязалак, сілосарэзак, ільнацерабілак і інш. Уся гэта магутная тэхнічная база забяспечана і ўласным рамонтам у выглядзе машына-трактарных майстэрань, якія па сваёй магутнасці і абсталяванню перавышаюць дарэволюцыйныя прамысловыя прадпрыемствы БССР.

За гэтыя гады мы шчыльна падышлі да ліквідацыі адсталасці ў сістэме вядзення гаспадаркі і апрацоўкі глебы. У паляводстве

ўкараняецца правільны севазварот, асвойваюцца пакінутыя цалінныя землі, раскарчоўваюцца і заворваюцца новыя плошчы, праводзіцца масавая калгасная меліярацыя забалочаных палёў. У непараўнаных з папярэднімі гадамі маштабах прымяняецца рад агратэхнічных мерапрыемстваў, як выкарыстанне на ўгнаенне торфу, вапны. За гэты час паўсюды ўведзена суцэльная праполка пасеваў не толькі тэхнічных, але і зернавых культур. Уведзен кантроль за якасцю пасеўнага матар'ялу, яго ачысткай і пратручваннем.

Усё гэта дало станоўчыя вынікі ў справе павышэння ўраджайнасці па калгасна-сялянскаму сектару БССР. Сярэдняя ўраджайнасць зернавых культур з 7 цэнтнераў за гады першай пяцігодкі ўзрасла да 9,15 цэнт, з гектара за тры гады другой пяцігодкі; ураджай бульбы—з 91,9 цэнт. да 105,3 цэнт.; ураджай лёну—з 2,17 цэнт. ільнавалакна да 2,4 цэнт.

З ростам ураджайнасці адпаведна раслі прыбытак і заможнасць калгасных мас. Аплата працадня калгасніка ў 3—4 кгр. стала масавай з'явай.

Для ілюстрацыі возьмем некалькі калгасаў:

«Чырвоны араты», Гарадоцкага раёна, у 1934 г. выдаў на працадзень па 4,2 кгр. зернавых і 12 кгр. бульбы; «Чырвоны партызан», Сар'янскага сельсовета, Дрысенскага раёна, выдаў адпаведна—4,5 кгр. і 10,0 кгр.; «Чырвоны пуцілавец», Казловіцкага с-с, Глускага раёна, 4,5 гр. і 12,2 кгр.; «Волкава», Васільеўскага с.-с., Тэрахаўскага раёна,—5 кгр. і 10 кгр.; імя Карла Маркса Чэчэрскага с.-с., Чачэрскага раёна,—5 кгр. і 14 кгр.; «Чырвоны баец», Новадворскага с.-с., Менскага раёна,—4,3 кгр. і 12 кгр.; «Чырвоны пролетарый»», Грэбенеўскага с.-с., Магілеўскага раёна,—4,5 кгр. зернавых і 16 кгр. бульбы.

Такіх прыкладаў безліч у кожным раёне. Мы з намерам прывялі прыклады і з тых раёнаў, якія не лічацца перадавікамі, але, дзякуючы сумленнай калгаснай працы, маюць багацце прадуктаў. У значнай частцы калгасаў перадавых раёнаў працадзень калгасніка ацэньваецца яшчэ вышэй.

У той час, як нашы калгасы мацнеюць, а калгаснае сялянства становіцца заможным, расквітаўшыся назаўсёды з адвечным жабрацтвам—па той бок граніцы, у фашысцкіх краінах, працоўнае сялянства падпадае нечуванай эксплаатацыі, з дня на дзень усё глыбей скатваецца ў бяздонне жудаснай галечы.

Паводле сцверджання саміх-жа польскіх газет, быт сялян Польшчы і Заходняй Беларусі нагадвае эру каменнага веку; нястаткі настолькі вялікі, што многія сотні тысяч сялянскіх гаспадарак прымушаны адмаўляцца ад куплі такіх неабходных прадметаў, як запалкі, мыла, газа. Сродкі вытворчасці, што ўжываліся да апошняга часу, замяняюцца часта прыладамі каменнага веку.

На гэтым фоне эканамічнага збяднення і развалу, нечуванага культурнага і нацыянальнага ўціску працоўных Заходняй Беларусі яшчэ ярчэй вырысоўваюцца нашы агромныя перамогі і дасягненні ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва, у тым ліку і сельскай гаспадаркі.

У выніку планавых мерапрыемстваў нашай соцыялістычнай дзяржавы значна змянілася структура пасеўных плошчаў. Важнейшыя сельскагаспадарчыя тэхнічныя і зернавыя харчовыя культуры забяспечваюцца лепшымі папярэднікамі, пашыраюцца пасевы пшаніцы, расце плошча кармавых культур і папару, укараняюцца зялёныя ўг-

наенні (лубін, сарадэля). Усё гэта прыводзіць да больш правільнага і планамернага выкарыстання натуральных багаццяў зямлі, павышэння яе ўраджайнасці.

У сувязі з ростам калектывізацыі адбыліся вялікія змены ў пасеўных плошчах.

«Калгасы і аднаасобныя сяляне за справаздачны перыяд цалкам памяняліся ролямі, прычым калгасы сталі за гэты час пануючай сілай сельскай гаспадаркі, а аднаасобныя сяляне—другараднаю сілай, прымушанай падпарадкоўвацца і прыстасоўвацца да калгаснага ладу» **(Сталін)**.

Прыводзім табліцу, з якой ясна відаць велізарныя змены, што адбыліся за апошнія гады ў суадносінах паміж пасеўнымі плошчамі калгаснага і аднаасобнага сектароў БССР (у тыс. га).

| | 1933 г. | | 1935 г. | |
|---|---|---|---|---|
| | У калгасаў | У аднаасобнікаў | У калгасаў | У аднаасобнікаў (разам з прысядзібнымі ўчасткамі калгаснікаў) |
| Усёй пасеўнай плошчы | 1873,4 | 1650,6 | 2656,8 | 861,8 |
| У тым ліку азімых . | 527,5 | 609,2 | 760,7 | 348,5 |
| Усіх яравых . . | 1345,9 | 1041,4 | 1896,1 | 513,3 |
| Ярав. зернав. . . | 721,5 | 518,3 | 1006,8 | 210,5 |
| Лёну . . . . | 166,7 | 96,5 | 210,3 | 36,7 |
| Бульбы . . . . | 267,0 | 323,5 | 391,7 | 222,2 |
| Пшаніцы . . . . | 61,7 | 57,6 | 165,1 | 30,2 |
| Кармавых . . . | 149,2 | 56,6 | 226,4 | 7,6 |

З паданых лічбаў мы бачым, што калгасы дабіліся агромных дасягненняў і маюць рашаючае значэнне ў паляводстве БССР.

Толькі на падставе гэтых дасягненняў соцыяльнага парадку сталі магчымы змены ў тэхнічнай структуры паляводства. Плошча азімых з 1.136,7 тыс. га ў 1933 г. знізілася да 1.109,2 тыс. га ў 1935 г. Гэта зніжэнне праведзена з намерам ліквідаваць традыцыйную трохполку—спадарожніка аднаасобнай гаспадаркі, з высокім працантам азімых з нізкім няўстойлівым ураджаем.

Выкананне рашэнняў партыі і ўрада аб далейшым росце зернавых культур павінна праводзіцца ва ўмовах БССР па двух лініях: а) за кошт рашучага ўздыму ўраджайнасці зернавых культур і б) за кошт асваення не ўцягнутых у эксплаатацыю новых зямель. Асваенне новых зямель пад палявыя культуры—карэннае пытанне нашага паляводства. Рост ворнай зямлі дыктуецца неабходнасцю далейшага пашырэння зернавога кліну галоўным чынам пшаніцы, пашырэння плошчаў чыстага і сідэрацыйнага (на зялёным угнаенні) папару і павелічэння плошчы пад кармавыя культуры, вельмі неабходныя для развіцця нашай соцыялістычнай жывёлагадоўлі.

Тав. Сталін у сваім дакладзе на XVII партз'ездзе паставіў перад партыйнымі арганізацыямі так званай спажывецкай паласы задачу—засвоіць 5 мільёнаў га цалінных зямель. Гэта задача непасрэдна датычыць і БССР, якая мае вялікую колькасць забалочаных зямель

з выключна нізкай ураджайнасцю, а часта і зусім не асвоеных. Акрамя таго, у БССР налічваецца 2,5 мільёна гектараў балота.

Меліярацыя ў Беларусі мае выключна важнае значэнне, бо толькі пры меліярацыі забалочаных зямель і балот сельская гаспадарка Беларусі можа атрымаць сотні тысяч гектараў добрай зямлі, якая дасць дадаткова дзесяткі мільёнаў цэнтнераў зярна, сена, караньплодаў, тэхнічных культур.

Эфектыўнасць меліярацыі даказана не толькі вопытнымі станцыямі, але і гаспадарчымі пасевамі ў соўгасе «10-годдзе БССР», калгасе «Пяцігодка» і ў сотнях іншых калгасаў, якія з меліяраваных зямель знімаюць, як правіла, удвая большы ўраджай, чым на мінеральных глебах.

За мінулыя тры гады праароблена вялікая работа па ліквідацыі рэштак шкодніцтва ў меліярацыі. Амаль цалкам закончана асушка 10 тыс. га балотных зямель у сістэме ракі Арэсы, на якіх разгарнулі сваю дзейнасць 4 соўгасы і буйная комуна імя БВА. У далейшым трэба асвоіць усю балотную плошчу масіва размерам да 40 тыс. гектараў.

Другім важным аб'ектам работ з'яўляецца басейн рэк Сведзь і Ведрыч, Рэчыцкага раёна, дзе налічваецца 67 тыс. га балот. Асушцы падлягае 32 тыс. га. Меліярацыйныя работы па данаму аб'екту мяркуецца закончыць у 1936 годзе.

Трэці аб'ект—гэта басейн ракі Славечна і Мухаедаўскага канала, Ельскага раёна і часткі Украіны. У басейне—75 тыс. га балота. Кошт усіх мерапрыемстваў у гэтым басейне складае 50—60 млн. руб. Работы маюць выключнае значэнне для рэканструкцыі двух самых адсталых раёнаў Палесся: Нараўлянскага і Ельскага. Калгасы атрымаюць магутную кармавую базу для жывёлагадоўлі і будуць забяспечаны сталымі добрымі ўраджаямі. Акрамя таго правядзенне Мухаедаўскага канала і рэгуляванне ракі Славечна дадуць выдатны водны шлях для сплаву лесу і транспартыроўкі грузаў.

Чацверты аб'ект—меліярацыя ракі Свіслач. Гэтыя работы маюць дваякае значэнне: ахаваць г. Менск ад штогодняй паводкі, асушыўшы 170 тыс. га балотных зямель, і стварыць водную транспартную артэрыю ад Менска да ракі Бярэзіны.

З праектуемых на пачатак трэцяй пяцігодкі работ асобае значэнне набывае асушка басейна ракі Пціч, дзе знаходзіцца да 300 тыс. га балота.

Гэтым аб'ектам будзе ахоплен агромны масіў Менскага, Пухавіцкага, Осіповіцкага, Старадарожскага, Глускага, Слуцкага і Капаткевіцкага раёнаў, што створыць выключна спрыяючыя ўмовы для развіцця жывёлагадоўлі і значнага пашырэння пасеўных плошчаў у гэтых раёнах.

Упершыню за час рэволюцыі ў 1934 годзе пачата суцэльная асушка мінеральных глеб у Студзянецкім с-с., Клімавіцкага раёна. На жаль, мясцовыя партыйныя і советскія арганізацыі не ўдзялялі патрэбнай увагі гэтаму важнаму аб'екту, таму работа яшчэ не закончана. Сутнасць гэтай справы ў тым, каб даказаць, як высока можна ўзняць ураджай і яго ўстойлівасць на забалочаных мінеральных глебах у выніку простай асушкі зямель. Да гэтага часу ва многіх раёнах толькі крычаць аб вымачках, аб гірсе, але нічога не робяць для знішчэння гэтага зла.

Асваенне новых зямель—усё яшчэ адстаючы ўчастак нашай работы. У 1933 г. асвоена толькі 16,5 тыс. га, ў 1934 г.—107 супроць плана ў 115 і ў 1935 г.—65 супроць плана ў 110 тыс. га. Недавыкананне плана асваення новых зямель ў 1935 г. гаворыць аб тым, што мы недастаткова праводзілі меліярацыю і асушку. Наша задача—павялічыць тэмпы масавай асушкі забалочаных зямель і балот, бо рэсурсы прыгодных для асваення сухіх зямель у асноўным вычарпаны, а змяншаць для гэтага плошчы лугоў і выпасаў немагчыма і немэтазгодна.

* * *

У сваім дакладзе на XVII партз'ездзе т. Сталін даў суровую характарыстыку становішчу насеннай справы:

> «Адной з чарговых задач сельскай гаспадаркі з'яўляецца ўвядзенне правільных севазваротаў, расшырэнне чыстых папараў, палепшанне насеннай справы па ўсіх галінах земляробства. Што робіцца ў гэтай галіне? На жаль, пакуль што—вельмі мала. Насенная справа па зярну і бавоўне так заблытана, што прыдзецца яшчэ доўга разблытваць яе».

Гэта ўказанне тав. Сталіна цалкам адносіцца і да БССР.

Укараняючы мерапрыемствы па палепшанню насенаводства, прышлося занова прарабіць вялікую арганізацыйную работу: стварыць трэст насенаводчых соўгасаў, правесці адбор і ўмацаванне калгасаў МТС'аўскага і дзяржгатунковага фонда, выбраць найбольш прыгодныя для БССР гатункі насення.

Дынаміка росту гатунковых пасеваў зернавых культур па калгасах і соўгасах сістэмы Наркамзема (у гектарах):

| | 1933 г. | 1935 г. | % росту |
|---|---|---|---|
| Жыта азімае . . . | 2287 | 14435 | 631,2 |
| Пшаніца азімая . | 700 | 12657 | 1808,1 |
| Азімых разам . | 2987 | 27092 | 907,0 |
| Пшаніца яравая . . | — | 23581 | — |
| Авёс . . . . . | 4637 | 16666 | 359,4 |
| Ячмень . . . . | 8148 | 34591 | 424,5 |
| Яравых разам . | 12785 | 74838 | 585,4 |
| Зернавых разам . | 15772 | 101930 | 646,3 |

Тэмпы ўзнаўлення гатунковага насення даюць нам магчымасць канчаткова і цалкам забяспечыць чыстагатунковым насеннем плошчы пасеваў ячменю, азімай і яравой пшаніцы к канцу пяцігодкі, а жыта і аўса—у 1938 годзе.

У бліжэйшыя гады мы павінны выпусціць у вытворчасць прыгодныя для ўмоў БССР новыя гатункі пшаніцы і аўса, бо часова адабраныя лепшыя гатункі цалкам нас не могуць задаволіць. З мясцовых папуляцый аўса і яравой пшаніцы, пры належнай селекцыі, можна адабраць і стварыць больш прадукцыйныя і ўстойлівыя гатункі. Гэта работа павінна стаць вядучай для Беларускай навукова-даследчай станцыі паляводства.

Поспехі ў насенаводстве даюць магчымасць к 1937 году канчаткова правесці замену ўсіх пасеваў лёну гатунковым. У 1933 г. гатунковых пасеваў лёну ў БССР было толькі 7 тыс. га, у 1934 г. плошча павялічана да 18,2 тыс. га, у 1935 г.—да 34,3 тыс. га і на 1936 г., выходзячы з нашых гатунковых рэсурсаў, мы можам засеяць не менш 75.000 га або адну трэцюю частку ўсіх пасеваў лёну. Гэта будзе выключная перамога калгаснага ільнаводства БССР.

Пасевы гатунковай бульбы ўзраслі з 31,5 тыс. га ў 1934 г. да 59,8 тыс. га ў 1935 г. Наяўнасць чыстагатунковай бульбы дае поўную магчымасць правесці гатунказмену к канцу пяцігодкі. Для гэтага патрабуецца вялікая арганізацыйная работа па своечасоваму выкананню планаў абмену негатунковай бульбы на гатунковую ў калгасным і соўгасным сектарах.

* * *

Для хутчэйшага павышэння ўраджайнасці палёў асобае значэнне набываюць работы па хімізацыі паляводства, прымяненню тарфяных і вапенных угнаенняў. Пераход да вапнавання глебы за кошт мясцовых залежаў мяккіх вапенных парод даў магчымасць павялічыць завапнаваную плошчу з 4100 га ў 1933 г. да 5800 га ў 1934 г. і да 7.000 га ў 1935 г. Торф, як угнаенне, паступова пачаў укараняцца за апошнія гады. У 1933 г. затарфавана 3300 га плошчы, у 1934 г.—12.890 га, у 1935 г., па няпоўных даных,—30.000 га. Аднак, трэба сказаць, што тэмпы выкарыстання мясцовых рэсурсаў угнаення зусім недастатковы; пры нашых магчымасцях мы можам дабіцца значна большых рэзультатаў.

За апошні год палепшылася пастаноўка справы мінеральнага ўгнаення зямель. Сетка аграхімічных лабараторый пры МТС дае канкрэтныя ўказанні калгасам, як і на якіх участках прымяняць мінеральныя ўгнаенні. На жаль, далёка не ўсе раёны і МТС праяўляюць клопаты аб поўным і рацыянальным выкарыстанні мінеральных угнаенняў як мясцовых, так і завозных. Амаль нічога не робіцца для рацыянальнага захавання і выкарыстання гною ў калгасных і соўгасных гаспадарках.

Барацьба за ўздым ураджайнасці, за заможнае калгаснае жыццё абавязвае нас з максімальнай эфектыўнасцю выкарыстоўваць усе віды ўгнаення. Задача ўсіх партыйных, савецкіх, зямельных арганізацый, праўленняў калгасаў і кіраўніцтва соўгасаў—наладзіць гэту справу так, каб у 1936 г. ні аднаго кілограма гною не засталося нявыкарыстаным у адпаведнасці з агратэхнічнымі патрабаваннямі.

Выключна важнае значэнне для ўздыму ўраджайнасці нашых палёў мае культура лубіну, як зялёнае ўгнаенне, і пашырэнне пасеваў

канюшыны. Наша бліжэйшая задача—давесці плошчу лубіну мінімум да 300 тыс. га і мецъ такую-ж уборачную плошчу канюшыны.

Сёлетні ўраджай забяспечвае нам у 1936 годзе прымяненне лубіну на ўгнаенне 100 тыс. гектараў і для далейшага ўзнаўлення насення—пасеўплошчу ў 45—50 тыс. га. Гэтыя магчымасці трэба выкарыстаць цалкам.

У 1933 г. канюшынай было засеяна 42.500 га, у 1934 г.—44.400 га і толькі ў бягучым годзе зроблен падсеў канюшыны на плошчы 118 тыс. га, што набліжае нас да нормы, у адпаведнасці з зацверджанымі для БССР севазваротамі.

* * *

Калгасы БССР за апошнія тры гады рэзка ўзнялі тэмпы выканання асноўных сельскагаспадарчых кампаній. Веснавая сяўба ў 1932 г. зацягнулася амаль да канца чэрвеня, у 1934 годзе была закончана 23 мая, а ў 1935 годзе—15 мая, акрамя пазнейшых культур (грэчка, гароднiна).

Павысіліся тэмпы ўборкі і выканання ўсіх астатніх сельскагаспадарчых кампаній. Калгасы ў гэтыя гады цалкам і датэрмінова выконваюць дзяржаўныя абавязацельствы па зернапастаўках і бульбапастаўках. Колькасць зернапаставак усіх відаў разам з натураплатай па БССР узрасла з 85 тыс. тон у 1932 г. да 239,3 тыс. тон у 1935 г.

Адстаем мы яшчэ ў выкананні абавязацельстваў па кантрактацыі лёну. План ільназдачы быў выканан у 1933 г. на 96,7% і ў 1934 г. на 99,4%, прычым са значнай зацяжкаю. Рост нумарнасці валакна і гатунковасці трасты вельмі нездавальняючы. У значнай меры тлумачыцца гэта дрэнным доглядам за лежкай на сцеліве і апрацоўкаю лёну, а не толькі нізкім ураджаем на полі. Гэтыя недахопы карэнным чынам павінны быць знішчаны ў 1935 годзе з тым, каб ордэнаносная БССР вышла ў рады перадавікоў ільнаводства па Совецкаму саюзу і каб наш лён стаў лепшым ў свеце.

У сувязі з пастановай урада аб адмене атаварвання лёну хлебам і значным павелічэнні цэн на лён, апошні становіцца найбольш прыбытковай культурай у сельскай гаспадарцы.

Прывядзем некалькі прыкладаў:

Калгас «Чырвоная ніва», Панізоўскага с.-с., Оршанскага раёна, мае пад лёнам невялікую плошчу ў 21 га. Калгас павінен здаць дзяржаве 46 цэнт. ільнатрасты нумарам 1,25; 32,6 цэнт. ільнавалакна 13 нумарам і 27 цэнт. ільнанасення. За гэту прадукцыю калгас атрымае 8,360 р., што на кожны затрачаны на лён працадзень дае 5 р. 68 кап.

Калгас імя Чарвякова, Старасельскага с.-с., Мсціслаўскага раёна, пасеяў 50 га лёну. Гэта—гігант ва ўмовах Беларусі. Аднаго селекцыйнага насення ён дае 721 цэнт. на суму 150.000 руб.; валакна—332,5 цэнт. на суму 53.200 руб., а разам—на суму 203.400 руб. Прыбытковасць аднаго гектара лёну, у тым ліку селекцыйнага,—581 руб. Адзін працадзень, затрачаны на лён, ацэньваецца ў 8 р. 30 к.

Калгас «X з'езд», Дудзіцкага с.-с., таго-ж раёна, пасеяў лёну 70 га. Здае дзяржаве селекцыйнага насення 220 цэнт. на 44.300 руб., валакна—66,5 цэнт. на 10.640 руб., усяго за лён ён атрымае 55.000 руб. Прыбытковасць аднаго гектара—786 руб. 28 кап., аднаго працадня, затрачанага на лён,—11 р. 23 к. або 13 кгр. хлеба.

* * *

Указанні тав. Сталіна на XVII з'ездзе партыі і мерапрыемствы, прынятыя чэрвеньскім пленумам ЦК ВКП(б) у 1934 г., мабілізавалі ўвагу ўсёй партыі і мас калгаснікаў на барацьбу за ўздым жывёлагадоўлі. Пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б забяспечан быў канкрэтны паварот у справе развіцця і палепшання жывёлагадоўлі як у цэлым па БССР, так і ў першую чаргу па калгаснаму сектару.

У 1935 г. на 100 двароў калгаснікаў прыпадае абагуленай і неабагуленай буйнай рагатай жывёлы 254,7 галоў, свіней 194,6 галоў, авечак 159,1 галоў. На 100 двароў аднаасобнікаў—буйнай рагатай жывёлы 111,2 галоў, свіней 101,5 галоў і авечак 65,1 галоў.

Рост пагалоў'я жывёлы (у тысячах галоў) і выкананне дзяржаўнага плана (у %%) па БССР на 1 ліпеня відаць з наступных даных:

| | 1933 г. | 1934 г. | 1935 г. | 1935 г. у %% да дзяржплана |
|---|---|---|---|---|
| Буйн. раг. жывёлы: | | | | |
| Усяго па кал.-сял. сектару . . . . | 1448,9 | 1476,8 | 1861,5 | 105,3 |
| Кароў . . . . . | 960,0 | 873,9 | 870,6 | 106,6 |
| Маладняка . . . . | 245,7 | 339,5 | 586,8 | 118,1 |
| Усяго па калгасах . . | 460,6 | 513,2 | 675,3 | 98,4 |
| Кароў . . . . | 182,4 | 171,4 | 191,2 | 95,6 |
| Маладняка . . . | 104,6 | 167,0 | 226,3 | 94,7 |
| Свіней: | | | | |
| Усяго па кал.-сял. сектару . . . . | 1385,4 | 1319,5 | 1469,5 | 90,1 |
| Матак . . . . . | 298,8 | 272,0 | 271,8 | 83,5 |
| Маладняка . . . . | 695.6 | 720,7 | 811,1 | 62,1 |
| Усяго па калгасах . . | 161,6 | 186,9 | 209,4 | 84,6 |
| Матак . . . . . | 46,2 | 44,7 | 51,3 | 84,8 |
| Маладняка . . . . | 84,8 | 99,5 | 97,1 | 51,1 |
| Авечак: | | | | |
| Усяго па кал.-сял. сектару . . . . | 1824,7 | 1208,6 | 1153,1 | 112,2 |
| Матак . . . . . | — | 522,9 | 506,3 | 97,6 |
| Маладняка . . . . | — | 623,0 | 603,6 | 125,3 |
| Усяго па калгасах . . | 138,2 | 134,8 | 181,7 | 103,7 |
| Матак . . . . . | — | 88,3 | 86,1 | 100,7 |
| Маладняка . . . . | — | 61,4 | 82,2 | 100,5 |

Гэтыя лічбы гавораць аб тым, што ў 1935 г. па ўсяму пагалоў'ю буйнай рагатай жывёлы калгасна-сялянскага сектара рэспублікі мы маем рост, у параўнанні з 1934 годам, на 26% і выкананне дзяржаўнага плана на 105,3%.

Колькасць маладняка ўзрасла на 92,4% пры перавыкананні дзяржаўнага плана на 18,1%. Горш справа па МТКФ, якія, хоць і маюць у параўнанні з 1934 годам значны рост пагалоўя, аднак не дасягнулі яшчэ поўнага выканання дзяржаўнага плана. Свіное пагалоўе вырасла на 11,4%, аднак дзяржаўны план далёка не забяспечан. Тут прыдзецца яшчэ многа папрацаваць над поўным захаваннем прыплоду.

Асабліва паказальны лічбы ўздыму нашай жывёлагалоўлі пры разглядзе структуры стада па калгасна-сялянскаму сектару:

| | Колькасць маладняка на 100 галоў матак | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Усяго па калг.-сял. сектару | У калгасаў | У калгаснікаў | У аднаасобнікаў |
| Буйн. раг. жыв. | | | | |
| На 1-VII—33 г. . . | 30,5 | 74,4 | 16,5 | 22,8 |
| „ 34 „ . . | 43,4 | 111,8 | 20,4 | 33,3 |
| „ 35 „ . . | 77,5 | 143,4 | 59,3 | 57,7 |
| Свіней: | | | | |
| На 1-VII—33 г. . . | 226,5 | 178,0 | 246,0 | 225,0 |
| „ 34 „ . . | 265,0 | 222,4 | 273,8 | 272,9 |
| „ 35 „ . . | 291,6 | 189,4 | 314,7 | 358,6 |
| Авечак: | | | | |
| На 1-VII—33 г. . . | 107,3 | 89,8 | 112,0 | 106,0 |
| „ 34 „ . . | 112,9 | 89,9 | 118,3 | 113,6 |
| „ 35 „ . . | 118,3 | 95,5 | 124,5 | 116,2 |

З гэтых суадносін паміж матачным складам стада і маладняком мы бачым рост тэмпаў соцыялістычнага ўзнаўлення ў жывёлагадоўлі, сапраўднае імкненне шырокіх мас калгаснікаў і аднаасобнікаў як найхутчэй пашырыць і палепшыць соцыялістычную жывёлагадоўлю.

Племянною справай у БССР сур'ёзна пачалі займацца толькі пасля чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б). Але ўжо першыя крокі выявілі нашы даволі значныя рэсурсы ў гэтай справе, якія могуць паслужыць базай для далейшага палепшання жывёлагадоўлі. У раённыя племянныя кнігі запісана ўжо буйнай рагатай жывёлы 42.534 галоў, свіней—12.610 галоў і авечак—3.103 галавы.

План метызацыі ў бягучым годзе праведзен нядрэнна: па буйнай рагатай жывёле перавыканан (181,4%), але недавыканан па свінагадоўлі і аўцагадоўлі. На 1 кастрычніка мы маем 60 племферм для раз-

вядзення буйнай рагатай жывёлы, 98 для свіней і 6 для авечак. Хоць наяўнасць жывёлы ў гэтых фермах і перавышае дзяржаўнае заданне, аднак выкананне плана па колькасці ферм усё яшчэ не забяспечана.

Аб тым, якая агромная работа стаіць перад намі ў племяннай справе, можна меркаваць па таму, што племяннымі вытворнікамі наша жывёлагадоўля забяспечана пакуль толькі на 22% па буйнай рагатай жывёле і на 45% па свінням.

У Слуцкім раёне арганізован сёлета дзяржплемрассаднік буйных белых англійскіх свіней, які мае саюзнае значэнне, і ў Менскім—дзяржплемрассаднік чырвонай беларускай жывёлы—рэспубліканскага значэння. Абодва племрассаднікі павінны адыграць значную ролю ў справе хутчэйшага палепшання жывёлы ў нашай рэспубліцы, але працуюць яны пакуль што нездавальняюча.

Наркамзем, партыйныя, савецкія і зямельныя арганізацыі павінны дабіцца, каб гэтыя племрассаднікі ў бліжэйшыя гады забяспечылі высокія тэмпы развіцця высокапрадукцыйнай жывёлы ў нашай рэспубліцы.

У справе развіцця жывёлагадоўлі і павышэння заможнасці калгаснікаў асоба важнае значэнне мае работа па забяспечанню калгаснікаў жывёлай. У 1934 г. процант бескароўных гаспадарак знізіўся да 16,8, а ў 1935 г. да 14,8. Гаспадарак без усякай жывёлы на І/VII-34 г. было 8,4%, на І/VII-35 г. 6%; гаспадарак без свіней, адпаведна—42,1% і 28,9%.

Наша бліжэйшая задача—поўнасцю ліквідаваць бескароўнасць і дапамагчы калгаснікам у абзавядзенні ўсімі іншымі відамі жывёлы.

Значна палепшылася правядзенне злучных кампаній, паменшыўся падзеж буйнай рагатай жывёлы (з 11,1% у 1934 г. да 9,7% у 1935 г.). Устанавіліся лепшыя адносіны да захавання маладняка буйнай рагатай жывёлы. Усё яшчэ недапушчальна высокі процант падзежу дробнай жывёлы. Так, падзеж свіней на СТКФ не толькі не знізіўся, а вырас з 17,2% у 1934 г. да 19,6% у 1935 г. З такімі адносінамі да гадоўлі маладняка трэба рашуча пакончыць, бо маладняк—рашаючае звяно ў вырашэнні жывёлагадоўчай праблемы.

Немалаважнае значэнне ў нашай гаспадарцы мае развядзенне хатняй птушкі. Сталінскі статут сельскагаспадарчай арцелі ў прыватнасці стымулюе зацікаўленасць калгаснікаў у індывідуальным развядзенні птушкі. Тысячы калгасных двароў ужо маюць па некалькі дзесяткаў птушак, як, напрыклад, т. Казючыц з калгаса імя Калініна, Лашанскага с.-с., Уздзенскага раёна, мае 20 шт. гусей, 20 шт. качак і 40 шт. курэй. Развіццё птушкагадоўлі набывае ўсё большыя размеры ва многіх калгасах рэспублікі (Менск, Талачыно, Крупкі, Рагачоў, Кіраўск і інш.).

Аднак, пры наяўнасці бясспрэчных поспехаў, работа зямельных органаў, раду раённых партыйных арганізацый і савецкіх устаноў (Петрыкаў, Віцебск, Орша, Журавічы, Касцюковічы, Жыткавічы, Лёзна, Горкі, Осіповічы, Рагачоў і інш.) у справе развіцця жывёлагадоўлі праводзіцца дрэнна. Няма яшчэ бальшэвіцкай увагі, канкрэтнага аператыўнага кіраўніцтва гэтай важнейшай складанай справай, як у самой сістэме Наркамзема і яго органаў на месцы, так і ў значнай частцы партыйных і савецкіх арганізацый.

* * *

Вельмі вялікія дасягненні маюць калгасы БССР у галіне росту культуры. За гэты час амаль ва ўсіх сельсоветах адкрыты няпоўныя

сярэднія школы (сямігодкі), у вялікай колькасці па вёсцы расходзяцца: газеты, часопісы і кнігі, будуюцца ў калгасах бібліятэкі, хаты-лабараторыі, клубы, яслі, дзетпляцоўкі, хаты-радзільні, лазні. Нярэдка можна сустрэць у хаце калгасніка добрую мэблю, радыё, патэфоны, швейныя машыны, веласіпеды, набытыя за некалькі год адданай і сумленнай працы ў калгасах.

Калгасны лад і сталінскі статут забяспечылі небывалы рост актыўнасці, свядомасці і культурнасці соцень тысяч калгасніц. Адбываецца велізарны пералом у жыцці і свядомасці жанчыны-калгасніцы, якая ўжо стала вялікаю сілай і актыўным будаўніком сацыялізма ў нашай Совецкай краіне.

У БССР за апошнія тры гады калгасы і МТС падрыхтавалі вялікую армію новых кадраў, аўладаўшых тэхнікай социялістычнай сельскагаспадарчай вытворчасці. На вёсцы зараз працуе звыш 10.000 трактарыстаў, сотні трактарных механікаў, машыністаў-малатарнікаў, ільнацерабільшчыкаў і інш. Агромная колькасць кадраў выпушчана праз раённыя калгасныя школы і курсы масавай кваліфікацыі: старшынь калгасаў, брыгадзіраў, паляводаў, загадчыкаў ферм і іншых спецыяльнасцей. Яны паказваюць узоры асваення тэхнікі нашай перадавой механізаванай сельскагаспадарчай вытворчасці.

Можна прывесці сотні імёнаў трактарыстаў і трактарных брыгадзіраў, даўшых добрыя паказчыкі сваёй работы.

Былая батрачка Соня **Рачак,** трактарыст-брыгадзір Капыльскай МТС, дае па сваёй брыгадзе сярэднюю выпрацоўку на адзін трактар 427 га мяккага ворыва.

Трактарысты браты **Калініны,** з Рэчыцкай МТС, на трактары ХТЗ да 1 кастрычніка выпрацавалі 700 га мяккага ворыва.

Трактарны брыгадзір Лагойскай МТС тав. **Небаеў** Л. М. дае сярэднюю выпрацоўку на адзін трактар 551 га.

Брыгадзір **Санюковіч,** той-жа МТС, дае на трактар у сярэднім 510 га і эканоміі гаручага 1800 кгр. на брыгаду.

Трактарыст **Сокал** Віктар, Капыльскай МТС, дае 390 га мяккага ворыва за сваю змену.

Трактарыст **Будай** А. Т., Менскай МТС, на трактары ЧТЗ за сваю змену выпрацаваў 458 гектараў.

Трактарыст **Стульба** Антон Барысавіч, Оршанскай МТС, выпрацаваў 535 га на трактары ХТЗ.

Дзякуючы рабоце перадавых людзей, стаханаўцаў сельскай гаспадаркі, за апошнія два гады значна палепшылася выкарыстанне трактароў у МТС. На адзін сярэднегадовы пятнаццацісільны трактар, у перакладзе на мяккае ворыва, выпрацавана ў 1933 г. усяго 158,8 га без малацьбы, у 1934 г.—244,1 га. На адну малатарню ў 1933 г. выпрацавана 1586 га, у 1934 г.—2241 га.

У бягучым годзе вынікі работы яшчэ не падведзены, аднак ёсць усе падставы гаварыць аб сярэдняй выпрацоўцы 300 га на адзін трактар. Усё-ж гэтага вельмі мала.

Выкарыстанне трактарнага парка ў цэлым застаецца на нізкім ўзроўні. Мы павінны дабіцца ад усіх трактарыстаў максімальнай нормы выпрацоўкі, дасягнутай перадавымі трактарыстамі. Стаханаўскі рух, якім ахоплены ўжо дзесяткі тысяч прамысловых прадпрыемстваў, сотні тысяч рабочых і калгаснікаў, неабходна перанесці ў работу МТС, калгасаў і соўгасаў, як вышэйшую форму соцспаборніцтва.

Задача ўсіх раённых арганізацый—шырока папулярызаваць стаханаўскі метад работы ў сельскагаспадарчай вытворчасці.

* * *

Землеўпарадкванне ў БССР усё яшчэ застаецца адстаючым участкам работы, найбольш пацярпеўшым ад шкодніцкай дзейнасці прышчэпаўшчыны. Калі Прышчэпаў выкарыстаў землеўпарадчы апарат для ажыццяўлення сваёй контррэволюцыйнай кулацкай мэты—насаджэння хутароў і дробных пасёлкаў, то яго паслядоўца Масюкоў з моманту масавай калектывізацыі паспеў прывесці да поўнага развалу землеўпарадчыя справы і разбазарыў наяўныя кадры землеўпарадквальнікаў.

У сучасны момант кадры землеўпарадквальнікаў дасягаюць ужо звыш 600 чалавек. 1933 і 1934 гады прашлі ў работах па землеўпарадкаванню калгасаў, нарэзцы палёў севазвароту і брыгадных участкаў, арганізацыі прысядзібных цэнтраў і інш. У 1935 г. увесь землеўпарадчы апарат пераключан на работу па выдачы калгасам дзяржаўных актаў на вечнае карыстанне зямлёй.

Зусім незадавальняюча пастаўлена справа выдачы калгасам дзяржаўных актаў на вечнае карыстанне зямлёй. Рад раёнаў (Горацкі, Мсціслаўскі) пры правядзенні гэтага важнейшага гаспадарча-палітычнага мерапрыемства, якое вынікае са сталінскага статута сельскагаспадарчай арцелі, дапусціў грубыя палітычныя памылкі, скажаючыя сутнасць справы. Пры землеўпарадкванні, замест сталых граніц калгаса, устанаўляліся граніцы цэлых паселішчаў, уключаючы і аднаасобныя гаспадаркі, што груба парушае інструкцыю НКЗ Саюза, зацверджаную СНК СССР. У іншых раёнах, як, напрыклад, Лёзненскім, Дзержынскім, сталі на шлях очкаўціральства і злоўжыванняў, выдаючы калгасам незапоўненыя бланкі дзяржаўнага акта, чым па сутнасці змазвалі палітычнае значэнне гэтай важнейшай справы.

Важным момантам з'яўляецца пераход на комплексны паглыблены метад работы па ўнутрыгаспадарчаму ўпарадкаванню калгасаў і разгортванне работы па ліквідацыі спадчыны сталыпіншчыны і прышчэпаўшчыны—хутарскога і дробнапасёлкавага рассялення. Гэта справа праведзена і праводзіцца па калгасах Дубровенскага, Мсціслаўскага, зоны Путчынскай і Гарадоцкай машынатрактарных станцый. Эфектыўнасць надзвычай вялікая. Яна садзейнічае лепшай арганізацыі калгаснай вытворчасці, больш рацыянальнаму выкарыстанню машын, стварае спрыяючыя ўмовы для палепшання бытавога і культурнага абслугоўвання калгаснікаў.

Буйнейшым недахопам у землеўпарадкванні з'яўляецца тое, што толькі ў адной трэцяй часткі калгасаў праведзена нарэзка палёў севазвароту. Наша задача ў 1936 г., побач з выдачай калгасам дзяржаўных актаў на вечнае карыстанне зямлёй,—забяспечыць увядзенне севазваротаў хоць-бы ў палове калгасаў, каб у 1937 г. закончыць нарэзку палёў севазвароту па ўсіх калгасах БССР.

Падводзячы вынікі пройдзенага шляху за перыяд трох год другой пяцігодкі, на працягу якіх адбыліся асноўныя соцыяльныя і эканамічныя зрухі ў сельскай гаспадарцы БССР, не трэба, аднак, забываць аб тым, што гэтыя поспехі з'яўляюцца толькі першымі крокамі і што перад намі стаіць яшчэ многа задач, якія мы павінны вырашыць у бліжэйшыя гады.

У нашай штодзённай рабоце стаіць у бліжэйшы час задача—максімальна арганізаваць і мабілізаваць калгасныя масы на забяспечанне лепшай падрыхтоўкі жывёлы да зімы і правядзенне ўсіх работ, звязаных з падрыхтоўкай да вясенняй сельскагаспадарчай кампаніі.

У бліжэйшыя дні павінны быць закончаны работы па будаўніцтву, рамонту і ацяпленню будынкаў, замацаваны за фермамі кармы, забяспечан патрэбны догляд і кармленне жывёлы на працягу ўсяго стойлавага перыяда.

Рыхтуючыся да веснавой сяўбы, неабходна засыпаць, ачысціць і захаваць насенне, адрамантаваць трактары і с.-г. інвентар. Увесь зімовы перыяд павінен пайсці на максімальнае выкарыстанне нашых рэсурсаў павышэння ўраджайнасці: вывазку гною і мінеральных угнаенняў (вапна і інш.).

Барацьба за далейшыя поспехі соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, за механізацыю сельскай гаспадаркі, за рашучы ўздым ураджайнасці, за асваенне тэхнікі і павышэнне прадукцыйнасці працы, за стварэнне новых высокакваліфікаваных кадраў, за выкананне і перавыкананне дзяржаўных планаў, за развіццё жывёлагадоўлі—павінна праводзіцца з падвоенай энергіяй, каб да канца ажыццявіць лозунг правадыра ўсіх працоўных—вялікага Сталіна: «зрабіць усе калгасы большэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі.»

* * *

Першых поспехаў сельская гаспадарка БССР дасягнула ў выкананні самых элементарных патрабаванняў: своечасовым правядзенні сельскагаспадарчых кампаній, поўным выкананні асноўных планаў і абавязацельстваў калгасаў перад дзяржавай. Партыя і ўрад аказалі агромную дапамогу калгасам у іх арганізацыйным і палітычным умацаванні, у магутным узбраенні перадавою тэхнікай, на што зроблены велізарныя матар'яльныя выдаткі і ў прыватнасці спісана з калгасаў 20 мільёнаў рублёў запазычанасці.

Каб забяспечыць пастаўленыя партыяй перад сельскай гаспадаркай задачы—высокую ўраджайнасць соцыялістычных палёў, далейшы ўздым жывёлагадоўлі, заможнае і культурнае жыццё ўсім калгаснікам,—работнікі сельскай гаспадаркі на ўсіх без выключэння ўчастках павінны змагацца за якасць, за ўзмацненне тэмпаў работы.

Работнікі МТС і соўгасаў, каб зрабіць свае прадпрыемствы рэнтабельнымі, павінны хутка асвоіць тэхніку, вырасціць кадры стаханаўцаў сельскагаспадарчай вытворчасці.

Для выканання цэнтральнай задачы другой пяцігодкі—павышэння ўраджайнасці—неадкладнай задачай паляводства з'яўляецца хутчэйшае ўвядзенне севазваротаў, упарадкванне справы насенаводства і забяспечання калгасаў і соўгасаў гатунтовым насеннем, асваенне новых зямель, максімальнае выкарыстанне кожным калгасам усіх мясцовых рэсурсаў угнаення: торфу, вапны і т. п., укараненне пасеваў лубіну, канюшыны і сарадэлі, палепшанне апрацоўкі зямлі і ўборкі ўраджаю. Задачы ў галіне жывёлагадоўлі—хутчэйшая ліквідацыя падзежу і адыходу маладняка, максімальнае разгортванне племяннай справы, забяспечанне культурнага ўтрымання і догляду жывёлы.

Меліярацыя і землеўпарадкванне з'яўляецца на даным этапе карэнным пытаннем нашай сельскай гаспадаркі, ад якога залежыць далейшы размах і росквіт паляводства і жывёлагадоўлі.

Гаворачы аб поспехах сельскай гаспадаркі БССР, нельга не адзначыць выдатнай кіруючай ролі ЦК КП(б)Б і асабліва тав. Гікало, блізкі ўдзел якога ў вырашэнні літаральна ўсіх, а іншы раз і невялікіх пытанняў, стварыў асаблівую ўпэўненасць у поспехах той справы, за якую змагалася ўся КП(б)Б, усе калгаснікі і калгасніцы, усе работнікі сельскагаспадарчага фронту.

18 гадавіну Окцябрскай рэвалюцыі мы сустракаем велізарнымі перамогамі на ўсіх фронтах социялістычнага будаўніцтва, аднак супакоіцца на дасягнутым не можам. У нашай рабоце не мала недахопаў. Далёка яшчэ не выкарыстаны магчымасці, закладзеныя ў социялістычных формах вядзення сельскай гаспадаркі. Перад намі яшчэ стаяць агромнейшыя задачы па выкананню плана апошніх год другой пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бясклассавага социялістычнага грамадства. Поспех у гэтай вялікай справе забяспечваюць жывыя людзі, аўладаўшыя тэхнікай социялістычнай вытворчасці. Лозунг правадыра партыі і ўсіх працоўных—тав. Сталіна, што на даным этапе социялістычнага будаўніцтва «кадры вырашаюць усё», у аднолькавай меры датычыць і социялістычнай сельскай гаспадаркі калгасаў і соўгасаў. Таму барацьба за вырошчванне і выхоўванне новых кадраў з гушчы калгаснай масы, перавыхоўванне ўсёй масы калгаснага сялянства ў свядомых барацьбітоў за социялістычнае будаўніцтва павінна стаць у цэнтры ўвагі партыйных, совецкіх і зямельных арганізацый.

18 гадавіну вялікага Окцябра шырокія масы рабочых нашай краіны сустракаюць новым уздымам вытворчага энтузіязма. Стаханаўскі метад работы, як важнейшая форма социялістычнага спаборніцтва, з кожным днём усё шырэй і шырэй ахапляе прадпрыемствы социялістычнай прамысловасці і сельскай гаспадаркі.

Разам з рабочымі социялістычнай прамысловасці ў стаханаўскі рух павінны ўключыцца шырокія масы калгаснікаў, трактарыстаў, рабочых соўгасаў. Задача партыйных і зямельных арганізацый на месцах—узначаліць і арганізаваць масы у іх вытворчым энтузіязме для новых перамог на ўсіх участках социялістычнай сельскай гаспадаркі.

Сталінскі статут калгаснага жыцця, выпрацаваны і прыняты 2-ім з'ездам калгаснікаў-ударнікаў, адкрыў новы этап у развіцці калгасаў, этап бурнага росту і росквіту социялістычнай сельскай гаспадаркі.

Сталінскі статут сельскагаспадарчай арцелі з'яўляецца магутнаю зброяй у руках калгасаў і калгаснага сялянства для найхутчэйшага дасягнення культурнага і заможнага калгаснага жыцця.

Калгасныя масы, узброеныя сталінскім статутам сельскагаспадарчай арцелі, натхнёныя перамогамі социялістычнага будаўніцтва, загартаваныя ў барацьбе з кулаком і ўсімі ворагамі калгаснага ладу, у бліжэйшыя гады, пад кіраўніцтвам нашай слаўнай ВКП(б) і вялікага правадыра народаў СССР—тав. Сталіна, ператвораць нашу рэспубліку ў квітнеючы край, з высокімі ўраджаямі, багаццем хлеба, тэхнічных культур, пладоў, мяса, малака.

Гэтым мы яшчэ больш узмоцнім БССР—фарпост вялікай нашай радзімы на заходніх рубяжах.

**З. Кавальчук**

# Профсаюзы БССР к 18 гадавіне Окцябра

З велізарным энтузіязмам і натхненнем працоўныя масы Совецкага саюза сустракаюць 18 гадавіну Окцябрскай соцыялістычнай рэволюцыі. Пролетарыят ў саюзе з многамільённымі масамі працоўнага сялянства прашоў гераічны шлях напружанай барацьбы за справу Окцябра.

Былая царская Расія—краіна паліцэйскага самавольства, краіна аграрная з раздробленай сельскай гаспадаркай, ператворана воляю партыі Леніна—Сталіна ў краіну індустрыяльную, аснашчоную перадавою тэхнікай, ў краіну перамогшага соцыялізма, у непрыступную крэпасць сусветнай пролетарскай рэволюцыі.

На VII з'ездзе советаў т. Молатаў у сваім дакладзе даў разгорнуты малюнак гістарычных перамог, якіх дабіліся рабочы клас і калгаснае сялянства Саюза советаў.

> ...«Соцыялізм зрабіў велізарны рух уперад у нашай краіне, соцыялістычны ўклад стаў непадзельна пануючым ва ўсёй народнай гаспадарцы. Амаль 4/5 сялянства ўступіла ў калгасы. У выніку гэтага непасрэдным **соцыялістычным будаўніцтвам** цяпер ужо **занята пераважная большасць насельніцтва нашай краіны...** І вось мы можам зараз сказаць: **Расія нэпаўская стала Расіяй соцыялістычнай**».

Адным з самых яркіх дакументаў, які падводзіць вынікі нашым нябачаным перамогам, з'яўляецца пастанова ЦК партыі і Соўнаркома Саюза аб зніжэнні цэн на хлеб і адмене картачнай сістэмы на ўсе прадукты спажывання. Гэта—акт велізарнейшага значэння, бліскучы вынік барацьбы нашай партыі, кіруемай вялікім Сталіным, за індустрыялізацыю краіны, за соцыялістычную пераробку сельскай гаспадаркі.

Індустрыялізацыя нашай краіны, перамога калгаснага ладу—усё гэта забяспечыла рост нашай эканомікі, нябачаны росквіт усіх галін народнай гаспадаркі, а з ім і рост рабочага класа, павышэнне яго матар'яльнага і культурнага ўзроўню.

Гэты рост патрабаваў ад совецкіх профсаюзаў—прыводнага рэменя ад партыі к пролетарыяту—вялікай упартай работы па арганізацыі працоўных мас з тым, каб выканаць ускладзеную на іх партыяй асноўную задачу—быць школай комунізма.

18 год профсаюзы пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна змагаліся з усякімі спробамі звярнуць іх з ленінскага шляху. Ушчэнт разбіты спробы меншавікоў, контррэволюцыйнага трацкізма, рабочай апазіцыі, правых апартуністаў і іншых антысовецкіх груповак знайсці ў профсаюзах апору для барацьбы супроць генеральнай лініі партыі. Таксама паспяхова былі разбіты права-апартуніс-

тычныя элементы ў савецкім прафсаюзным руху, якія спрабавалі насадзіць трэд'юніянізм, рабілі стаўку на адрыў прафсаюзаў ад партыі.

У адпаведнасці з усё ўзрастаючымі задачамі прафсаюзаў, асабліва ў гады другой пяцігодкі, партыяй Леніна—Сталіна праведзен рад важнейшых палітычных і арганізацыйных мерапрыемстваў па палепшанню работы: абнаўленне кіраўніцтва прафсаюзаў з выгнаннем былых права-апартуністычных заправіл з ВЦСПС, ліквідаванне Наркампрацы і перадача функцый сацыяльнага страхавання і аховы працы прафсаюзам, перадача ім жа функцый нізавых органаў РСІ на прадпрыемствах, разбуйненне і перабудова работы прафсаюзаў.

Поспехі першай пяцігодкі, выкананай у чатыры гады, велізарнейшая будоўля, разгорнутая ў другой пяцігодцы, суправаджаюцца бурным ростам арганізаваных працоўных мас па ўсяму Савецкаму саюзу.

Гэты рост асабліва ясна відаць на прыкладзе БССР—неадлучнай часткі СССР.

Возьмем лічбы росту рабочых і служачых БССР толькі за апошні год.

На 1/IV 1934 года колькасць працуючых рабочых і служачых у БССР дасягала 457.826 чал., з іх членаў прафсаюзаў—347.012 чал. або 76,7%, а на 1/IV-35 г. павялічылася да 498.331 чал., з іх членаў прафсаюзаў—393.981 чал. або 79,4%.

Рэканструкцыя большасці старых і ўвод у эксплаатацыю новых прадпрыемстваў, пабудаваных па апошняму слову навукі і тэхнікі, шырокае развіццё бытавых устаноў—сталовых, ясель, дзіцячых садоў—усё гэта садзейнічала ўцягненню ў народную гаспадарку жанчын-работніц. У агульным ліку рабочых, занятых у народнай гаспадарцы БССР, жанчыны, акрамя калгасніц, складалі ў 1932 г.—27,8%, а ў 1935 г.—32,5%. Каля 80% жанчын-работніц ахоплены прафсаюзным членствам. У паасобных галінах народнай гаспадаркі процант працуючых жанчын складае:

| | |
|---|---|
| Па шарсцянай прамысловасці . . . | 51,3 |
| „ ільнянай „ . . . | 63,7 |
| „ швейнай „ . . . | 68,4 |
| „ кансервнай „ . . . | 68,9 |
| „ ахове здароў'я „ . | 72,4 |
| „ трыкатажнай „ . . . | 76,5 |

Папаўненне вытворчасці кадрамі, паміма ўцягнення жанчын, адбывалася таксама за кошт моладзі. Удзельная вага моладзі ва ўзросце да 23 год ва ўсіх галінах гаспадаркі складае зараз 31,4%.

* * *

Прафсаюзамі пад кіраўніцтвам партыі прароблена агромная работа ў справе выхавання мас рабочых, асабліва новых кадраў. Галоўнай зброяй у гэтай вялікай справе з'яўлялася і з'яўляецца шырокае разгортванне самакрытыкі і сацыялістычнага спаборніцтва.

Няўхільнае і цвёрдае правядзенне ўказанняў Леніна—Сталіна аб разгортванні сацыялістычнага спаборніцтва забяспечыла нам велізарныя поспехі на ўсіх участках сацыялістычнага будаўніцтва. Соцспаборніцтва забяспечыла не толькі выкананне і перавыкананне пла-

наў, стварэнне матар'яльных каштоўнасцей, але і соцыялістычную пераробку саміх людзей.

Соцспаборніцтва і ўдарніцтва, разам з магутным развіццём па ўсяму Совецкаму саюзу, расло і ўмацоўвалася ў нас—у БССР. У 1929 г. колькасць ударнікаў па БССР складала толькі 15%, ў пачатку 1934 г. гэтая лічба дасягае 61%, а к сярэдзіне 1934 г. ўзрастае да 66%. За першае паўгоддзе 1935 года значна ўзрасла колькасць спаборнічаючых. Па 55 прадпрыемствах мясцовай прамысловасці колькасць спаборнічаючых вырасла з 77,4% на 1/1-35 г. да 80,7%—на 1/VII-35 г.

Абавязацельствы па соцспаборніцтву сталі больш канкрэтнымі, накіраванымі на выкананне норм, аўладанне тэхнікай і палепшанне якасці прадукцыі.

На фабрыках і заводах БССР 5 месяцаў ішоў конкурс-спаборніцтва на прадпрыемства суцэльнай тэхнічнай граматнасці, арганізаваны ЦСПСБ, Наркаммясцпромам і рэдакцыяй газеты «Рабочий».

ЦК КП(б)Б надаў вялікае палітычнае і практычнае значэнне гэтаму конкурсу, прапанаваўшы партыйным і профсаюзным арганізацыям забяспечыць штодзённае аперацыйнае кіраўніцтва конкурсам.

Сотні і тысячы рабочых—старыя і моладзь—моцна змагаліся за пяршынства. У выніку першага тура з 55.680 чал. вытворчых рабочых, удзельнікаў конкурса, тэхнічны экзамен здалі 45.711 чал., з іх 25.886 чал. на выдатна. Дзесяткі фабрык і заводаў (імя Варашылава, «Бэльшэвік», «Гомсельмаш», імя Кірава, акулярная, імя Клары Цэткін і інш.), выконваючы ўказанне ЦК КП(б)Б, сталі прадпрыемствамі суцэльнай тэхнічнай граматнасці.

Але тэхнічны мінімум—гэта толькі пачатак. І зусім не выпадкова віцебскія рабочыя, якія паказалі ўзоры ў аваладванні першым турам тэхвучобы, высунулі новы лозунг—змагацца за другі тур вучобы, за значок «ЗОТ» другой ступені.

Побач са спаборніцтвам унутры БССР, вядзецца спаборніцтва з прадпрыемствамі іншых рэспублік. Скурзавод «Бальшэвік» спаборнічае з харкаўскім скурзаводам, абавязаўшыся выпусціць прадукцыі на 435.000 руб. звыш плана. Абутковыя фабрыкі імя Кагановіча і Лекерта—з 5 Харкаўскай абутковай фабрыкай. Швейнікі БССР спаборнічаюць са швейнікамі Украіны на лепшую марку. Усесаюзная журыйная камісія па першаму туру прызнала, што рад фабрык БССР—«Окцябр», імя Дзержынскага і некаторыя іншыя—занялі адно з першых месц у спаборніцтве.

У перыяд конкурса рабочыя-выдатнікі пад кіраўніцтвам партыйных і профсаюзных арганізацый падхапілі ўказанне тав. Орджанікідзе аб мабілізацыі ўнутраных рэзерваў і павелічэнні прамысловых накапленняў. Калектыў Магілеўскай шоўкавай фабрыкі, які датэрмінова выканаў план валавой прадукцыі за 1 паўгоддзе, абавязаўся даць дзяржаве ў бягучым годзе звышпланавых накапленняў 2.750 тыс. руб. і паспяхова змагацца за рэалізацыю ўзятага абавязацельства. За шоўкавай фабрыкай паследвалі многія прадпрыемствы БССР.

Конкурс-спаборніцтва суправаджаўся перасоўваннем многіх энтузіястаў тэхнікі з рабочых выдатнікаў на больш кваліфікаваную і адміністрацыйна-гаспадарчую работу. На скурана-галантарэйнай фабрыцы імя Куйбышэва (Менск) з 1/V па 1/IX перашлі ў вышэйшыя разрады 79 рабочых і работніц, а 13 работніц высунуты на адміністрацыйна-гаспадарчую работу—старшымі брыгадзірамі, майстрамі (тт. Шалькевіч, Марголіна, Рычкоўская і інш.).

На Магілеўскай шоўкавай фабрыцы паасобныя рабочыя сталі нават зменнымі інжынерамі (т. Хвастуноў і інш.). Работніцы—тт. Казінец, Ліберштэйн, Ніскіна, Варанчук—высунуты зменнымі майстрамі матальнага цэха. Тт. Хмельніцкая, Данейка—зменнымі інжынерамі.

Лепшыя людзі гэтай фабрыкі не толькі забяспечваюць выкананне і перавыкананне промфінплана, але прымаюць актыўны ўдзел у грамадскім і палітычным жыцці краіны. Ударніца Матвеева Ольга паходзіць з бядняцкай сялянскай сям'і, на фабрыцы працуе з 1931 года. Яна—лепшая прадзільшчыца, член ЦВК БССР, актыўна ўдзельнічае ў рабоце дэпутацкай групы і мопраўскай арганізацыі фабрыкі, за добрую работу не раз прэміравана.

Тав. Жолудзеў—працаваў з 1930 г. слесарам, цяпер вылучан майстрам машыннага аддзялення. Вельмі добра спраўляецца з даручанай работай, не раз узнагорджваўся каштоўнымі прэміямі. Актыўны ўдзельнік вытворчых нарад, зборшчык членскіх узносаў па калектыўнаму страхаванню.

Тав. Соркін—паступіў падручным электраманцёра на ЦЭЦ пры фабрыцы, узмоцнена працаваў над сабой і ў 1934 г. здаў экзамен на электратэхніка. На гэтым, аднак, Соркін не спыніўся і ў сучасны момант з'яўляецца студэнтам завочнікам інстытута, рыхтуецца ў інжынеры. Узяў шэфства над слесарам Караткевічам і падрыхтаваў яго к здачы дзяржаўнага тэхнічнага экзамена на пасаду майстра-турбініста.

Цікава таксама спыніцца на некаторых імёнах сярод многіх лепшых рабочых менскага завода імя Молатава.

Тав. Бурдун Якаў,—вярнуўшыся з Чырвонай арміі ў 1923 годзе, стаў працаваць столярам на заводзе Молатава, дзе быў вылучан у старшыні заўкома, а пасля на кіруючую работу ў ЦП саюза. У сучасны момант т. Бурдун скончыў Лясную акадэмію і, як інжынер па дрэваапрацоўцы, кіруе зменаю на сваім-жа заводзе.

Тав. Левінбаум Майсей—стары рабочы, вытворчы стаж 25 год, герой першай пяцігодкі, выдатнік, не раз прэміраваўся. У сучасны момант—адзін з лепшых начальнікаў цэха.

Такіх прыкладаў можна прывесці сотні і тысячы на кожным прадпрыемстве. Аднак даволі і гэтых, каб паказаць, як з ударнікаў, актыўных удзельнікаў спаборніцтва, выхоўваецца новая тэхнічная інтэлігенцыя, вырастаюць стаханаўцы, па якіх раўняюцца масы рабочых.

У БССР стаханаўскі рух знашоў гарачы водгук у шырокіх масах рабочых і калгаснікаў. Прыклад большэвіцкіх адносін да стаханаўскіх метадаў работы першымі паказалі лепшыя ўдарнікі Менскай абутковай фабрыкі імя Кагановіча, якія па прыкладу рабочага ленінградскай фабрыкі «Скараход»—т. Сметаніна, апракінулі ўсе так званыя «тэхнічна-абгрунтаваныя» нормы абцяжкі і цвікоўкі. Ініцыятары стаханаўскага руху на фабрыцы—браты **Скабло, Розенберг** і інш. сваімі ўзорнымі метадамі работы пацягнулі за сабою дзесяткі энтузіястаў высокай прадукцыйнасці працы і якасці прадукцыі. Паспяхова пачаў прымяняць стаханаўскія метады работы абмельшчык закройнага цэха фабрыкі «Окцябр»—т. Ратнер. Гэтыя перадавыя людзі перакрываюць свае нормы на 200—300 працантаў. Рады стаханаўцаў з кожным днём растуць на многіх прадпрыемствах Менска, Гомеля, Віцебска, Бабруйска і інш. гарадоў і раёнаў БССР (завод імя Варашылава—тт. **Харнас,**

**Мурашка, Шаболтас;** завод «Большэвік»—тт. **Левін, Шамес, Пасенюк;** завод імя Кірава—т. **Васілеўскі** і інш.).

Станоўчы фактар у разгортванні стаханаўскага руху—гэта тое, што нізавы актыў многіх прадпрыемстваў (парторгі і прафоргі) сваім асабістым прыкладам з'яўляюцца сапраўднымі агітатарамі і прапагандыстамі гэтай важнейшай палітычнай справы. Так, на фабрыцы імя Кагановіча ў першых радах знаходзяцца прафоргі тт. **Поляк, Ліпкер;** на заводзе «Ударнік» прафоргі—тт. **Самсонаў, Гарэлік, Жук;** на швейнай фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі» прафоргі—тт. **Зялёнка, Панкова, Мясаедава;** на заводзе імя Кірава прафоргі—тт. **Васілеўскі, Галаўня, Гімельштэйн** і т. д.

Аднак, каб зрабіць стаханаўскі рух масавым, трэба яго арганізаваць. Тым часам цэлы рад фабрык і заводаў усё яшчэ палітычна яго недаацэньваюць. Многія фабрычна-заводскія арганізацыі недастаткова зразумелі, што гэтаму выдатнаму руху, які павінен даць нябачаны ўздым усёй народнай гаспадаркі, будуць усякім спосабам перашкаджаць класавыя ворагі.

Яркім гэтаму прыкладам з'яўляецца фабрыка «Дзвіна» (Віцебск), дзе мелі месца яўна шкодніцкія адносіны і гнусныя здзекі з боку класава-варожых элементаў (майстра Ліхавідава—былога кулака, Чаплінскага, Пыльскай і інш.) над работніцамі, якія перашлі на метады работы вічугскай ткачыхі Дусі Вінаградавай. Класава-варожыя вылазкі на фабрыцы «Дзвіна» не атрымалі належнай палітычнай ацэнкі і своечасовага рэагавання не толькі з боку фабкома і гаспадарчага кіраўніцтва фабрыкі, але нават з боку ЦП саюза ільняншчыкаў, якое знаходзіцца ў Віцебску, і Горпрофсовета.

Недапушчальныя адносіны да ўкаранення стаханаўскіх метадаў работы мелі месца на фабрыцы імя Кагановіча з боку майстра Луп'яна; на мэблевай фабрыцы імя Молатава—з боку майстра Сігала, на заводзе Варашылава—з боку майстра Карнея і на радзе іншых прадпрыемстваў.

З гэтых фактаў профарганізацыям трэба зрабіць для сябе адпаведныя палітычныя і практычныя вывады. Трэба рашуча пакончыць з усякімі спробамі сарваць і дыскрэдытаваць работу стаханаўцаў. Профсаюзы павінны бязлітасна выкрываць усіх, хто становіцца поперак стаханаўскаму руху, трэба зараз-жа пакончыць з бюракратычнымі, абыякімі адносінамі да арганізацыі і разгортвання стаханаўскіх метадаў работы. Каб шырыць гэты рух, трэба ў аснову яго пакласці вытворча-тэхнічную дапамогу кожнаму стаханаўцу і тым, хто хоча працаваць па метаду Стаханава, максімальна ўцягваючы ў гэтую справу інжынерна-тэхнічныя сілы. Асабліва трэба папярэдзіць профарганізацыі ад спроб апошліць стаханаўскі рух шляхам рэкардсменства, пагоні за лічбамі, траскатні ў гэтай справе, замест сапраўднага ўкаранення стаханаўскіх метадаў работы.

Профсаюзам трэба аб лепшых людзях вытворчасці максімальна клапаціцца, штодзенна дапамагаць іх далейшаму росту, папулярызаваць лепшыя ўзоры работы нашых выдатнікаў, нашых стаханаўцаў з тым, каб гэты рух стаў масавым, а кожны рабочы добра ўсвядоміў, што працаваць на выдатна, даваць высокаякасную прадукцыю—яго абавязак перад пралетарскай дзяржавай.

Профсаюзы—самая масавая арганізацыя рабочага класа, і метады іх работы павінны быць накіраваны на штодзеннае выхоўванне мас, на вырошчванне ў іх новай соцыялістычнай самасвядомасці.

Выкананне лозунга т. Сталіна аб кадрах, аб тым, што на сучасным этапе соцыялістычнага будаўніцтва «кадры вырашаюць усё» з'яўляецца цэнтральнай задачай профсаюзаў. Вакол пытання вырошчвання новых кадраў, аўладаўшых тэхнікай вытворчасці, вакол пытання клопатаў аб кадрах павінна быць сканцэнтравана ўвага ўсіх профсаюзных і гаспадарчых арганізацый.

* * *

У профсаюзных арганізацыях асновай росту актыўнасці і самадзейнасці рабочых і служачых з'яўляецца профсаюзная дэмакратыя і самакрытыка. У сувязі з развіццём і пашырэннем савецкай дэмакратыі, нам неабходна ўзняць на значна большую вышыню ўсю агітацыйна-прапагандысцкую і культурна-выхаваўчую работу ва ўсіх грамадскіх арганізацыях і ў першую чаргу ў профсаюзах.

Нельга паспяхова выхоўваць масы і чакаць поспеху ў барацьбе з бюракратызмам, фармалізмам, бяздушнасцю, якія жывуць яшчэ ў паасобных звеннях профсаюзнага апарата, не разгортваючы самакрытыкі.

Самакрытыка і ўнутрыпрофсаюзная дэмакратыя павінны пранізаць усю работу профсаюзных арганізацый. Інакш нельга выявіць і выкрыць новыя прыёмы і метады супраціўлення класавага ворага. Толькі тыя профсаюзныя арганізацыі маюць аўтарытэт сярод рабочых, якія вельмі добра ведаюць жыццё мас, жывуць іх інтарэсамі, любоўна клапоцяцца аб кожным члене профсаюза, аказваюць яму сапраўдную дапамогу ў вытворчасці, у культурна-бытавым абслугоўванні.

Клопаты па-Сталінску аб сотнях тысяч людзей—членаў профсаюзаў, аб дзесятках тысяч профсаюзных актывістах-прафарганізатарах, рабочых-кантралёрах, грамадскіх інспектарах працы, страхавых дэлегатах і мностве іншых дабравольцах-энтузіястах—лепшых людзях—ёсць аснова работы профсаюзаў.

З гэтага асяроддзя пралетарыяў, нізавога актыва, профсаюзы павінны чэрпаць свае кадры. Больш рашуча высоўваць на кіруючую работу найбольш правераных, стойкіх, адданых справе Леніна—Сталіна пралетарыяў, удаляючы з профсаюзнага апарата ўсё гнілое, нягоднае, што перашкаджае працаваць па-новаму, у адпаведнасці з велізарнейшымі задачамі, якія стаяць перад профсаюзамі.

У гэтай сувязі, калі мы гаворым аб веданні людзей, трэба рашуча пакончыць з наяўнымі непаладкамі ў нашай профсаюзнай гаспадарцы. А іх у нас надзвычай многа. Праверка профгаспадаркі па саюзах комунальна-жыллёвага будаўніцтва, жыллёвай гаспадаркі і іншых паказала, што на гэту важнейшую справу дагэтуль глядзелі, як на другарадную, тэхнічную. Іменна, навёўшы парадак у сваім уласным «профсаюзным доме», мы з большым поспехам зможам выконваць задачы, звязаныя з выхоўваннем і вырошчваннем новых кадраў, выкараніць усё тое, што перашкаджае нашай рабоце.

* * *

Поспехі соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР грунтуюцца на безупынным росце прадукцыйнасці працы. Тав. Сталін так фармуляваў нашы задачы ў гэтай галіне:

«Без сістэматычнага росту прадукцыйнасці працы як у галіне прамысловасці, так і ў галіне сельскай гаспадаркі, мы не

можам вырашыць задач рэканструкцыі, не можам не толькі дагнаць і перагнаць перадавыя капіталістычныя краіны, але нават адстаяць сваё самастойнае існаванне».

Другая пяцігодка паставіла перад намі адказныя задачы ў галіне асваення перадавой тэхнікі вытворчасці. Указанне тав. Сталіна аб тым, што пафас соцыялістычнага будаўніцтва мы павінны дапоўніць пафасам асваення тэхнікі, павінна быць рэалізавана цалкам.

Асваенне перадавой тэхнікі вытворчасці з'яўляецца буйнейшым фактарам павышэння прадукцыйнасці працы.

«У рэзультаце паспяховага выканання пяцігодкі,—гаварыў тав. Сталін,—нам удалося пабудаваць дзесяткі і сотні новых вялікіх заводаў і камбінатаў, якія маюць новую складаную тэхніку. Гэта значыць, што ў аб'ёме прамысловай прадукцыі ў другой пяцігодцы асноўную ролю будуць адыгрываць ужо не старыя заводы, тэхніка якіх ужо асвоена, як гэта мела месца ў перыяд першай пяцігодкі, а новыя заводы, тэхніка якіх яшчэ не асвоена і якую трэба асвоіць. Але асваенне новых прадпрыемстваў і новай тэхнікі прадстаўляе значна больш труднасцей, чым выкарыстанне старых або аднаўленых заводаў і фабрык, тэхніка якіх ужо асвоена».

Прамысловасць БССР, як і ўсяго Совецкага саюза, за апошнія гады моцна ўзброілася новаю тэхнікай. Большасць старых фабрык і заводаў узбагаціліся новым абсталяваннем. Вялікія дасягненні мы маем і ў палепшанні тэхналагічнага працэса. Прамысловасць ордэнаноснай БССР, пад непасрэдным кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б пры брацкай дапамозе Совецкага саюза, выканала і перавыканала праграму 9-ці месяцаў 1935 года.

БССР ужо налічвае сотні і тысячы стаханаўцаў, дзесяткі тысяч вылатнікаў. Рацыяналізатарская думка, агромны паток рабочых прапаноў значна садзейнічалі ўдасканаленню прыёмаў працы і лепшаму выкарыстанню магутнасці абсталявання.

Вялікая масава-растлумачальная работа, праведзеная профсаюзамі ў сувязі з пераглядам норм, стварэнне груп садзейнасці тэхнічнаму нармаванню, узмацненне барацьбы з рвацтвам і т. д.—вось фактары, якія садзейнічалі лепшай арганізацыі працы і барацьбе за высокую якасць.

Перагляд застарэлых і няправільных норм расчысціў шлях далейшаму росту прадукцыйнасці працы і ўстанаўленню паміж ёю і заработнай платай правільных суадносін.

Работа гаспадарчых і профсаюзных арганізацый Наркаммясцпрома адлюстравана ў наступнай табліцы, якая паказвае, як у параўнанні з 1934 годам паляпшаюцца суадносіны паміж ростам прадукцыйнасці працы і ростам зарплаты (у рублях):

| 1934 год | | | | | | 6 месяцаў 1935 года | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Прадукцыйнасць працы | | | Зарплата | | | Прадукцыйн. працы | | | Зарплата за 5 мес. у сярэдн. | | |
| План | Выкан. | у проц. | План | Выкан | у проц. | План | Выкан. | у проц. | План | Выкан. | у проц. |
| 7.506 | 7.302 | 97,3 | 1.387 | 1.505 | 108,5 | 3865 | 4003 | 103,5 | 140 | 144 | 103 |

Рэалізуючы ўказанне тав. Сталіна аб тым, што трэба «арганізаваць зарплату так, каб яна ўмацавала рашаючыя звенні вытворчасці і рухала людзей на вышэйшую кваліфікацыю», гаспадарчыя і прафсаюзныя арганізацыі БССР дабіліся значных поспехаў. Здзельшчына з 70,6% у пачатку 1933 года дасягнула 76,7% у пачатку 1935 года. З года ў год няўхільна расце зарплата рабочага і бюджэт яго сям'і. Калі ў 1927-28 гг. сярэдняя заработная плата аднаго рабочага ў прамысловасці БССР складала 64 р. 46 кап. у месяц, то ў маі 1934 года яна ўзрасла да 120 руб., а ў маі 1935 года даходзіць да 148 р. 57 кап. Па асобных галінах прамысловасці зарплата дасягнула: па лесапіленню 148 р. 74 к., паліграфічнай прамысловасці 158 р. 25 к., скуранай 155 р. 69 к., абутковай 161 р. 79 к., металапрамысловасці 184 р. 64 к.

Значны рост сярэдняй зарплаты аднаго рабочага за год ясна паказвае табліца:

| | Сярэдн. зарплата за май 1934 г. | Сярэдн. зарплата за май 1935 г. | Рост у проц. |
|---|---|---|---|
| Металапрамыслов. . | 149 р. 33 к. | 184 р. 64 к. | 23,64 |
| Тэкстыльная „ . | 80 „ 43 „ | 115 „ 46 „ | 43,55 |
| Папяровая „ . | 97 „ 86 „ | 129 „ 81 „ | 32,64 |
| Запалкавая „ . | 106 „ 90 „ | 135 „ 82 „ | 27,05 |

Многія рабочыя, якія пачалі даваць узоры высокай прадукцыйнасці працы пры выдатнай якасці прадукцыі, яшчэ вышэй узнялі сваю заработную плату.

У стаханаўца т. Хаткоўскага (завод імя Варашылава) зарплата вырасла з 16 да 25—26 руб. у дзень. Тав. Ганчарова раней была бракаробам, а зараз, працуючы новым метадам, дае высокую прадукцыйнасць працы, штодзенна павышае якасць прадукцыі. Падобных прыкладаў можна прывесці безліч. Яны сведчаць аб тым, што на нашых прадпрыемствах растуць стаханаўцы, вопыт якіх трэба ўсямерна папулярызаваць, зрабіўшы яго набыткам шырокіх мас рабочых.

Як новае, трэба адзначыць увядзенне здзельшчыны для ІТР, якая асабліва пашырылася ў дрэваапрацоўчай і мэблевай прамысловасці. Зарплата ІТР пабудавана ў залежнасці ад якаснага і колькаснага выканання задання, асартымента прадукцыі і сабекошту па тых элементах, якімі інжынерна-тэхнічны работнік кіруе. Гэта сістэма цягне за сабой кантроль над работай прадпрыемства па ўсіх паказчыках.

Пры аналізе паказчыкаў першых тыдняў работы па новай сістэме выяўлена, што зменны майстар стандартнага цэха Бабруйскага лесакамбіната т. Мітэльман, які лічыўся лепшым у выкананні плана, фактычна выконваў яго за кошт лішкаў рабсілы і перавыдаткавання фондаў зарплаты. Новая сістэма аплаты прымусіла т. Мітэльмана сур'ёзна павярнуцца да якасных паказчыкаў. І калі за першую палову мая ён не выпрацаваў нават 85% гарантыйнага акладу, то ўжо ў другой палове месяца ліквідаваў усе непаладкі ў сваёй змене і палепшыў работу так, што забяспечыў 120% свайго асноўнага акладу.

У рэзультаце перабудовы зарплаты камбінат за адзін толькі май месяц атрымаў 130.000 руб. эканоміі па сабекошту прадукцыі і па

фонду зарплаты, тым часам як у мінулым меў павышэнне сабекошту.

Пастановай партыі і ўрада значна ўзнята заработная плата рабочых чыгуначнага і воднага транспарта, медычных работнікаў і цэлага раду іншых груп працоўных.

У прамысловасці БССР значна палепшылася выкарыстанне рабочага часу ў параўнанні з 1934 годам. На аднаго рабочага прыпадае дзён:

| | Сакавік | | | Май | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Фактыч. работы | Цэльнадзенны прастой | Прагул па няўважлів. прычынах | Фактыч. работы | Цэльнадзенны прастой | Прагул па няўважлів. прычынах |
| 1934 г. | 23,71 | 0,33 | 0,07 | 22,13 | 0,11 | 0,08 |
| 1935 „ | 23,89 | 0,09 | 0,04 | 22,66 | 0,07 | 0,06 |

Адзначаючы нашы поспехі ў галіне росту прадукцыйнасці працы і заработнай платы, неабходна з усёй сілаю падкрэсліць, што мы ўсё яшчэ дрэнна працуем надператварэннем заработнай платы ў важнейшы рычаг далейшага росту прадукцыйнасці працы, яшчэ большага ўздыму якасці прадукцыі, мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў прадпрыемства.

Для таго, каб зарплата стымулявала прадукцыйнасць працы, трэба арганізаваць яе так, каб кожны рабочы быў зацікаўлен у сістэматычным павелічэнні сваёй выпрацоўкі і павышэнні кваліфікацыі.

Далейшае пашырэнне здзельнай сістэмы аплаты працы, перабудова здзельшчыны з пункту погляду цеснай увязкі яе з якасцю работы, шырокае прымяненне дыферэнцыяванай аплаты ў залежнасці ад гатунковасці і якасці прадукцыі, выкараненне чыстай пачасовасці—вось нашы асноўныя далейшыя задачы ў галіне заработнай платы.

Заработная плата зараз, на фоне адмены картачнай сістэмы на ўсе прадукты харчавання, набывае выключнае значэнне. Гэтаму ўчастку работы гаспадарнікі, пры дапамозе профсаюзаў, павінны ўдзяляць агромную ўвагу. Трэба зразумець, што заработная плата ў сучасных умовах з'яўляецца адным з асноўных фактараў далейшага росту вытворчасці і палепшання матар'яльна-бытавога становішча працоўных.

Таксама вельмі значным фактарам у рабоце гаспадарчых і профсаюзных арганізацый з'яўляецца індывідуальнае гародніцтва. Па БССР значна вырасла колькасць індывідуальных гародаў: з 58 тысяч пры 6.785 га ў 1934 г. да 70.000 з плошчай пасеву звыш 10.000 га ў 1935 годзе.

Даволі значная работа праведзена профсаюзамі ў справе падрыхтоўкі да зімы. Лепш разгарнулася падрыхтоўка школьных памяшканняў, забяспечанне рабочых палівам, школьнікаў—зімовым адзеннем і абуткам. Аднак, не ўсё яшчэ зроблена. Асабліва недастатковым тэмпам праводзіцца рамонт кватэр ударнікаў.

Кожная профарганізацыя павінна цвёрда памятаць, што сталыя штодзенныя клопаты аб рабочым, пачынаючы з правільнай аплаты яго работы на вытворчасці, канчаючы клопатамі аб яго кватэры, гародзе, аб сыне школьніку—усё гэта павінна стаць адпраўным пунктам у рабоце кожнага фабзаўкома, кожнага профработніка.

* * *

Карэнная тэхнічная рэканструкцыя народнай гаспадаркі суправаджалася значным палепшаннем аховы працы як ва ўсім Саюзе, так і на прадпрыемствах БССР. Партыя і ўрад штогод асігнуюць сотні тысяч рублёў на мерапрыемствы па ахове працы, тэхніцы бяспекі і промсанітарыі.

За гады першай пяцігодкі ў справу аховы працы па БССР укладзена 5,5 млн. рублёў. Гэтыя асігнаванні растуць з года ў год: у 1931 г.—1.400 тыс. руб., у 1933 г.—1.980 тыс. руб., у 1934 г.—2.044 тыс. руб.

У мінулым Беларусь мела выключна дробныя саматужныя майстэрні і прадпрыемствы, якія туліліся ў брудных, цесных, дрэнна асветленых падвалах. Цяпер на змену ім прышлі прадпрыемствы высокай культуры. У чыстых, прасторных, светлых, абсталяваных вентыляцыяй, душамі, раздзявальнямі, умывальнікамі, ленкуткамі прадпрыемствах рабочаму створаны ўсе магчымасці здаровых умоў працы.

Старая, дарэволюцыйная Беларусь мела на сваіх прадпрыемствах толькі дзве вентыляцыйныя ўстаноўкі, прызначаныя галоўным чынам для тэхналагічных мэт. Сёлета ў БССР налічваецца 484 устаноўкі агульным коштам 7,7 млн. руб. Вентыляцыйныя ўстаноўкі на шоўкавай фабрыцы, Гомсельмашы, заводзе імя Сталіна з'яўляюцца буйнейшымі ў СССР.

Значны рост механізацыі, шырокае ўкараненне пад'ёмных механізмаў, элеватараў, транспарцёраў, электракар, аўтакар—усё гэта палягчае працу рабочых, занятых падачай і перасоўваннем матар'ялаў.

У запалкавай прамысловасці беззваротна адышлі ў мінулае ручныя працэсы работы. На дрэваапрацоўчых заводах, торфарасапрацоўках механізован рад цяжкіх працэсаў ручной работы, што стварае рэальную базу для ператварэння ў бліжэйшыя гады ўсіх нашых прадпрыемстваў у «чыстыя, годныя чалавека лабараторыі» **(Ленін).**

Многія прадпрыемствы БССР вядуць сістэматычную барацьбу за высокую культуру працы. На скурзаводзе «Большэвік» разбіты кветнікі, устаноўлены фантаны, цэхі азеленены і адпавядаюць усім правілам санітарыі. Праведзены заводам конкурс даў рад каштоўных прапаноў па тэхніцы бяспекі. Па ініцыятыве рабочых віцебскай акулярнай фабрыкі, барысаўскай фабрыкі «Пролетарская перамога» непасрэдна ў цэхах устаноўлены пальмы, кветкі, ачышчаны рабочыя месцы. На Магілеўскай шоўкавай фабрыцы, на віцебскай швейнай фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі» асфальтаваны заводскія тэрыторыі і разбіты кветнікі. Тое-ж самае праароблена і радам іншых прадпрыемстваў.

Сістэма праведзеных мерапрыемстваў не магла не адбіцца на агульным зніжэнні вытворчага траўматызма ў паасобных прамы-

словых прадпрыемствах БССР: у запалкавых на 44%, у шкляных на 42% і т. д.

Вялікую работу па ахове працы на прадпрыемствах праводзіць інстытут добраахвотных грамадскіх інспектароў, вылучаных з ліку лепшых рабочых-ударнікаў.

Лепшымі грамадскімі інспектарамі з'яўляюцца: т. Рубінштэйн—завод імя Варашылава ў Менску; т. Спектар—швейная фабрыка «Окцябр»; т. Назарава—фабрыка «Комунарка»; т. Тэкліна—швейная фабрыка «Комінтэрн» у Гомелі. Яны актыўна ўдзельнічаюць у ахове працы на сваіх прадпрыемствах.

Далейшая задача профсаюзаў—як найхутчэй і найбольш эфектыўна асвоіць велізарныя сродкі, якія адпускаюцца партыяй і ўрадам на аздараўленне працы рабочых. У гэтай справе профарганізацыі далёка яшчэ не выкарыстоўваюць усіх сваіх агромных магчымасцей. Яны павінны ў бліжэйшы тэрмін умацаваць гэты адстаючы ўчастак, памятаючы, што за ахову працы яны нясуць прамую адказнасць перад рабочым класам.

* * *

Бурныя поспехі на ўсіх участках народнай гаспадаркі прадвызначылі і рост соцыяльнага страхавання—аднаго з важнейшых фактараў палепшання быту рабочых.

Колькасць застрахаваных па БССР з 427.000 у 1933 годзе вырасла да 464.000 у 1935 г. Бюджэт соцыяльнага страхавання з года ў год няўхільна расце. К XVIII гадавіне Окцябра профсаюзы Беларусі ідуць з бюджэтам па соцыяльнаму страхаванню ў суме 100.740.000 руб. супроць 78.240.000 у 1933 годзе.

Прыбытковая частка бюджэта соцстраха БССР за 8 месяцаў 1935 года выканана замест 67.160.000 руб. на 69.537.000 руб., або на 103,5%. Па асобных саюзах выкананне даходзіць да 119%.

Гэтыя даныя сведчаць аб тым, што профсаюзы нядрэнна пачалі арганізоўваць адказнейшую справу соцыяльнага страхавання і пагаспадарку за яе адказваць.

Нельга не адзначыць ролю рабочых актывістаў па соцстраху. Іх многа. Каган Н.—работніца абутковай фабрыкі імя Кагановіча, ударніца, вытворчы стаж 20 год, з'яўляецца бяззменным страхдэлегатам штампавальнага цэха. Сваю энергію яна аддае не толькі на кантроль. Літаральна ўвесь свой вольны час праводзіць у наведванні хворых у больніцы і дома, прыносіць харчаванне, набывае прадукты, атрымлівае ў фабкоме дапамогу хворым. Не раз была прэміравана.

Работніца Саламон Х.—працуе на скурзаводзе «Большэвік», ударніца, страхавы дэлегат на працягу раду год. Увесь свой вольны час аддае справе кантроля. Не раз ускрывала і дабівалася знішчэння дэфектаў у рабоце лекавых устаноў. Асаблівую ўвагу ўдзяляе рабоце прафілакторыя заводаў «Большэвік» і «Варашылава». Была многа раз прэміравана.

Такіх актывістаў дзесяткі і сотні на кожным нашым прадпрыемстве.

Соцыяльнае страхаванне, якое развілося пад кіраўніцтвам партыі і па асабістай ініцыятыве тав. Сталіна, складае адно з асноўных звеняў работы профсаюзаў. Аднак, на гэтым участку яшчэ вельмі многа недахопаў. Соцстрах павінен стаць тым рычагом, які ўмацоўвае пра-

цоўную дысцыпліну, стымулюе прадукцыйнасць працы, паляпшае матар'яльны добрабыт рабочага і яго сям'і, ахоўвае здароўе працоўных. Сродкі соцстраха ў першую чаргу павінны ісці на лепшае абслугоўванне ўдарніка-выдатніка. Задача профсаюзаў—узмацніць кантроль за правільным выдаткаваннем гэтых сродкаў, папярэджваючы ўсякую магчымасць злоўжывання імі.

* * *

Наша дзяржава агромную ўвагу ўдзяляе дзіцячым установам, дамам адпачынку, санаторыям, курортам, лекаваму харчаванню і ўсім іншым мерапрыемствам, накіраваным на павышэнне жыццёвага ўзроўню рабочага і яго сям'і.

Вось даныя аб росце асігнаванняў на абслугоўванне працоўных за апошнія два гады:

| | 1933 г. | 1935 г. | % росту |
|---|---|---|---|
| Абслугоўванне дзяцей застрахаваных . . | 4.784.800 р. | 11.457.000 р. | 239 |
| Дамы адпачынку, санаторыі і курорты . . | 2.122.000 „ | 4.300.000 „ | 202 |
| Лекавае харчаванне . . | 695.500 „ | 1.550.000 „ | 222,3 |
| Медыцынская дапамога застрахаваным . . . | 17.036.000 „ | 24.586.000 „ | 144,3 |

Гэтыя даныя ясна гавораць самі за сябе.

Дынаміка асігнаванняў на дзіцячае абслугоўванне сведчыць аб той велізарнай увазе, якую партыя і ўрад удзяляюць нашай дзетвары. Гэта наглядна відаць з наступнай табліцы асігнаванняў (у тыс. руб.):

| | Дзіцячыя сады | Яслі | Піонер. лагеры і дзіцячыя санатор. | Дадатков. харчаван. школьнік. |
|---|---|---|---|---|
| 1933 г. | — | 1.052 | 43,6 | 374,0 |
| 1934 „ | 1.320 | 2.332 | 135,3 | 393,0 |
| 1935 „ | 2.503 | 7 296 | 218,4 | 298,0 *) |

У гэтых лічбах мы бачым глыбокі клопат краіны дыктатуры пролетарыята і правадыра нашай партыі т. Сталіна аб дзецях, аб іх матках, аб усёй сям'і працоўнага. Яны садзейнічаюць ліквідацыі беспрытульнасці і безнагляднасці дзяцей. На аснове клопатаў дзяржавы расце і мацнее здаровая і шчаслівая змена будаўнікоў соцыялістычнай радзімы.

*) за паўгоддзе.

У 1921 г. Леніным быў падпісан спецыяльны дэкрэт аб дамах адпачынку:

«Дамы адпачынку арганізуюцца ў мэтах прадастаўлення рабочым і служачым магчымасці аднавіць свае сілы і энергію на працягу атрымліваемага імі штогод чарговага водпуску ў найбольш спрыяючых і здаровых умовах».

Нашы вытворчыя дасягненні стварылі найлепшую базу для адпачынку, якім забяспечваюцца шырокія масы рабочых і служачых. З часу арганізацыі дамоў адпачынку дзесяткі тысяч рабочых падмацавалі сваё здароў'е.

Праз дамы адпачынку профсаюзаў БССР прашлі дзесяткі тысяч людзей: у 1933 г.—25.088 чал., у 1934 г.—31.151 чал., у 1935 г.—35.650 чал.

Праз курорты і дамы адпачынку саюзнага значэння толькі за 3 квартал 1935 года прапушчана 4.000 чалавек рабочых і служачых. Акрамя таго, за 8 месяцаў 1935 года праз дамы адпачынку, якія належаць Цэнтральнаму праўленню саюзаў, прапушчана звыш 5.000 чалавек.

Сярод прафілактычных устаноў, прызваных аднаўляць здароўе працоўных, асаблівае месца займае Ўсебеларускі сухотны санаторый Цэнтральнага Совета Профсаюзаў у Сасноўцы. Добры догляд і ўмовы лячэння зрабілі санаторый Сасноўку папулярным не толькі ў БССР, але і ў іншых брацкіх рэспубліках.

Новым відам абслугоўвання рабочых у сістэме профсаюзаў, пачынаючы з 1934 года, з'яўляюцца прафілакторыі—установы, дзе рабочыя штодзенна, на працягу месяца, без адрыву ад вытворчасці, атрымліваюць поўны гігіенічны рэжым, санаторнае харчаванне і неабходнае лячэнне. Такіх прафілакторыяў па БССР ў сучасны момант налічваецца пяць: у Менску—для рабочых завода «Большэвік» і «Варашылава», у Добрушы—для рабочых папяровай фабрыкі «Герой працы», у Гомелі—для дрэвакамбіната імя Гікало і два ў Віцебску—для рабочых фабрык «Сцяг індустрыялізацыі», «КІМ» і «Клары Цэткін». Усе яны разлічаны на 30—35 месц і абслугоўваюць лешых ударнікаў вытворчасці.

У сваёй гістарычнай прамове на нарадзе гаспадарнікаў тав. Сталін сказаў:

«Трэба выходзіць не з мінулага, а з растучых патрабаванняў рабочых у сучасным. Трэба зразумець, што ўмовы існавання рабочых змяніліся ў нас у корані. Рабочы зараз—не тое, што раней. Сучасны рабочы, наш совецкі рабочы, хоча жыць з пакрыццём усіх сваіх матар'яльных і культурных запатрабаванняў і ў сэнсе харчовага снабжэння, і ў сэнсе жылля, і ў сэнсе забяспечання культурных і ўсякіх іншых запатрабаванняў. Ён мае на гэта права, і мы абавязаны забяспечыць яму гэтыя ўмовы».

Гэта ўказанне знайшло свае адлюстраванне ў каласальных сумах, якія выдаткоўваюцца на матар'яльна-бытавое абслугоўванне рабочых.

* * *

Партыйныя, совецкія і профсаюзныя арганізацыі БССР ва ўпартай барацьбе за павышэнне культурнага ўзроўню працоўных дабіліся асабліва вялікіх поспехаў. БССР з'яўляецца зараз краінай суцэльнай граматнасці.

Гэты гістарычны поспех асабліва рэльефна выдзяляецца на фоне беспрасветнага становішча працоўных, якое мы наглядаем у капіталістычных краінах. У суседняй з намі фашысцкай Польшчы налічваецца 6-мільённая армія няграматных.

Профсаюзы БССР за апошнія два гады выдаткавалі на справу ліквідацыі няграматнасці і малаграматнасці больш аднаго мільёна рублёў і прыблізна столькі-ж прыцягнулі сродкаў ад гаспадарчых арганізацый пры заключэнні калдагавораў.

Нядрэнныя паказчыкі ахопу малаграматных агульнаадукацыйнай школай даюць паасобныя профсаюзы: станкабудаўнічай прамысловасці—92,3%, цэментнай—68%, лесапільнай—62,7%, конесоўгасаў—100% і т. д.

18 гадавіну Окцябрскай рэволюцыі мы сустракаем, як краіна суцэльнай граматнасці. У выніку гэтага велізарнага поспеху ўрад БССР змог у 1934-35 навучальным годзе ўвесці замест ранейшых лікпунктаў адзіную пачатковую школу з трыма гадамі навучання. Рашэнне 1 усебеларускай нарады па пытаннях лікбеза, скліканай па ініцыятыве профсаюзаў, было падтрымана Соўнаркомам БССР і ўзаконена спецыяльнай пастановай.

Безупынны рост матар'яльнага і культурнага ўзроўню працоўных прад'яўляе ўсё большыя патрабаванні да нашых клубаў, якія закліканы быць цэнтрам комуністычнага выхавання і месцам карыснага адпачынку рабочага і яго сям'і.

Профсаюзныя арганізацыі Рэспублікі маюць буйную клубную гаспадарку. У 1932 г. па БССР налічвалася 130 клубаў і 1.100 чырвоных куткоў, а зараз мы маем 154 профсаюзныя клубы і 1.250 чырвоных куткоў. Членаў гурткоў у 1932 г. было 113.000, а зараз—каля 200.000, не лічачы фізкультурных, тэхнічных і профпалітвучобы.

Асабліва значны рост клубаў і чырвоных куткоў наглядаецца па саюзах свінагадоўчых і мясамалочных соўгасаў, тарфянай прамысловасці і лесасплаву. Гэта сведчыць аб правільным ажыццяўленні дырэктыў партыі наконт разгортвання культурна-масавай работы сярод рабочых прамысловасці сезоннага значэння, а таксама прадпрыемстваў, якія ўбіраюць у сябе рабочую сілу з калгасаў. У адной толькі соўгаснай сістэме за апошні год прыбавілася 40 клубаў і 90 чырвоных куткоў. У саюзе лесасплаву ў 1932 г. не было ніводнага клуба, а ў 1934 годзе 10 клубаў і 299 чырвоных куткоў.

Некаторыя з клубаў дабіліся добрай пастаноўкі культабслугоўвання рабочых. Так, клуб трыкатажнікаў у Віцебску рэгулярна практыкуе «дзень адпачынку» для ўдарнікаў, забяспечвае іх добрым, палітычна насычаным дакладам на самыя вострыя злабадзённыя пытанні, бытавым абслугоўваннем як ударніка, так і яго сям'і.

У гомельскім клубе імя Леніна працуюць добра абсталяваныя парт. і профгабінеты, пакоі для старых кадравых рабочых, шахматна-шашачны куток, спецыяльнае памяшканне для работы па самаадукацыі, лекцыйная зала, пакой друку і т. д.

Паасобныя профсаюзныя бібліятэкі (заводаў «Большэвік», імя Мяснікова, клуба Металістаў—Віцебск) маюць добры вопыт прасоўвання кнігі ў інтэрнат, на квартэру ўдарніка з улікам патрабаванняў рабочага чытача.

Бібліятэчная сетка па БССР за апошні год вырасла на 22%, у тым ліку па профсаюзах—каля 30%. Профсаюзы маюць цяпер прыкладна 1.000 бібліятэк з фондам звыш 1 мільёна кніг. Трэба толькі

ўмела выкарыстаць гэты культурны фонд, зрабіць набыткам усіх профсаюзных арганізацый вопыт перадавых заводскіх і клубных бібліятэк.

Асабліва варта спыніцца на пытаннях рабочай мастацкай самадзейнасці. Наша краіна, партыя і асабіста тав. Сталін праяўляюць вялікі інтарэс і ўдзяляюць агромную ўвагу масавай ініцыятыве ў галіне мастацтва. З велізарным грамадскім уздымам прашлі ў нас прагляды калгаснай, чырвонаармейскай і рабочай самадзейнасці. Нядаўна па БССР праведзена сіламі профсаюзаў і органаў Наркамасветы 1 усебеларуская алімпіяда рабоча-калгаснай мастацкай самадзейнасці. Падрыхтоўка і правядзенне алімпіяды паказала велізарны рост культурнага ўзроўню рабочых і калгасных мас, выявіла рад талентаў на прадпрыемствах, у соўгасах, калгасах і з'явілася бліскучай ілюстрацыяй узросшай ініцыятывы рабочых і калгаснікаў у разгортванні самадзейнага мастацтва.

У сувязі з алімпіядай праведзена 418 мясцовых праглядаў самадзейнасці, 71 раённая алімпіяда, арганізавана новых 1.262 гурткі розных відаў самадзейнасці з 17.668 удзельнікамі. Зараз у БССР—каля 6.000 гурткоў і 90.000 гурткоўцаў, тады як у 1934 г. было 5.000 гурткоў пры 65.000 чал. У адных толькі прадпрыемствах, соўгасах і МТС налічваецца 2.865 гурткоў з 32.113 чал. Раённыя алімпіяды выявілі больш 500 таленавітых выканаўцаў, створаны новыя тэатры і дамы мастацкага выхавання.

Алімпіяда паказала ідэйны мастацкі рост мноства гурткоў: хор рабочых швейнай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі», вакальны ансамбль і джаз завода імя Варашылава, музычны гурток Рагачоўскага лесазавода, оперная студыя гомельскага клуба імя Леніна, агітбрыгада Хойніцкай МТС, драмгурток чыгуначнікаў ст. Полацк, струнны і балетны гурткі абутковай фабрыкі імя Кагановіча і Менскага клуба будаўнікоў.

У той-жа час алімпіяда выявіла, што многія профарганізацыі і райана не падхапілі шырокай ініцыятывы рабочых і калгасных мас, росту іх патрабаванняў і вялікай цягі да авалодвання вышынямі мастацтва і не зрабілі яе важнейшым звяном усіх культурна-масавых мерапрыемстваў завода, МТС, соўгаса і калгаса.

На падставе вопыту перадавых рэспублік і абласцей, у першую чаргу Масквы і Ленінграда, трэба разгарнуць спаборніцтва гурткоў і паасобных выканаўцаў. Профсаюзы павінны спаборнічаць на лепшую пастаноўку мастацкай самадзейнай работы ў сваіх клубах і з дня ў дзень займацца самадзейнасцю, як сваёй кроўнай справай.

Нельга не адзначыць першыя, але бясспрэчныя поспехі профсаюзаў БССР у развіцці фізкультурнай справы. На ўсесаюзнай спартакіядзе ў жніўні 1935 г. профсаюзныя каманды БССР занялі адно з першых месц сярод нацрэспублік, што адзначана ўручэннем нашай камандзе сцягу Соўнаркома РСФСР і грашовай прэміі ў 10 тысяч рублёў.

Аднак, большасць клубаў яшчэ не паставілі сваёй работы так, каб задаволіць растучыя культурныя патрабаванні рабочага. Вялікім недахопам з'яўляецца адсутнасць у клубах і чырвоных кутках утульнасці, дыферэнцыяванага абслугоўвання рабочых. Клубы выключна дрэнна займаюцца інтэрнацыянальным выхаваннем. Не ліквідаваны яшчэ разрыў паміж зместам работы клуба і штодзённымі вытворчымі задачамі свайго прадпрыемства. Адсутнасць плана, мэтанакіраванасці, самацёк у рабоце—вось найбольш слабыя месцы клубаў.

Вінаваты ў гэтым ЦП саюзаў і фабзаўкомы, якія, з аднаго боку, не кантралююць работу загадчыкаў клубаў, не прыцягваюць рабочую самадзейнасць, а, з другога боку, глядзяць на клуб, як на камерцыйнае прадпрыемства.

Профсаюзы абавязаны рэзка палепшыць работу клубаў, стварыць актыў з перадавых рабочых, ІТР і служачых, каб у максімальнай меры падхапіць ініцыятыву знізу, зрабіць клуб цэнтрам палітычна-выхаваўчай работы і самадзейнасці мас.

Рамкі артыкула не дазваляюць закрануць многіх іншых галін работы профсаюзаў: удзел у радзе важнейшых гаспадарча-палітычных кампаній, як пазыка, сельскагаспадарчыя работы на вёсцы і т. п.

Выключную актыўнасць праявілі многія ФЗМК у ажыццяўленні шэфства над калгасамі: дапамога ў выкананні загатовак, большэвіцкі ўлік ураджаю і яго размеркаванне, мерапрыемствы па ўмацаванню работы МОПР'а і іншых грамадскіх арганізацый.

Аднак нельга супакойвацца на дасягнутым. Профсаюзамі зроблена не мала, але засталося зрабіць значна больш. Трэба цвёрда памятаць, што ў гэтай рабоце на кожным кроку патрабуецца класавая зоркасць, рэвалюцыйная пільнасць і сапраўдная аперацыйнасць.

* * *

Мы дасягнулі вялікіх поспехаў на ўсіх участках соцыялістычнай будоўлі не самацёкам. Яны здабыты намі ва ўпартай жорсткай барацьбе з класавым ворагам, з усякімі ухіламі, з контррэволюцыйным трацкізмам, з нацыяналізмам усіх масцей і адценняў. Мы дабіліся рашаючых, гістарычных перамог у справе пабудовы соцыялізма таму, што намі кіруе ВКП(б) на чале з вялікім Сталіным.

КП(б)Б, на чале з лепшым большэвіком-ленінцам—т. Гікало, пры брацкай дапамозе Совецкага саюза правільна ажыццяўляючы ленінска-сталінскую нацыянальную палітыку, вывела БССР у рады перадавых рэспублік магутнага Совецкага саюза.

БССР, на чале са сваімі баявымі кіраўнікамі—тт. Гікало і Галадзедам—узнагароджана ордэнам Леніна. Высокая ўзнагарода, атрыманая ад партыі і саюзнага ўрада, не павінна выклікаць у нас зазнайства. Іменна таму, што мы ордэнаносная рэспубліка, задача наша—працаваць ва многа раз лепш, не дапускаючы ніякіх прарываў ні на адным участку нашай будоўлі.

Пагранічнае становішча БССР—фарпоста Совецкага саюза на стыку з капіталістычным светам,—узрастаючая небяспека новай імперыялістычнай вайны, распальваемай фашыстамі Германіі, Японіі, Італіі і інш., абавязваюць кожную профарганізацыю, кожнага профработніка штодзенна растлумачваць працоўным выключна вялікую адказнасць, якая ўскладаецца на нас за непарушнасць нашых граніц, боездольнасць прадпрыемстваў, МТС, соўгасаў і калгасаў і за ператварэнне іх у сапраўдную крэпасць абароны нашай соцыялістычнай радзімы.

Наша задача—давесці да свядомасці кожнага працоўнага велізарнае значэнне нашых гаспадарчых перамог, якія ўмацоўваюць магутнасць Краіны советаў і ў той-жа час паказваюць пролетарыяту капіталістычных краін перавагу соцыялізма, пры якім добрабыт рабочага класа і працоўных расце з кожным днём, перад капіталістычнай сістэмай, пры якой жыццёвы ўзровень пролетарыята безупынна зніжаецца, даводзячы да галоднага і беспрасветнага існавання. Кожны

працоўны БССР павінен зразумець, што фактамі нашага пераможнага руху, ўперад мы ўмацоўваем справу адзінства сусветнага пралетарыята ў барацьбе з фашызмам, павышаем рэволюцыйную энергію, умацоўваем веру ў канчатковую перамогу сусветнага Окцябра.

Таму цэнтральнай задачай профсаюзаў, асабліва БССР, павінна быць выхаванне рабочых і ўсіх працоўных у духу інтэрнацыяналізма, мабілізацыя іх гатоўнасці абараняць да апошняй каплі крыві СССР—ударную брыгаду сусветнага пролетарыята. Мы не маем права ні на мінуту забываць аб росце небяспекі новай вайны, якая ў першую чаргу будзе накіравана імперыялістамі супроць СССР—бацькаўшчыны прыгнечанага чалавецтва ўсяго свету.

Актыўны ўдзел у стралковых, парашутных гуртках, у Асоавіяхіме, ПВО, Чырвоным крыжы—усё гэта павінна заняць вялікае месца ў рабоце кожнага фабзаўмясцкома. У гэтых масавых арганізацыях трэба выхаваць людзей, гатовых у любую мінуту даць адпор ворагу. У яшчэ большай меры мы павінны ўмацоўваць садружаства рабочых з нашай слаўнай Чырвонай арміяй, паказваючы на канкрэтных прыкладах яе задачы ў абароне нашых соцыялістычных граніц і ў надыходзячай сутычцы з капіталізмам.

Профсаюзы БССР, як састаўная частка ўсяго совецкага профруху, павінны азнамянаваць 18 гадавіну Окцябра канкрэтнымі справамі ў ажыццяўленні ўскладзеных на іх партыяй задач, яшчэ цясней згуртаваць рабочых і ўсіх працоўных вакол ленінскай партыі і яе праваdыра—тав. Сталіна.

## Аб ходзе праверкі партдакументаў у партарганізацыях оршанскага аддзялення МББ чыгункі

*Пастанова бюро ЦК КП(б)Б*

Бюро ЦК КП(б)Б адзначае, што, не гледзячы на цэлы рад папярэджанняў з боку ЦК ВКП(б) аб дакладнай і сур'ёзнай праверцы партдакументаў, партарганізацыі чыгуначнага транспарта оршанскага аддзялення і начальнік палітаддзела т. Кірылаў не зразумелі ўсёй палітычнай важнасці праверкі, не мабілізавалі партыйную арганізацыю на выкрыццё жулікаў, прахадзімцаў і ворагаў, пралезшых у партыю, а звялі ўсю работу па праверцы да тэхнічнай зверкі партдакументаў, у рэзультаце чаго палітычнае значэнне праверкі было змазана і партарганізацыя не была мабілізавана на выкрыццё ворагаў, ашуканчым шляхам атрымаўшых партбілеты.

Нават пасля адмены падорам МББ праверкі партдакументаў па оршанскаму аддзяленню начальнік палітаддзела т. Кірылаў не зрабіў для сябе неабходных палітычных вывадаў, не мабілізаваў партыйную арганізацыю на выкрыццё ворагаў партыі, на ліквідацыю элементаў сямейнасці і кругавой парукі, якія ёсць у партыйнай арганізацыі, у рэзультаце чаго чуждыя партыі людзі не толькі не былі выкрыты і выгнаны з партыі, але нават пасля паўторнай праверкі была пацверджана сапраўднасць партдакументаў чуждым людзям.

Палітычны факт адмены праверкі партдакументаў палітаддзелам і т. Кірылавым не быў пастаўлен у партыйнай арганізацыі з усёй большэвіцкай вострасцю для ўзняцця пільнасці і разгортвання выкрываўчай работы, крытыкі і самакрытыкі. Уся работа па растлумачэнню як ліста ЦК ВКП(б), так і адмены праверкі, праведзена выключна фармальна. У рэзультаце такой фармальнай рэалізацыі закрытага ліста ЦК ВКП(б) выкрываўчая работа не была разгорнута. Кампраметуючых матар'ялаў на комуністаў не паступіла. Усё гэта сведчыць аб тым, што і да гэтага часу ў партарганізацыях, падпарадкаваных палітаддзелу оршанскага аддзялення МББ чыгункі, існуе недаацэнка агромнага палітычнага значэння праверкі партдакументаў.

Бюро ЦК лічыць зусім небольшэвіцкім, што намеснік начальніка палітаддзела тав. Папенкоў, замест рашучай крытыкі дапушчаных ім памылак за вынясенне яму падорам спагнання за дрэнную работу па праверцы, самаўхіліўся ад работы і аслабіў свой удзел у пастаноўцы партмасавай работы вакол гэтай важнейшай справы.

Выходзячы з гэтага, бюро ЦК КП(б)Б **пастанаўляе:**

1. Праведзеную паўторную праверку партдакументаў па партарганізацыях 3-га аддзялення МББ чыгункі адмяніць.

2. Прапанаваць начальніку палітаддзела т. Кірылаву правесці паўторную дакладную прапрацоўку закрытага ліста ЦК ВКП(б) ад 13 мая 1935 года асобна з актывам аддзялення і ў паасобку ў кожнай пярвічнай партыйнай арганізацыі і з комуністамі-адзіночкамі, а таксама правесці дакладную праверку партдакументаў, растлумачыўшы партарганізацыі выключную палітычную важнасць правадзімай праверкі партдакументаў, мабілізаваўшы ўсіх членаў партыі на выкрыццё аферыстаў, жулікаў, шпіёнаў, ворагаў партыі, ашуканчым шляхам пралезшых у партыю.

3. Указаць намесніку начальніка палітаддзела т. Папенкову, што аслабленне работы ў сувязі з вынясеннем яму вымовы падорам сведчыць, што Папенкоў не аказаўся на вышыні становішча, як намеснік начальніка палітаддзела і стаў на небольшэвіцкі шлях.

Папярэдзіць т. Папенкова, што бюро ЦК абмяжоўваецца гэтым рашэннем і вернецца да пытання аб здольнасці т. Папенкова кіраваць партарганізацыяй пасля праверкі партдакументаў у партарганізацыях оршанскага аддзялення.

4. Бюро ЦК заклікае ўсю партарганізацыю оршанскага аддзялення шырока разгарнуць работу па выкрыццю чуждых людзей, дабіўшыся поўнага ачышчэння арганізацыі ад ворагаў партыі.

5. Для растлумачэння гэтай пастановы камандзіраваць у партарганізацыю оршанскага аддзялення т. Стэрніна.

---

# Аб ходзе праверкі партдакументаў па пярвічнай партарганізацыі дэпо Осіповічы, Заходняй чыгункі

*Пастанова бюро ЦК КП(б)Б*

Адзначыць, што праверка партыйных дакументаў па партарганізацыі дэпо Осіповічы была праведзена фармальна. Пры прапрацоўцы закрытага ліста ЦК ВКП(б) ад 13 мая крытыка і выкрываўчая работа разгорнута не была і чуждыя людзі, прахадзімцы і жулікі не выкрыты, не гледзячы на маючыяся даныя аб засмечанасці партарганізацыі Осіповіцкага дэпо класава-чуждымі людзьмі, якія ашуканчым шляхам пралезлі ў партыю (Легаеў, які служыў у арміі Калчака і скрыў гэта ад партыі, і інш.).

Бюро ЦК адзначае, што парторг т. Разанцаў, замест мабілізацыі партыйнай арганізацыі на выкрыццё жулікаў і прахадзімцаў і ліквідацыі сямейнасці і кругавой парукі, маючайся ў партарганізацыі дэпо Осіповічы, заняўся разборам склочных спраў, у рэзультаце чаго палітычнае значэнне праверкі было ў партарганізацыі змазана.

Выходзячы з гэтага, бюро ЦК КП(б)Б **пастанаўляе:**

1. Адмяніць праведзеную праверку партдакументаў па партарганізацыі дэпо Осіповічы.

2. Прапанаваць тав. Смоліну правесці паўторную прапрацоўку закрытага ліста ЦК ВКП(б) ад 13 мая і праверку партдакументаў у партарганізацыі Осіповіцкага дэпо, мабілізаваўшы партарганізацыю на павышэнне большэвіцкай пільнасці і рашучае выкрыццё ворагаў партыі, якія схаваліся за партбілетам.

3. Паставіць пытанне перад палітаддзелам дарогі аб зняцці Разанцава з работы парторга дэпо. Даручыць т. Смоліну дасканала праверыць партдакументы Разанцава, далажыўшы аб рэзультатах праверкі ЦК. Звярнуць увагу т. Смоліна на недапушчальнасць таго, што акты праверкі партдакументаў не афармляюцца неадкладна-ж пасля праверкі. Абавязаць т. Смоліна ў дзесяцідзённы тэрмін аформіць усе акты, прадставіўшы іх у ЦК КП(б)Б.

---

# Аб ходзе апрацоўкі і здачы лёну

*Пастанова СНК БССР і ЦК КП(б)Б*

СНК і ЦК КП(б)Б адзначаюць, што становішча справы апрацоўкі і здачы лёну дзяржаве, а таксама засыпкі ільнанасення па БССР такое, што стварае прамую пагрозу зрыву датэрміновага выканання плана здачы ільнавалакна па рэспубліцы і поўнай засыпкі насення ў кожным калгасе і ў цэлым па раёнах.

У рэзультаце таго, што ў цэлым радзе раёнаў справа ільнаапрацоўкі і здачы лёну не замацоўваецца большэвіцкай арганізатарскай і масава-палітычнай работай, зноў паўтараецца, як і ў мінулыя гады, адставанне БССР у выкананні ўсіх работ па ільну, асабліва па ручной апрацоўцы лёну; таксама велізарныя страты на якасці і выхадзе лёну, прама прыводзячыя да невыканання абавязковага дзяржаўнага задання.

Асабліва кіраўніцтва, партыйнае і совецкае, у такіх раёнах, як Расонскі, Асвейскі, Лёзненскі, Суражскі, Мехаўскі, Сіроцінскі, Мсціслаўскі і інш., сваімі безадказнымі адносінамі да важнейшай справы, якой з'яўляецца лён для БССР і для ўсяго Саюза, наносяць велізарнейшую шкоду дзяржаве, цягнуць рэспубліку назад у справе датэрміновага і поўнага выканання дзяржаўных абавязацельстваў і зрываюць справу важнейшага ўказання т. Сталіна аб заможнасці калгаснікаў.

СНК БССР і ЦК КП(б)Б лічаць, што цяперашняе становішча работы па ільну як ва ўказаных вышэй, так і ў астатніх раёнах, не забяспечвае хуткай і рашучай рэалізацыі ўсіх намечаных усебеларускім злётам ударніц-ільнатрапальшчыц задач і практычных прапаноў, у чым прама павінны як цэнтральныя арганізацыі (Наркамзем, упаўкамзаг, Белзаготлён), так і РК і РВК, па-большэвіцку не перабудаваўшыя работу па ільну.

У мэтах рашучага ўзмацнення барацьбы за лён і забяспечання быстрай і высокай па якасці апрацоўкі лёну і датэрміновай здачы высокаякаснага ільнавалакна дзяржаве, СНК і ЦК КП(б)Б **пастанаўляюць:**

1. Абавязаць усе РК партыі і РВК давесці зварот першага злёту ўдарніц-ільнатрапальшчыц да кожнага калгаса, калгасніка і калгасніцы, абмеркаваць у кожнай брыгадзе пастаўленыя злётам задачы і практычныя прапановы, намеціўшы рад мер па хутчэйшаму выкананню гэтых рашэнняў.

Неабходна, каб кожная ўдзельніца і ўдзельнік злёту былі скарыстаны па растлумачэнню пастановы злёту не толькі ў сваіх калгасах, але і ў радзе калгасаў раёна, асабліва адстаючых па ільну.

2. Лічачы, што прыняты злётам тэрмін поўнага выканання плана па здачы дзяржаве ільнавалакна да дня 18 гадавіны Окцябрскай рэволюцыі забяспечваецца ўсімі маючыміся ўмовамі ў раёнах і калгасах, СНК і ЦК КП(б)Б абавязваюць партыйна-совецкія арганізацыі, як цэнтральныя, так і раённыя, паставіць сваёй задачай да ўстаноўленага тэрміну закончыць у асноўным здачу лёну па кожнаму калгасу і аднаасобных гаспадарках.

3. СНК і ЦК лічаць, што неадкладнай і баявой задачай упаўкамзаг, Наркамзема, Белзаготлёну, раённых партыйных і совецкіх арганізацый павінна стаць неадкладная арганізацыя і разгортванне ў кожным калгасе машыннай і ручной апрацоўкі лёну. Гэта тым больш неабходна, што БССР штогодна адстае і рэзка ўжо адстала ў бягучым годзе іменна па здачы ручной апрацоўкі валакна.

Ва ўсіх асноўных ільнаводчых раёнах старшыні РВК павінны неадкладна пераключыцца на работу па лёну з тым, каб асабіста кіраваць усёй практычнай работай па ільну ў раёне.

ЦК і СНК абавязваюць сакратароў райкомаў сумесна са старшынямі РВК штодзённа правяраць ход работы па ільну, быць у курсе становішча работы ў кожным калгасе і неадкладна выпраўляць находу ўсе недахопы ў гэтай рабоце і арганізаваць справу дапамогі адстаючым калгасам.

4. СНК і ЦК прапануюць склікаць пры райкомах інструкцыйныя нарады, на якіх адабраць групу таварышоў з работнікаў РВК, партыйнага апарата, з усяго раённага актыва, праінструктаваць іх і паслаць у найбольш адстаючыя калгасы для арганізацыі справы апрацоўкі лёну і здачы ільнапрадукцыі дзяржаве.

Члены бюро райкома таксама абавязкова павінны выехаць у калгасы па пытаннях лёну, высвятленню на месцы канкрэтных прычын адставання і неабходнай дапамогі калгасам у хутчэйшым разгортванні работы.

СНК і ЦК абавязваюць НКЗ, упаўкамзаг, Белзаготлён камандзіраваць у дапамогу месцам усіх работнікаў апарата, ведаючых лён, тэрмінам не менш, як на паўтары дэкады. Даручыць сельскагаспадарчаму аддзелу ЦК накіраваць у найбольш адстаючыя раёны для дапамогі групу работнікаў цэнтральнага актыва на той-жа тэрмін.

5. ЦК і СНК абавязваюць РК і РВК разгарнуць вакол пытанняў лёну шырокую палітычна-масавую і арганізатарскую работу. На раённых злётах ударнікаў і ўдарніц па мяццю, трапанню і іншых работах па ільну, на агульных сходах, у брыгадах, групавых гутарках і т. д. павінна быць растлумачана кожнаму калгасніку і калгасніцы, чаму партыя і ўрад так востра ставяць пытанне аб ільне.

РК, РВК і ўсе партыйна-совецкія арганізацыі на месцах павінны аддаваць сур'ёзную ўвагу і акружыць клопатамі працуючых на ільне, асабліва ільнатрапальшчыц. Неабходна ўсяляк палепшыць абстаноўку іх работы, дапамагчы ў іх асабістым быце, узмацніць культурнае абслугоўванне. Лепшыя з ільнатрапальшчыц павінны быць прэміраваны і імёны іх акружаны гонарам як у калгасах, так і ва ўсім раёне.

6. Абавязаць РВК, Заготлён, старшынь калгасаў і брыгадзіраў забяспечыць у кожным калгасе абавязковае сартаванне лёну, вылучыўшы для гэтага ў калгасах ведаючых людзей. Здача ільнатрасты на завод і ільнавалакна на пунктах Заготлён павінна ўсякі раз праводзіцца адказным і ведаючым якасць лёну чалавекам ад калгаса

(старшыня калгаса, яго намеснік па ільну ці брыгадзір палявой брыгады).

7. Абавязаць упаўкамзага т. Гваздзецкага, Белзаготлён, Віцебскі і Менскі ільнатрэсты, РК і РВК арганізаваць так работу на пунктах і ільназаводах па прыёмцы валакна і трасты, каб былі выключаны як працяглыя затрыманні здатчыкаў у чаргах, так і разлікі з імі з-за валакіты і нераспарадчасці на пунктах і ільназаводах.

8. СНК і ЦК абавязваюць РК, РВК і райупаўкамзагаў неадкладна і старанна правяраць кожную заяву калгаснікаў аб няправільным прыёме ці вызначэнні якасці лёну і трасты на пунктах і ільназаводах і прымаць меры выпраўлення і прыцягнення вінаватых да адказнасці.

9. Абавязаць Віцебскі і Менскі ільнатрэсты, Заготлён, упаўкамзаг у дэкадны тэрмін у ільнаводчых раёнах устанавіць на кожным прыёмачным пункце стандартныя ўзоры для вызначэння нумарнасці лёну і каб гэтыя стандарты былі шырока вядомы ва ўсіх калгасах. Камандзіраваць для гэтай мэты ў раёны ўсіх спецыялістаў гэтых установ.

10. Даручыць НКЗ—т. Бенеку, РК і РВК ільнаводчых раёнаў вылучыць з калгаснікаў-выдатнікаў найбольш вопытных, ведаючых тэхніку вытворчасці, вывучыўшых машыны—групу раз'яздных інструктароў для перадачы іх вопыту і абучэння новых кадраў ільназаводаў у другіх калгасах. Аб колькасці і парадку работы гэтых інструктароў НКЗ далажыць ЦК не пазней 20 кастрычніка.

11. Абавязаць НКЗ, Белзаготлён, РК і РВК з усёй стараннасцю праверыць давядзенне і выкананне пяцідзённых заданняў па перапрацоўцы і здачы лёну па калгасах і аднаасобных гаспадарках.

Неабходна з усёй рашучасцю дабіцца, каб пяцідзённыя заданні з'явіліся сапраўдным арганізуючым пачаткам у справе быстрай і высокаякаснай апрацоўкі і здачы лёну.

12. СНК і ЦК зварачаюць увагу РК і РВК на рэзкае адставанне ў здачы ільнапрадукцыі аднаасобнага сектара і абавязваюць іх так арганізаваць работу сярод аднаасобных гаспадарак, каб было выключана хоць-бы малейшае недавыкананне аднаасобным сектарам дзяржаўных абавязацельстваў.

13. Абавязаць РВК арганізаваць праверку, наколькі здзяйсняецца па калгасах новая сістэма разлікаў у кілонумарах, а таксама штотыднёвы запіс выпрацаваных працадзён і выдача працуючым на ільне авансаў з грошай, атрымліваемых калгасамі за здаваемую дзяржаве ільнапрадукцыю, рашуча дабіваючыся, каб указаныя мерапрыемствы побач з абавязковым практычным давядзеннем да кожнага працуючага на ільне калгасніка, калгасніцы пераваг і ільгот, устанаўляемых урадам, сталі-б абавязковай умовай у кожным калгасе ў справе перапрацоўкі і здачы лёну дзяржаве.

14. СНК і ЦК абавязваюць Белкаапсаюз забяспечыць у бліжэйшыя-ж дні ўзмоцнены завоз тавараў па сетцы сельпо, маючы на ўвазе, што пачаўшыяся разлікі з калгасамі за лён значна паднялі на вёсцы попыт на тавары першай неабходнасці.

15. Абавязаць НКЗ, Заготлён і ўпаўкамзаг на час пераапрацоўкі лёну і здачы ільнавалакна і трасты, маючыхся спецыялістаў па ільну, а таксама аграномаў, абавязкова пасылаць у калгасы для дапамогі і практычных указанняў, асабліва па ўстаноўцы ільнатрапальных машын у ільнаводчыя калгасы. Неабходна таксама, каб рахунковым

апаратам райза, МТС, райканторы Заготлён ажыццяўлялася пастаяннае інструктаванне калгасных рахункаводаў аб правядзенні разлікаў па новай сістэме—у кілонумарах.

17. ЦК абавязвае цэнтральны друк і райгазеты сістэматычна асвятляць пытанні, звязаныя з разгортваннем барацьбы за лён, падымаючы асабліва такія пытанні, як соцыялістычныя метады работы—аўладанне тэхнікай, асабліва ільнатрапальнымі машынамі (Санталава, Гарлачова, Антонава і інш.), барацьбу за высокую нумарнасць валакна і колькасць ручнога трапання, даючы паказ лепшых калгасаў і асобных ударнікаў—калгаснікаў і калгасніц і рашуча выкрываючы сабатажнікаў і разгільдзяяў, правальваючых работу па ільну і здачу ільнавалакна дзяржаве.

Нам. старшыні СНК БССР **Саакян.**

Сакратар ЦК КП(б)Б **Гікало.**




Уп. Галоўлітбел № 3313.
Тыраж 9.630.
492.800 друк. зн. (9 арк.)
Здана ў набор 10/X—35 г.
Падпісана да друку 3/XI—35 г.

*Рэдкалегія*: К. Мінкін (адказны рэдактар), Д. Конік, Г. Рубінштэйн

Менск, друк. імя Сталіна. Зак. № 934.

